*…У кожнага мастака, паэта*
*павінна быць граніца яго незалежнасці,*
*за якую ён не павінен нікога пускаць.*
*Хоць для самога яго*
*ніякіх абмежаванняў быць не павінна.*

*( Максім Танк )*

Лявон ВАЛАСЮК

# Непрыдуманыя ПАРТРЭТЫ

МАСТАКІ І ЛІТАРАТАРЫ,
НАРОДНЫЯ МАЙСТРЫ І ДОЙЛІДЫ БЕРАСЦЕЙШЧЫНЫ

ААТ «Брэсцкая друкарня»
2014

У выданні выкарыстаны фотаздымкі Аляксея Андраюка,
Лявона Валасюка, Льва Вайткоўскага,
Георгія Грыцука, Аляксея Ганчука,
Юрыя Кускова, Георгія Ліхтаровіча

У новай кнізе Лявона Валасюка чытач пазнаёміцца з літаратурнымі творчымі партрэтамі вядомых не толькі на Берасцейшчыне, але і далёка за яе межамі мастакоў, пісьменнікаў, дойлідаў і народных майстроў. Пра ўсіх іх – сваіх настаўнікаў, калег па працы, знаёмых ці блізкіх сяброў – аўтар, сам літаратар і мастак, піша з нязменнай удзячнасцю і павагай.

# АД АЎТАРА

*Недзе ў 9-10 гадоў трапіў з бацькам летам у Брэсцкую крэпасць. Перад Холмскімі варотамі, збоку ад цяперашняй Плошчы Цырыманіялаў, нейкі брэсцкі мастак (І. Крупскі, П. Данэлія, І. Фяцісаў, А. Ламакін-?) стаяў перад эцюднікам і пісаў алейнымі фарбамі на грунтаваным кардоне крапасныя руіны: ён то падыходзіў да эцюдніка, рабіў мазок пэндзлем, то адыходзіў зноў, углядаючыся ў натуру.*

*Я падышоў зусім блізка, каб лепш разгледзець эцюд. Тое, што паспеў зрабіць майстар пэндзля, уразіла. Але хутка ён папрасіў мяне адысці далей (цяпер здагадваюся, што мая белая сарочка перашкаджала яму ўспрымаць чырвоны колер цэглы). З бацькам мы адышліся крыху ўбок і яшчэ доўга назіралі за чарадзейнымі рухамі мастака.*

*Крапасны пейзаж адбіўся ў маёй дзіцячай памяці назаўжды. Шкада толькі, не "вылічыў" таго мастака пазней, калі стаў дарослым, калі сам стаў пісаць карціны ...*

*Слова "мастак" у адносінах да сваёй асобы я ўпершыню пачуў з вуснаў настаўніцы Людмілы Кліменцьеўны Федарук – яна вучыла ў пачатковых класах.*

*Перамалёўваў, памятаю, з кніжкі Сафійскі сабор у старажытным Кіеве. Настаўніца мяне пахваліла, паставіла адзнаку "выдатна" і падахвоціла да далейшай працы. Я пачаў з яшчэ большым стараннем капіраваць кніжныя ілюстрацыі. Часам дабаўляў "свае" дэталі. Пазней пачаў маляваць з натуры.*

*Цяпер, праз паўвека, не раз думаю пра тое, які моцны падмурак для майго далейшага жыцця, для майго творчага сталення заклала першая настаўніца.*

*А першая "персанальная" мая выстава адбылася ў дзясятым класе: лабарантка кабінета хіміі Раіса Пятроўна Буланда павесіла ў калідоры на другім паверсе школы пятнаццаць маіх карцін. Адтуль, са школы, вытокі маёй мастакоўскай і літаратурнай творчасці.*

*...А жыццё не скупілася на сустрэчы з цікавымі людзьмі – майстрамі слова і пэндзля. Усе, пра каго пойдзе гаворка ў гэтай кнізе, нямала зрабілі для літаратуры і выяўленчага мастацтва роднага краю. Ганаруся тым, што з многімі сябраваў, многіх ведаў асабіста, у кожнага нечаму вучыўся. Цешу сябе надзеяй, што маё слова будзе пачутым.*



# З ПЛЕМЕНІ НЯСКОРАНЫХ



Мне заўжды было прыемна сустракаць яго, вітацца. Ён быў маім суседам па Граеўцы, жыў на вуліцы Мірнай. Хаця мірна жыццё мастака Эдуарда КУФКО праходзіла далёка не заўсёды.

Да вайны Эдуард Станіслававіч паспеў скончыць толькі два курсы Яраслаўскага мастацкага вучылішча, потым былі служба ў арміі, вайна, фронт, палон... Гітлераўскія канцлагеры. А пасля лагераў – вызваленне і ... зноў калючы дрот, вышкі з пражэктарамі, ахоўнікі з сабакамі цяпер ужо ў савецкім ГУЛАГу... На долю маладога мастака Эдуарда Куфко выпалі цяжкія фізічныя і духоўныя выпрабаванні.

У Брэсце Эдуард Станіслававіч апынуўся ў 1955 годзе і адразу пачаў плённа працаваць як жывапісец. Удзельнічаў у выставах такіх жа, як і сам, мастакоў-франтавікоў з 1956 года (рэабілітаваны ў 1957 годзе). Пасля вайны ў горадзе сабралася дзейсная суполка мастакоў. Гэта і ўдзельнік Фінскай і Вялікай Айчынай войнаў Пётр Данэлія, франтавы разведчык Іван Фяцісаў, кавалер польскіх і савецкіх узнагарод палескі партызан Іван Рудчык, Мікалай Чураба... Усе яны стаялі ля вытокаў абласной мастакоўскай арганізацыі.

Каб сцвердзіць сябе ў мастацтве, Эдуард Станіслававіч шмат працаваў. Маляваць даводзілася ўсё тое, што малявалі і яго калегі. Гэта былі партрэты перадавікоў сацыялістычнай вытворчасці, членаў Палітбюро ЦК КПСС, ветэранаў вайны, мастакоў і літаратараў Берасцейшчыны, увогуле цікавых людзей, сяброў. Вынікам плённай працы стаў, нарэшце, прыём у члены Саюза мастакоў.

Першыя буйныя палотны мастака Эдуарда Куфко з'явіліся ў канцы 50-х – пачатку 60-х гадоў і былі прысвечаны антыфашысцкай тэме, з іх пазней склаўся цыкл прац "Вязні фашызму" ("Не забудзем", "Антыфашысты", "Праўда", "Асвенцым", "Вызваленне"). Творчай удачай сталі палотны "Праклён фашызму", "Няскораны", "Пабег", прысвечаныя людзям, чые дух і воля не былі зломлены цяжкімі выпрабаваннямі фашысцкіх лагераў. Мастак апавядаў пра жахі фабрык смерці па праве чалавека, які праз гэтае пекла прайшоў сам. Там сустракаў ён мужных людзей, якія знаходзілі сілы, каб не толькі маральна не згубіць сябе, але яшчэ і процістаяць фашызму. Тэму завяршыла кампазіцыя "Памяці вязняў Ламсдорфу", якая з'яўляецца напамінам-перасцярогай жывым.

Гады савецкіх лагерных выпрабаванняў таксама не прайшлі дарэмна. Эдуард Куфко ўсё часцей звяртаецца да тэмы ГУЛАГу (першы твор новага жывапіснага цыклу "Іван Дзянісавіч" убачыў свет ужо ў сярэдзіне 80-х). Каб ніколі лагерныя жахі не паўтарыліся ў жыцці людзей, мастак пераносіць на палотны свае ўспаміны аб перажытым, свае хваляванні, думкі. Так стварылася серыя жывапісных работ "ГУЛАГ".

Гэта быў абагулены вобраз няскоранага героя апавядання былога вязня Аляксандра Салжаніцына і самога мастака-аўтара ў лагерным адзенні...

У 1992-96 гадах з вялікім поспехам прайшлі выставы карцін Эдуарда Станіслававіча ў ЗША. Яго творы параязджалі з горада ў горад, з галерэі ў галерэю, расказваючы горкую праўду пра жахі сталінскага таталітарнага рэжыму.

Творы Эдуарда Куфко ў сваёй большасці прысвечаны ваенна-лагернай тэматыцы. Таму і адметныя сваім спецыфічным каларытам, манерай выканання. Але Мастак не абмежаваўся толькі гэтым напрамкам. Насуперак усяму, ён верыў у прыгажосць, пісаў цудоўныя пейзажы, светлыя, запамянальныя партрэты, нацюрморты. Любіў кветкі, якія клапатліва вырошчвала жонка...

Эдуард Станіслававіч захапляўся літаратурай, шмат чытаў. Мо таму ў сваёй творчасці неаднаразова звяртаўся да стварэння жывапісных партрэтаў берасцейскіх літаратараў, з якімі любіў сустракацца, гутарыць, дыскутаваць. У спадчыне засталіся партрэты Уладзіміра Калесніка, Міхася Рудкоўскага, Міколы Пракаповіча, Алеся Каско, Мікалая Аляксандрава,

драматурга-празаіка Раберта Святаполк-Мірскага... Сярод іншых прац можна назваць яшчэ партрэты кампазітара Эдуарда Ханка, партызана Міхаіла Хлебнікава, пісьменнікаў Фёдара Дастаеўскага і Аляксандра Салжаніцына... На лірычных палотнах “Дзяўчына з Палесся”, “Партрэт жонкі”, “Ірына”, “Рая” мастак паказаў прыгажосць і душэўную ўзнёсласць жанчын – муз і натхняльніц творцаў.

Эдуард Куфко любіў жыццё, любіў людзей, з ім заўжды было цікава знаходзіцца побач. Ён быў чалавекам-легендай. Такім і застаецца ў памяці мастакоў, літаратараў і ўсіх тых, хто добра ведаў яго як няскоранага духам Чалавека і Мастака.



*“Асвенцым”*



*“Аляксандр Салжаніцын”*

# МАСТАК-МАНУМЕНТАЛІСТ МАРАТ КЛІМАЎ



Маё першае знаёмства з Маратам Клімавым адбылося ў школьныя гады: Марат Рыгоравіч ляжаў у адной палаце абласной бальніцы з маім стрыечным братам Анатолем Марозам. Пасля мы яшчэ не адзін раз сустракаліся ў цэнтры горада, па вуліцы Гогаля, дзе ён на той час працаваў і жыў. Далей было знаёмства з жывапіснымі творамі Марата Клімава ў выставачнай зале па вуліцы Савецкай: спачатку ў старым цагляным будынку, а потым і ў новым, у той прасторнай зале, якая і цяпер гасцінна прымае шматлікія выставы мастакоў і майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Берасцейшчыны.

Марат Рыгоравіч і па прафесіі, і па прызванні – мастак-манументаліст. Ён майстар палотнаў вялікіх памераў: як пейзажаў, так і партрэтаў. Велічнасць яго твораў ідзе ад вялікай любові да магутных сіл прыроды, да родных краявідаў. Ён і вучыўся ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце на мастака-манументаліста, вучыўся працаваць маштабна. Можа, таму ад яго карцін зыходзіць да нас адчуванне спакою, упэўненасці ў будучым.

Спакой і велічнасць на ўсіх творах мастака Клімава (“Замкавая гара ў Навагрудку”, “Восень. Рака Мухавец”, “Родная зямля”) . На яго жывапісных палотнах, напоўненых святлом, галоўная дзеючая асоба – прырода роднай Берасцейшчыны. Яе трапяткую душу мастак адчувае і перадае фарбамі з аднаму яму ўласцівай любоўю і майстэрствам (“Восеньскае золата”, “Маладыя сосны”, “Зімні дзень”). А яшчэ мастак любіць маляваць ваду, якая, быццам жывая, адлівае на шматлікіх палотнах серабрыстым колерам, да яе так і хочацца дакрануцца далонню (“Абвадны канал у крэпасці”, “Гаць”, “Рака Лясная”). Не цураецца Марат Рыгоравіч і партрэта, які атрымліваецца ў яго велічна-манументальным, багатым колерам, змястоўным. Такім атрымаўся некалі партрэт старэйшага сына Алега, які мастак назваў “Натхненне”.

Як і ва ўсіх мастакоў, у творчасці Марата Клімава ўсё некалі пачыналася з дзяцінства. Потым была мастацкая вучэльня ў Мінску, па заканчэнні якой пашчасціла патрапіць на вочы новаму рэктару Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута Паўлу Масленікаву, які адабраў сем маладых талентаў, сярод каторых апынуўся і Марат Клімаў. Так вось з часам і стаў мастаком-манументалістам, правучыўшыся пяць гадоў у вышэйшай навучальнай установе...

За час працы ў камбінаце “Мастацтва” Марат Рыгоравіч стварыў шмат манументальных работ для розных прадпрыемстваў (у тым ліку і сумесна з мастаком Уладзімірам Нікалаевым): вітражы для Брэсцкага музычнага вучылішча, кінатэатраў “Беларусь”, “Мір”, Дома культуры прафсаюзаў у Брэсце, мазаіку на фасадзе Дома культуры, сграфіта на фасадзе БПТУ №88 у Пінску, на Доме культуры ў Маларыце, на фасадах дзіцяга садка ў Кобрыне... Яго вясёлкавыя вітражы, сграфіта, мазаікі ўпрыгожваюць і да гэтага часу пералічаныя будынкі, ствараюць непаўторную атмасферу ўтульнасці інтэр’ераў і экстэр’ераў у розных кутках нашай вобласці і горада Брэста. Марат Рыгоравіч, працуючы ў камбінаце “Мастацтва”, 7 гадоў (з 1982 па 1989-ы) быў старшынёй Мастацкага савета. Творча-вытворчы плён яго працы быў адзначаны ў свой час высокай дзяржаўнай узнагародай – ордэнам “Знак Пашаны”.

Сярод сваіх жывапісных твораў Марат Клімаў лепшымі лічыць пейзажы “Ветраны дзень” і “Ля заходніх межаў”, “Натхненне” – партрэт сына Алега. На гэтых палотнах, па меркаванні аўтара, удала спалучаецца задуманае і створанае. Да іх больш ляжыць душа.

Шмат жывапісных твораў прысвяціў Марат Клімаў і спорту. У свой час ён сам актыўна трэніраваўся, а сын Алег стаў з часам вядомым футбалістам, гуляў у брэсцкім “Дынама”. Таму палотны “Хакеісты”, “Востры момант”, “Разборка” дакладна адлюстроўваюць свет спорту, яго складанасці, гармонію і прыгажосць. У 2007 годзе мастак быў нават адзначаны дыпломам Нацыянальнага алімпійскага камітэта за ўдзел у конкурсе творчых прац “Алімпійскі спорт у мастацтве”.

Апошнім часам Марат Рыгоравіч падрыхтаваў шмат эскізаў для палоцен, прысвечаных на-

родным святам. У блізкім будучым плануе правесці персанальную выставу. А да кожнага са сваіх чарговых юбілеяў мастак Клімаў адносіцца па-філасофску: гады бягуць у нябыт, а творчыя працы застаюцца.



*“Ветраны дзень”*



*“Восень. Рака Мухавец”*

# МАСТАК-ПЕДАГОГ ТАЛМАЧОЎ МІХАІЛ СЯРГЕЕВІЧ



Настаўнік па прызванні, цудоўны чалавек, франтавік... У студыі выяўленчага мастацтва Брэсцкага гарадскога Дома піянераў і школьнікаў, у студэнцкіх аўдыторыях Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута (цяпер тэхнічны ўніверсітэт) Майстар увесь час быў сярод дзяўчат і хлопцаў, якіх вучыў асновам выяўленчага мастацтва, вучыў быць сумленнымі і адказнымі ў сваёй творчай працы і ў жыцці ўвогуле...

Маё знаёмства з Міхаілам Сяргеевічам адбылося ў школьныя гады, калі я прыйшоў да яго ў студыю выяўленчага мастацтва і пачаў мэтанакіравана займацца малюнкам і жывапісам. Вельмі падабалася напрыканцы заняткаў рабіць накіды з каго-небудзь са студыйцаў, хадзіць увесну і восенню на эцюды ў парк, што месціўся адразу за сценамі нашага Дома піянераў і школьнікаў.

Мне падабаліся ўважлівыя, бацькоўскія адносіны з боку Міхаіла Сяргеевіча да нас, студыйцаў. Бо вучыў ён не толькі граматна авалодваць малюнкам, акварэллю ці гуашам, але і арыентавацца ў жыцці, рабіць свой адзіна правільны выбар. Калі я папрасіў у Настаўніка парады наконт далейшай вучобы, дык ён параіў мне паступаць на архітэктурны факультэт нашага Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута. Тады, ў 70-я гады мінулага стагоддзя, шмат хлопцаў і дзяўчат, што прайшлі праз студыю Талмачова, прыйшлі на архітэктурны факультэт, дзе на той час выкладалі творчыя дысцыпліны выдатныя педагогі-мастакі Мікалай Чураба, Яўген Шумовіч, Мікалай Бялоў, Ларыса Храпунова, Канстанцін Калодзіч...

“У інстытуце вядуцца заняткі па малюнку, па скульптуры, па жывапісе, – гаварыў мне Міхаіл Сяргеевіч, – таму атрыманне вышэйшай адукацыі, спецыяльнасці архітэктара пры жаданні, пры дастатковай для гэтага працы паспрыяе развіццю выяўленчых здольнасцей”. Так і адбылося далей. Не дабраўшы палову бала пасля школы, я паспяхова паступіў у інстытут, калі вярнуўся з войска. На той час (а было гэта ў 1976 годзе) і сам Міхаіл Сяргеевіч стаў працаваць тут выкладчыкам малюнка і жывапісу.

На нашым факультэце Міхаіл Сяргеевіч быў членам партыйнага бюро. І так здарылася аднойчы, што прадметам разбору сталі паводзіны аднаго з дацэнтаў. У маю адсутнасць (я быў старастам групы) дацэнт Болбас, які выкладаў палітычную эканомію, прапанаваў дзяўчыне з Расіі Альбіне Рубіс рэферат, для напісання якога неабходна было дасканала ведаць беларускую мову. Ён павёў сябе не зусім адэкватна: выпхнуў дзяўчыну за дзверы, калі тая папрасіла памяняць тэму. Скончылася ўсё тым, што група пакінула заняткі і напісала паперу на імя дэкана...

“Плетью обуха не перешибёшь…” – сказаў мне потым Міхаіл Сяргеевіч наконт паводзін дацэнта. Думаю, што калі б я прысутнічаў на занятках, то канфлікту не адбылося б. Дарэчы, той жа Максім Фёдаравіч паставіў мне на экзамене “двойку” за тое, што нібыта я прыходзіў на кансультацыю нападпітку (пераблытаў мяне са старастам іншай групы і іншага факультэта).

Міхаіл Сяргеевіч заўжды з павагай адносіўся да студэнтаў, да сваіх калег, цаніў у людзях дабрату і шчырасць. Ён заўжды быў стрыманым, меў здольнасць прыняць адзіна правільнае рашэнне ў любых абставінах. Галоўнай сваёй задачай мастак-педагог бачыў найперш за ўсё выхаванне самастойнасці ў дзяцей і студэнтаў, развіццё творчай індывідуальнасці.

У свой час – ужо пасля заканчэння інстытута – быў прыемна здзіўлены пастэльнымі работамі Міхаіла Сяргеевіча. То былі незнаёмыя раней архітэктурныя помнікі старажытных гарадоў Сярэдняй Азіі. Дасканалае выкананне, каларыт пастэляў зачаравалі мяне. Мастак пісаў і выдатныя нацюрморты, якія былі, на маю думку, любімымі ў творчасці Міхаіла Талмачова...

З такім выкладчыкам і чалавекам, як Міхаіл Сяргеевіч Талмачоў, заўжды можна было спакойна адчуваць сябе як на занятках, так і ў жыцці. Ён быў добрым дарадцам сваім студэнтам, былым студыйцам і ўсім, хто звяртаўся па дапамогу.

# ПАРАЛЕЛЬНЫЯ ВОКНЫ
# МАСТАКА МІХАІЛА КАНЬКОВА



Упершыню жывапісныя творы Міхаіла Канькова я ўбачыў у 1976 годзе, калі вярнуўся са службы ў войску, у доме маёй аднакласніцы Лізы Данілюк. Гэта былі яе партрэты, якія Міхаіл зрабіў да дня нараджэння дзяўчыны. Яны мне вельмі спадабаліся. У школе я і сам шмат маляваў, алоўкам рабіў на ўроках накіды аднакласнікаў і настаўнікаў, а ўжо дома пісаў невялікія алейныя партрэты на грунтаваным кардоне. Ліза аднойчы паказала іх сваяку – мастаку Міхаілу Канькову. Той даў у цэлым станоўчы водгук, хоць і зрабіў нейкія заўвагі. Так мы пазнаёміліся, спачатку – завочна, а праз нейкі час – і асабіста.

Нарадзіўся Міхаіл Карнілавіч у вёсцы Пачашова Глазаўскага раёна Удмурціі. Вучыўся ў прафесійна-мастацкім вучылішчы ў горадзе Кунгур Пермскай вобласці па спецыяльнасці "Мастацкая апрацоўка каменя", служыў у войску ў Брэсце. Тут і застаўся пасля заканчэння службы, бо пакахаў мясцовую прыгажуню Ліду, з якой потым і ажаніўся... Працаваў метадыстам па выяўленчым мастацтве ў Абласным доме народнай творчасці, мастаком-афарміцелем на розных прадпрыемствах горада, галоўным мастаком камбіната "Мастацтва". У 1994 годзе Міхаіл Панькоў стаў членам ГА "Беларускі саюз мастакоў", а з 1995 года на працягу дзесяці гадоў быў старшынёй праўлення абласной арганізацыі гэтага саюза.

У камбінаце ён доўгі час працаваў сумесна з Барысам Малахавым, які меў архітэктурную адукацыю. Вынікам іх сумеснай працы стала афармленне Музея выратаваных каштоўнасцей па вуліцы Леніна, Дома грамадзянскіх абрадаў, многіх школ, бальніц, паліклінік, палацаў культуры, дзіцячых садкоў у абласным цэнтры, Музея хлеба ў вёсцы Расна Камянецкага раёна.

Але гэта ўсяго толькі адзін бок творчасці Міхаіла Канькова. Другі – яго жывапісныя і графічныя творы.

На рахунку мастака шмат палотнаў, якія пакінулі адметны след у беларускім выяўленчым мастацтве: "Снегапад", "Патоплены карабель-I", "Патоплены карабель-II", "Пейзаж з самотнаю лодкаю", "Сёстры" (прысвячаецца мастаку Барысаву-Мусатаву), "Старое кафэ".

Міхаіл Канькоў – мастак міфаў, ілюзій і асацыяцый... У фантасмагарычным калейдаскопе колераў, фарбаў, у скрыжаванні і паралелях колеравых ліній адлюстроўваюцца шматгранныя пачуцці аўтара, яго адносіны да сучаснасці, гісторыі, чалавека... І ў кожнай карціне заўсёды ёсць за што "зачапіцца" воку, каб адшукаць галоўную ідэю, адшукаць адпраўную кропку кампазіцыі, сэнсу мастацкага палатна. Гэта асабліва праяўляецца ў такіх творах, як "Шпацыр па асеннім парку", "Радасць", "Сон у летнюю ноч", "Слёзы капалі", "Прысвячэнне крэпасці", "Мой горад".

З дапамогай свайго мастацтва Міхаіл Канькоў прабіваецца да сэрцаў людзей, стварае такі мастацкі асяродак, у якім можна было б уздзейнічаць на свядомасць чалавека, прыняць удзел у нетаропкай размове-роздуме.

У апошнія гады выразна праявіўся і яшчэ адзін адметны бок творчасці мастака – стварэнне абразоў. Тут найбольш значныя работы – з серыі "Дакрананне да Дыянісія": "Архангел Міхаіл", "Божая Маці", "Архангел Гаўрыіл", "Дзмітрый Салунскі".

"Я жыву ў намаляваным свеце", – так вызначыў канцэпцыю сваёй персанальнай выставы Міхаіл Канькоў. Яна яшчэ доўга будзе прыцягваць увагу сапраўдных прыхільнікаў яго творчасці. І пакуль "Начная птушка" зазірае ў "Паралельнае акно", мы будзем уважліва ўглядацца ў карціны мастака, кожны раз знаходзячы ў іх нешта новае, нязведанае.

... У 2007 годзе, перад адкрыццём персанальнай выставы да 60-годдзя з дня нараджэння, Міхаіл Карнілавіч ласкава згадзіўся на кароткае бліц-інтэрв'ю, хаця так не хапала вольнага часу.

**– Міхаіл Карнілавіч, аб чым Вы марылі ў дзяцінстве?**

– Марыў навучыцца маляваць, для чаго і паступіў потым у вучылішча. А пачыналася здзяйсненне мары з удзелу ў конкурсе ў шостым класе. Намаляваў зайца і атрымаў за гэта першую прэмію ды альбом для малявання і каляровыя алоўкі ў дадатак...

**– Ці ёсць у Вас хобі?**

– Хобі няма, бо не хапае часу...

**– Самы шчаслівы дзень у Вашым жыцці?**

– Дзень 30 красавіка 1967 года, калі сустрэў сваю будучую жонку, а яшчэ дзень, калі нарадзілася першая дачка...

**– Як Вы сталі мастаком?**

– Напэўна, яшчэ не стаў, бо працягваю вучыцца, бо даказваю гэта сабе і іншым у кожнай сваёй працы...

**– Якім бачыце беларускае мастацтва ў будучым?**

– Увогуле беларускае мастацтва дастаткова вядомае ў свеце, яно вечнае, бо прыходзяць маладыя таленавітыя мастакі. І ўзровень яго з часам толькі павышаецца...

**– Каго з сучасных берасцейскіх мастакоў маглі б адзначыць?**

–Узровень берасцейскіх мастакоў дастаткова высокі, іх творчая актыўнасць дазваляе сцвярджаць, што нашы майстры не адстаюць ад сталічных. Хацелася б адзначыць Льва Алімава, Міколу Кузьміча, Наталлю Чорнагалову... А з маладых – Янку Рамановіча, Аксану Гайдуковіч...

**– Якія сур'ёзныя праблемы бачыце ў сучасным мастакоўскім жыцці Берасцейшчыны?**

– Зніжэнне творчай актыўнасці мастакоў, іх нячасты ўдзел у выставах. Віной таму найперш рыначныя адносіны. Расце кошт фарбаў, пэндзляў... Мастаку трэба рэалізаваць карціну, яле як і каму... У той жа час шмат што залежыць і ад саміх мастакоў...

**– Што Вас больш за ўсё хвалюе ў жыцці?**

– Не хапае часу...



*"Чырвоныя яблыкі"*



*“Настальгія”*



*“Сёстры. Прысвячаецца Барысаву-Мусатаву”*

# АЛЯКСАНДР ГРЫГОР'ЕЎ



Больш за 20 гадоў карыстаюся ў мастакоўскай справе палітрай, якую некалі падарыў берасцейскі мастак Аляксей Шышко, дарэчы, зямляк, родам з Кобрыншчыны. Той палітры быў наканаваны няпросты лёс, бо без майго ведама яе пад адпаведны настрой абрэзаў-закругліў іншы мастак, мой калега па працы ў рэкламным камбінаце Аблспажыўсаюза Аляксандр Грыгор'еў. Я тады напачатку быў незадаволены, што ён без дазволу так абкарнаў маю "маёмасць", а пасля падумаў, што так яно, можа, і лепш. У свой час я сам запрасіў Аляксандра на працу ў рэкламны камбінат, калі там з'явілася вольнае месца. Было гэта напрыканцы 80-х – напачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, у сумнавядомыя "развальныя" для СССР гады... Хоць, шчыра кажучы, цяпер тыя гады ўспамінаюцца светла: быў незвычайны час, цікавая праца, мы былі адносна маладыя...

Тады мы разам працавалі над афармленнем гандлёвых аб'ектаў Брэстчыны, нават удзельнічалі ў Рэспубліканскім конкурсе ў Лельчыцкім раёне Гомельскай вобласці, на якім атрымалі прызавое 3-е месца.

Падчас нашай сумеснай працы Аляксандр Грыгоръеў творчай мастакоўскай працай не займаўся па розных прычынах. Але распаўся СССР, ліквідавалі рэкламны камбінат, які стаў непатрэбным кіраўніцтву Аблспажыўсаюза. І толькі калі паўстала пытанне далейшай працы, Грыгор'еў накіраваўся ў суседнюю Польшчу, дзе пачаў працаваць мастаком, рабіць выставы і неяк крыху падзарабляць. Больш таго, вырашыў стаць чальцом Саюза мастакоў Беларусі. Пра тое, як ён рыхтаваўся да гэтага, я асабліва не ведаў, хіба толькі са слоў нашых агульных сяброў-таварышаў. Але ў канечным выніку ён падрыхтаваў жывапісныя творы для сваёй персанальнай выставы, якая адбылася ў 1997 годзе на вуліцы Набярэжнай імя Францыска Скарыны ў мастацкай галерыі "БелАрт" (трэба дадаць, што Аляксандр Грыгор'еў не мае ніякай мастацкай адукацыі). Тыя творы мяне ўразілі, хоць і было ў іх шмат спрэчнага. Яшчэ адзін бар'ер быў узяты, бо зрабіць персанальную выставу – гэта не ў грыбы схадзіць. Яшчэ некалькі гадоў мы працавалі разам: вазілі свае творы на рэспубліканскія выставы ў Мінск, рабілі сумесную выставу "Зеркало" ў малой выставачнай зале па вуліцы Савецкай. Адным словам, сябравалі. З розніцай у адзін год мы сталі сябрамі Саюза беларускіх мастакоў... А потым кожны пайшоў сваім шляхам.

Аляксандр Грыгор'еў больш працуе як графік. У свой час ён супрацоўнічаў з газетамі "Брестский курьер", "Бегемот". Тыя газеты цікава было браць у рукі, гартаць, разглядваць малюнкі... Крыху пазней Аляксандр Грыгор'еў вырашыў паспрабаваць сябе ў графіцы, якой паспяхова займаўся Леў Алімаў. З цягам часу ў яго гэта стала атрымлівацца. Але ж, як казаў сам Алімаў, гэтай працай трэба было заняцца Аляксандру на гадоў дзесяць раней.

Можна смела сцвярджаць, што Аляксандр Грыгор'еў адшукаў сваю нішу ў выяўленчым мастацтве. Да таго ж ён яшчэ і з поспехам афармляе спектаклі ў лялечным тэатры, "дабраўся" і да "вялікага" тэатра...

Трэба адзначыць выключную працаздольнасць Аляксандра Грыгор'ева, яго імкненне не спыняцца на паўдарозе да мэты, што прымушае адносіцца да творцы з вялікай павагай.

А яшчэ ў біяграфіі мастака была паездка ў ЗША, у Нью-Йорк, дзе ён пражыў з жонкаю паўгода. Ладзіў там свае выставы, прадаў жывапісныя работы.

Апошнім часам Аляксандр Аляксандравіч заняўся выставачнай дзейнасцю: правёў у брэсцкім гатэлі "Эрмітаж" першую на Беларусі Міжнародную выставу-конкурс малых форм графікі і экслібрысу "Белавежская пушча – 600", прысвечаную 600-годдзю Нацыянальнага парка. Гэтае, як яго называюць, біенале знайшло працяг у 2013 годзе – яно мела назву "Гульні цароў" і было прысвечана 400-годдзю Дома Раманавых.

# САЮЗ ФАРБАЎ, ВАДЫ І ПАПЕРЫ



Яго творы ўпрыгожваюць інтэр'еры ўстаноў культуры, бальніц, паліклінік, будынкаў вытворчага прызначэння, прыватных дамоў і кватэр...

Першае ўражанне, якое атрымліваеш ад твораў Аляксандра Алонцава – манументальнасць і лірычнасць. Манументальнасць ад нязвыклых памераў, ад стылізаванасці пейзажаў, нацюрмортаў і партрэтаў... Іх заўжды пазнаеш па лірычнай манеры выканання мастака, па яго тэхніцы (“Палявыя кветкі”, “Восеньскі букет”, “Кветкі радзімы”, “Палёўкі”, “Водар лета”, “Іду на навальніцу”, “Бабіна лета”, “Навальніца”, “9 Мая”, “Партрэт дачкі”, “Развітанне з дзяцінствам”, “Францыск Скарына”, “Мама”, “Сустрэча” (“Аўтапартрэт”), “Я і Марс”. Назвы гэтых твораў гавораць пра тэматычную living розначаковасць творчасці майстра акварэлі...

Непаўторныя імгненні нашага жыцця адбіваюцца на аркушах паперы мастака каляровым цудам, а вялікая колькасць кветак, пейзажаў уражвае гледачоў. У яго вялікай майстэрні акварэлі былі дакладна развешаны для агляду, нібыта ў музеі ці галерэі.

Характэрным прыкладам для акварэльнай творчасці мастака Алонцава, на маю думку, з'яўляецца нацюрморт “Палёўкі”, у якім дакладна сумясціліся матывы беларушчыны: нацыянальныя бел-чырвоныя ручнікі на стале і мноства палявых кветак – валошак, рамонкаў, макаў. На гэтым акварэльным аркушы дыхае паветра палёў, гучаць галасы дзяўчат, народныя песні. Твор радасны, натхнёны аптымізмам, пачуццём палёту. І кветкі, кветкі, кветкі... У акварэлі ўсё прасякнута радасцю жыцця, кахання, любові да народных крыніц. Гэты каларыстычны твор давялося не адзін раз бачыць, таму, калі прагортваю альбом-каталог мастака “Родны мой край”, выдадзены не так даўно да юбілею творцы, затрымліваю заўжды погляд на фотарэпрадукцыі акварэлі “Палёўкі”. Падабаецца...

Асобна варта звярнуць увагу і на акварэльны партрэт “Мама”. Манументальны твор-карціна прысвечаны цяжкаму лёсу самага дарагога чалавека – роднай маці, якой давялося перанесці цяжкія пакуты вайны ў канцэнтрацыйным лагеры. Таму так і выдзелены, прапісаны рукі жанчыны-маці з чорна-сінімі лагернымі лічбамі, яе твар. Лёс кожнага чалавека заўжды паласаты: цёмныя і светлыя палосы прысутнічаюць у жыцці... І гэтая акварэль, як даніна памяці, як напамін пра нашае няпростае жыццё, пранізана, як лёсавызначальнымі ніцямі, светла-цёмнымі палоскамі лагернага адзення, палоскамі складанага лёсу, палоскамі паветра радзімы, палоскамі роднай зямлі...

У мяне ёсць магчымасць бачыць таксама і жывапісныя творы мастака Алонцава, якія ён напісаў у пару сваёй мастакоўскай маладосці ў майстэрні Дома культуры чыгуначнікаў на Граеўцы (стары раён горада, які размяшчаецца паміж шматлікімі палотнамі чыгункі). Адразу пазнаеш руку Алонцава-акварэліста, бо яны з тым жа манументальным ухілам, абагульненасцю форм натуры. Заўжды цікава бачыць старыя жывапісныя палотны, якія некалі стварыў Аляксандр Алонцаў, у цяперашнай майстэрні мастака Анатоля Сямёнава. Нібы трапляеш у сярэдзіну мінулага стагоддзя, гартаеш старонкі гісторыі роднага горада...

Ураджэнец Брэста, сапраўдны патрыёт свайго горада, Аляксандр Аляксандравіч Алонцаў у свой час прыклаў шмат намаганняў, каб адкрыць Брэсцкую дзіцячую мастацкую школу, якой і кіраваў 25 гадоў (1976 – 2001), спачатку па вуліцы Пушкінскай у старым драўляным будынку (перад гэтым была няўдалая арэнда двух памяшканняў), а потым – у новым цагляным, па вуліцы Леванеўскага. У тым, што такая школа з'явілася, вялікая заслуга таксама тагачаснага начальніка аддзела культуры Брэсцкага гарвыканкама Паўла Жмайліка. Побач было шмат педагогаў-аднадумцаў: Канстанцін Калодзіч, Яўген Маньякоў, Вера Нешына, Мікалай Якімовіч, Наталля Чорнагалова, Юрый Татарнікаў, Мікалай Нерадзюк, Уладзімір Тулупаў, Тамара Дзянісава ... Малады дырэктар быў патрабавальным у плане дысцыпліны і парадку да такіх жа маладых педагогаў, да слова, аднойчы нават Канстанцін Калодзіч за спазненне на працу

атрымаў вымову... Але тыя гады засталіся незабыўнымі як для былога дырэктара, так і для вучняў і педагогаў, бо ў сценах старога будынка дзеці ўваходзілі ў свет прыгожага, вучыліся маляваць, а побач з імі шліфавалі свой педагагічны талент іхнія маладыя настаўнікі. Ніхто з былых вучняў і педагогаў не забудзе той час, што быў праведзены ў драўляным будынку пад шатамі высокіх старых дрэў, у новым будынку па вуліцы Леванеўскага.



*"Маці"*



*"Палёўкі"*

# СЦЯЖЫНКА ПРАЗ ЖЫТНЯЕ ПОЛЕ



Як мастака, Івана Дзям'янавіча Рудчыка я ведаю з далёкіх школьных гадоў, калі выставачная зала знаходзілася па вуліцы Савецкай у старым будынку, на тым месцы, дзе цяпер гандлёва-адміністрацыйны цэнтр з гатэлем. Запомніўся яго твор "Лотаць цвіце" – лірычны палескі пейзаж, на якім першыя вясеннія кветкі на лузе-балоце, кветкі майго маленства. Уражанне ад таго пейзажа не пакідае мяне і да гэтага часу – уражанне чысціні прыроды, водару вясны, галасоў птушак і, канечне, квітнеючая лотаць – сонечныя промні вясны на абуджанай зямлі продкаў...

На пачатку васьмідзясятых гадоў, калі сам пачаў удзельнічаць у абласных мастацкіх выстаўках, я пазнаёміўся з Іванам Дзям'янавічам і яго творамі значна бліжэй і паўней.

Калі заходзіш у Брэсцкі абласны мастацкі музей у крэпасці, то першае, на што звяртаеш увагу – вялікая карціна "Жыта". На ёй – залацістыя жытнія хвалі ля дарогі, расквечаныя блакітнымі валошкамі і беласнежнымі рамонкамі, а праз жытняе поле вядзе да небакраю вузкая сцяжынка. Гэтая сцяжынка, на мой погляд, і ёсць дарога да чалавека і мастака Івана Рудчыка. Яго палатно размешчана тут нездарма. Яно адразу стварае добразычлівы, радасны настрой перад сустрэчай з цудоўным светам мастацтва берасцейскіх творцаў.

Іван Дзям'янавіч – мастак са сваёй індывідуальнай рэалістычнай манерай пісьма, са сваёй адметнай філасофіяй жыцця, складанасць якога ён спазнаў спаўна з самага маленства, калі пачаў пасвіць кароў, дапамагаць па гаспадарцы бацькам. У той жа час праявіў цікавасць да выяўленчага мастацтва: пачаў капіраваць малюнкі з паштовак. Безумоўна, пэўны ўплыў на юнака зрабіў родны дзядзька, які быў іканапісцам.

У дзяцінстве будучы мастак разам з бацькамі пазнаў ліха ў бежанцах у Расіі – пад Уфой, адкуль сям'я вярнулася на радзіму ў 1919 годзе. Пасля службы ў Войску Польскім Іван Рудчык паступіў у Кракаўскую школу мастацтваў. Але скончыць яе не паспеў, бо па палітычных матывах быў арыштаваны ў 1933 годзе і два гады правёў у польскай турме, дзе, калі выпадала магчымасць, рабіў замалёўкі.

Першая карціна "Пратэст вязняў КПЗБ" была прададзена ў 1936 годзе за 100 злотых – на той час вялікія грошы. А пакупніком стала Варшаўская міжнародная арганізацыя пралетарыяту.

З 1940 года пачаўся новы этап у жыцці Івана Рудчыка: уступленне ў суполку маладых мастакоў, вучоба ў Мінску, а потым – вайна... Яна застала яго ў Брэсце. У час вайны быў падпольшчыкам, потым перайшоў у партызанскі атрад. За баявыя заслугі быў узнагароджаны ардэнамі і медалямі СССР і Польшчы.

Адразу пасля вайны ў Брэсце быў створаны Дом народнай творчасці, які аб'яднаў мастакоў у суполку. Іван Дзям'янавіч актыўна ўключыўся ў працу. У 1947 годзе ў горадзе прайшла першая абласная мастацкая выстава народнай творчасці, у якой прымаў удзел і Рудчык. Яго палотны адразу звярнулі на сябе ўвагу чысцінёй фарбаў і пранікнёнасцю. Жывапісная манера мастака фарміравалася як у даваенны час, так і ў першыя пасляваенныя гады. Рэалістычная манера прыцягвае ўвагу набліжэннем да роднай прыроды, да народнага жыцця, да партызанскай маладосці ( "Дарога ў лесе", "Лета", "Беларускі лес", "Зноў вясна", "Партызанскае вогнішча", "Партызанскія зямлянкі", "Гаворыць Масква", "Крэпаць над Бугам", "Цярэспальскія вароты", "Раніца 22 чэрвеня 1941 года").

Багатай школай і вытокам натхнення для Івана Рудчыка было само жыццё. На працягу многіх гадоў ён моцна трымаў у руцэ мастакоўскі пэндзаль. Творчасць майстра з'явілася адлюстраваннем не толькі асабістага жыцця, але і часткі гісторыі нашага народа. Яна прасякнута вялікім пачуццём любові да роднай зямлі ( "На старым Мухаўцы", "Бярозаўская ГРЭС", "Песня партызан", "На вялікую зямлю. Пераход партызан", "Чаплі на балоце", "Лясное возера",

“Прыбужжа”, “Народныя мсціўцы”, “Партызанскі лагер” ).

У 1949 годзе Іван Рудчык стаў членам Беларускага саюза савецкіх мастакоў і быў адзначаны Камітэтам па справах мастацтваў пры Савеце Міністраў СССР Ганаровай граматай як удзельнік Усесаюзнай выстаўкі народнага выяўленчага мастацтва. Іван Дзям’янавіч – адзін з заснавальнікаў абласной арганізацыі Беларускага саюза савецкіх мастакоў. Многія творы яго знаходзяцца ў музеях Беларусі.

Іван Рудчык – мастак-рэаліст. І ў гэтым – сэнс яго творчасці, яго жыццёвая праўда. Палітра творцы сціплая, гарманіруе з навакольнай прыродай. Таму ў яго найлепш атрымліваліся лірычныя пейзажы ( “Раніца”, “Пасля навальніцы”, “Праз брады”, “На Днепра-Бугскім канале”).

Мастак Іван Дзям’янавіч Рудчык глядзеў на свет чыстымі, яснымі вачыма дзіцяці, быццам і не было ваеннага ліхалецця, цяжкіх пасляваенных гадоў. У яго быў унікальны вопыт жыцця ў мастацтве. І скразной лініяй праз ягоную творчасць заўсёды праходзіла партызанская тэма... З ёю мастак жыў да апошніх сваіх дзён.



*“Песні партызан”*



*“Жыта”*

# СІМФОНІЯ АБЛОКАЎ ПЯТРА ДАНЭЛІІ



Пётр Аляксеевіч на пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя з гумарам сказаў пра мяне: – Гэты малады чалавек не хоча стаць мастаком!..

Шматзначныя словы вядомага беларускага мастака з Брэста засталіся ў маёй памяці як баявы заклік: каб стаць і быць мастаком, трэба шмат працаваць...

Пётр Аляксеевіч пражыў больш за 90 гадоў. І да апошніх сваіх дзён (а памёр ён восенню 2012 года) плённа працаваў, вёў актыўнае жыццё як асоба, як творца...

"Пётр Данэлія – чалавек, на якога павінны маліцца... Таго, што ён зрабіў для Беларусі як мастак і педагог, не зрабіў ніхто...", – так выказаўся Віктар Каральчук, народны мастак Украіны, які ў свой час займаўся ў студыі выяўленчага мастацтва ў Пятра Аляксеевіча.

Дзяцінства і юнацтва Данэліі прайшлі ў горадзе Махачкала ў Дагестане і на радзіме маці – Валгаградчыне. Каўказ у эмацыянальнай памяці юнага Пятра адбіўся на ўсё жыццё як адвечны гімн магутным сілам прыроды. Расія раскрыла перад ім глыбокія вытокі рускай класічнай школы пейзажа. Атрымаўшы такі духоўны старт, мастак прагна ўвабраў у сябе і лепшыя здабыткі нацыянальнай культуры Беларусі.

Любімы герой у пейзажных карцінах Пятра Данэліі – неба, непаўторныя, дзівосныя аблокі. Гэтая ўлюбёнасць – невыпадковая. Яна дазваляе свабодна ўносіць у карціны эмацыянальную аснову задумы. Нязменная прысутнасць вобраза неба, тое значэнне, якое надае мастак яго стварэнню, выпрацавалі за доўгія гады свой жывапісны почырк, склалі асаблівасць "данэліеўскага пейзажа", "данэліеўскіх аблокаў". Яго творы пазнаеш нават без подпісу.

Мастацтва Пятра Аляксеевіча заварожвае: ён выбіраў цікавыя, змястоўныя сюжэты і матывы, напоўненыя звонкаю навізною пачуццяў, абвостраным адчуваннем сучаснага жыцця. Усёй мастацкаю душою ён прымаў тое новае, што ўваходзіць няўхільна ў нашу рэчаіснасць, нязменна паказваючы пры гэтым сваё тонкае і глыбокае разуменне прыгожага. Яго далучэнне да прыроды, да гісторыі, да жыцця чалавека-творцы давала разнастайнасць тэм і сюжэтаў. Уменне бачыць прыгажосць і значнасць прыроды – гэта традыцыя беларускага нацыянальнага пейзажнага жанру.

Пётр Данэлія ўмела, высокапрафесійна працаваў з алоўкам, фарбамі. Яго творы нясуць толькі пазытыў. А самая каштоўная іх якасць заключаецца ў тым, што яны створаны на высокай духоўнай аснове, музычна-паэтычным ладзе кампазіцый, на вялікай любові да роднай зямлі, яе гісторыі...

Лепшым пейзажным палотнам – "Восеньская звонкасць", "Над цішынёю", "Расставанне", "Дзень, які адыходзіць", "Румянец у срэбры", "Успаміны", "Любімая пара", "Абуджэнне", "Геранічны матыў" – уласцівы эмацыянальнасць, рамантычная ўзнёсласць, эпічнасць. Яны глыбока сучасныя, нібы выпраменьваюць рытмы сённяшняга дня. Ды творчы дыяпазон мастака не абмяжоўваўся толькі пейзажамі. Мы ведаем Пятра Аляксеевіча і як тонкага партрэтыста, майстра фігурнай карціны, як мастака-манументаліста – "Роздум. Партрэт дачкі", "Партрэт паэта Алеся Каско", "Мастацтва акрыляе".

Творца не толькі накіроўваў сваіх вучняў да мастацкіх адкрыццяў, але і сам імкнуўся пераўтвараць канкрэтныя ўражанні ў вобразныя абагульненні. А ў пасляваенныя гады ён арганізаваў першыя мастацкія выставы пры абласным Доме народнай творчасці ў Брэсце. Пётр Аляксеевіч належаў да пакалення тых сапраўдных мастакоў, хто стаяў ля вытокаў пасляваеннага беларускага пейзажнага жывапісу. Ён заўжды знаходзіўся ў авангардзе бурлівага і напружанага мастацкага жыцця. Вакол яго заўсёды было шмат людзей.

Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Пётр Данэлія заўжды быў поўны аптымізму і творчага натхнення. Майстэрства ў гэтага чалавека хапала, каб зрабіць выдатны малюнак, падабраць на палітры патрэбную фарбу для перадачы характару твора. Талент мастака і педагога

дазваляў яму на адкрыцці шматлікіх выстаў знаходзіць патрэбныя словы для кожнага творцы – і маладога, і сталага. З ім заўсёды цікава было сустракацца, размаўляць як пра жывапіс, так і пра навакольнае жыццё ўвогуле...

Пётр Аляксеевіч быў добра вядомы на Берасцейшчыне і ў Беларусі. Ён доўгі час выбіраўся дэпутатам Брэсцкага гарсавета (1947-1967), дзесяць гадоў працаваў галоўным мастаком горада (мелася раней такая патрэбная пасада), шмат гадоў кіраваў Брэсцкім абласным аддзяленнем Саюза мастакоў Беларусі.

На цяперашні час нельга ўявіць сабе выяўленчае мастацтва Беларусі без непаўторнага майстра Пятра Данэліі, жывога, вясёлага і прынцыповага чалавека-творцы, які цалкам аддаў сваё жыццё служэнню высокаму мастацтву.



*“Гераічны матыў”*



*“Навальнічны неспакой”*

# ХВІЛІНА МАЎЧАННЯ



Мікалай Селяшчук быў з тых людзей, пра якіх кажуць: “сам сябе зрабіў”. Ён вельмі любіў жыццё ў яго прыгожых, эстэтычна дасканалых формах, імкнуўся нават у бытавых дробязях заставацца самім сабою. Яго цікавілі людзі неардынарныя, дзейныя. А яго такт і далікатнасць, напэўна, былі прыроджаныя і пазней свядома развітыя.

Мінула ўжо шмат гадоў, як Мікола Селяшчук нечакана загінуў на Цірэнскім моры ў Італіі, за сорак кіламетраў ад Рыма. Марская хваля стала для яго смяротным саванам. У росквіце жыцця, творчага таленту і славы пайшоў ад нас чулы чалавек і неардынарны мастак. Ён лічыўся візітоўкай беларускага выяўленчага мастацтва 1970 – 1990 -х гадоў, самым “модным” мастаком беларускай сталіцы. Яго творчасць была прагрэсіўнай, наватарскай, прарывам у беларускім жывапісе і графіцы. Мікола Селяшчук першым з беларускіх мастакоў асмеліўся зрабіць стаўку не на дзяржзакупку, а на прыватнага пакупніка. Аднойчы нават адмовіўся прадаць сваю карціну Міністэрству культуры – не зышліся ў цане. Ён ведаў сапраўды кошт свайму мастацтву, цаніў сваю творчасць, шмат працаваў.

Трынаццацігадовым вясковым хлопчыкам Мікола ўпершыню ў жыцці пабачыў намаляваны на палатне букет кветак, які прынёс у хату малады вайсковец з надзеяй прадаць яго гаспадыні. Хлопца раптам апаноўвае неадольная прага фарбаў, незразумелае спачатку нават самому сабе жаданне тварыць сваімі рукамі такую ж прыгажосць, на кавалку паперы або палатна паказаць тое, што ён бачыць і адчувае. З усмешкай успамінаў усё гэта пазней Селяшчук. Прыгадваў, як цягнуў з хаты кавалкі мешкавіны, малярскія фарбы. Потым бацькі давалі грошы і на сапраўдныя, “мастакоўскія”, фарбы. А калі пераехалі з хутара ў вёску Пугачова, непадалёку ад Брэста, хлопец паехаў у горад шукаць сабе настаўніка.

Аднойчы я нечакана сустрэў у цэнтры горада Льва Алімава, той прапанаваў разам з’ездзіць на магілу Міколы Селешчука, які пахаваны на могілках у Камяніцы-Жулавецкай. Быў сонечны асенні дзень. Мы ехалі да магілы чалавека, які так рана пакінуў гэты свет. Шкада, мы не былі знаёмыя, хаця я даўно захапляўся яго творчасцю. Спачатку ўразілі афармленыя ім дзіцячыя кніжкі (“Рак-Вусач” Я. Коласа, “Індыкала-Кудыкала” Р. Барадуліна і іншыя). Кожны раз, калі заходзіў у кніжную краму, пільна разглядваў дзіцячыя кніжкі: шукаў тыя, над якімі працаваў Мікола Селяшчук. Я набываў іх для малых пляменнікаў, для сябе, часта потым перачытваў, перагортваў. У тых кніжках мяне прываблівалі творчы густ мастака, таленавітасць, любоў да Берасцейшчыны. У яго было чаму павучыцца. Пра станаўленне мастака-графіка Міколы Селешчука я не раз чуў потым ад Льва Алімава, які добра яго ведаў.

...Магіла мастака на ўскрайку могілак, блізка ад шашы. Як бы і тут, у месцы апошняга прытулку, яму дадзена магчымасць назіраць за жыццём землякоў, быць побач з роднымі мясцінамі. Адна з яго апошніх карцін называецца “Вяртанне на радзіму” (1996), яна быццам бы абагульняе ўсю творчасць Міколы Селешчука. Прыпамінаецца яшчэ адзін ранні выпадак “сустрэчы” з Селешчуком. У майстэрні мастака Анатоля Госцева па-добраму ўразілі Міколавы фотаздымкі твораў у часопісе “Маладосць”. Выразныя постаці прыгожай дзяўчыны і маладога мужчыны, падзеленыя прасторай і часам , але з’яднаныя ў той жа час “кволым нервам” тэлефоннага шнура...

Наўрад ці можна Міколу Селешчука назваць улюбёнцам лёсу. Так, ён даволі рана і хутка набыў вядомасць як таленавіты мастак. Але яго шлях быў нялёгкі, за ўсімі поспехамі стаяла заўжды нястомная праца, цярплівасць. Мікола толькі з трэцяй спробы здолеў паступіць у Мінскае мастацкае вучылішча. Але не паспеў скончыць, бо прызвалі ў войска. Затое потым быў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Марылася пра аддзяленне жывапісу, але вучыўся на аддзяленні графікі.

Міколу шанцавала і на настаўнікаў, і на сяброў. Значную ролю ў яго жыцці адыграў Пётр

Аляксеевіч Данэлія, самы першы настаўнік – мастак, з якім хлопчык сустрэўся ў Брэсцкай студыі народнай творчасці. Там і пазнаёміліся ў 1962 годзе Леў Алімаў і Мікола Селяшчук, там яны і пасябравалі на доўгія гады.

Час студэнцтва пакінуў незабыўны след у душы Міколы, бо гэта быў шчаслівы і крыху наіўны перыяд “вялікіх адкрыццяў”. Маладога мастака ўсё больш і больш не задавальняла тое, што ён бачыў на афіцыйных выставах таго часу. Хутка пачаў выстаўляцца сам. Ёмістую, неадназначную і праўдзівую інфармацыю неслі яго карціны “Матылькі тут не жывуць” (1982), “Бацька памёр” (1982 – 1984), “Вярнуліся” (1985), “Хвіліна маўчання” (1989). У гэтых творах мастак шукаў уласную форму выяўленчай публіцыстыкі, якая распавядала пра драматычныя моманты чалавечага жыцця.

Але яшчэ больш незвычайнай для беларускага выяўленчага мастацтва тых гадоў была тэма эвалюцыі жаночай свядомасці ва ўмовах горада. Карціны-сарказм “Нядзеля” (1987), “Гульні з максімальнай рызыкай” (1988), “Каляды” (1988) мастак насяляе фантасмагарычнымі істотамі з застылымі расфарбаванымі тварамі, своеасаблівымі механічнымі лялькамі, якія імітуюць жыццё людзей...

Пасля заканчэння інстытута Мікола працуе некаторы час у выдавецтве “Мастацкая літаратура”, а майстэрня знаходзіцца ў доме насупраць Палаца мастацтваў у Мінску па вуліцы Казлова (сумесна з мастакамі-сябрамі Уладзімірам Савічам і Уладзімірам Тоўсцікам).

У пачатку сямідзясятых гадоў Мікола набыў друкарскі станок, за якім і працаваў у родным доме ў Пугачова, калі жыў там. Але праз некаторы час прадаў яго Льву, свайму сябру. Той славуты станок працяглы час выручаў Алімава, служыў яму ў майстэрнях на Савецкай, на Гогаля, потым на вуліцы Чкалава (сёння стары “працаўнік” робіць добрую справу ў школе № 10 горада Брэста, якая мае архітэктурна-мастацкі ўхіл).

У 90-я гады, якія прынеслі з сабой карэнныя змены ў наша жыццё, у атмасферы павышанага эмацыянальнага напружання Мікола Селяшчук з годнасцю захоўвае сваю індывідуальнасць. Эстэтычная катэгорыя характва не страціла для мастака сваёй каштоўнасці і актуальнасці. Драматычныя калізіі жыцця, сацыяльныя катастрофы, што ўзрушвалі наша грамадства, адлюстраваны ў карцінах “Пярэварацень” (1990), “Метамарфозы”, “Лёгкае насілле над грамадзянкай Д.” (абедзве – 1992), “Шукаў пустэльніка, сустрэў цябе” (1993), “Люблю цябе сустракаць” (1994).

У сваёй сталай творчасці Мікола Селяшчук прыйшоў да традыцыйнай для гісторыі культуры тэмы барацьбы дабра і зла, святла і цемры. У творах “Вясна”, “Свята”, “Велікодны сняданак на пленэры”, “Калі цвіце язмін” (усе 1991), “Саната мора” (1992), “Сустракае вясну” (1993), “Травы Палесся” (1994) мастак проціпастаўляе агрэсіўным сілам змроку сваю ўзвышаную і рамантычную мару, свае ідэалы, якія ўвасабляюцца ва ўзнёслых і лірычных жаночых вобразах.

Мікола Селяшчук належыць да тых творцаў, якія не парывалі сувязі з традыцыйнай культурай і адначасова чула рэагавалі на ўсе змены. Таму яго творчасць заняла асаблівае месца ў гісторыі беларускага выяўленчага мастацтва.



*“Лета”. Фрагмент*



*“Вяртанне на Радзіму. Шоптур.”*



*“Люблю цябе сустракаць”*

# БОЖЫЯ ГАЛАСЫ



У 2007 годзе ў Мінску адбыўся чарговы з'езд ГА "Беларускі саюз мастакоў", на які ад Брэсцкай вобласці мы паехалі са старшынёй абласнога аддзялення мастаком-эмальерам Мікалаем Кузьмічом. Мікалай Пятровіч, памятаецца, прасіў нас галасаваць на з'ездзе за скульптара Аляксандра Дранца, які павінен быў выстаўляць сваю кандыдатуру на пасаду старшыні Беларускага саюза мастакоў.

Як дамаўляліся, я аддаў свой голас за скульптара Дранца. Але гэта быў толькі пачатак галасавання, бо ў другі тур акрамя Дранца трапіў вядомы мастак-графік Уладзімір Савіч, якога я даўно ведаў па цудоўным афармленні дзіцячых кніжак яшчэ з савецкіх часоў.

Пры канчатковым падліку галасоў высветлілася, што перамог Уладзімір Савіч з перавагай... у два галасы...

Неяк не атрымлівалася расказаць пра гэта самому Уладзіміру Пятровічу, і толькі 6 чэрвеня 2013 года пасля пасяджэння Рады Саюза мастакоў у размове я згадаў той выпадак.

– То былі Божыя галасы!.. – у адказ сказаў мастак, пасміхнуўшыся. – Я пра тое галасаванне часцяком успамінаю, думаю і прыходжу да высновы, што няпроста так усё тады атрымалася... А ўжо на наступным з'ездзе мая перавага была неаспрэчная.

А я ў сваю чаргу падумаў, што за апошнія шэсць гадоў нават не ўяўляў, што кіраўніком Беларускага саюза мастакоў мог быць нехта іншы, не Уладзімір Савіч, бо так арганічна Уладзімір Пятровіч глядзіцца на гэтай пасадзе.

Уладзімір Пятровіч Савіч – заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар. Атрымаўшы ў свой час выдатную адукацыю, ён выпрацаваў уласную творчую манеру і з'яўляецца арыгінальным прадстаўніком сучаснага айчыннага выяўленчага мастацтва.

Звяртаючыся да ягоных густоўна аформленых кніжак беларускіх народных казак, да вядомых графічных і жывапісных твораў, можна адзначыць, што Уладзімір Савіч расказвае пра сябе і пра той час, у якім жыве, пра адносіны да гісторыі роднай Беларусі, пра свае пачуцці.

Адны толькі назвы ягоных твораў шмат пра што гавораць: "Магічныя сны", "Памяць сівых курганоў", "Святло роднага дома", "Разарваныя фрагменты памяці", "Пачуццёвы досвед", "Кругі магічных абрадаў", "Святасць споведзі"...

Уладзімір Пятровіч выдатна ведае народнае мастацтва, фальклор і матэрыяльную культуру беларусаў (родам мастак са старажытнай вёскі Хатаевічы на Лагойшчыне). Нездарма ў свой час ён вывучаў усё гэта ў шматлікіх вандроўках і экспедыцыях разам з вядомым мастаком-мастацтвазнаўцам Міхасём Раманюком.

Апошнія гады Уладзімір Савіч удала сумяшчае творчую працу з абавязкамі старшыні Беларускага саюза мастакоў. Ён настойліва працуе, дасягаючы ўсё новых вяршынь у мастацкай творчасці, працуе дзеля высокіх ідэалаў, дзеля хараства на зямлі.



*"Мроі"*

# ПАРТРЭТ ЧАЛАВЕКА Ў МАСЦЫ



Аднойчы я зайшоў у выставачную залу па вуліцы Савецкай па свае жывапісныя творы, якія засталіся пасля праведзенай чарговай выставы. Я спяшаўся, бо чакаў сусед з машынаю. У гэты час у салоне-магазіне з'явіўся мастак-графік Леў Алімаў, які ўладкаваўся ля стала і стаў аб нечым жыва размаўляць з сакратаркай абласнога аддзялення Лідай...

– Прысядзь, пагаворым... – прапанаваў мне Леў Барысавіч, а сам павярнуўся да жанчыны.

– Ведаеш, Ліда, як я завабліваю яго ў сваю майстэрню?

– Не! – заінтрыгавана адказала Лідзія Якаўлеўна, гледзячы на мяне сонечнымі вачыма.

– Папераю! – з націскам адказаў Алімаў.

– Туалетнаю!? – са здзіўленнем спытала сакратарка, вымавіўшы першае, што трапіла на язык.

– Не, акварэльнаю! – незадаволена вымавіў мастак і дадаў:

– Хай працуе. Я яму часцяком выдзяляю па некалькі аркушаў. У мяне засталося крыху яшчэ добрай акварэльнай паперы з савецкага часу...

А ў той выставачнай зале ў снежні 2005-га года было адкрыццё маёй вялікай юбілейнай выставы жывапісу і графікі. Выступіў з добрымі словамі і Леў Алімаў. Ён падараваў мне кніжку “Дзень паэзіі – 88”, якую з густам аформіў яго сябар Мікола Селяшчук. Яны разам займаліся ў мастацкай студыі Дома народнай творчасці ў мастака Пятра Аляксеевіча Данэліі. Той падарунак для мяне меў асаблівую цану, бо быў атрыманы як бы ад двух знакавых асоб, яго ўпрыгожвалі два аўтографы...

Я быў вельмі крануты. Алімаў ведаў, што мне даўно падабаецца творчасць нашага знакамітага земляка. Працуючы ў рэкламным камбінаце Аблспажыўсаюза, я рабіў афармленне ўнівермага ў горадзе Століне, выкарыстоўваючы матывы твораў Міколы Селешчука. Алімаў часцяком заходзіў у майстэрню, дзе раней і сам працаваў, назіраў, даваў парады. А потым, неяк пасля паездкі ў Мінск, сказаў мне, што гаварыў Селешчуку пра маю працу. Мікола не быў супраць такога пераймання і пажадаў толькі плёну і мастацкага густу.

... А пачыналася ўсё з мастацкай студыі, якой кіраваў цудоўны чалавек Міхаіл Сяргеевіч Талмачоў, восенню 1959 года. Аднойчы ў Льва адбылася выпадковая сустрэча на плошчы Леніна з дзвюма хлопцамі, якія рабілі акварэльныя эцюды, – Кастусём Нікалайчуком і Міколам Пракаповічам (не тым толькі, каторы паэт і працуе на абласным тэлебачанні). Алімаў тады яшчэ здзівіўся, гледзячы на акварэлістаў: няўжо так можна працаваць з акварэллю, каб яна расцякалася па паперы?! Хлопчык цвёрда вырашыў навучыцца маляваць і прыйшоў у Дом піянераў. Ён знаходзіўся тады ў старым цагляным двухпавярховым будынку за бальніцаю на вуліцы Бялова, а студыя была на першым паверсе, побач з харэаграфічным гуртком.

У той час у мастацкай студыі займаліся Валеры Кускоў, Віктар Байцун, Мікола Нерадзюк, Георгій Нічыпарук, Аляксандр Сяргееў... Там бруіла цікавае творчае жыццё.

Малюнак маладога студыйца “Ракета на Месяцы” трапіў на рэспубліканскую выставу. І пачаліся гадзіны незабыўных заняткаў пад кіраўніцтвам Настаўніка – Міхаіла Сяргеевіча Талмачова... У 1960-м годзе ўсёй студыяй ездзілі ў Булькова на пленэр. Восенню была выніковая выстава. Тады ж перасяліліся ў новы будынак Дома піянераў на цяперашняй вуліцы Наганава, у рагавое памяшканне на верхнім паверсе...

А ў чатырнаццаць гадоў Леў Алімаў спрабаваў перайсці ў студыю да Пятра Данэліі, ды няўдала. На той час саракагадовы кіраўнік студыі пры Доме народнай творчасці быў богам для пачынаючых жывапісцаў. Выстаўляўся ў Маскве. Праз год усё ж атрымалася. А праз паўгода вучобы Леў Алімаў перавёўся ў старэйшую групу. Там жа займалася і сястра Таццяна.

(Дарэчы, Пётр Данэлія кіраваў студыяй доўгія гады – з 1947 па 1967).

Летам старэйшыя мастакі-студыйцы бралі малодшых з сабою на эцюды. Часам даводзілася пісаць світанкі, таму амаль не класціся спаць... У тыя гады Леў Алімаў чытаў шмат кніг па мастацтве, наведваў чытальную залу па вуліцы Пушкінскай, дзе пазней працавала Мастацкая школа, першым дырэктарам-заснавальнікам якой быў Аляксандр Аляксандравіч Алонцаў (зараз на тым месцы невялікая крама).

У 1963 годзе Леў Алімаў паступіў у Мастацкае вучылішча імя 1905 года ў Маскве. А праз год яго забралі служыць у войска.

У родны горад вярнуўся праз 10 гадоў. Пачалася новая старонка ў яго жыцці і творчасці.

Мастак Уладзімр Савіч прапанаваў Льву Алімаву аформіць паэтычную кніжку. А Мікола Селяшчук узяў некалькі афортаў сябра ў Мінск, адкуль яны трапілі на выстаўку ў Германію. Так пачыналася выставачная дзейнасць і прызнанне...

А працаваць даводзілася ў творчай майстэрні з печкай-“буржуйкай” пасля асноўнай працы ў рэкламным камбінаце Аблспажыўсаюза. Часам і холадна было. Але калі ў 1987 годзе перайшоў у Мастацкія майстэрні, то атрымаў магчымасць набыць больш зручнае месца для творчасці – па вуліцы Чкалава, пад дахам жылога дома, дзе ўжо не трэба было паліць у печы...

У 1988 годзе старшыня абласной арганізацыі СМ БССР Васіль Мікалаевіч Сабалеўскі прапанаваў Льву Алімаву ўступіць у Саюз мастакоў. Толькі тады Леў атрымаў магчымасць паехаць у 1989 годзе на Сенеж, пабачыць, як працуюць мастакі з усяго СССР... (З пуцёўкаю дапамаглі Мікола Селяшчук і Уладзімір Басалыга.)

Калі я працаваў у навукова-метадычным цэнтры культасветработы і народнай творчасці, мой рабочы стол стаяў ля акна, якое выходзіла ў цяністы двор старога мураванага дома побач з цэнтральнай вуліцай Савецкай. У тым доме жыве мастак Леў Алімаў. Часцяком, асабліва летам, Леў падыходзіў да акна, за якім працаваў я, цікавіўся як жыву, жартаваў...

Мне падабалася заходзіць у рэкламную майстэрню Аблспажыўсаюза, дзе на той момант працаваў брэсцкі мастак. Алімаў любіў рабіць алоўкавыя малюнкі-накіды, малюнкі-фантазіі (дарэчы, такіх алоўкавых малюнкаў у яго там “напрацавалася” шмат, вельмі шмат). Я не адмаўляўся часам пастаяць-папазіраваць ля яго стала. Тыя малюнкі заўсёды падпісваліся з “гумарным” тэкстам надпісамі, што ўзбагачала агульнае ад іх ураженне. Адзін з іх захоўваецца ў мяне як памяць аб непаўторным часе – часе нашай “савецкай” маладосці...

...Калі прайшла хваля перабудовы, брэсцкія мастакі пачалі актыўна ўступаць у Беларускі саюз мастакоў, куды доўгі час было цяжка “прабіцца” (не пускалі “мэтры”, і на тое былі свае прычыны).

Леў Алімаў заўсёды адказна адносіўся і адносіцца да уступлення ў БСМ . Ён не аднойчы крытыкаваў нас, архітэктараў, якія працавалі мастакамі на розных прадпрыемствах горада. Яго любімымі словамі былі:”Займайцеся сваёй архітэктурай, не лезьце да нас, мастакоў!” Лічу, што ён памыляецца крыху наконт архітэктараў, хаця і да сённяшняга часу так лічыць...

Калі надышоў мой час пісаць заяву і рабіць крокі для ўступлення ў Саюз мастакоў, Алімаў быў не згодзен. (Потым ужо, праз пяць гадоў, на адкрыцці маёй юбілейнай выставы на вуліцы Савецкай ён публічна папрасіў прабачэння за тое, што галасаваў у свой час супраць). Але я ніколі на яго не крыўдзіўся: старэйшы таварыш заўсёды даваў разумныя парады, да якіх я абавязкова прыслухоўваўся, каб узбагаціць свой творчы набытак, глыбей пазнаць таямніцы колеру, фарбы, кропкі, лініі алоўка.

Заўсёды, калі бываю ў яго майстэрні, з цікавасцю назіраю за акуратнасцю, культураю працы. Да таго ж Леў Алімаў – цікавы суразмоўца. Заслухаешся яго аповедамі пра стары горад, яго знакамітых жыхароў. Зараз ён і сам ужо стаў “жывой” гісторыяй нашага горада – горада мастакоў... (Таго горада, які цяпер на вачах губляе сваю “душу” – вуліцу Савецкую, якую пакарожылі “устаўнымі сківіцамі” – новымі пабудовамі на месцы старых дамоў).

# ВОСЕНЬСКІ ЎСПАМІН ПРА ВАСІЛЯ САБАЛЕЎСКАГА



Васіль Мікалаевіч Сабалеўскі моцна любіў сваю Бацькаўшчыну, тонка адчуваў колеры роднага краю, любіў паэзію і жыў ёю ў сваіх цудоўных жывапісных творах: пейзажах і нацюрмортах. Са школьных гадоў у маім сэрцы застаўся пейзаж мастака "Ластаўчыны гнёзды", які калісьці пабачыў у выставачнай зале па вуліцы Савецкай, 38, у старым двухпавярховым будынку...

Васіль Сабалеўскі нарадзіўся ў 1932 годзе ў вёсцы Ліпна Камянецкага раёна. Пасля заканчэння Ленінградскага мастацка-графічнага педагагічнага вучылішча пачаў актыўна ўдзельнічаць у шматлікіх мастацкіх выставах рознага ўзроўню, а потым і ў міжнародных пленэрах.

У 1964 годзе Васіль Сабалеўскі стаў членам Беларускага саюза мастакоў. Потым пэўны час узначальваў абласную арганізацыю гэтага саюза і шмат зрабіў для яе станаўлення і развіцця, быў ля вытокаў наладжвання міжнародных сувязей з мастакамі краін-суседзяў. З яго лёгкай рукі адбыліся выставы беларускіх і нямецкіх мастакоў у горадзе Равенсбургу (Германія) напрыканцы васьмідзясятых-пачатку дзевяностых гадоў, калі ў былым Савецкім Саюзе распачыналася перабудова.

Цяпер творы Васіля Мікалаевіча знаходзяцца ў Нацыянальным музеі ў Мінску, у краязнаўчым і мастацкім музеях Брэста, у прыватных калекцыях у Беларусі, Польшчы, Германіі, Венгрыі. Палотны мастака ўпрыгожваюць інтэр'еры шматлікіх грамадскіх будынкаў у Брэсце і іншых гарадах вобласці.

Васіль Сабалеўскі быў цалкам аддадзены творчай і грамадскай працы. З ім было лёгка і цікава размаўляць пра мастацтва, літаратуру, жыццё. У такіх размовах абавязкова прысутнічаў дасціпны гумар. Як мастак Васіль Мікалаевіч быў досыць вядомым і папулярным, але заўсёды на выставы прыносіў толькі новыя творы, якія звярталі на сябе ўвагу глыбінёй мастацкай ідэі, майстэрствам выканання.

Яго месца ў жывапісе і па сённяшні дзень ніхто так і не заняў – ні на Берасцейшчыне, ні ў рэспубліцы. Такім ён і застанецца ў нашай памяці пад апошнім сонечным цяплом кастрычніцкага "бабінага лета" без адляцелых у вырай ластавак. Цяперашнія мастацкія выставы шмат чаго страцілі без палотнаў Васіля Сабалеўскага.



*"Стагі ўзімку"*




*“Белыя кветкі”*




*“Выпаў снег”*

# МІХАСЬ КЕБЕЦ – ПАЛЕСКІ МАСТАК



Маё добрае знаёмства з Міхасём Кебецам адбылося амаль выпадкова: неяк у 1982 годзе з мастаком Канстанцінам Калодзічам, з якім я на той час працаваў сумесна ў АНМЦ Упраўлення культуры, завіталі ў майстэрню да Мікалая Маеўскага і Міхася Кебеца, якія працавалі ў адным памяшканні на самым версе новага шматпавярховіка па вуліцы Набярэжнай імя Францыска Скарыны. З вокан майстэрні адкрываўся цудоўны краявід з ракою Мухавец. Відовішча тое захапляла, бо было нязвыкла яшчэ з такой вышыні любавацца гарадскім наваколлем.

Мікола Маеўскі схіляўся ля сваёй карціны з палескім краявідам, з лодкаю пад ветразем: ён дапрацоўваў амаль гатовы твор. А Міхась прыязна пачаў з намі весці гаворку, паказваць свае жывапісныя творы, шматлікія акварэлі. (З таго візіту запомнілася цікавая дэталь: стары скуласты зэдлік, пафарбаваны ў цёмна-чырвоны колер, з парожняй вялікай шклянкай, кавалкам засохлага хлеба і жоўта-залацістаю цыбулінай. Ну, прама такі гатовы нацюрморт! Бяры фарбы, пэндзлі і пішы!)

З твораў Міхася тады асабліва спадабаліся невялічкія эцюды родных мясцін-краявідаў. Вытрыманы, някідкі каларыт, смелыя прафесійныя мазкі фарбаў заварожвалі, захаплялі... Мастак з гонарам паказваў нам эцюды, расказваў пра вандроўкі па Палессі, адкуль прывозіў жывапіс і акварэлі, розныя замалёўкі. Міхась быў актыўным прыхільнікам пленэраў, на якіх паспяхова працаваў у тэхніцы акварэлі, гуашы і алею.

Сядзелі доўга ў майстэрні. Пілі гарбату, размаўлялі. Шклянкі з недапітаю гарбатаю паставілі на чырвоны зэдлік, які ўсім сваім відам так і прасіўся на палатно. Калі ўжо пачало змяркацца, запалілі святло. За акном майстэрні віднеўся Мухавец, пакрыты тонкім празрыстым ільдом, прыцярушаным лёгкім сняжком. Свяцілі ліхтары на мосце праз раку, коўзалі ў абодва бакі машыны і аўтобусы. А мы сядзелі ў утульнай майстэрні Міхася Кебеца і размаўлялі пра жывапіс, пра мастакоў, пра літаратуру, пра творчасць. Адчувалася, з якой любоўю і замілаванасцю адносіўся мастак да ўсяго гэтага блізкага і такога роднага для ягонай душы. Ягоны бацька ў свой час працаваў настаўнікам літаратуры, таму і Міхась захапляўся ёю, асабліва паэзіяй. (У той, савецкі час, калі не выдаваліся яшчэ кніжкі Барыса Пастэрнака, Ганны Ахматавай ды Марыны Цвятаевай, Міхась даваў пачытаць блізкім сябрам дарагія яму кніжачкі паэзіі з бацькавай бібліятэчкі.)

Потым яшчэ не раз даводзілася заходзіць да мастакоў-сяброў, але ўжо было не тое ўражанне: памянялася абстаноўка, бо Мікола Маеўскі жыў там з жонкаю за тонкай перагародкай. І ў Міхасёвым пакоі ўжо адчувалася не так утульна, не так свабодна. Таму, калі мастак перабраўся ў новую майстэрню бліжэй да вуліцы Маскоўскай, я, не доўга думаючы, напрасіўся да яго ў “адведкі”.

Новая майстэрня была меншаю па памерах. У акне шапацелі голлем дрэвы, прабівалася праз фіранкі сонца. Было ўтульна і вольна адчуваць сябе ў майстэрні мастака Кебеца, хаця па дыяганалі пакоя стаяла на падлозе незаменная спадарожніца яго вандровак – лодка.

Міхась любіў сваё Палессе, свой Петрыкаў. Часта ездзіў туды папрацаваць, адпачыць. Родная старонка натхняла яго, давала новыя сілы для працы, будняў і святаў жыцця. І хаця мне не давялося падарожнічаць з мастаком, затое заўжды стараўся зразумець яго, любіў слухаць ягоныя аповеды пра падарожжы. Міхась вельмі ганарыўся тым, што такі маленькі палескі гарадок, як Петрыкаў, даў сусветнаму выяўленчаму мастацтву вядомага мастака-авангардыста 20 – 30-х гадоў Р. Семашкевіча, які жыў у Расіі. ( Мо калі і мастаком Міхасём Кебецам будуць ганарыцца петрыкаўцы, калі паставяцца больш уважліва да ягонай мастакоўскай спадчыны). Міхась любіў творчасць такіх сусветна вядомых майстроў як Х. Суцін, Ж. Руа... Р. Фальк увогуле быў яго любімым жывапісцам. Міхасю падабаліся палотны з фактурнаю манераю пісьма. Іх аўтары былі для яго сапраўднымі кумірамі, бо і сам Міхась Кебец любіў хвостка “ўдарыць” пэндзлем па палатне. Сустракацца з Міхасём мне заўсёды было прыемна, нягле-

дзячы на ягоны часам дрэнны настрой.

Міхась Кебец усё жыццё быў сумленным мастаком і патрабаваў гэтага ад іншых. Не імкнуўся нікому дагадзіць. Быў ворагам любой кан'юнктуршчыны. І асабліва цяжка было яму, калі застаўся без працы. Пакутліва перажываў, калі зніклі сацыяльныя заказы і не стала заробку. Можна сказаць, што Міхася згубіла адсутнасць працы. А чалавек ён быў горды, таму абы-куды не хацеў уладкоўвацца... Існавала для мастакоў заўсёды, існуе яшчэ больш і зараз, праблема рэалізацыі сваіх твораў. Незапатрабаванасць – вялікая праблема не толькі для іх.

... Вось і апошняя сустрэча з Міхасём атрымалася выпадковай: ля гандлёвага цэнтра на праспекце імя П.М. Машэрава, ля вежы з гадзіннікам. Ён сказаў, што збіраецца класціся ў бальніцу да знаёмага доктара паправіць здароўе. Адтуль ужо не вярнуўся...

Вярнуўся мастак Міхась Кебец на выставы сваімі творамі, заняў годнае месца ў новым альбоме-каталогу, які быў выдадзены да 60-гадовага юбілею абласной арганізацыі ГА "Беларускі саюз мастакоў" у снежні 2008 года. Так вось атрымалася, што супалі два юбілеі – мастака і арганізацыі, да якой належыў Міхась Кебец – мастак з палескай душою, з палескімі каранямі...



*"Восеньскія кветкі"*



*"Палескі краявід"*

# ПАЛЁТ НАД ПУШЧАНСКІМ ГНЯЗДОМ



Шмат сваіх жывапісных і графічных твораў Мікола Маеўскі прысвяціў Белавежскай пушчы, бо гэта месца яго нараджэння, месца цяперашняй працы, месца натхнення, без якога і за пэндзаль не возьмешся, і не падыдзеш да мальберта ці эцюдніка... Адно з яго палотнаў так і называецца – “Белавежская пушча”. На ім з вышыні птушынага палёту мы бачым велічную панараму запаведнага лесу з яго рэкамі, магутнымі дрэвамі і палянамі, парослымі густой сакавітай травой. А над усім гэтым пушчанскім хараством павольна лётае вартаўнік велічнай прасторы – каршун, які пільна сочыць за наваколлем.

У свой час, на пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя, была створана цэлая серыя жывапісных карцін-пейзажаў на тэму Белавежскай пушчы – “Поры года” (8 нацюрмортаў па пушчанскіх матывах, па два на кожную пару).

Паралельна з творчай працай Мікола Маеўскі ў тыя гады паспяхова займаўся вытворчай дзейнасцю. У вучылішчы механічнага завода ў Пінску стварыў пано “Песняры Беларусі” ў тэхніцы анкаустыкі, на Белаазёрскай ТЭЦ зрабіў маркетры “Поры года”, пано на касмічную тэму плошчай больш за 40 квадратных метраў...

А ўсё пачыналася з маленства, калі стаў маляваць. Пасля заканчэння Дварцоўскай васьмігодкі два гады вучыўся ў Камянецкай школе. Потым была служба ў арміі, Ленінградская мараходная школа, работа на караблях балтыйскага марскога параходства, на лініях у Аўстраліі, Амерыцы, Еўропе. Увесь гэты час маляваў і марыў быць мастаком.

У 1979 годзе, пасля вучобы ў Ленінградскім мастацкім вучылішчы імя В.А.Сярова, Мікола Маеўскі прыехаў у Брэст у мастацка-вытворчы камбінат, дзе дырэктарам на той час быў Баляслаў Васільевіч Булатаў. Абласное аддзяленне Саюза мастакоў выдзеліла майстэрню, дзе ён стварыў сваю незабыўную карціну, водгук былых марскіх падарожжаў – “Мой сябар вецер”. Яе высока ацанілі наведвальнікі рэспубліканскай выставы ў 1980 годзе ў Мінску.

У гэтыя ж часы вазіў карціны ў Маскву на выставы “Зямля і людзі”, якія праводзіліся адзін раз на пяць гадоў. Былі яго творы і на міжнародных выставах у Латвіі, у Украіне, на Усесаюзнай выставе ў Маскве да 60-годдзя стварэння СССР.

У 1987 годзе Міколу Маеўскага прынялі ў Саюз мастакоў. На той час ён меў у актыве 28 рэспубліканскіх і ўсесаюзных выстаў. Шмат працуючы творча, стварыў цудоўныя серыі палотнаў, прысвечаных старажытнай Беларусі. Цікава паглядзець на Камянец-Літоўскі, Тураў, Пінск, Давыд-Гарадок, Мірскі замак, Лідскі замак вачамі мастака. Удалымі атрымаліся серыі “Хлябы Беларусі”, “Беларусь – мая шыпшына”, “Нацюрморты з калоссем”. Шмат твораў трапіла за мяжу – у ЗША, Швецыю, Германію, Францыю, Японію... Былі закуплены палотны і Абласным краязнаўчым музеем, Міністэрствам культуры Беларусі, Музеем Беларусі ў ЗША, Магілёўскай галерэяй і шматлікімі ўстановамі рэспублікі. Не абышоў бокам Мікола Маеўскі і Чарнобыльскую трагедыю, стварыўшы шэраг запамінальных твораў: “Рэквіем”, “Піраміда фараонаў”, “Пустыні ў Палессі” і іншыя...

З 1989 года Мікола Маеўскі тры гады ўзначальваў абласную мастакоўскую арганізацыю. Было зроблена шмат чаго добрага: пачалося ў тыя гады плённае супрацоўніцтва і сяброўства з мастакамі Германіі, Польшчы. Нашы творцы пачалі ездзіць на міжнародныя пленэры. У гэты час пасля доўгай затрымкі пачалі прымаць берасцейцаў у грамадскае аб’яднанне “Беларускі саюз мастакоў”... З’явіліся сябры творчай суполкі ў рэгіёнах: у Баранавічах, Пінску, Століне...

Мікола Маеўскі не выбіраў месца свайго з’ўлення на свет: пушчанскія лясы, лугі і палі самі абралі месцам нараджэння будучага мастака вёску Дварцы Камянецкага раёна, што месціцца сярод прыгожых сосНаў знакамітага лесу. А мясціны тут найпрыгажэйшыя. Пішу пра гэта з такой моцнай упэўненасцю, бо ў свой час, будучы студэнтам, пражыў у роднай вёсцы Міколы цэлы месяц, калі быў “на бульбе”. Вядома, і зуброў там бачылі, бо яны прыходзілі на

палі, дзе мы працавалі. Аднойчы ў нядзелю давялося натрапіць на волата, калі хадзілі ў лес за вёскай у грыбы...

Захапляешся адначасова як веліччу Пушчы, так і жывапісным палатном, на якім дакладна выпісана кожнае дрэва, кожная аблачына ў такой вядомай і запамінальнай манеры пісьма мастака Міколы Маеўскага. Яго наслаенне фарбаў, яго каларыт і малюнак ствараюць той запамінальны вобраз, які ўжо немагчыма забыць, які застаецца ў памяці на доўгія гады.

Арыгінальнай з'яўляецца манера пісьма мастака, якую не пераблытаеш ні з чыёй іншай: з цягам часу ён выпрацаваў свой стыль, ні на каго не арыентаваўся. Гэты манументальна-дэкаратыўны стыль прыцягваў увагу прыхільнікаў і аматараў мастацтва да твораў на кожнай выставе, што адбывалася ў абласным цэнтры.

А ў памяці ўсплываюць нашы першыя сустрэчы ў выставачнай зале па вуліцы Савецкай, у майстэрні мастака на верхнім паверсе шматпавярховіка па вуліцы Набярэжнай, калі яшчэ Мікола працаваў у адным пакоі з Міхасём Кебецам і Генадзем Сурмой. Цудоўны быў час, час маладосці, прагі да творчасці, да жыцця, час пошуку і шматлікіх здзяйсненняў. Лёгка працавалася, нягледзячы на розныя перашкоды, якіх заўжды хапала і хапае творчым людзям, на вялікі жаль, і цяпер.

Вось і зараз, калі Мікола Маеўскі (у 2008 годзе, пасля смерці маці Надзеі Уладзіміраўны) вярнуўся жыць і працаваць у бацькоўскі дом, навакольны свет застаецца такім жа складаным, як і ў маладосці, толькі ўзрост ужо іншы – сталы, калі так можна сказаць...

Тыя праблемы, што засталіся за спінаю, былі звязаны з майстэрняй, якую давялося пакінуць. Цяпер мастак жыве і працуе ў асяроддзі сваіх землякоў-пушчанцаў. Тут усё побач: гаспадарка, майстэрня, Белавежская пушча, якая натхняе яго на стварэнне жывапісных краявідаў і нацюрмортаў.

На свежым паветры сярод магутных дрэў і зуброў не даводзіцца сумаваць і кволіцца: здаровы навакольны свет запаведнага лесу, паветра, насычанае пахамі лекавых траў і дрэў, даюць той здаровы набытак, які дорыць сілы і мары для творчага плёну, для пераадолення новых прыступак да поспеху. Жыццё працягваецца, назапашвае новыя фарбы і гукі...

Верыцца, што новыя творы мастака Міколы Маеўскага яшчэ не раз парадуюць аматараў жывапісу, прыхільнікаў яго творчасці.



*"Камянец-Літоўскі"*

# ЖЫВАПІСЕЦ-ЛІРЫК ІОСІФ КРУПСКІ



Першае, што прыпамінаецца пра гэтага таленавітага чалавека – ягоная карціна “Абарона Брэсцкага вакзала”, што знаходзіцца ў Музеі гісторыі Брэсцкай чыгункі. З гэтага твора, які, можна сказаць, лічыцца візіткай мастака, пачалося і маё знаёмства з творчасцю Іосіфа Крупскага. Была яшчэ “Хлапчукі бягуць”. Гэтымі палотнамі мастак заявіў пра сябе як пра адметнага творцу не толькі Берасцейшчыны, але і ўвогуле Беларусі.

Іосіф Рыгоравіч Крупскі нарадзіўся 11 кастрычніка 1934 года ў вёсцы Куплін Пружанскага раёна, амаль на мяжы з Белавежскай пушчай. Бацькі былі сялянамі, акрамя Іосіфа ў сям’і гадаваліся яшчэ тры браты і пяць сясцёр. З дзіцячых гадоў хлопчык пазнаў неабходнасць працы, цану хлеба – таксама як і прыгажосць наваколля.

Першыя чатыры гады вучыўся ў школе роднай вёскі, потым – у недалёкім райцэнтры. У 1960 годзе скончыў мастацкую вучэльню. Адслужыў у Савецкай Арміі... А ўжо ў 1968 годзе завяршыў вучобу ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце, атрымаўшы кваліфікацыю мастака-жывапісца і выдатна абараніўшы дыпломны твор “Хлапчукі бягуць” – успамін пра маленства. Прыехаў у Брэст, пачаў працаваць, удзельнічаць у мастацкіх выставах.

Вострае адчуванне рэчаіснасці, асэнсаванне ўсяго, што адбываецца ў жыцці, усяго, што перажывае сам Іосіф Рыгоравіч, заўжды знаходзіць адлюстраванне ў карцінах. Менавіта таму яны такія розныя па характарах: тонкія і паэтычныя (“Тры грацыі”, “Хлапчукі бягуць”, “Вербы над Бугам”, “Юнацтва”), эпічныя (“Брэст”, “Фарсіраванне Дняпра”, “Невядомыя салдаты”), лірычныя (“Свята Купалле”, “Палессе”, “У майстэрні”, “Верасень”). Усе творы Іосіфа Крупскага аб’яднаны глыбокім пачуццём любові да Бацькаўшчыны. Менавіта таму яны закранаюць самыя тонкія струны душы, таму яны такія запамінальныя.

Іосіф Крупскі – разнапланавы творца. Ён умела знаходзіць і перадае на палатне характар, настрой, дэталі... Разглядаючы жывапіс мастака, мы адзначаем толькі яму характэрны стыль пісьма, адчуванне колеру, прасторы, кампазіцыйныя прыёмы, шчырасць твораў... У сваіх работах ён адлюстроўвае канкрэтныя падзеі, раскрывае эстэтычныя ідэалы часу, прыгажосць прыроды, чалавека, увогуле – стварае гісторыю нашага працавітага роднага краю.

Іосіф Рыгоравіч – паслядоўнік лепшых традыцый беларускага рэалістычнага жывапісу. У пошуках тэм і вобразаў ён шмат ездзіў па краіне і за мяжу на пленэры, адкуль заўсёды прывозіў вялікую колькасць пейзажаў, замалёвак, эцюдаў, на падставе якіх нараджаліся тэматычныя палотны. Творчасць берасцейскага мастака даўно атрымала высокую адзнаку і шырокае прызнанне ў Беларусі, Польшчы і іншых краінах. Яго ўклад у гісторыю беларускага жывапісу значны. Без тэматычных карцін, пейзажаў, партрэтаў, мазаік, акварэляў Іосіфа Рыгоравіча нельга ўявіць поўную карціну станаўлення жывапіснага мастацтва на Берасцейшчыне.

Іосіф Рыгоравіч працуе ў станкавым жывапісе (пейзаж, партрэт), у манументальна -дэкаратыўным мастацтве (мазаіка, сграфіто, фрэска). З 1968 года ён з’яўляецца ўдзельнікам мастацкіх выстаў, а з 1978 года – членам Беларускага саюза мастакоў. Творы Іосіфа Крупскага знаходзяцца ў музеях і карцінных галерэях Мінска, Брэста, Баранавіч, Пружан, а таксама ў прыватных калекцыях шэрагу краін Еўропы. Ён шмат гадоў адпрацаваў у Брэсце на мастацка-вытворчым камбінаце “Мастацтва”, актыўна ўдзельнічаў у творчым жыцці Берасцейшчыны...

Сярод вядомых твораў Іосіфа Крупскага, акрамя “Абароны Брэсцкага вакзала”( у свой час экспанавалася на Усесаюзнай выстаўцы ў Маскве), вылучаюцца і “Тры грацыі” – кампазіцыя з трыма маладымі жанчынамі, на якой у стрыманым каларыце паказаны цёплы ветраны дзень на беразе ракі: жанчыны гулліва бавяць час адпачынку... У свой час цікава было пабачыць на абласной выставе карціну “Катаванне актывіста” – сцэны з гісторыі грамадзянскай вайны.

Гэты твор, насычаны трагізмам, паказвае моц духу барацьбіта за ідэю, за лепшую будучыню. Таксама трэба адзначыць палотны “Навагодняя казка”, “Нацюрморт з яблыкамі”, “Дзяўчына з яблыкамі”. Сярод партрэтаў вылучаюцца “Партрэт маладога пісьменніка Ул. Ягоўдзіка”, “Партрэт жонкі”, “Пяшчота”, “Дзяўчына ў белым”, “Маці”, “Настаўніца”, “Аўтапартрэт”... Своеасаблівы біяграфічны сюжэтны твор “Куплін” – сцэнка з жыцця вяскоўцаў.

Асобна можна адзначыць паездкі мастака на пленэры ў Польшчу з 1999 па 2006 год. Часам бывала, што на год прыпадала па дзве-тры паездкі. Працаваў у Седліцэ, Вандровы, ля Варшавы ў Яцкова-Дольскім. За тыя часы напісаў шмат пейзажаў, партрэтаў, сюжэтных твораў, якія знаходзяцца ў польскіх музеях, прыватных калекцыях. На вялікі жаль, няма ўжо з намі няўрымслівага арганізатара тых пленэраў “FUNDACJA POMOST” з польскага боку Яцэка Галубэўскага, які ўсе гады запрашаў да сябе, рабіў выставы, каталогі. У Седліцэ быў рай для мастакоў...

Іосіф Крупскі адносіцца да таго пакалення мастакоў, творчы шлях якіх пачынаўся пасля Вялікай Айчыннай вайны. Творчасць аднаго з вядучых мастакоў Берасцейшчыны з’яўляецца неад’емнай часткай беларускага выяўленчага мастацтва. Іосіф Крупскі па складзе свайго таленту – лірык, лірык у жывапісе. Лепшыя ягоныя карціны – гэта хвалюючае сыноўняе слова пра родны, дарагі край, пра светлых і добрых людзей...

***Бліц-інтэрв’ю з мастаком Іосіфам Крупскім:***

***– Іосіф Рыгоравіч, з якім настроем сустракаеце сваё 75-годдзе?***

– Настрой добры – у гэтым сэнсе ўсё выдатна. Адчуваю сябе няблага. Сачу за станам здароўя, шмат працую. Надышла залатая пара – восень, у прамым і пераносным сэнсе. Шкада толькі, што многіх маіх сяброў ужо няма на гэтым свеце. Адчуваецца адзінота, хаця жонка Аляксандра ды сыны Руслан і Мікіта заўсёды побач...

***– Калі і як пачалі працаваць?***

– Мае старэйшыя браты вучыліся яшчэ пры Польшчы. Мне падабалася глядзець на іхнія школьныя малюнкі алоўкам (асабліва ўразіў малюнак гуся). Пачаў і сам маляваць бярозкі, елкі... З бацькам хадзіў у царкву, глядзеў на іконы – і самому хацелася маляваць такія ж. Але першапачатковае ўяўленне пра складаныя законы жывапісу прыйшло падчас вучобы ў сярэдняй школе. Настаўнік Мікалай Андрэевіч Манюк, наколькі мог, “паставіў руку” і параіў паступаць у Мінскае мастацкае вучылішча.

***– Чым займаецеся як мастак?***

– Зараз працую над трыпціхам, прысвечаным Брэсту. А дакладней, хачу аб’яднаць у адну кампазіцыю гарадскія пейзажы са Свята-Мікалаеўскай царквой па вуліцы Савецкай і Свята-Сімяонаўскім кафедральным саборам на праспекце імя Пятра Машэрава. Апошнім часам звярнуўся да біблейскай тэматыкі – “Адам і Ева”, “Выгнанне з раю”, “Апошнія дні Святога Іосіфа”, “Раство Хрыстова”... Калі надвор’е спрыяе – малюю эцюды непадалёк ад свайго дома ў скверы...

***– Ці задаволены сваёй творчасцю?***

– Творчасцю сваёй задаволены, але дрэнна тое, што застаўся без майстэрні на цяперашні час. Вялікія па памерах палотны ўжо не магу пісаць, як калісьці. З таго часу, як прыехаў жыць і працаваць у Брэст, шмат зрабіў манументальных работ і жывапісных палотнаў, прысвечаных гораду над Бугам... Мае творы пазнаюць, а гэта значыць, што я – мастак са сваім уласным почыркам, каларытам, тэматыкай, так сказаць, маю свой твар. І зараз яшчэ хочацца рухацца наперад. Задаволены тым, што пакуль захаваў сябе як асобу, творцу. Люблю працаваць на прыродзе, прапускаць праз сябе, праз фарбы яе стан, харaство. Люблю восень – свята залатой лістоты, вясну – свята квецені... Увогуле, магу толькі тады пісаць, калі адчую мелодыю колеру, калі ён захапляе мяне, хвалюе...

# МАСТАК ЛІРЫЧНАГА ПЕЙЗАЖА



12 красавіка 2013 года адзначыў свой 60-гадовы юбілей вядомы на Берасцейшчыне і за яе межамі мастак, педагог Канстанцін Канстанцінавіч КАЛОДЗІЧ, чые творы вылучаюцца пранікнёнасцю, тонкім лірызмам, паэтычнай насычанасцю. Ён дорыць аматарам і прыхільнікам выяўленчага мастацтва сваё самае патаемнае, асабіста перажытае, глыбока абдуманае. Працуе ў жанры пейзажа і нацюрморта, не цураецца партрэта. Асноўнымі матэрыяламі ў творчым працэсе з'яўляюцца папера і пастэль.

У свой час загадчык кафедры архітэктурнага праектавання і малюнка БрДТУ прафесар Анатоль Кудзіненка назваў дацэнта Канстаціна Калодзіча філосафам. І меў рацыю, бо мастак-выкладчык шмат чытае вядомых паэтаў свету, любіць кнігі філосафаў, літаратуру па мастацтве. (Даўжыня паліц толькі з паэтычнымі зборнікамі ў дамашняй бібліятэцы Канстанціна Канстанцінавіча ў суме складае больш за 15 метраў.)

Адна з найбольш цікавых работ мастака – "Памяці Фёдара Фёдаравіча Скачкова" (Фёдар Фёдаравіч, цесць мастака, быў па жыцці добрым чалавекам, да сваіх 78 гадоў працаваў качагарам у кацельнай, дабіраючыся туды на веласіпедзе). Мне адразу спадабаўся гэты начны пейзаж, калі толькі яго пабачыў, гучнасцю і напружанасцю каларыту. Справа яшчэ і ў тым, што гэтая пастэль была зроблена за адзін начны сеанс у лютым з балкона на вялікім эмацыйным уздыме.

Аднак як творца Канстанцін Калодзіч усё ж пачынаецца там, дзе перадае ўражанні ад прыроды: ці то ранак на лецішчы за Жабінкаю, ці то ліловыя прыцемкі ў гарадскім акне… Мастак больш схільны да роднага пейзажу з яго зменлівасцю, памежнымі станамі, лірычна-філасофскімі абагульненнямі. Яго пастэльныя творы перадаюць багацце ўзаемапранікнення фарбаў падобна да таго, як гэта адбываецца ў прыродзе. Вось чаму творы Канстанціна Калодзіча вылучаюцца яшчэ і вялікай мяккасцю, пяшчотнасцю колераў. Захапленне прыродай дазваляе яму глыбей зазірнуць сабе ў душу, у душу блізкіх людзей. І гэта дае адчуванне эмацыянальнага жыцця роднай зямлі, яе непаўторнай шчырасці і цеплыні.

Асаблівае месца ў творчасці мастака займаюць нацюрморты, у якіх ён абагульняе пражытое, бачанае, прачытанае ў кніжках. Нацюрморты носяць зусім іншы характар, чым пейзажы, хаця выкананы ў тым жа матэрыяле – пастэлі. Яны, як і карціны, маюць канкрэтную тэму і сюжэт, як, напрыклад, ранні твор Канстанціна Канстанцінавіча "Адзіноцтва", на якім мы бачым кінутую старую дзіцячую цацку – драўлянага коніка на драўляных калёсіках ля агароджы балкона недзе на восьмым-дзявятым паверсе пад начным небам з першымі зоркамі.

Цікавасць да малявання ў будучага мастака з'явілася недзе ў 3-м класе: пачаў змалёўваць са старых манет рэльефы. Паступова набіраўся вопыту. Настаўніца малявання Раіса Максімаўна Хургель запрашала яго ўпрыгожваць залу да Навагодніх і іншых святаў. Менавіта яна дала той неабходны штуршок, які прывёў да захаплення жывапісам.

Ужо ў 8-м класе Косця трапіў у студыю выяўленчага мастацтва гарадскога Дома піянераў і школьнікаў да Марыі Канстанцінаўны Івановай. Асаблівае ўражанне на будучага мастака аказвала гарадское асяроддзе старога Пінска з яго чырвонымі чарапічнымі дахамі, будынкам калегіума, касцёла, зялёнымі скверамі, паркам, ракой Пінай...

У Брэсцкім інжынерна-будаўнічым інсттытуце на архітэктурным факультэце Канстанцін Калодзіч сустрэўся з выдатнымі педагогамі-мастакамі Мікалаем Чурабам, Мікалаем Бяловым, Уладленам Бяловым, Мікалаем Пракаповічам. Гэта былі майстры высокага класа, якія ў свой час прайшлі выдатную школу выяўленчага мастацтва. Канстанцін Канстанцінавіч часта ўспамінае іх добрым словам, як і першага рэктара Ігара Дзмітрыевіча Белагорцава, які з асаблівай любоўю адносіўся да студэнтаў – будучых архітэктараў. На першым курсе Канстанцін з аднакурснікамі пазіраваў Мікалаю Чурабу для будучай карціны пра абаронцаў Брэсцкай крэ-

пасці. Тады ўбачыў “зблізу” няпростую працу мастака. Адзін з эцюдаў Мікалай Дзмітрыевіч потым падпісаў і падарыў Калодзічу (Канстанцін Канстанцінавіч увогуле лічыць Мікалая Чурабу, які атрымаў выдатную класічную мастакоўскую адукацыю ў Маскве, вучыўся ў сусветна вядомых педагогаў У. Фаворскага і К. Істоміна, найлепшым мастаком Берасцейшчыны).

Так склалася па жыцці, што архітэктарам быць Канстанціну Калодзічу давялося мала. Шмат працаваў выкладчыкам малюнка і жывапісу ў мастацкай школе Брэста, педагагічным інстытуце імя А.С. Пушкіна, політэхнічным інстытуце. Адзін час загадваў аддзелам абласнога навукова-метадычнага цэнтра ўпраўлення культуры аблвыканкама, куды і мяне запрасіў на працу, калі я яшчэ працаваў над дыпломным праектам па рэканструкцыі цэнтральнай часткі горада Пінска ў 1981 годзе.

Важнае месца ў жыцці мастака заняў “жабінкаўскі” перыяд. Напачатку 90-х гадоў Кастусь з жонкай Раісаю набылі стары драўляны дамок-хатку за Жабінкаю, навялі там парадак і завялі, як і належыць вясковым жыхарам, жыўнасць. Садзілі агарод, працавалі на зямлі. Ну а мастацтва заўжды прысутнічала побач. За плотам пачыналася дарога, палі, рачулка. Кастусь Калодзіч у тыя гады шмат рабіў пастэляў, чытаў кніжкі, што прывозіў з гарадской брэсцкай кватэры, набываў новыя. Часцяком у госці да Калодзічаў прыязджаў вядомы брэсцкі мастак Эдуард Куфко. У тыя цяжкія “развальныя” гады гаспадарка, мастакоўская праца і кніжкі дапамагалі перажыць стрэсы, адсеяць усялякую непатрэбшчыну. Было створана шмат выдатных жывапісных твораў...

У апошнія гады Канстанцін Канстанцінавіч значна менш займаецца творчасцю. Пасля лецішча пад Жабінкаю цяжка працавалася ў гарадской кватэры. Тым не менш калі ў 2006 годзе ён выставіў свае работы ў цэнтральным Доме мастакоў у Маскве, адна з галерэй “LES OREADES” набыла іх. І гэта быў вельмі прыемны момант у жыцці творцы.

Найвялікшая любоў мастака – кнігі. Канстанцін Калодзіч сабраў адну з найлепшых прыватных бібліятэк у Брэсце. Там можна пабачыць шыкоўныя альбомы і манаграфіі па жывапісе і малюнку, падпісныя выданні рускай, беларускай і замежнай класікі. Ён выдатны знаўца паэзіі. Сабрана і вялікая калекцыя кінафільмаў, дыскаў з класічнай, джазавай і сучаснай музыкай. Таркоўскі і Бандарчук, Феліні і Бергман, Бетховен і Моцарт, Бах і Грыг, Мандэльштам і Аненскі, Хлебнікаў і Забалоцкі – гэта тое, чым заняты зараз час берасцейскага мастака Канстанціна Калодзіча.

Часта заходзяць былыя вучні-студэнты, не даюць сумаваць, дзеляцца сваімі творчымі і жыццёвымі навінамі. Бываюць і калегі-мастакі...

Па бацькоўскай дарозе пайшлі дзеці: дачка Алена працуе мастацтвазнаўцам-культуролагам, а сын Фёдар скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага ўніверсітэта, вучыцца ў аспірантуры.

Творчае жыццё ў сям’і Канстанціна Калодзіча працягваецца! Дай Бог на доўгія гады ўсім ім моцнага здароўя і творчага натхнення!



*“Апошні промень”*

# БЕЛЫ КВАДРАТ ЛЕАНІДА РАЦЬКО



Пазнаёміўся ў свой час з манументальнай творчасцю мастака Леаніда Рацько ў кінатэатры “Мір” па вуліцы Пушкінскай роднага Брэста ў 80-х гадах мінулага стагоддзя. Там знаходзілася дэкаратаўна-манументальная кампазіцыя металапластыкі з медзі, якая пасавала да інтэр’ера хола другога паверха кінатэатра.

На той час у кінатэатрах было шмат наведвальнікаў-гледачоў, таму было на што пакласці вока, а асабліва цікаўным абмеркаваць металічныя “ўпрыгожванні”. Так і я даведаўся пра аўтарства тых работ. Потым, канечне, я ўбачыў і іншыя творы мастака-манументаліста, мастака-жывапісца, бліжэй пазнаёміўся з ім як з чалавекам і творцам.

Леанід Рацько нарадзіўся ў вёсцы Кель Мінскай вобласці. Скончыў Рэспубліканскую школу-інтэрнат музыкі і выяўленчага мастацтва імя І. Ахрэмчыка. Некаторы час вучыўся ў Віцебскім пединстытуце. У Брэст быў накіраваны як выпускнік Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (цяпер Акадэмія мастацтваў), дзе спецыялізіраваўся на кафедры мастацкай апрацоўкі металу. Асноўным відам яго працы было афармленне інтэр’ераў і экстэр’ераў грамадскіх будынкаў. Ды толькі заўжды адпачываў духоўна, працуючы з фарбамі, займаючыся жывапісам. Апошнія гады, калі не стала “манументальных” заказаў, актыўна працуе як жывапісец і графік.

Жанравы дыяпазон мастака жырокі: побач з лірычнымі пейзажамі суседнічаюць нацюрморты з кветкамі, партрэты... Яго творчасць вылучаецца своеасаблівай, непаўторнай манерай пастознага мазка пэндзлем.

Жывапіс і металапластыка – гэта не адзіныя напрамкі творчасці Леаніда Рацько. Ён актыўна і натхнёна працуе як графік, дызайнер, займаецца афармленнем інтэр’ераў і экстэр’ераў грамадскіх пабудоў. Леанід з’яўляецца неаднаразовым лаўрэатам рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў у архітэктурным праектаванні (сумесна з вядомым брэсцкім архітэктарам Аляксеем Андраюком). Сябры сталі лаўрэатамі Усесаюзнага конкурсу “Галоўны манумент Перамогі на Паклоннай гары ў Маскве”, удзельнічалі ва ўсесаюзным конкурсе па праектаванні помніка да 1000-годдзя Хрышчэння Русі, міжнародным конкурсе “Тэрмінал міжнароднага порта ў Йокагаме (Японія)” (1994г.), атрымалі першую прэмію ў рэспубліканскім конкурсе на лепшы праект мемарыяла ахвярам і героям Чарнобыля (1996). Леанід Рацько ўзнагароджаны медалём Беларускага саюза мастакоў “За заслугі ў выяўленчым мастацтве”.

Калі ўважліва глядзець на жывапісныя творы Леаніда Рацько, дык зачароўваешся яго багатаю палітраю, якая напамінае творчасць мастакоў-імпрэсіяністаў. Апошнім часам творца смела працуе чыстымі фарбамі, асабліва гэта характэрна яго партрэтным работам. Леанід Рацько заўжды знаходзіцца ў пошуку, мае багаты творчы патэнцыял, што абяцае новыя запамінальныя сустрэчы з яго палотнамі.



*“Зімовы пейзаж”*

# ЗА БРАМАЙ МАЎЧАННЯ



Час няспынна рухаецца наперад. Нават не верыцца ў тое, што сярод нас даўно ўжо няма мастака і пісьменніка Івана Іванавіча Сычыка, які заўчасна пайшоў з жыцця ў росквіце свайго творчага таленту.

Ён нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў вёсцы Здзітава – на багатай літаратурнымі і мастакоўскімі талентамі зямлі Бярозаўшчыны – 25 красавіка 1954 года. З дзяцінства Іван любіў маляваць, пісаў вершы і абразкі. Першыя спробы пяра дасылаў у газеты "Піянер Беларусі", "Зорька", часопіс "Бярозка". Некаторыя з іх былі апублікаваны. У юнацтве давялося папрацаваць у калгасе, на лесараспрацоўках і будоўлях.

У 1970 годзе збылася мара Івана – паступіў у Мінскае мастацкае вучылішча імя І. Глебава. Пасля заканчэння вучобы быў накіраваны ў Брэст – у вытворчыя майстэрні мастацкага фонду БССР. З гэтым горадам было звязана ўсё астатняе жыццё пісьменніка і мастака. Аформіў шмат сацыяльна-культурных аб'ектаў на Берасцейшчыне. А ў 1984 годзе быў прыняты ў аб'яднанне маладых мастакоў і мастацтвазнаўцаў пры Саюзе мастакоў СССР. Іван Іванавіч шмат пісаў жывапісных твораў, актыўна ўдзельнічаў у абласных, рэспубліканскіх і замежных выставах, пачаў сур'ёзна займацца прозай.

У 1990 годзе Іван Сычык дэбютаваў з чатырма апавяданнямі ў часопісе "Маладосць". Друкаваліся творы і ў часопісах "Родная прырода", "Вожык", у газетах "Літаратура і мастацтва", "Чырвоная змена", у абласных газетах. У тым жа 1990 годзе стаў удзельнікам рэспубліканскага семінара маладых літаратараў "Іслач – 90".

Памятаю, як аднойчы ў выхадны дзень таго ж 1990-га сустрэў Івана Сычыка на вуліцы Адама Міцкевіча ля аўтобуснага прыпынку. Толькі што выйшаў жнівеньскі нумар "Маладосці" з яго кароткімі апавяданнямі. Іван быў радасна ўсхваляваны, калі я аклікнуў яго. Ён трымаў у руцэ часопіс, паказаў яго мне і завярнуў ў памяшканне "Саюздруку" – набыў яшчэ нумар для мяне і падпісаў на ўспамін. Я быў рады за яго, удзячны за ўвагу і падарунак.

Вынікам карпатлівай працы над словам стала выданне кніжкі "За брамай маўчання" ў бібліятэцы часопіса "Маладосць". У яе ўвайшлі аповесць "Бацькаўшчына" і шэраг апавяданняў, дзе галоўнымі героямі з'яўляліся сучасныя юнакі і дзяўчаты з высокімі маральнымі і духоўнымі памкненнямі, якія моцна знітаваныя са сваёй роднай зямлёй – Бацькаўшчынай. Аўтар праўдзіва паказаў нялёгкі шлях чалавека да спрадвечных каштоўнасцей: кахання, сяброўства, узаемапаразумення паміж людзьмі.

У тыя гады развалу былога Савецкага Саюза, калі наша краіна набыла сваю незалежнасць, калі пачаліся цяжкасці з працаю (яе амаль зусім не стала), Іван Сычык шмат пісаў. У асноўным – прозу. Калі-нікалі мы працавалі сумесна як мастакі-дызайнеры ў новай гарадской паліклініцы, у сярэдняй школе №17 на Граеўцы, калі дырэктарам там быў цудоўны чалавек і педагог Іван Маркавіч Дрыгайлоўскі. У той час Сычык ужо жыў непадалёку ад мяне. Таму многія жыццёвыя і творчыя праблемы мы сумесна абмяркоўвалі ці ў мяне дома, ці ў ягонай кватэры. Але ж шмат чаго ён не паспеў сказаць, недапісаў у сваіх празаічных творах...

У апошнія гады жыцця Іван Сычык шмат працаваў. Ім былі напісаны раман-дылогія "Шлях да святла", невялікія раманы "Крыж пакут і надзей", "Покліч бездані", "Водгулле мінуўшчыны", "Цені спакусы", "Храм выратавання", аповесці "Поле засеянае", "Вяртанне да зямлі", "Палеская балада", "Воі духоўныя", "Подых свабоды " ды іншыя... На вялікі жаль, яшчэ пры жыцці Івана Сычыка рукапісы дзвюх ягоных кніжак доўгія гады праляжалі ў сталічных выдавецтвах безвынікова: абяцанае выданне іх ўсё адкладвалася і адкладвалася, пакуль увогуле творцы не стала. Мо таму так заўчасна і пайшоў Іван Сычык з жыцця, што вельмі блізка прымаў усё да сэрца. Ужо й анонсы ў друку былі пра выданне яго твораў, але правінцыя заўжды далёка была ад сталіцы пры любой уладзе. Так і не дачакаўся Іван Сычык сваёй новай кніжкі і пакінуў гэты неспакойны свет, каб вярнуцца пасмяротнай кніжкай "Крыж пакут і надзей",

пра выданне якой парупіліся яго сябры – берасцейскія пісьменнікі і мастакі.

Берасцейшчына багатая на паэтычныя таленты. Талент празаічны быў страчаны на пачатку новага стагоддзя, новага тысячагоддзя. Не змог чалавек-творца Іван Сычык пераадолець тую жыццёвую мяжу эпохі, не змог данесці да чытача свае празаічныя творы.

Словамі вядомага беларускага празаіка Уладзіміра Дамашэвіча можна дадаць, “што характэрная рыса твораў Івана Сычыка – гэта адданасць яго герояў роднай зямлі, роднаму дому, моцная повязь з бацькоўскімі каранямі, з усім тым, што мы мелі і маем...”



*“Бярозы”*



*“Восень”*

# АПАНТАНЫ МАСТАК І КРАЯЗНАЎЦА



Свой творчы шлях будучы мастак распачаў у вёсцы Сабалі Бярозаўскага раёна, у якой нарадзіўся ў 1960-м годзе. Актыўна пачаў займацца жывапісам пасля заканчэння мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педагагічнага інстытута ў 1982 годзе, калі вярнуўся на малую радзіму і пайшоў працаваць выкладчыкам у школу ў суседнія Сігневічы.

У 1987 годзе пасля конкурснага адбору Анатоль Жалудка стаў выкладчыкам выяўленчых дысцыплін у Брэсцкім педагагічным інстытуце імя А. С. Пушкіна. Адпрацаваў там паспяхова 10 гадоў. Напрыканцы 1997 года быў прыняты ў Беларускі саюз мастакоў, пасля чаго перайшоў на работу ў вытворча-мастацкі камбінат "Мастацтва".

У тыя часы Анатоль Іванавіч стварыў серыі жывапісных твораў паводле архітэктурных помнікаў Берасцейшчыны і Беларусі ўвогуле ("Манастыр у Бярозе Картузскай", "Капліца ў Закозелі", "Пінскі калегіум", "Навагрудскі замак"...). Натхняльнікам у такой працы для маладога мастака стаў Віталь Андрэевіч Клімчук, былы начальнік упраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама, які быў стваральнікам фонду імя Напалеона Орды, знакамітага нашага земляка.

Анатоль Жалудка тады шмат ездзіў на пленэры па Драгічынскім, Іванаўскім, Бярозаўскім і Пінскім раёнах, натхнёна маляваў краявіды. З таго ж часу захапіўся і гісторыяй роднага краю, краязнаўствам. Атрымаў, так сказаць, станоўчы зарад на адраджэнне Бацькаўшчыны. Боль і радасць роднага Палесся, яго краявіды, архітэктурныя помнікі, людзі вабяць і хвалююць мастака, які развівае гэту тэму ў сваёй творчасці.

Апошнія гады Анатоль Жалудка апантаны марай стварыць унікальны этнаграфічны музей народнай архітэктуры і побыту людзей Заходняга Палесся пад адкрытым небам на прыкладзе традыцыйнай забудовы неперспектыўнай вёскі ў сваіх родных Сабалях, набыў для гэтага хату, якая прыходзіла ў запусценне без гаспадароў.

Сама вёска Сабалі і навакольныя мясціны ствараюць спрыяльныя ўмовы для гэтага: побач знаходзіцца старажытнае гарадзішча, стаіць велічны металічны крыж на месцы пахавання паўстанцаў Рамуальда Траўгута ў 1863 годзе, непадалёк – месца былога маёнтка польскага пісьменніка Юзэфа Крашэўскага. А да 65-годдзя Перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі па ініцыятыве Анатоля Іванавіча ў цэнтры роднай вёскі на месцы былой школы з'явіўся памятны знак-помнік землякам, якія не вярнуліся з вайны. Мастак сам ажыццявіў сваю задуму, змясціў імёны дванаццаці вяскоўцаў на шыльдзе, прымацаванай да каменя-валуна...

Апошнія дваццаць гадоў Анатоль Іванавіч збірае старыя вырабы ганчарства, кавальства, ткацтва, вырабы з дрэва. Усе свае сілы ён накіроўвае на адкрыццё музея ў вёсцы. Мастак марыць стварыць экспазіцыю ад першабытных часоў, пра якія пісаў яшчэ Герадот, да савецка-калгаснага часу. Да таго ж драўляная архітэктура цяпер паціху знікае. А ўвогуле Анатоля Жалудка не пакідае думка сваю вёску ператварыць у музей, дзе знойдзецца месца драўлянаму млыну, капліцы, карчме і іншым унікальным драўляным помнікам мінулага часу.

Мастак лічыць, што хопіць ужо вакол расстаўляць помнікі-танкі, помнікі-гарматы ды розныя "лініі"... Хопіць працягваць ваяваць! Беларусы – нацыя сялянская, якая заўжды арала, сеяла, вырошчвала хлеб, вяла мірнае жыццё, хацяі даводзілася шмат абараняцца ад чужынцаў-захопнікаў. Але сялянскіх музеяў бракуе на роднай зямлі, таму імкнецца Анатоль Жалудка зрабіць добрую справу, пакуль мае на тое сілы, настрой ды і дапамогу ад землякоў...

Са сваім сябрам – паэтам і пчаляром Міколам Папекам – мастак Анатоль Жалудка шмат вандруе па мясцінах, дзе раней стаялі маёнткі і хутары, збіраючы тое, што яшчэ захоўвае ў сваіх абдымках зямля. Так пазнаецца глыбей гісторыя роднага краю і краіны. Так захоўваецца, здавалася б, страчанае назаўжды...

З 2008 года Анатоль Іванавіч працуе ў Брэсцкім тэхнічным унівесітэце на кафедры архітэктурнага праектавання і малюнка. Выкладае малюнак для студэнтаў. Своеасаблівасць працы ў

тым, што побач заўсёды знаходзяцца вопытныя педагогі, калегі, і адначасова – моладзь, якая заўжды захапляецца новымі і цікавымі ідэямі. З такімі людзьмі прыемна працаваць, дзяліцца сваімі думкамі і памкненнямі.

Верыцца, што ўсе ідэі і праекты Анатоля Іванавіча матэрыялізуюцца: будзе створаны музей, будуць напісаны карціны, яго вучні стануць прафесіяналамі-архітэктарамі, а Берасцейскае Палессе з кожным годам будзе набываць усё больш прывабны выгляд, як марыць пра гэта апантаны мастак-педагог і краязнаўца Анатоль Жалудка.



*“Плач па Палессі”*



*“Стары мосцік”*

# ВЯРТАННЕ НА РАДЗІМУ МАСТАКА УЛАДЗІМІРА КОЖУХА



Гэтага мастака-земляка ведаў даўно па яго творах на рэспубліканскіх выставах, па шматлікіх публікацыях пра яго творчасць у друку. Але асабіста пазнаёміцца давялося толькі ў 2007 годзе ў Брэсце на адкрыцці персанальнай юбілейнай выставы. Пазней неаднаразова сустракаліся ў Мінску – і на 19 з'ездзе Саюза мастакоў, і на выставах у рэспубліканскім Палацы мастацтва.

У красавіку-маі 2007 года ў выставачнай зале абласнога грамадска-культурнага цэнтра па вуліцы Савецкай горада Брэста праходзіла персанальная выстава заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь, лаўрэата прэміі прафсаюзаў Беларусі 1991 года за серыю работ "Чарнобыля чорная быль", члена Беларускага саюза мастакоў, ураджэнца Драгічыншчыны Уладзіміра Уладзіміравіча Кожуха. Яе наведвальнікі мелі магчымасць пазнаёміцца з пяццюдзесяццю творамі станкавага жывапісу. Акурат напярэдадні выставы мастак адзначыў свой пяцідзесяцігадовы юбілей.

Як заўважыў на яе адкрыцці начальнік упраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама Рыгор Рыгоравіч Бысюк, на Берасцейшчыну пачалося вяртанне яе славутых ураджэнцаў – знакамітых мастакоў. І нездарма адкрыццё выставы адбылося напярэдадні сумнай даты – 21-й гадавіны чарнобыльскай трагедыі. Чарнобыльская тэматыка займае асобнае месца ў творчасці Уладзіміра Кожуха (карціны "АЧЫШЧЭННЕ", "ПАВАДЫР", "ПАЛЕСКАЯ ПЛАШЧАНІЦА"...). У іх адлюстроўваецца грамадзянская пазіцыя, душэўны боль мастака.

Гэтая тэма пераклікаецца з тэмай бацькаўшчыны, зямлі, на якой нарадзіўся, хадзіў у школу, працаваў... На карцінах – простыя жаночыя вобразы, краявіды тых мясцін, якія з дзяцінства бачыў, палюбіў, па якіх сумуе, жывучы ў сталіцы, і да якіх з цягам часу вяртаецца...

Уладзімір Кожух працуе ў жанры сюжэтна-тэматычнай карціны і пейзажа, яго творчасці ўласцівыя кампазіцыйная завершанасць, метафарычнасць мыслення, філасафічнасць, абагульненасць вобразаў. Палотны Уладзіміра Кожуха адрозніваюцца тонкім лірызмам, чысцінёй фарбаў, вялікай духоўнай напоўненасцю ("КРЫНІЦА", "ГАРБАТА З ЛІМОНАМ", "ФЛОРА", "ВЯРБА КВІТНЕЕ", "ВЕРБАЧКА"...). Многія свае сюжэты, ідэі кампазіцый мастак чэрпае са свайго светлага дзяцінства. Ад уражанняў жыцця на Палессі ён не можа ахалонуць, вызваліцца, адысці... Гэта яго выток, крыніца, якая жывіць мастака. Палескія матывы прысутнічаюць побач з ім заўсёды ("ПРАСТОРА", "СВЯТАЯ ЗЯМЛЯ", "ЛЕГЕНДА", "ПАСАГ", "ДАРОГА ПРАЗ ДЗЕДАЎ ЛЕС"...).

У свой час Уладзіміру Кожуху давялося вучыцца ў такіх знакамітых майстроў беларускага жывапісу, як заслужаныя дзеячы мастацтваў Рэспублікі Беларусь А. Малішэўскі і Б. Аракчэеў, народны мастак Беларусі М. Данцыг, народны мастак СССР М. Савіцкі. Але ён адшукаў сваё месца ў выяўленчым мастацтве. І пра яго пачатковыя крокі ў творчасці на адкрыцці выставы расказвала першы педагог малюнка і жывапісу, член Беларускага саюза мастакоў Таццяна Пясецкая. Падзяліўся ўспамінамі пра дзяцінства Уладзіміра і родны дзядзька мастака, прафесар БрДУ імя А.С. Пушкіна Іван Кожух. Ён згадаў пра захапленне Уладзіміра з маленства алоўкам і фарбамі, яго ўдалыя партрэты родных і блізкіх людзей, лірычныя краявіды Драгічыншчыны...

Поспехі мастака Уладзіміра Кожуха пацверджаны наяўнасцю яго вядомых твораў у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, мастацкіх фондах Міністэрства культуры Расійскай Федэрацыі і Беларускага саюза мастакоў, Рэспубліканскім музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, у прыватных калекцыях Аўстрыі, Германіі, Галандыі, Італіі, Кітая, Расіі, Францыі, Швейцарыі, Паўднёвай Карэі...

# МАСТАК ІВАН ФЯЦІСАЎ



Нарадзіўся будучы мастак у сям'і Сцефаніды і Якава Фяцісавых 21 кастрычніка 1920 года ў сяле Тума Разанскай вобласці, якое славілася сваімі шумнымі кірмашамі. Бацькі былі адукаванымі людзьмі, сям'я жыла дружна і мірна, прытрымліваючыся рэлігійных абрадаў. Калі памёр бацька, навалілiся цяжкія жыццёвыя праблемы, прыйшла галеча... Таму сапраўдным дасягненнем для Івана Фяцісава стала заканчэнне сямігодкі, а потым паступленне ў 14-гадовым узросце ў Іванаўскае мастацкае вучылішча, дзе і пачалося яго самастойнае жыццё ў незнаёмым горадзе. У студэнцкія гады Іван прачытаў шмат твораў рускай і замежнай літаратуры, адначасова выхоўваючы ў сабе павагу да асобы чалавека. Тады і закладваўся падмурак яго жыццёвага і мастацкага светапогляду.

У 1940-м, з чацвёртага курса вучылішча, быў прызваны на службу ў армію, ну а потым – Вялікая Айчынная вайна, якую Іван Якаўлевіч прайшоў "ад званка да званка", закончыўшы яе камандзірам узвода разведчыкаў у Чэхаславакіі, кавалерам шматлікіх ордэнаў і медалёў. На вайне было не да мастацтва... Ды і ў мірны час да гэтай ваеннай тэмы мастак звярнуўся толькі напрыканцы жыцця (карціны "Разведчыкі", "На зямлі Афганістана", "Вера ў жывых", "Памяць пра невядомыя магілы", "Успамін пра абаронцаў Брэсцкай крэпасці"). Вайна асабліва тонка і запамінальна адлюстравана ў творах мастака: там няма батальных сцэн, бо ён больш углядаўся ва ўспаміны, у пражытое, перабалелае. Іван Фяцісаў імкнуўся да філасофскага абагульнення, да глыбокай развагі над падзеямі мінулай вайны і марыў пра шчаслівую будучыню. Страшная вайна дала яму вялікі духоўны вопыт, стала незабыўным урокам жыцця...

Пасля дэмабілізацыі Іван Якаўлевіч давучыўся ў Іванаўскім мастацкім вучылішчы і ў 1947 годзе прыехаў у Брэст, а праз два гады быў прыняты ў Беларускі саюз мастакоў. За той час напісаў два гарадскія пейзажы: "Брэст. 1948 год. Гандлёвыя рады" і "Брэсцкі рынак" – творы, якія і сёння берагуць дух старога горада, выклікаюць настальгічныя ноткі ў берасцейцаў.

У пасляваенныя гады Іван Фяцісаў працаваў у студыі выяўленчага мастацтва пры Доме народнай творчасці, у педвучылішчы... Удасканальваў сваё мастакоўскае майстэрства самастойна (майстэрні тады ў яго не было, таму працаваў у хатніх умовах). У тыя ж гады была створана адна з самых вядомых карцін "Прыходзьце заўтра", у якой удала паказаны вобраз чыноўніка-бюракрата. Гэты твор не страціў сваю актуальнасць і цяпер.

Мастак штогод любіў ездзіць летам у вёску (асабліва падабаўся яму Столінскі раён), ствараў паэтычныя вобразы жыхароў правінцыі і непаўторныя краявіды беларускага Палесся ("Фросенька", "Альшанка", "Даярка С.Сыса", "Партрэт Л.Карыцька", "Стары беларускі дворык", "Восеньскі парк", "Дзеці на мосціку"). Іван Якаўлевіч працаваў у розных напрамках: быў выдатным майстрам партрэта, пейзажа, і жанравай карціны.

Асаблівае месца ў яго творчасці ў шасцідзясятыя гады мінулага стагоддзя займала будаўніцтва буйнейшай у Беларусі Бярозаўскай ГРЭС: была створана серыя партрэтаў будаўнікоў, эцюдаў і замалёвак будоўлі. У партрэтах брыгадзіра Валашчука, арматуршчыка Шэндрыкава, кранаўшчыцы Урбановіч Іван Якаўлевіч канцэнтруе ўсю ўвагу на тварах людзей працы, з высокім прафесійным майстэрствам выпісваючы сваіх герояў.

Не абмінуў мастак у сваёй творчасці і тэму мацярынства, стварыўшы праз блізкія рысы маці абагульнены сімвал мацярынства. Таму, напэўна, маці паказана як святая, з ясным, спакойным тварам. На пярэднім плане – непагасны агонь лампады, як непагасная памяць пра тую, што дала мастаку жыццё. Прысутнічаюць таксама і іншыя дэталі, звязаныя з біяграфіяй: біблія, па якой жыла Сцефаніда Іванаўна, трохкутнік франтавога ліста ад сына, якога яна так і не дачакалася...

Іван Фяцісаў быў не толькі жывапісцам, ён – аўтар шматлікіх архітэктурна-мастацкіх му-

зейных экспазіцый у Брэсце, Баранавічах, Бярозе, Століне, Пінску... Стварыў экспазіцыі біялагічнага музея ў Брэсцкім педагагічным інстытуце, музея касманаўтыкі на радзіме двойчы Героя Савецкага Саюза Пятра Клімука, музея “Бярэсце”... Створаныя мастаком-праектантам Іванам Фяцісавым экспазіцыі сведчаць пра глыбокае разуменне іх аўтарам музейнай спецыфікі, вылучаюцца прафесіяналізмам выканання.

Апошнім творам мастака-жывапісца стаў аўтапартрэт, які Іван Якаўлевіч рабіў, ужо будучы цяжка хворым. Але ён гучыць гімнам чалавечаму жыццю, адлюстроўвае няспынную прагу да ўсяго прыгожага.

Выраслі дзеці: дачка Анастасія – таксама мастачка воляй лёсу, сын Уладзімір – Валодзя, з якім у школьныя гады мы займаліся фектаваннем у будынку спортшколы па вуліцы Леніна ў Брэсце, – таксама захапляецца жывапісам. Прызнацца, напачатку я і не ведаў, што Валодзеў бацька – вядомы берасцейскі мастак.

Іван Фяцісаў быў сапраўдным творцам, сапраўдным інтэлігентам. Прыкметны, акуратна апрануты, ён любіў паэзію, увогуле літаратуру, меў цудоўную дамашнюю бібліятэку. Яго светлы, жыццесцвярджальны талент увасобіўся ў шматлікіх жывапісных творах, якія дораць і будуць дарыць сваю пазітыўную энергетыку прыхільнікам выяўленчага мастацва Беларусі яшчэ многія гады.

Іван Якаўлевіч Фяцісаў запомніўся мне непераймальным поглядам сваіх хітравата-гуллівых вачэй. Тыя хвіліны, калі даводзілася размаўляць з ім, так і адбіліся ў памяці праз гэты запамінальны “фяцісаўскі” позірк.



*“Партрэт М. Я. Аса”*

# ФАРБЫ КАХАННЯ І ЛЮБОВІ



Цёплым летнім днём (гэта было 11 жніўня 2011 года) мастачка Наталля Чорнагалова, схільная да эпатажу, напярэдадні адкрыцця сваёй персанальнай выставы “ФАРБЫ ЛЮБОВІ” аб’язджала на прыгожым кані адрэзак вуліцы Савецкай ад кінатэатра “Беларусь” да помніка 1000-годдзю Брэста, зазываючы брастаўчан і гасцей горада на адкрыццё выставы. Стыльна апранутая, у блакітна-сінім капялюшыку з вуаллю, яна нагадвала жанчыну на кані з вядомага палатна расійскага мастака Карла Брулова...

На наступны 2012 год Наталля паўтарыла дзейства. Толькі на гэты раз была апранута ў белае плацце...

Шмат гадоў таму Наталля Арсеньеўна ўжо праводзіла адкрыццё выставы падобным чынам, толькі тады яна ў’ехала на кані непасрэдна ў саму выставачную залу, чым вельмі шакіравала прыхільнікаў свайго таленту.

Знаёмы з гэтай прыгожай жанчынай-мастачкай, народжанай на беларускім Палессі, больш як тры дзясяткі гадоў. Памятаецца добра і яе дыпломны твор – каруначніцы-вышывальшчыцы, шматфігурная жывапісная кампазіцыя, натуршчыцамі да якой былі дзяўчаты з інтэрната, у якім Наталля жыла ў час вучэбных сесій.

Сакавітыя, экспрэсіўныя і пачуццёвыя, напоўненыя радасцю жыцця творы яе нараджаюцца стыхійна. Мастачка выплёсквае фарбы на палатно без падрыхтоўкі, без малюнка: так ярка яе нястрымны тэмперамент рэагуе на ўнутраны покліч душы.

Мастачка малюе настраёвыя пейзажы, нацюрморты, шмат кветак. Зрэдку – партрэты, фігуратыўныя кампазіцыі дзяўчат, жанчын. Яе творы – вясёлкавы гімн жыццю.

Наталля Арсенцьеўна любіць жыццё ва ўсіх яго праявах. У яе спадчыннае адчуванне прыгажосці свету, жыццядайнага хараства прыроды, творчай працы чалавека на роднай зямлі. Наталля Чорнагалова застаецца з дзяцінства адданай хараству гэтага непаўторнага свету і стварае свае жывапісныя палотны з любоўю да яго...

Мастачка Чорнагалова заўсёды ідзе насустрач свайму натхненню: не чакае, калі тое яе наведае. У майстэрню заўсёды збіраецца як на свята. А ў майстэрні шмат палотнаў, якія чакаюць “выхаду ў свет”. За сваё творчае жыццё Наталля Арсенцьеўна напісала некалькі тысяч палотнаў, якія разышліся па свеце найчасцей у якасці падарункаў, каб парадаваць чалавека.

Творца заўсёды хоча, каб яго пачулі і зразумелі... Як ужо згадвалася, аднойчы ў 1997 годзе Наталля Чорнагалова ўскалыхнула вуліцу Савецкую ў горадзе Брэсце, калі правяла авангардысцкую акцыю. У белым плацці на чорным кані Газоне прадэфіліравала па вуліцы, затым ля дзвярэй выставачнай залы, не пакідаючы сядла, пачуццёва выказалася пра сябе і сваю творчасць. Потым шумна ўехала ў памяшканне выставачнай залы. Публіка па-рознаму ўспрыняла гэтую акцыю, але мастацтву не пашкодзіла і такое свавольства маладой жанчыны- мастачкі.

А нарадзілася Наталля Чорнагалова ў Жыткавічах на Гомельшчыне. Вучылася ў Мінскім мастацкім вучылішчы імя А. Глебава і на мастацка-графічным факультэце Віцебскага педагагічнага інстытута. Працуе ў станкавым жывапісе і акварэлі ў жанрах пейзажа, нацюрморта, партрэта і ў станкавай графіцы. Наталля вельмі ўдзячная сваёй маці Ганне Дзмітрыеўне за ўсё, што тая зрабіла для яе: толькі дзякуючы яе працавітасці, жыццёвай мудрасці і аптымізму мастачка стала такой, якая ёсць... Самае мілае для Наталлі месца на зямлі – яе малая радзіма, Жыткавічы. Калі вяртаецца туды, то гатовая цалаваць кожны каменьчык, кожную травінку. Душою непарыўна звязана з роднаю зямлёю. У людзей цэніць дабрыню, павагу да працы, як да сваёй, так і да працы іншых, сумленнасць, адкрытасць...

Мастачка жыве дзякуючы любові і дзеля яе. Гэта самая галоўнае пачуццё, якое ідзе ад Бога. Гэта пачуццё заўсёды з ёю незалежна ад розных абставін жыцця. Яно стымулюе на творчую дзейнасць, дапамагае дасягаць пастаўленыя мэты, робіць шчаслівым чалавекам. Наталля жыве і любіць! Адчувае ў сябе вялікі творчы патэнцыял і энергію. Светам правіць любоў.

Фарбамі любові і кахання пранізаны ўсе творы мастачкі.

З 1976 года Наталля – удзельніца мастацкіх выстаў, сярод якіх вялікая колькасць персанальных: у Беларусі, Польшчы, Украіне, Англіі... Творы знаходзяцца ў музеях Брэста, Мінска і ў асабістых зборах калекцыянераў краін Еўропы і Амерыкі. У 1998 годзе ўзнагароджана дыпломам Беларускага саюза мастакоў за пейзаж "Магільны склеп Э.Ажэшкі".

Вось і ў сакавіку 2009 года прайшла персанальная юбілейная выстава ў Мінску ў Палацы мастацтваў – экспрэсіўная "справаздача" вядомай беларускай мастачкі Наталлі Чорнагаловай, якую называюць "брэсцкай амазонкай".

Карціны – гэта яе дзеці. Так мастачка заўсёды кажа. Яна любіць усе свае палотны і ёй вельмі цяжка з імі расставацца. Наталля шчаслівая ад таго, што стала мастачкай, нягледзячы ні на што. Душа яе, магчыма, крыху супакоілася пасля таго, як Наталля пабывала ў Парыжы, у Англіі. Але ці надоўга?

Мастачка любіць колер. У яе вельмі вострае адчуванне рэчаіснасці. Жыве эмоцыямі. Усё яе светаадчуванне адлюстроўваецца ў творчасці. Мастак, творца, Наталля Чорнагалова сумяшчае ў сваім характары ўсе фарбы вясёлкі. І яшчэ яна лічыць сябе вельмі моцнай духам жанчынай, мацнейшай за мужчын.

На творчасць яе натхняе само жыццё. Яна чалавек няўрымслівы, неабыякавы, неспакойны. І кожная падзея, з'ява, чалавек адлюстроўваецца ў яе свядомасці рознымі фарбамі і малюнкамі. Калі яна гэта адчувае, то ідзе да мальберта з падрамнікам і палатном.

Мастачка ўжо даўно малюе рукамі: далонямі, пальцамі. Думае, што пэндзлік не можа перадаць у поўнай меры тое, што яна хоча выказаць – паказаць людзям. Яна лічыць, што толькі рука, якой мы дакранаемся да ўсяго ў гэтым свеце, адчуваем цеплыню, жыццё кожнага прадмета, здатная зрабіць і карціну жывой, па-чалавечы шчырай. Мастачка заўсёды імправізуе, шукае нешта новае ў выяўленчых сродках. Рэальнасць – не для яе, свет мараў – вось яе стыхія!

Наталля Арсенцьеўна шчаслівая, нягледзячы ні на што. Яна радая, што жыла ў СССР, што стала мастаком, дасягнула многіх з пастаўленых перад сабою мэтаў. Але ёй так хочацца быць упэўненай у заўтрашнім дні, ведаць, што ты пад абаронай дзяржавы! Яна хоча, каб у матэрыяльным плане не было ніякіх праблем (А хто супраць?!). Яшчэ мастачка марыць быць свабоднай і незалежнай, зусім не думаць пра грошы, цалкам аддавацца творчасці, мастацтву...

Экстравагантная і харызматычная мастачка кажа пра сябе і сваю творчасць: "Мая абстракцыя – гэта мой джаз. І я хачу, каб людзі палюбілі мой джаз! Я, як Уладзімір Высоцкі, – "Я дыхаю, і, значыць, я кахаю. Я кахаю і, значыць, я жыву".



*"Кветкі"*

# ТРАПЯТКАЯ ДУША ТВОРЦЫ



Памятаецца цікавы выпадак на занятках па малюнку, калі я пазіраваў для студэнтаў нашай групы. Седзячы на подыуме, назіраў, як ля мальберта аднагрупніка-сябра Віктара Кісляка сабралася амаль уся група. Хлопцы і дзяўчаты ажыўлена размаўлялі і пасмейваліся. Мікалай Дзмітрыевіч Чураба запытаў тады ў свайго калегі Міхаіла Сяргеевіча Талмачова:

– Міхаіл Сяргеевіч, а чаго гэта яны там смяюцца так гучна?!

– Смяюцца, таму што ім па васямнаццаць-дваццаць гадоў! – весела адказаў Талмачоў, падышоўшы і пабачыўшы малюнак Віктара, на якім я быў падобны на былога правадыра міравога пралетарыяту У. І. Леніна (на той час насіў невялічкую бародку і вусы)...

Мікалай Дзмітрыевіч Чураба, графік і жывапісец, нарадзіўся 6 студзеня 1914 года ў Мінску. У 1920 годзе сям'я пераехала ў Клімкавічы. У 1933 годзе скончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум. Вучыўся ў знакамітага Івана Восіпавіча Ахрэмчыка. Старанная вучоба, настойлівая праца з алоўкам і пэндзлем далі пазней магчымасць паступіць у Маскоўскі дзяржаўны інстытут імя В. І. Сурыкава. А там што ні выкладчык – то імя ў мастацкім свеце: М. Эндэ, А. Фогт, Х. Даркевіч, У. Фаворскі, П. Паўлінаў, К. Істоміна... Дыпломнай работай Мікалая Чурабы сталі ілюстрацыі да рамана Мікалая Астроўскага "Народжаныя бурай", выкананыя ў тэхніцы аўталітаграфіі.

У 1940 годзе мастака накіравалі ў Беласток. Там і напаткала яго вайна, але з-за хваробы ў войска мастака не ўзялі.

Напачатку 1943 года Мікалай Чураба пераехаў у Пружаны, дзе ў хуткім часе пазнаёміўся з Таццянай Утгоф – сваёй будучай жонкай. Таццяна Уладзіміраўна была яго лёсам, яго добрым анёлам, першым дарадцам і крытыкам на працягу 55 гадоў.

Сваю жонку Мікалай Дзмітрыевіч маляваў усё жыццё – акварэллю і алейнымі фарбамі, простым алоўкам і вугалем.

З 1946 года Мікалай Чураба жыў у Брэсце, якому з любоўю прысвячаў свае жывапісныя і графічныя творы, многія з іх і цяпер захоўваюцца ў мясцовым краязнаўчым музеі.

Мікалай Дзмітрыевіч працаваў метадыстам і кіраўніком студыі выяўленчага мастацтва пры абласным Доме народнай творчасці. А ў 1947 годзе ў горадзе адбылася першая абласная выстава мастакоў Берасцейшчыны, у якой удзельнічаў і Мікалай Чураба.

Пазней ён кіраваў студыяй павышэння кваліфікацыі брэсцкіх мастакоў, займаўся паспяхова кніжнай графікай. Аформіў шэраг кніг: "Вершы для дзяцей" М. Лужаніна, "Залаты карп" У. Стаховіча, "Новая зямля" Я. Коласа, "Выбраныя апавяданні" Я. Брыля і іншыя.

З 1966 па 1982 гады Мікалай Дзмітрыевіч працаваў выкладчыкам (з 1972 – дацэнтам) кафедры малюнка і жывапісу на архітэктурным факультэце Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута (цяпер тэхнічны ўніверсітэт). Менавіта там я і пазнаёміўся з ім у 1976 годзе, калі паступіў вучыцца пасля службы ў войску. Мікалай Дзмітрыевіч мне адразу спадабаўся як чалавек спакойны, уважлівы, негаманкі, дакладны. Для мяне было прыемна тады сустрэць і Міхаіла Сяргеевіча Талмачова, майго кіраўніка па студыі выяўленчага мастацтва ў Доме піянераў і школьнікаў, які працаваў на кафедры першы год. Увогуле, даспадобы прыйшліся ўсе выкладчыкі малюнка, жывапісу, скульптуры, архітэктурнага праектавання, бо то былі прафесіяналы, людзі, якія займаліся любімай справай. Ды і першы рэктар інстытута прафесар Ігар Дзмітрыевіч Белагорцаў быў для нас, студэнтаў, як бацька.

Нашы заняткі жывапісам і малюнкам не абмяжоўваліся толькі сценамі аўдыторыі – мы малявалі сярод гарадскога пейзажу, ля сцен Брэсцкай крэпасці. І заўсёды побач быў Мікалай Дзмітрыевіч, які даваў добрыя парады, далікатна даводзіў нашыя студэнцкія работы да патрэбнага стану дакладнымі рухамі мастакоўскай рукі, даваў парады сваім ціхім, спакойным

голасам. Захаваўся і каляровы фотаздымак-слайд Міхаіла Сяргеевіча Талмачова, на якім наша студэнцкая група ля ўваходу ў крэпасць побач з Мікалаем Дзмітрыевічам Чурабам ў цёплы майскі дзень перад заняткам малюнкам.

Часцяком даводзілася бачыць Мікалая Дзмітрыевіча з эцюднікам на плячы і падрамнікам з палатном у руцэ. Сустракаў яго у самых розных мясцінах: за будынкамі інстытута, каля крэпасці, на вуліцах горада... Я з ім вітаўся, а затрымліваць на якую хвіліну не было нават думкі, бо Творца спяшаўся працаваць.

Чураба маляваў графічныя партрэты студэнтаў-выдатнікаў, якія размяшчалі на спецыяльным стэндзе на трэцім паверсе галоўнага корпуса. За гонар лічылася трапіць на аловак гэтага мастака. Я не раз бачыў тыя сеансы. Было вялікай навукай назіраць цішком за ягонаю працаю. У Мікалая Дзмітрыевіча быў вялікі талент, вялікі вопыт вучобы і працы ў сваёй галіне мастацтва, таму кожная сустрэча з Мастаком-Педагогам як на вуліцах горада, так і на выставах, у прыватнасці, на яго юбілейнай выставе да 80-годдзя з дня нараджэння, была для мяне з’яваю.

Мікалай Чураба стварыў свой мастакоўскі свет, у якім знаходзілася месца і цудоўным краявідам роднага краю (“Таполі”,”Раніца”, “Родны куток”, “Непагодлівы дзень”), і партрэтам знаёмых і родных людзей (“Мастацтвазнаўца Антон Ус”, “Мужчынскі партрэт”, “Партрэт жонкі”), і нацюрмортам з простых палявых кветак, якія ён прыносіў з эцюдаў за горадам (“Кветкі родных палёў”, “Макі”). Ён адным з першых падняў тэму гераічнай абароны Брэсцкай крэпасці, якая стала галоўнай у творчасці. Асабліва помніцца трыпціх “На парозе бяссмерця”, які шмат разоў экспанаваўся на вялікіх і прадстаўнічых выставах, атрымаў высокую ацэнку мастацтвазнаўцаў і аматараў жывапісу, саміх удзельнікаў гераічных падзей 1941 года. У шэрагу жывапісных палотнаў, такіх як трыпціх “Абарона Брэсцкай крэпасці”, “Байніцы Брэста”, “Ветэраны”, “Цаною жыцця”, “Цішыня ў цытадэлі”, “Руіны парахавога склепа”, ён выказаў свае мастакоўскія і грамадзянскія адносіны да легендарнай крэпасці – святога месца не толькі для жыхароў горада, але і для ўсяго сумленнага чалавецтва.

Творы мастака зараз знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі ў Мінску, літаратурным музеі Я.Коласа, Брэсцкім і Пінскім краязнаўчых музеях, музеі абароны Брэсцкай крэпасці, Кобрынскім ваенна-гістарычным музеі імя А. В. Суворава, музеі выяўленчага мастацтва імя А. С. Пушкіна ў Маскве, у шматлікіх прыватных калекцыях.

Зрабіў Мікалай Дзмітрывіч і шмат выдатных аўтапартрэтаў, якія захавалі для нашчадкаў сур’ёзны і адначасова такі добры і ўдумлівы погляд Майстра алоўка і пэндзля, выдатнага Педагога і проста Чалавека. Асабліва адзначу аўтапартрэт пастэллю “У сваёй майстэрні” (1991 год). На мой погляд, гэта вяршыня партрэтнага жанру. Такім ён і застаецца сярод нас – мудрым і сціплым, з трапяткою душою Творцы.

***Лявон ВАЛАСЮК***

ВОСЕНЬ ПАТРЫЯРХА

*Памяці М. Д. Чурабы*

Празрыстыя кроплі
Асенняй расы.
Сцішэлі, пажоўклі
Наўкола лясы.

З сівой барадою
Мастак на шашы.
Эцютнік старэнькі
Ля тонкай душы...

Хвалююся. Бачу.
Няспешна ідзе...
І з чырванню лісце
Плыве па вадзе...



*“Аўтапартрэт”*



*М. Чураба са студэнтамі групы А-32 у Брэсцкай крэпасці на эцюдах. 1978 год.*

# МАСТАК З ДОБРАЗЫЧЛІВАЙ УСМЕШКАЙ



Васіль Кірылавіч Шыкін жыў на вуліцы Пушкінскай на Кіеўцы, старым раёне горада Брэста, па суседстве са мной, праз чыгунку. Пэўны час нам давялося і працаваць блізка, калі мастак быў старшынёй абласнога аддзялення Беларускага саюза мастакоў. Сумесна ўдзельнічалі таксама ў шматлікіх мастакоўскіх мерапрыемствах. Прыемна было сустракацца з ім, гутарыць на розныя набалелыя тэмы.

У мастацкіх выставах Васіль Кірылавіч Шыкін пачаў удзельнічаць з 1949 года, у 1960-м стаў членам Беларускага саюза мастакоў, быў адным з заснавальнікаў Брэсцкай абласной арганізацыі гэтага саюза.

Творы Васіля Шыкіна прасякнуты цёплым лірычным настроем. Гэта асабліва бачна ў яго вялікім палатне “Сяброўкі”, у якім апяваецца праца маладых сялянак. Уся панарама твора гучыць радасным гімнам жыццю.

Мяккай свежасцю вее ад пейзажаў “Да вечара”, “Эцюд”, “Ля калодзежа”, “Уражайныя палі”, “Белавежская пушча”, “Восень”, “Лета”, “Ваколіца”. Па ягоных палотнах відаць, з якой любоўю, натхненнем працаваў мастак, з якой цікавасцю ставіўся да натуры...

Васіль Кірылавіч нарадзіўся 28 снежня 1914 года ў вёсцы Царкоўнікі Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці ў сялянскай сям’і, у якой расло шасцёра дзяцей. З маленства марыў навучыцца маляваць. І вялікім шчасцем было атрымаць падарунак ад бацькі – першыя акварэльныя фарбы. А родныя мясціны з’явіліся натхняльным фонам для пачатку творчага шляху мастака.

У дзіцячым уяўленні Васіля сапраўдныя мастакі здаваліся багамі. Таму, калі бацька вырашыў завезці яго ў Брэст да мастака Фралова на вучобу, хлопчык ніяк не мог ў гэта паверыць. Для 12-гадовага Васіля ўвесь навакольны свет сышоўся ў майстэрні. З таго часу ён назаўжды палюбіў пахі майстэрні з яе палотнамі, пэндзлямі, фарбамі... Але, каб доўга вучыцца ў мастака Фралова, у бацькі не хапіла грошай. Ды знайшоўся багаты чалавек, які дапамог з далейшай вучобай, набыў і алейныя фарбы, вазіў у Варшаву ў мастацкую школу...

Пазней ужо, у 1939 годзе, Васіль Кірылавіч паступіў у Віцебскае мастацкае вучылішча. Вайна застала яго ў роднай вёсцы, куды прыехаў на канікулы. Васіль стаў ўдзельнікам партызанскага руху. З 1944 года прайшоў франтавымі дарогамі Польшчу, Усходнюю Германію. Пасля баёў за Берлін атрымаў высокую салдацкую узнагароду – ордэн Славы ІІІ ступені... З 1946 года Васіль Шыкін жыў і працаваў у Брэсце. Апошнія гады, калі не стала жонкі, а сын з дачкою пакінулі межы роднай Беларусі, побач з Васілём Кірылавічам была да апошніх дзён унучка...

Жывапісныя творы мастака сёння знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі ў Мінску, у фондах БСМ, Брэсцкім краязнаўчым музеі, Музеі беларускага Палесся ў Пінску. Галоўным, самым цікавым творам, на мой погляд, з’яўляецца вялікае палатно “Заходняя Беларусь. 1939 год”, якое захоўваецца ў абласным мастацкім музеі. Гэты твор можна назваць і аўтабіяграфічным, і гістарычным. Ён адлюстроўвае важны жыццёвы момант не толькі для Васіля Шыкіна асабіста, але і ўвогуле для жыхароў Заходняй Беларусі.

Сярод жывапісных твораў Васіля Кірылавіча вылучаюцца такія, як “Арганізацыя калгаса”, “Падпольшчыкі”, “Вайна”, “Вясна 1945”. Гэтыя палотны адлюстроўваюць і вехі жыцця самога мастака, і тыя выпрабаванні, якія давялося перанесці ўсяму беларускаму народу ў гістарычных вірах нялёгкага жыцця. Мастак з трывогай і болем ставіўся да тых трагічных падзей, з любоўю і шчырасцю працаваў над сваімі палотнамі.

Зусім іншае жыццё пачалося пасля вайны, таму і ў творах, прысвечаных мірнаму будаўніцтву, больш лірычных нотак. Гэта адлюстравалася і ў серыі пейзажаў “Бярозаўская ГРЭС”, і ў такіх творах, як “Ураджайныя палі”, “Ля калодзежа”...

Васіль Кірылавіч Шыкін заўсёды патрабаваў ад мастакоў, каб актыўна працавалі, выстаўляліся. Калі працаваў старшынёй Брэсцкага аддзялення Беларускага саюза мастакоў, шмат пабудаваў творчых майстэрняў, пастаянна прапагандаваў творчасць землякоў. У жыцці ён быў энергічным чалавекам з бадзёрым, зычным голасам і добразычлівую ўсмешкаю ў вачах. Такім ён і застаецца ў памяці мастакоў, людзей, якія ведалі яго.



*"Белавежская пушча"*



*"Заходняя Беларусь. 1939 год."*

# ЗАПАТРАБАВАННЕ ДУШЫ МАСТАКА



Пётр Васільевіч Зарэцкі, з дзяцінства трымаючы ў сэрцы веру ў светлае будучае, стаў не толькі сапраўдным мастаком, але і сапраўдным сынам сваёй роднай зямлі...

Мы з ім знаёмы даўно. Спачатку па творах на абласных выставах, па публікацыях у газеце “Заря”, дзе Пётр Васільевіч аналізаваў творчасць берасцейскіх мастакоў канца 60-х пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя. На той час гэта быў адзіны чалавек у мастакоўскім асяродку, каторы мог даць прафесійную ацэнку творчасці калег па пэндзлі.

Працуючы ў камбінаце “Мастацтва”, Пётр Васільевіч шмат займаўся грамадскай працай “у прафсаюзах”: дапамагаў атрымліваць кватэры для мастакоў, майстэрні. У тыя часы ён вельмі і вельмі многа дапамагаў калегам, што было на шкоду ўласнай творчай працы.

По абавязку працы Пётр Васільевіч рабіў маркетры для Дамоў культуры, бальніц, паліклінік, прадпрыемстваў. Паміж вытворчымі справамі знаходзіў час пасядзець за эцюднікам і мальбертам.

У майстэрні Пятра Зарэцкага нярэдка можна было сустрэць яго родных, калег-мастакоў, літаратараў і ўвогуле людзей, якія любілі выяўленчае мастацтва.

Асаблівае месца ў жыцці Пятра Зарэцкага займалі такія берасцейскія літаратары, як Уладзімір Калеснік, Міхась Рудкоўскі (ён быў асабліва частым госцем), Мікола Пракаповіч, Алесь Каско. Пётр Васільевіч і сам пісаў вершы. Людзі цягнуліся да мастака і чалавека Пятра Зарэцкага. Моцным было сяброўства з прафесарам-мастацтвазнаўцам Антонам Усам, які значную частку свайго асабістага архіва перадаў Пятру Васільевічу (тры з паловай мяхі).

Ужо бліжэй асабіста мы пазнаёміліся ў 1981 годзе, калі я прыйшоў працаваць у Абласны навукова-метадычны цэнтр упраўлення культуры. На той час адбываўся значны ўздым творчага жыцця не толькі Берасцейшчыны, але і Беларусі ўвогуле. Сустракацца з мастакамі даводзілася амаль кожны дзень, бо працавалі побач, на вуліцы Савецкай.

Пётр Зарэцкі нарадзіўся ў цудоўным краі, які завецца Белавежскай пушчай. Ужо само месца нараджэння, як кажуць, “абавязвае” тварыць. Таму так часта мастак звяртаўся да пушчанскай тэмы, да Камянеччыны (“Белавежская пушча”, “Купалле”, “Палессе”)...

У свой час маці Пятра (ды і ён сам быў не супраць) вельмі хацела, каб сын стаў святаром. Ды нешта перашкодзіла ў жыцці таму здзейсніцца... Пётр Зарэцкі пайшоў па мастакоўскай дарозе, хаця грамадская праца вельмі яму пасавала і падабалася: працаваць з людзьмі было цікава і прыемна.

Па стане здароўя апошнія часы Пётр Васільевіч не так часта ўжо бываў у сваёй творчай майстэрні на праспекце імя Пятра Машэрава. Ды толькі зусім не бываць там не мог, бо без фарбаў, палотнаў сумаваў, сумаваў і без сустрэч з калегамі-мастакамі.

Апошні раз сустрэў Пятра Васільевіча ў Мастацкім музеі ў Брэсцкай крэпасці на віншаванні мастака-юбіляра заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Пятра Аляксеевіча Данэліі, якому споўнілася тады 90 гадоў.

Пётр Васільевіч быў удзячны жыццю за тое, што мара дзяцінства здзейснілася. Ён стаў мастаком па прызванні і сутнасці. І яшчэ ён быў удзячны лёсу, які ўзнагародзіў яго мастацкім уяўленнем, якое ніколі не падвяло.

**БЛІЦ-ІНТЭРВ’Ю (красавік 2010 года, майстэрня мастака)**

**– Пётр Васільевіч, а як вы сталі мастаком?**

– Не хадзіў яшчэ ў школу, а ўжо маляваў. Як алоўка не было, дык замест яго выкарыстоўваў спаленую запалку. Калі пачаў падрастаць, то нейкі час не адчуваў мастацкага абуджэння. У

школе ніхто лепш за мяне не мог намаляваць Леніна ці Сталіна. Потым пачаў працаваць з фарбамі, і тады пайшла стыхія. У хуткім часе знайшлі мяне супрацоўнікі культуры, каб паказаць мае творы на выставах, раённых і абласных. Атрымліваў дыпломы і грошы таксама за гэта. Калі заканчваў сярэднюю школу ў Камянцы, ужо цвёрда ведаў: буду толькі мастаком. Рыхтаваўся да паступлення самастойна. Ні студыі, ні "жывых" мастакоў не бачыў. Першы раз, у 1955 годзе, не паступіў у Кішынёў: не прайшоў па конкусе. Але ўжо на другі, на шчасце, паступіў. Праз 5 гадоў адчуў сябе прафесійна адукаваным мастаком. "Запаліўся" паступіць у Мінскі інстытут на аддзяленне станкавага жывапісу. У інстытуце адчуў, што вырас у параўнанні з вучылішчам у два разы...

**– Што дала вам праца ў камбінаце "Мастацтва"?**

– У брэсцкі камбінат "Мастацтва" ўладкаваўся ў 1964 годзе. Мастацка-вытворчая праца патрабавала густу ў афармленні будынкаў, залаў, выстаў... Быў амаль увесь час старшынёй прафкама. Паралельна займаўся творчасцю. Прымаў удзел ва ўсесаюзных, рэспубліканскіх выставах. Захапіўся колерам, бо жывапіс без колеру не ўяўляецца. Трэба было сябе сцвярджаць працай... За поспехі ў развіцці выяўленчага мастацтва ў 1994 годзе быў прыняты ў Беларускі саюз мастакоў.

Праца ў камбінаце давала задавальненне і незадавальненне. Але трэба было зарабляць грошы. А сапраўдны жывапіс – гэта запатрабаванне душы.

**– Якое ўражанне атрымалі ад знаёмства са старэйшымі мастакамі?**

– У Брэсце быў створаны сапраўдны творчы калектыў з тых асоб, што прайшлі вайну, былі адданыя мастацтву. На аснове гэтага згуртавання ўзнік Брэсцкі філіял Беларускага саюза мастакоў (Васіль Шыкін, Мікалай Чураба, Пётр Данэлія, Іван Фяцісаў...).

Гэты асяродак майстроў клікаў нашы маладыя душы да працы, да творчасці, да мастацкага стварэння і мастацкага выяўлення. Хацелася гэтага ці не, але калектывам кіравала натхненне і захапленне працай. Уплыў на творчасць аказалі такія асобы, як Іван Рудчык, Пётр Данэлія, Мікалай Чураба , Эдуард Куфко, Іван Фяцісаў і іншыя.

**– Што хацелася б сказаць сучаснікам напярэдадні свайго 75-годдзя?**

– Сказаць нешта суайчыннікам адказна і няпроста. Развіццё сучаснага жывапісу выйшла на фармалізм, мадэрнізм, на прымітывізм. Цяпер сапраўдны акадэмічны жывапіс з'яўляецца рэдкасцю нават у Еўропе. Але мне здаецца, што ён ніколі не згіне, як не згіне архітэктура і скульптура, бо гэта асноўныя візуальныя мастацтвы, якія вечныя. Вучыцца трэба ў акадэміі, у прыроды, у самога сябе. Гэта заўсёды было маім жыццёвым дэвізам. У нейкім сэнсе балюча і шкада, што многія напрамкі мастацкай творчасці вельмі абстрактныя, і нават незразумелыя. Зараз у нас у Брэсце засталося чатыры "акадэмісты", калі так можна сказаць. Гэта Пётр Данэлія, Іосіф Крупскі, Леанід Салаўёў і Пётр Зарэцкі. Дай Бог ім натхнення і моцы трымацца!



*"Зубры"*

# ГЕНАДЗЬ ГЕНАДЗЬЕВІЧ САКАЛОЎ-КУБАЙ



Краязнаўца, мастак, мастацтвазнаўца... Генадзь Генадзьевіч Сакалоў-Кубай быў чулым, добразычлівым чалавекам, які нёс іншым свае перакананні, жаданне перадаць усё багацце сваіх ведаў, шчырасць сяброўскіх адносін.

Апошні раз я сустрэў яго ў мінскім Палацы мастацтваў восенню 1997 года, калі ездзіў уступаць у Саюз мастакоў. Побач з ім была тады жонка Ніна, таксама са сваімі творамі. З часу нашай папярэдняй сустрэчы прайшло амаль пятнаццаць гадоў... Але ён заставаўся такі ж светлы, чуллівы. Прыемна было зноў бачыць яго, гутарыць пра знаёмых, пра мастацтва… І так нечакана і балюча было пачуць пра яго заўчасны адыход у іншы свет... Цяжка было паверыць, што яго ўжо няма сярод нас...

Генадзь Генадзьевіч быў высокаадукаваным чалавекам, валодаў энцыклапедычнымі ведамі. Усё яго свядомае жыццё – гэта няспынны шлях адкрыцця забытых ці аддадзеных іншым культурам нацыянальных скарбаў – у мастацкіх вобразах, у навуковых даследаваннях, у лекцыйнай практыцы.

Ён паспяхова скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя Глебава, Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, аспірантуру інстытута мастацтвазнаўства АН Беларусі. Цікавасць да гісторыі мастацтва прыходзіць да яго ў 70-я гады мінулага стагоддзя. Генадзь Сакалоў-Кубай адным з першых у сучасным беларускім мастацтвазнаўстве пачаў даследаваць нацыянальную мастацкую спадчыну позняга сярэднявечча ў агульнаеўрапейскім кантэксце, вызначыўшы этапы ўзнікнення партрэтнага жывапісу на Беларусі і рэнэсансны характар беларускага партрэта XVI стагоддзя, дзе, як Генадзь Генадзьевіч пісаў, “увага да чалавека, яго ўнутранага свету паставіла яго асобу ў цэнтр мастацкіх інтарэсаў”.

Ён быў глыбока перакананы ў тым, што беларуская мастацкая спадчына дае нам права ганарыцца веліччу здзяйсненняў нашых продкаў, што спадчына гэта багатая, напоўненая глыбокім патрыятычным і маральным пафасам. У сваіх шматлікіх выступленнях, лекцыях, артыкулах у часопісах і газетах, навуковых публікацыях Генадзь Генадзьевіч, адраджаючы накірункі навуковых пошукаў першапачынальніка беларускага мастацтвазнаўства Міколы Шчакаціхіна, адным з першых у канцы 70-х гадоў пачаў даследаваць старажытнае свецкае мастацтва Беларусі.

Разам са сваімі паплечнікамі і аднадумцамі Генадзь Сакалоў-Кубай імкнуўся адрадзіць гістарычную памяць нашага народа. У тыя часы панавала заганнае афіцыйнае меркаванне, што Беларусь не мела ў мінулым свецкага мастацтва, што беларуская спадчына – гэта выключна вясковая культура. Генадзь Генадзьевіч імкнуўся давесці беларусам, што Беларусь мае ў сваёй спадчыне не толькі народную творчасць, але і культуру іншага кшталту, якая існавала ў асяроддзі шляхты, магнатарыі, пры вялікакняжацкім двары, і ад гэтай спадчыны мы не маем права адмаўляцца, аддаваць яе іншым народам. Свае перакананні, свае веды ён нёс шматлікім вучням – у рэспубліканскім ліцэі мастацтваў, у мастацкай вучэльні, ва ўніверсітэце культуры і Акадэміі мастацтваў.

У 1980-я гады Генадзь Генадзьевіч узначаліў аддзел выяўленчага мастацтва Рэспубліканскага навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці, дзе выявіў сябе як выдатны знаўца нацыянальных традыцый і арганізатар шэрагу семінараў народных разьбяроў у Гродне, Навагрудку і іншых мясцінах, дзе зараз знаходзяцца арыгінальныя комплексы драўлянай скульптуры, створанай пад яго кіраўніцтвам.

У 1990-я гады Генадзь Сакалоў-Кубай не застаўся ўбаку ад працэсаў дэмакратызацыі жыцця, уключыўся ў шырокую грамадскую дзейнасць, узяў на сябе адказныя абавязкі ў таварыстве беларускай мовы імя Ф. Скарыны па падтрымцы беларускіх школ.

Генадзь Генадзьевіч, як мастацтвазнаўца, найперш звяртаў увагу на нашых асветнікаў,

адраджэнцаў, ім прысвячаў свае грунтоўныя артыкулы – Міколу Купаву, Міхасю Раманюку, Яўгену Куліку, Міколу Селешчуку і іншым. Дзе б ні працаваў – ён заўсёды працаваў на Беларусь, на яе будучыню, якую ён бачыў праз адраджэнне гістарычнай памяці народа.

Генадзь Сакалоў-Кубай многага не паспеў, але час вызначыць яго месца ў гісторыі беларускай культуры, час узродзіць тое зерне беларускасці, якое імкнуўся пасеяць ён у сэрцах сваіх землякоў.

Памёр Генадзь Генадзьевіч Сакалоў-Кубай 18 кастрычніка 1998 года на 57 годзе жыцця.



*На выставе ДПМ. А. Перапяліца, К. Калодзіч, Л. Валасюк, Я. Маньякоў*



*На адкрыцці выставы ДПМ у Брэсце. 1982 год*

# ПАД ЗНАКАМ ПРЫГАЖОСЦІ І ЛЮБОВІ



Колькі ведаю, толькі і памятаю Уладзіміра Дзмітрыевіча Тулупава як светлага чалавека, добрага суразмоўцу... Пражытыя гады не мяняюць творчы стан асобы, што крочыць па шляху да вясёлкі, да той вясёлкі, што яскрава зіхаціць на палітры мастака, на даляглядзе ў высокім блакітным небе.

Калі чую ці чытаю прозвішча Тулупаў, дык адразу ў памяці ўсплываюць яго жывапісныя творы "Партрэт народнага майстра Веры Гаўрылюк", "Зялёная школа", "Партрэт Міхаіла Талмачова", "Ноч у крэпасці"... Гэтыя палотны з'яўляюцца ягонай візітоўкай. Менавіта ў іх Уладзімір раскрыў сваю сутнасць мастака, грамадзяніна, педагога і гэтымі творамі пазначыў сваё месца ў мастацкім асяродку Берасцейшчыны і Беларусі.

Уладзімір Тулупаў працуе ў розных жанрах жывапісу: партрэт, тэматычная карціна, пейзаж... У апошнія гады больш займаецца акварэллю, шмат эксперыментуе з ёю.

Схільнасць да малявання рана праявілася ў Валодзі, але толькі ў 15-гадовым узросце юнак трапіў у студыю выяўленчага мастацтва абласнога Дома піянераў і школьнікаў. Як і дзясяткі іншых таленавітых берасцейскіх хлопчыкаў і дзяўчынак, ён вучыўся выяўленчаму мастацтву ў заслужанага педагога Беларусі Міхаіла Сяргеевіча Талмачова, які быў знакавай асобай у творчым асяродку горада над Бугам.

Пасля заканчэння Растоўскага мастацкага вучылішча і мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педагагічнага інстытута Уладзімір Тулупаў больш за 30 гадоў прысвяціў працы ў Брэсцкай дзіцячай мастацкай школе. Колькі маладых творцаў прайшло праз яго рукі, цяжка палічыць. Ён пачынаў працаваць яшчэ ў старым драўляным памяшканні на вуліцы Пушкінскай, калі дырэктарам там быў вядомы мастак-акварэліст, заснавальнік школы Аляксандр Алонцаў. Менавіта ў той дзіцячай мастацкай школе Уладзімір Тулупаў павышаў свой прафесійны ўзровень мастака і адначасова набываў вопыт педагагічнай працы.

Галоўная якасць Тулупава-педагога – гэта здольнасць стварыць спрыяльны асяродак для творчага працэсу, раскрыць лепшыя якасці юных талентаў. Для яго ўсе дзеці таленавітыя, патрэбна толькі падабраць ключык да душы кожнага.

Праца педагога падабаецца Уладзіміру Дзмітрыевічу, хоць, маючы сціплую зарплату, даводзіцца нярэдка шукаць і нейкія іншыя сродкі для жыцця, бо трэба разлічвацца за арэнду майстэрні, за матэрыялы для творчай працы. Усё мае свой кошт.

Штодня мастак-педагог Уладзімір Дзмітрыевіч Тулупаў спяшаецца на заняткі ў Дзіцячую мастацкую школу па вуліцы Леванеўскага горада Брэста. Ён баіцца спазніцца да таленавітых дзяцей, якія сталі для яго сэнсам жыцця.



*"Акварэлька"*



*“Народны майстар саломапляцення В. І. Гаўрылюк”*



*“Ноч у крэпасці”*

# ДАСЛЕДАВАННЕ СЦЯНЫ



Імя гэтага мастака даўно на слыху брастаўчан, жыхароў Беларусі, былога СССР, і не толькі. Яго добра ведаюць нашы бліжэйшыя суседзі ў Польшчы, Германіі, Галандыі, Украіне, Расіі... Ён рана заявіў пра сябе як цікавы, неардынарны мастак са сваім асабістым поглядам на мастацтва, на жыццё ўвогуле.

З Уладзіславам Эдуардавічам мы жывем на суседніх вуліцах. І ведаю я яго з першага класа, калі пайшоў у брэсцкую школу №16 па вуліцы Чырвонагвардзейскай на Граеўцы. Бацька Уладзіслава – Эдуард Станіслававіч – быў на той час вядомым мастаком не толькі ў Брэсце, але і ў былым Савецкім Саюзе. Памятаю Уладзіслава-школьніка з альбомам у руцэ, з алоўкамі. Пасля заканчэння 8-га класа ён паступіў у Мастацкае вучылішча імя А. Глебава ў Мінску.

Ужо шмат пазней, калі я сам скончыў архітэктурны факультэт Брэсцкага інынерна-будаўнічага інстытута і пачаў працаваць у культуры, то заўжды чакаў адкрыцця чарговай абласной выставы берасцейскіх мастакоў у зале па вуліцы Савецкай, каб пабачыць новыя жывапісныя творы мастакоў Куфко: бацькі – Эдуарда Станіслававіча і сына Уладзіслава. І не толькі таму, што мае суседзі, а таму, што гэта былі мастакі з вялікай літары: кожны са сваім стылем, сваёй творчай біяграфіяй, сваёй філасофіяй жыцця...

На тых абласных выставах жывапісныя творы Уладзіслава заўжды цікавілі наведвальнікаў, прыхільнікаў ягонай творчасці. Запамінальнымі сталі такія палотны як “Марафон”, “Люстэрка”, “Провады птушак”... Не менш цікавымі былі і графічныя работы алоўкам (памятаецца ранні алоўкавы партрэт маёй аднакласніцы Ларысы Дабрадомавай, якая таксама жыла непадалёк ад сям’і Куфко).

Былі ў нас і творчыя спрэчкі, але я не прапусціў ніводнай з ягоных карцін, бо яны заўсёды былі вынікам напружанага пошуку.

Апошнія творы мастака – працяг папярэдніх: даследаванне “сцяны”, дзе ён бачыць не толькі сучаснае графіці, але і папярэднія для чалавецтва наскальныя малюнкі сцяны, за якой зорны космас, а перад ёю – рэаліі быцця сучаснага і мінулага.



*“Стварэнне свету”*

# РУПЛІВЫ ТВОРЦА



Мне пашчасціла пазнаёміцца з вядомым мастаком- мастацтвазнаўцам у 1981 годзе, калі Міхась Фёдаравіч прыязджаў у Абласны навукова-метадычны цэнтр культасветы і народнай творчасці, дзе на той час я пачаў працаваць пасля заканчэння інстытута.

Цікавымі былі ягоныя аповеды пра творчыя экспедыцыі па Беларусі, пра сустрэчы з людзьмі, каторыя шмат цікавага расказалі пра народнае адзенне, звычкі і побыт беларусаў... Па яго прапанове крыху пазней прайшоў рэспубліканскі конкурс-выстава нацыянальных строяў, у якім давялося ўдзельнічаць і мне з эскізамі народнага касцюма роднай Кобрыншчыны.

У той жа 1981 год была выдадзена цікавая па сваім змесце і афармленні кніга-альбом Міхася Раманюка "Беларускае народнае адзенне", якая раскрыла вочы беларусам і гасцям рэспублікі на адзенне нашых продкаў, пераканала, што народнае адзенне з'яўляецца яркім здабыткам нацыянальнай культуры, а яго гістарычнае развіццё адбывалася ў непасрэднай сувязі з прыродна-кліматычнымі і сацыяльна-эканамічнымі ўмовамі жыцця.

Народныя строі Заходняга Палесся, Усходняга Палесся, Прыдняпроўя, Цэнтральнай Беларусі, Панямоння і Наддзвіння наглядна дэманструюць высокі мастацкі густ беларусаў. Міхась Раманюк першым у Беларусі правёў раянаванне нашай краіны па рэгіянальных асаблівасцях традыцыйнага нацыянальнага адзення беларусаў.

"Кожнаму пакаленню застаецца ў спадчыну тое, што стварылі талент і працалюбства бацькоў, продкаў, тое, што выяўляе нацыянальнае аблічча народа, яго душу, яго імкненні, тое, што кожнае пакаленне павінна шанаваць і памнажаць"... – пісаў Міхась Фёдаравіч у прадмове да сваёй кнігі.

У 1983 годзе выйшаў першы нумар часопіса "Мастацтва Беларусі", часопіса, які даў вельмі значны штуршок для прапаганды беларускага выяўленчага мастацтва, для прапаганды ўвогуле беларускай культуры. Адбылося тое, чаго вельмі доўга чакалі. І гэтая значная падзея ўскалыхнула мастакоўскае і культурнае асяроддзе Беларусі.

Ужо крыху пазней Міхась Раманюк склаў у асобную кнігу матэрыялы пра яшчэ адзін набытак беларусаў: крыжы (25 гадоў займаўся іх вывучэннем). Кнігу-альбом "Беларускія народныя крыжы" (змяшчае ў сабе 303 фотаздымкі і 83 графічныя малюнкі) у 2000 годзе выдаў сын Міхася Фёдаравіча – Дзяніс, які прадоўжыў справы свайго бацькі.

Дзяцінства і юнацкія гады Міхася Раманюка прайшлі ў вёсцы Старынка, куды маці пасля вайны пераехала з чатырма дзецьмі з вёскі Кавалі на Брагіншчыне (бацька, Фёдар Раманюк, загінуў на фронце) да сваякоў.

Міхась рос вельмі дапытлівым хлопчыкам, любіў маляваць, добра вучыўся ў школе, дапамагаў маці па гаспадарцы. Яму былі ўласлівы добразычлівасць, ветлівасць, павага да старэйшых.

Пасля школы юнак скончыў Мінскі тэхналагічны тэхнікум, а пасля службы ў арміі – Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, аспірантуру. З 1989 года і да канца жыцця працаваў у Акадэміі мастацтваў загадчыкам кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў. Кіруючы кафедрай, Міхась Фёдаравіч паспяваў усюды. Вялікая частка жыцця вучонага і мастака прайшла ў экспедыцыях, куды ён браў з сабой і сына Дзяніса.

Міхась Раманюк добра ведаў адметнасць мовы розных рэгіёнаў Беларусі, таму і знаходзіў заўжды кантакты з людзьмі, меў адметны талент размаўляць з вяскоўцамі, заўсёды спрацоўвала і яго добразычлівая ўсмешка.

Трымаючы ў руках ягоныя дзве кнігі-альбомы, якія я маю ва ўласнай бібліятэцы, заўжды думаю і ўспамінаю руплівага працаўніка, збіральніка народнай творчасці. Тую справу, якую ён зрабіў для Беларусі, можна параўнаць з подзвігам дзеля Бацькаўшчыны. Многія даследчыкі, навукоўцы і сёння адзначаюць, што па шырыні і маштабнасці даследванняў у галіне этнаграфіі Міхась Фёдаравіч Раманюк не мае сабе роўных.






# ПАМІЖ НЕБАМ І ЗЯМЛЁЮ... МАСТАКОЎСКІ ДУХ



У 2009 годзе баранавіцкі мастак Алесь Фалей ладзіў юбілейную выставу да свайго 50-гадовага юбілею ў зале абласнога цэнтра па вуліцы Савецкай.

Яе адкрыў член ГА "Беларускі саюз мастакоў" Міхаіл Канькоў, які адзначыў, што выстава Алеся Фалея вельмі сучасная па сваім змесце, па сваёй форме і пабудове. Яе ўнікальнасць у наяўнасці твораў, зробленых з рэчаў, якія паасобку не маюць мастацкіх каштоўнасцей, але з думкаю, з душою і густам яны злучаны талентам мастака ў цікавыя мастацкія творы...

Выстаўлена было пяцьдзясят работ. У экспазіцыі атрымалася цікавая колеравая гама. Карцела доўга і ўважліва ўглядацца ў творы. Экспрэсіўнасць работ мастака была не самамэтай, а сродакам выказвання яго светапогляду. Творы запрашалі гледача адчуць гармонію, эстэтыку жыцця. Ад іх зыходзіла станоўчая энергетыка. У кожнай рабоце прысутнічала асоба аўтара, які стварыў экспазіцыю з усяго таго, што знаходзіцца пад рукамі і нагамі, – з непатрэбных ужо старых металічных вырабаў, кавалкаў тканіны, паперы...

Трэба адзначыць, што такія арыгінальныя творы, як нацюрморт "Кветкі", пейзажы "Мой горад", "Дарога", "Фарбы вечара", "Цёплы дзень", графічныя аркушы "Яны ідуць", "Мой крыж", "Сустрэча", выступалі як своеасаблівы камертон выставы. Усё гэта было вельмі цікава, бо не кожны дзень, не на кожнай выставе можна пабачыць такія канструкцыі. Асабліва хочацца адзначыць аб'екты-кампазіцыі з металічных рэчаў "Бацькаўшчына", "Анёл", "Чарнобыльскі шлях", "Прысвячаецца В. І. Сахно", да якіх можна было дакрануцца і адчуць подых мінуўшчыны і адначасова подых сучаснасці, бо не бывае сучаснасці без спадчыны, без мінуўшчыны... І ў кожнай такой кампазіцыі можна было выявіць нешта для сябе новае, цікавае – нешта СВАЁ...

Добрыя словы на адрас віноўніка ўрачыстасці сказалі тады заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Пётр Данэлія, графік Леў Алімаў, мастачка Наталля Чорнагалова, галоўны рэдактар газеты «Брестский курьер» Мікалай Аляксандраў...

Выстава атрымалася, выстава адбылася – гэта быў галоўны вынік святочнага дня. Напрыканцы юбілейнай вечарыны Алесь Фалей сказаў:

– Даволі добра адчуваю сябе ў якасці мастака 50-гадовага ўзросту. Пакуль што ўзрост не адчуваю, таму што малады душою. На юбілейнай выставе пяцьдзясят маіх твораў, якія адпавядаюць майму цяперашняму ўзросту... Тут і графіка, і жывапіс, і аб'екты... Чаму назва "Паміж небам і зямлёю"?.. Тое, што я раблю, гэта яшчэ не неба, але ўжо і не зямля. Нешта такое памежнае.

Мая творчасць – гэта тое, з чаго і чым я жыву. Вобразы бяруцца з навакольнай рэчаіснасці...

Напрыканцы студзеня наступнага 2010 года Алесь Фалей адзначыў свой юбілей персанальнай выставай у Палацы мастацтваў у Мінску. Было вельмі прыемна, што назіралася вялікая зацікаўленасць мінчукоў яго творчасцю.

Мастак Алесь Фалей – член ГА "Беларускі саюз мастакоў", член Міжнароднай акадэміі графікі – працуе, малюе... Ён марыць, ён у пошуку, ён жыве і стварае.

# БАРВОВАЯ РАБІНА ЛЯВОНЦІЯ ДОЎБУША



У першы дзень восені ў Лявонція Андрэевіча Доўбуша – берасцейскага мастака, пра якога нібыта пачалі ўжо забываць, успамініючы толькі зрэдку пры нейкай нагодзе, – дзень нараджэння. Я згадваю яго, старэйшага таварыша, кожны раз, калі праходжу ці праязджаю па вуліцы 17 Верасня абласнога цэнтра, на якой знаходзілася ўтульная творчая майстэрня мастака, якраз насупраць цяперашняй рэдакцыі газеты “Брестский курьер». Нахіляючыся долу, стаіць там рабіна – высокая, прывабная сваёй прыроднай прыгажосцю і ўжо чырвоная, кідкая. Яна да гэтага часу захоўвае ў сваёй памяці гукі крокаў мастака Лявонція Доўбуша, які любіў няспешнаю хадою блукаць па старых вулачках цэнтра горада ў белым кепі, азіраючы навакольны свет сваімі блакітнымі вачыма...

Неаднаразова даводзілася бываць у майстэрні ў гасцях у Лявонція Андрэевіча з архітэктарам Леанідам Валахановічам, заходзіць з якой простай прычыны самому. Мінаючыся з той рабінай, заўсёды запыняў на ёй увагу.

Лёс звязаў Лявонція Доўбуша з Берасцейшчынай у 1957 годзе: спачатку ў Кобрыне ён працаваў выкладчыкам чарчэння і малюнка ў школе, потым кіраваў Дзіцячай студыяй выяўленчага мастацтва ў Доме піянераў і школьнікаў, а з 1963-га стаў жыхаром горада над Бугам.

У гісторыі выяўленчага мастацтва Берасцейшчыны гэтае імя застанецца найперш таму, што Лявонцій Андрэевіч шмат сваіх графічных твораў прысвяціў роднаму гораду – старым вулачкам, дварам, дамам. Мастак у сваіх акварэлях дакладна перадаў дух таго пасляваеннага часу, калі старыя пабудовы не знішчаліся, як цяпер, пад прыкрыццём “рэканструкцыі цэнтра горада”. У іх жылі людзі, якія аднаўлялі Брэст, будавалі новыя раёны, людзі, якія па-сапраўднаму любілі і шанавалі родны горад.

Гледзячы на невялікіх памераў графічныя аркушы, не перастаеш здзіўляцца таму, як любіў мастак “стары” горад, яго цэнтр. Відаць, не дарма ён жыў у цэнтры Брэста.

“Двор па вуліцы Савецкай”, “На рагу вуліц Савецкай і Будзёнага”, “Двор ля кінатэатра “1 Мая”, “Дом на рагу вуліц Савецкай і Пушкінскай”... Гэтыя творы заварожваюць гледача дасканаласцю выканання, духам старога горада, укладзенай у іх тонкай душою і трапяткім сэрцам. Мастак стварыў рамантычны вобраз Брэста больш як на ста акварэльных аркушах. Асабліва зараз, калі ўжо шмат якіх куточкаў старога горада не стае, тыя акварэлі набылі асаблівую гістарычную каштоўнасць. На адной з іх – сам аўтар, які дакладна вымалёўвае гарадскі дворык. Такім мы і памятаем Лявонція Доўбуша – мастака ў белым адзенні з сівой акуратнай бародкаю і такімі ж сіва-белымі валасамі. Ён праходзіў па вулачках і дварах як анёл-вартаўнік, анёл-ахоўнік і сваёй прысутнасцю ўтвараў асаблівую аўру горада.

Лявонцію Андрэевічу было што паказаць, калі вяртаўся з паездак у Індыю, Мексіку, на Кубу – на той час далёкія і маладаступныя для савецкіх людзей экзатычныя краіны. Тыя акварэлі і накіды, замалёўкі былі як чарговая справаздача, водгук на ўражанні, якімі ўзбагаціўся пад час паездак за мяжу: “З кубінскіх успамінаў”, “Па Індыі”, “З мексіканскага альбома”, “Балгарскія замалёўкі”, “З румынскага альбома”, “Вільнюскія эцюды”... Геаграфія яго вандровак здзіўляла. Здавалася, што ён працуе не ў абласным тэатры мастаком-дэкаратарам, а ў нейкім экскурсійна-турыстычным бюро. Уражанняў ад замежных паездак у Лявонція Доўбуша хапала на доўгія гады творчай працы.

Берасцейшчына з унікальнымі помнікамі архітэктуры, прасторы Беларусі натхнялі яго на акварэльныя серыі “Маё Палессе”, “Па літаратурных мясцінах Беларусі”, “Брэсцкая крэпасць-герой”. Уражанні з далёкіх паездак зрабілі для мастака добрую справу: непаўторнасць краявідаў Берасцейшчыны і Беларусі ў параўнанні з замежжам абвастрала пачуцці, натхняла на творчыя серыі акварэляў роднай старонкі.

Яшчэ адзін значны ў творчасці мастака цыкл акварэляў “Жыві і памятай” быў прысвечаны

памяці ахвяр яўрэйскага гета ў Брэсце, знішчанага ў 1942 годзе. Творы здзіўляюць глыбінёй філасофскага гучання. Гэты цыкл зацікавіў аматараў мастацтва не толькі ў Беларусі, ён быў паказаны ў польскім Майданэку, Германіі, Чэхіі, Ізраілі... Мастак яшчэ раз напомніў людзям пра найвышэйшыя каштоўнасці чалавечага жыцця.

Лявонцій Андрэевіч пэўны час – 33 гады – працаваў мастаком-дэкаратарам у Брэсцкім абласным драмтэтры імя Ленінскага камсамола. Ствараючы дэкарацыі па эскізах вядомых мастакоў, удасканальваў адначасова ўласнае майстэрства, а ў вольны час з натхненнем працаваў у сваёй утульнай майстэрні па вуліцы 17 Верасня. Творы Лявонція Доўбуша знаходзяцца ў музеях, галерэях і прыватных калекцыях Беларусі, Літвы, Латвіі, Польшчы, Чэхіі, Германіі, ЗША, Вялікабрытаніі, Ізраіля, Мексікі, Кубы, Індыі і іншых краін свету.

Мастак пакінуў нас у кастрычніку 2002 года. Барвовая арабіна сваім восеньскім полымем гронак аплаквала страту. А памяць жыве ў сэрцах тых людзей, што былі неабыякавыя да творчасці берасцейскага мастака Лявонція Доўбуша.



*“Сляпцы”*



*“Брэст. Вуліца А. Міцкевіча”*

# СВЕТЛАЯ ВЯСНА МАСТАКА ГЕНАДЗЯ СУРМЫ



У першыя веснавыя дні чамусьці заўжды ўзгадваюцца яго жыццесцвярджальныя восеньскія маляўнічыя пейзажы, на якіх вясёлкава ззяюць асветленыя сонечнымі промнямі дрэвы з апошняй лістотаю, паніклыя травы... Успамін пра мастака, пра чалавека, якога няблага ведаў, наплывае светлым воблачкам з аднаго з апошніх пейзажаў. І цёплыя блакітныя вочы Генадзя Сурмы нібы з усмешкаю ўзіраюцца ў мяне. Здаецца, яшчэ хвіліна – і я пачую голас мастака, які так рана сышоў ад нас у іншы свет.

Генадзь Фёдаравіч Сурма быў па-гаспадарску нетаропкім і разважлівым чалавекам, надзвычай працавітым мастаком. Адразу ўсплываюць у памяці яго акварэльныя пейзажы, што сваёй паэтычнасцю і чысцінёй асвятляюць пачуцці людзей, аматараў яго творчасці – як на роднай зямлі, так і ў замежжы. Чалавек тонкай душы, ён не любіў шмат гаварыць, але вельмі мяняўся, калі гаворка заходзіла пра мастацтва і мастакоў, праблемы мастакоўскага жыцця, якіх заўжды хапала і хапае ў цяперашні час.

Быў час, калі Генадзь Фёдаравіч захапіўся працай на лецішчы: захацелася адысці ад выяўленчага мастацтва, ад акварэляў, адпачыць душою ў цішы сада-агарода. Пры сустрэчы ён гаварыў пра яблынькі, грушы, пра зямлю і ўгнаенні. А ў блакітных вачах у той момант праглядваўся нейкі сум, стомленасць, мо нават адчай... Мастак адлучыўся на некалькі гадоў ад любімай творчай працы, нібыта хваля перабудовы ў вялікай краіне неяк няўдала зачапіла і яго сваім вострым крылом. У тыя гады Генадзя Сурму не часта можна было сустрэць сярод калег-мастакоў у выставачнай зале па вуліцы Савецкай ці ля вытворчых майстэрань на вуліцы Гогаля. “Сурма на лецішчы працуе,” – казалі тыя, хто ведаў пра яго месцазнаходжанне. А мне адразу ўзгадваліся яго акварэльныя пейзажы з залацістымі соснамі, вясковыя краявіды, рачныя плыні з адбіткамі аблокаў і дрэў. Недзе ў такіх мясцінах знік мастак Генадзь Сурма, працуючы на грэшнай зямлі з рыдлёўкай, віламі і граблямі.

Але з часам моцная натура пераварыла ўсё непатрэбнае, і творца вярнуўся да свайго любімага мастацтва, каб з новымі сіламі па-новаму сказаць пра сябе, пра сваю радзіму залатым голасам пэндзля, пакінуўшы на бела-шэрым палатне жоўта-барвовы след спелых рабін, апалага восеньскага лісця, зжаўцелай травы на поплаве, сярэбранага павуціння, першага інею на азімых. Яго новыя пейзажы і нацюрморты ўнеслі свежае паветра ў выставучную залу, у мастакоўскі асяродак.

Пасля акварэляў Генадзь Сурма звярнуўся да алейнага жывапісу, выказваючы свае новыя пачуцці і думкі, паказваючы сябе зусім з іншага, невядомага дагэтуль боку. Пасля шэра-серабрыстых, зеленаватых акварэляў заззялі вясёлкавымі фарбамі краявіды і дары садоў і лясоў, з-за свінцовых хмараў прабіліся промні выратавальнага сонца. Так мастак Генадзь Сурма вярнуўся да аматараў выяўленчага мастацтва сваімі новымі творамі, сваім новым настроем і пачуццём годнасці на сваёй роднай зямлі. Ён шмат працаваў у тыя гады, нібы спяшаўся сказаць нешта важнае, толькі яму вядомае... І гэта ўдалося, хаця маналог гэты аказаўся няскончаным. А дагаворваць застаецца ўжо іншым мастакам, яго таварышам па цэху, яго паслядоўнікам ужо іншаю моваю на новых жыццёвых скрыжалях.

Мінае час, а ў памяці застаюцца запамінальныя вобразы з акварэляў “Першы снег. Ноч”, “Возера Белае”, “Светлая вясна”, “Камароўка”, “З маленства”, з жывапісных палотнаў “Вечар ля ракі”, “Восеньскі нацюрморт”, “Снапы”, “Бэз”... Чамусьці больш за ўсё ўзгадваюцца нацюрморты з бэзам... Светлая вясна назаўсёды засталася ў карцінах мастака Генадзя Сурмы, народжанага сакавіцкім днём.

# МАСТАК З ДУШОЙ ВАНДРОЎНІКА



Талент мастака ў Валерыя Кавальчука праявіўся рана, таму нездарма ён трапіў у свой час у Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве, а потым – і ў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут.

Галоўная дзеючая асоба ў творах Валерыя Кавальчука – чалавек. Партрэт сучасніка прываблівае сваёй дасканаласцю, каларытам, дэталёвай распрацоўкай, як гэта бачна ў вялікім палатне “З акна майстэрні”, дзе перад гледачом паўстае панарама роднага горада з яго новабудоўлямі. Добрае валоданне малюнкам, дасканалае веданне анатоміі чалавека дае магчымасць працаваць і з аголенай натурай, вынікам чаго з’яўляюцца такія палотны, як “Аголеныя”, “Мадэль і скрыпка” і вышэй названае. Манера напісання твораў мае ў мастака канструктыўную аснову, што вельмі спрыяе яго выкладчыцкай працы са студэнтамі.

Стварае Валерый Кавальчук і абстрактна-дэкаратыўныя кампазіцыі, быццам выліваючы на палатно згусткі сваёй творчай энергіі сродкам фарбаў (“Пачатак гульні”). Праўда, ён прызнаецца, што не вельмі любіць змешваць фарбы на палітры, але гэта не зніжае якасці твораў.

Увогуле ж, Валерый Кавальчук – мастак-манументаліст. Ён такім сябе бачыць і адчувае. Гэта адлюстроўваецца і на яго жывапісных палотнах. Але найперш Валерый любіць рабіць манументальныя сграфіта, мазаікі. Адзін з такіх твораў добра бачны на задняй сцяне будынка кінатэтра “1 Мая”, што па вуліцы Савецкай. Апошнім часам падобныя работы рэдка выпадае выконваць – няма заказаў.

Яшчэ мастак любіць вандраваць. За апошнія некалькі гадоў аб’ездзіў амаль усю Еўропу, пабачыў у музеях і на вуліцах гарадоў Італіі, Іспаніі, Францыі шмат шэдэўраў жывапісу і архітэктуры. Замежныя вандроўкі натхняюць на стварэнне новых палотнаў, адным з якіх з’яўляецца “Ватыкан” з кідкай прыгажуняй на пярэднім плане. Панарама Вечнага Горада ўражвае сваёй веліччу. У Еўропе мастаку больш за ўсё спадабалася ў Нарвегіі, дзе атрымаў незабыўныя ўражанні ад мясцовых фіёрдаў.

Асноўным жа месцам працы Валерыя Кавальчука з’яўляюцца, канечне ж, аўдыторыі роднага ўжо яму тэхнічнага ўніверсітэта, дзе мастак вучыць студэнтаў сакрэтам малюнка і жывапісу (прыйшоў туды працаваць з Канстанцінам Калодзічам, калі пасля доўгага перапынку кафедра аднавілася).

Дацэнт кафедры архітэктурнага праектавання і малюнка Валерый Яўгенавіч Кавальчук карыстаецца заслужанай павагай як студэнтаў, так і калег-выкладчыкаў, бо шмат часу аддае любімай справе, рыхтуючы яшчэ і метадычныя рэкамендацыі па малюнку і жывапісе. Летам ездзіць са студэнтамі на пленэры-практыкі ў цікавыя сваёй архітэктурай гарады.

У мастака многа творчых планаў, бо шмат атрымаў уражанняў ад замежных вандровак, ад паездак па Беларусі. А значыць, найлепшыя палотны – наперадзе.



*“З акна майстэрні”*

# ГАРМОНІЯ ДУХУ І МАЙСТЭРСТВА



Мікалай Пятровіч Кузьміч, брэсцкі мастак-эмальер, прачнуўся знакамітым у 1997 годзе, калі ўзнавіў па замове Беларускага экзархата РПЦ нашу нацыянальную святыню – Крыж Еўфрасінні Полацкай. З таго часу яго імя на слыху па ўсёй Беларусі і не толькі.

Нібыта непрыкметна-павольна цурчыць час скрозь далоні працавітых рук мастака-эмальера, а ўжо за плячыма шэсцьдзясят пражытых гадоў, з якіх палова аддадзена служэнню ў мастацтве...

А напачатку ў будучага знакамітага творцы былі неаднаразовыя спробы паступіць у Мінскае мастацкае вучылішча імя А. Глебава, куды ў рэшце рэшт трапіў толькі ў 28-гадовым узросце (годам пазней прыёмная камісія нават не дапусціла б яго да іспытаў). Скончыў вучылішча ў 33 гады (сімвалічны ўзрост!).

Ужо тады Мікалая моцна захапіла мастацтва эмалі. Кваліфікаваных спецыялістаў у гэтай унікальнай, вядомай яшчэ са старажытных часоў справе на той час у Беларусі не было. (На землі Кіеўскай Русі эмальерная справа прыйшла з Візантыі больш за тысячу гадоў таму.) Мікалай Кузьміч ездзіў на ўсесаюзныя, міжнародныя выставы і сімпозіумы ў Юрмалу, Палангу, іспанскі горад Ла-Карунья. Тыя творчыя камандзіроўкі дапамаглі мастаку ва ўдасканаленні эмальернай тэхнікі: працуючы побач з вядомымі майстрамі, ён набываў не толькі каштоўны вопыт, але і шукаў асабісты мастакоўскі стыль і шлях. Не ўсе ведаюць, што эмаль аб'ядноўвае ў сабе шматвобразнасць тэхнічных магчымасцей. Саюз агню, металу і крохкага шкла дае незвычайны каларыстычны і фактурны эфект. Перапальванне і недапальванне матэрыялу ўзбагачае палітру. А ў творах Мікалая Кузьміча тэхніка і матэрыял узаемна дапаўняюць і ўзбагашчаюць адно аднаго. Пазней работы мастака-эмальера знайшлі пачэснае месца ў музеях, галерэях, прыватных калекцыях шэрагу краін Еўропы і Амерыкі.

Ведаю Мікалая Пятровіча даўно. А бліжэй сутыкнуўся, калі той стаў старшынёй Брэсцкага аддзялення ГА "Беларускі саюз мастакоў", дзе ён адпрацаваў два тэрміны і атрымаў званне "Заслужаны дзеяч мастацтваў". Канечне, адміністратыўна-кіруючая праца не творчая, але нешта зрабіў і на гэтай пасадзе для мастакоў Берасцейшчыны: адсвяткавалі 60-годдзе брэсцкага аддзялання Саюза мастакоў вялікай выставай у выставачнай зале па вуліцы Савецкай, прыёмам у губернатара Канстанціна Сумара (у падарунак мастакі атрымалі сігнальныя экзэмпляры новага альбома-каталога "Мастакі Берасцейшчыны"), два гады запар правялі абменныя выставы з польскімі калегамі Познані.

За гэтыя апошнія гады Мікалай Кузьміч аднавіў раку (дамавіну), у якой знаходзяцца цяпер астанкі святой Еўфрасінні Полацкай, правёў персанальныя выставы творчых работ-эмаляў у Мінску, Полацку і Брэсце, даўшы волю фантазіі і майстэрству. Цыклы твораў "Вежы", "Беларуская Антлантыда" (знакамітыя постаці з гісторыі Беларусі: Рагвалод, Усяслаў, Брачыслаў, Еўфрасіння Полацкая і іншыя) і абстрактныя кампазіцыі былі з цікавасцю сустрэты аматарамі выяўленчага мастацтва Беларусі. Пазней значную частку гэтых эмаляў Мікалай Кузьміч падорыў Мастацкаму музею ў Брэсцкай крэпасці.

Мікалай Пятровіч вядомы і як мастак, які вывучыў і аднавіў унікальную старажытную візантыйскую тэхніку перагародчатай эмалі. Спатрэбіліся доўгія гады даследчыцкай работы, пакуль авалодаў гэтай вельмі складанай тэхнікай, якую пасля выкарыстаў для аднаўлення Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай. Выдатна, што ў Беларусі ёсць такі майстра-эмальер, з імем якога звязваюць сучаснае адраджэнне беларускага эмальернага мастацтва.

У нашы часы эмаль вярнулася, прыцягвае ўвагу ювеліраў, мастакоў, скульптараў, ману-

менталістаў. Мастакі выкарыстоўваюць у сваёй працы нетрадыцыйныя метады ў эмальернай тэхніцы.

Сёння творчыя памкненні знакамітага мастака не абмяжоўваюцца толькі аднаўленнем праваслаўных рэліквій. Полацкія матывы, зніклыя помнікі даўніны, вобразы беларускіх святых, летнія асацыяцыі – тэмы невялікіх цікавых работ па метале, у якіх пануе гармонія духу і майстэрства.



*"Ікона"*



*"Стаўратэка да Крыжа Еўфрасінні Полацкай"*. Эмалі

# СУСТРЭЧА З БАЦЬКАМ



Цяжкай і доўгай аказалася дарога Рыгора Кірдзея да магілы бацькі, каб прывезці на радзіму некалькі жменяў зямлі з месца яго пахавання...

Рыгор нарадзіўся ў сям'і медыцынскага служачага Івана Ігнатавіча Кірдзея і хатняй гаспадыні Марыі Ігнатаўны ў гарадскім пасёлку Чырвоная Слабада Салігорскага раёна (былым раённым цэнтры) у далёкім 1938-м годзе.

Праз тры гады пачалася вайна, на другі дзень якой у гарадок уварваліся немцы на матацыклах. Напачатку яны сагналі ўсіх яўрэяў у адно месца, потым пагналі ў поле да выкапаных равоў, дзе і расстралялі ўсіх. Так пачалося жыццё ў акупацыі, у якім больш даставалася ад сваіх – паліцаяў... Пасля расстрэльнай акцыі на плошчы Чырвонай Слабады карнікі сабралі мужчын, перапісалі і дадалі, што ўсе будуць служыць у паліцыі, дапамагаць акупацыйнаму рэжыму.

Калі Іван Кірдзей вярнуўся дадому, то пра ўсё расказаў жонцы, дзецям і заявіў, што трэба накіроўвацца ў лес. Увечары ўсёй сям'ёй сабралі неабходныя рэчы, узялі карову і адшукалі сабе прыстанішча ў гусным ельніку. Там жа выкапалі зямлянку, прыстасавалі пад жыллё. Так пачалося жыццё ў лесе. У гэтым цяжкім становішчы шмат дапамагаў з ежаю Рыгораў дзед па маці Ігнат, які жыў у вёсцы. На той час у сям'і было пяцёра дзяцей. Але выпадалі і такія моманты, калі немцаў у гарадку не было, і тады людзі з лесу вярталіся на нейкі час на свае сядзібы, каб не пазарасталі пустазеллем. А як толькі даведваліся, што немцы зноў ідуць, то беглі хавацца назад у лес.

Прыйшло доўгачаканае вызваленне ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, а з ім – і прызыў на службу ў войска прыгодных мужчын. Так Іван Ігнатавіч трапіў на фронт, дзе загінуў 28 студзня 1945 года пры вызваленні Познані на тэрыторыі былой Усходняй Прусіі (пахавальная захоўваецца ў сям'і Рыгора Іванавіча).

Немцы доўга трымаліся ў Познаньскай крэпасці, таму асноўныя сілы Першага Беларускага фронту абышлі яе і працягвалі наступаць у напрамку Берліна. А нямецкага войска ў цытадэлі заставалася шмат, яно злосна супраціўлялася – вось і палегла там больш за 16 тысяч савецкіх салдат і афіцэраў, у тым ліку і бацька Рыгора Кірдзея. Пазней, трыццаць гадоў таму, на тых могілках пабываў брат Рыгора Павел, калі сам служыў афіцэрам, зрабіў фотаздымкі. Прывёз тасама касету з успамінамі былых вайскоўцаў пра тыя баі.

А сам Рыгор Іванавіч не мог трапіць у Познань доўгі час: лёс склаўся так, што ў 1956 годзе ён апынуўся ў Казахстане – калі па камсамольскай пуцёўцы паехаў на будаўніцтва савецка-кітайскай чыгункі. Потым тры гады служыў у войску ў Туркменіі, вучыўся ў Алма-Ацінскім мастацкім вучылішчы імя М.Гогаля, якое скончыў з чырвоным дыпломам (дарэчы, дыпломная праца была па Брэсцкай крэпасці, якую ён бачыў да таго толькі па фотаздымках). І так адсутнічаў на радзіме Рыгор Іванавіч доўгія 32 гады, пакуль у 1982-м не абмяняў кватэру на горад Брэст, які з таго часу і стаў такім родным і блізкім...

Але паездка на магілу бацькі ў Познань па розных прычынах усё адкладвалася, не атрымлівалася, пакуль не выпадак з выставай брэсцкіх мастакоў у Познані. Ды і тут спачаку не пашанцавала, бо замест калектыўнай выставы зрабілі выставу асобных мастакоў, так бы мовіць, "келейна". Але, як кажуць, што ні робіцца, то ўсё да лепшага. І калі старшыня абласной арганізацыі Беларускага саюза мастакоў Мікалай Кузьміч папрасіў познаньскага моцнага бізнэсмена Здзіслава Філіпяка (ён жа кіраўнік фірмы "А – Z", віцэ-прэзідэнт Познаньскай акругі Саюза польскіх мастакоў) дапамагчы з паездкаю, то Здзіслаў зрабіў запрашэнне для Рыгора Кірдзея. А Саюз польскіх мастакоў за свой кошт пасяліў у лепшы гатэль, аплаціў усе неабходныя выдаткі. (На той час ужо пачала працаваць выстава познаньскіх мастакоў у Брэсце.)

Такім чынам, нарэшце мастак Рыгор Іванавіч Кірдзей апынуўся ў Познані – горадзе, дзе ягоны бацька прыняў апошні бой за вызваленне Еўропы ад фашысцкага нашэсця. Радавы Іван

Кірдзей быў пахаваны разам з іншымі савецкімі воінамі на могілках мястэчка Гурчын, былога прыгарада Познані. А ў 1961 годзе астанкі савецкіх вайскоўцаў былі перазахаваны ў Познаньскай цытадэлі. У цэнтры гэтай крэпасці на пагорку высіцца стэла-шпіль, да якой вядзе лесвіца са шматлікімі прыступкамі, а з правага боку на тэрасе знаходзіцца магіла Івана Ігнатавіча Кірдзея. На магільнай пліце з граніту – адпаведны надпіс, адліты з чыгуну. Усё зроблена прыстойна, акуратна і з належным густам.

На гэтыя могілкі, з дапамогай познаньскіх мастакоў Гжэгоэжа Ратайчука і Томаша Сівіньскі, і трапіў брэсцкі мастак Рыгор Кірдзей – да месца апошняга зямнога прыстанішча свайго бацькі Івана Ігнатавіча. Ля магілы стаялі доўга. Ніхто нікуды не спяшаўся. Рыгор Іванавіч паклаў на магілу бацькі кветкі, паставіў свечку, прачытаў малітву “Ойча наш...”. Па славянскім звычаі памянулі...

Так вось закончылася гэтая гісторыя. У Рыгора Іванавіча бы гара з плячэй звалілася. Цяпер яму стала лягчэй на душы, лягчэй на сэрцы. Зямлю з бацкавай магілы ён паклаў на магілы сваёй маці Марыі Ігнатаўны і дзеда з бабуляю...

А яшчэ Рыгор Іванавіч ніколі не забудзе пра дапамогу бізнэсмена Здзіслава Філіпяка, польскіх мастакоў Гжэгожа Ратайчука і Томаша Сівіньскі, якія чатыры дні былі побач з ім у Познані. І асаблівая ўдзячнасць – сябру па мастакоўскім цэху Міколу Кузьмічу. Свет не без добрых людзей!..



*“Балотныя кветкі”*



*“Ля возера”*

# З НАСТАЛЬГІЯЙ ПА ДУШАНБЭ



За 10 дзён да пачатку Вялікай Айчыннай вайны, 12 чэрвеня 1941 года, у пасёлку Шахрынау ў Таджыкістане бліз межаў з Індыяй, Кітаем і Пакістанам нарадзіўся хлопчык. Бацька даў яму імя Дот. Нарадавацца сынам бацька Самат не паспеў: яго ў хуткім часе ўзялі на фронт, адкуль ён ужо не вярнуўся.

Бацька быў моцным мужчынам. Працаваў праваднiком – суправаджаў людзей праз перавал. Таксама даводзілася і скаціну пераганяць праз той перавал, які выводзіў на Ферганскую даліну. Маці Саліма памерла ў галодныя ваенныя гады. Таму з 4-х гадоў Дот выхоўваўся ў раённым дзіцячым доме, які потым перавезлі ў Душанбэ, знаходзіўся ў рускамоўным асяродку.

Тут ён пачаў захапляцца малюнкам і жывапісам. Хлопчыкам назіраў за мастакамі, якія выкладалі ў школе, з 4 класа хадзіў на эцюды з членамі мастацкага гуртка. У дзіцячым доме пасля 8 класа накіроўвалі ў прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, але Дот паступіў у мастацкае, потым – у Ленінградскае вышэйшае мастацка-прамысловае вучылішча імя Веры Мухінай. У горадзе на Няве і сустрэўся з будучай жонкай Клаўдзіяй Уладзіміраўнай Ламаносавай, якая займалася ў тэхнікуме пры фабрыцы тэхналогіяй ткацтва і трыкатажнай вытворчасці.

У 1969 годзе Дот Абдусаматаў, яшчэ будучы студэнтам, ажаніўся ў Брэсце. Дзеці, Алена і Зарына, таксама нарадзіліся ў горадзе над Бугам. (Алена скончыла ў Мінску інстытут замежных моў, Зарына – бухгалтарскі тэхнікум, акадэмію эканомікі).

Па накіраванні малады спецыяліст Абдусаматаў пасля заканчэння вучылішча паехаў працаваць у Душанбэ, у мастацкае вучылішча. У Саюз мастакоў СССР яго прынялі ў 1980 годзе (год быў кандыдатам). Праз 5 год Дот Саматавіч перайшоў працаваць у Мастацкі фонд. Ён быў першым мастаком, які заснаваў майстэрню па габелене. Сваімі лепшымі творамі майстар лічыць вялікую серыю габеленаў, створаных у савецкія часы. Гэта былі тэматычныя фігуратыўныя кампазіцыі філасофска-паэтычнага, музычнага напрамку.

У 1992 годзе мастак выехаў з Душанбэ – там ужо адчуваўся дыскамфорт, а потым пачалася вайна. У супольнасць берасцейскіх творцаў Абдусаматаў увайшоў з вялікім жаданнем працаваць. Першы знаёмы мастак па Брэсце – Міхась Кебец. З ім і Анатолем Жалудка сумесна ездзілі на пленэры ў Польшчу (2002 – 2003 гг.). Мастак любіць творчыя камандзіроўкі і па магчымасці ездзіць на пленэры. А ў 2009 годзе Дот Саматавіч пабываў у родным Душанбэ па запрашэнні свайго сябра-калегі, месяц хадзіў на эцюды. Пасля тых настальгічных уражанняў працуе цяпер над жывапіснымі фігуратыўнымі кампазіцыямі ў сваёй творчай майстэрні.

Усе гады мастак шмат сіл аддае працы. У савецкія часы рабіў мастацкія выставы ў Празе, Улан-Батары, Зальцбургу (Аўстрыя).

Працаваў у Маскве (з 1994 года па 2000 год). Здымаў майстэрню, працаваў у Сонечнагорску на Сінежы ў Доме творчасці СМ СССР.

У ліпені 2012 года Дот Саматавіч правёў у выставачнай зале на вуліцы Савецкай у Брэсце сваю першую – і пакуль адзіную – персанальную выставу жывапісных твораў у Беларусі, адзначыўшы такім чынам свой 70-гадовы юбілей, хай і на год са спазненнем. Прысутныя былі зачараваныя яго працамі і дзякавалі мастаку за ўдалую экспазіцыю. Гэта была доўгачаканая падзея ў горадзе. "Усё праходзіць" – такою была агульная назва выставы. Прыхільнікі мастацтва маглі пазнаёміцца больш чым з 70-ю жывапіснымі работамі. Усё праходзіць, і ўсё ўзаемазвязана ў жыцці. Адыход аднаго становіцца пачаткам другога... Новага часу, новага натхнення, новых уражанняў і ўспамінаў, новай радасці і смутку...

Мастак Дот Абдусаматаў больш схільны да фантазіі ў мастацтве, да творчай думкі. Педагогі-мастакі некалі вучылі думаць, пераасэнсоўваць убачанае. Таму Абдусаматаў любіць працаваць у майстэрні. Натура яму патрэбна для эмоцый. Атрымліваюцца ў яго больш цікавымі

сюжэтныя творы (“Флора”, “Сон Фаўна”, “Самсон і Даліла”, “Кампазіцыя”, “Грацыя”, “11 верасня 2001 года”). Але не цураецца пісаць арыгінальныя нацюрморты з кветкамі, пейзажы з белавежскімі зубрамі, гарадскія краявіды (“Касачы”, “Бэз”, “Вясна”).

Дот Саматавіч заўжды творча непакоіцца: завяршаючы адны жывапісныя творы, ён ужо трымае на прыкмеце новыя складаныя ідэі-кампазіцыі. Як сапраўды творчы чалавек, жыве ствaральным памкненнем мастака здзівіць свет. І прага творчасці, безумоўна, натхніць яго на новыя, яшчэ больш цікавыя жывапісныя палотны.



*“Грацыя”*



*“Кафэ”*

# МУЗЕЙНЫ МАСТАК



Сціплы, непрыкметны мужчына хутка крочыць па вуліцы Карла Маркса ў абласным цэнтры – спяшаецца на працу. Па знешнім выглядзе і не зразумееш, што перад табою вядомы мастак-графік, старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза мастакоў Мікалай Гуршчанкоў, чалавек, які многа сіл аддаў музейнай справе.

Так, у апошнія гады перад пенсіяй Мікалай Ігнацьевіч звязаў свой лёс з Брэсцкім краязнаўчым музеем (прыйшоў сюды ў 1997 годзе). Спачатку ён нават уявіць сабе не мог, што давядзецца працаваць тут. Але насуперак сваёй творчай планідзе прыняў прапанову, бо на той час дачка ўжо вучылася ў Беларускай дзяржаўнай Акадэміі мастацтваў, таму грошы трэба было неяк зарабляць – студэнтку падтрымліваць і сабе на жыццё. Потым не раз дзівіўся, што так атрымалася. Але ўсё што ні робіцца – робіцца на карысць. Праца ў музеі дапамагла рэалізаваць шмат цікавых творчых праектаў: Музей прыроды, Музей гісторыі Брэста, Музей у Камянецкай вежы... Доўга можна пералічваць створаныя экспазіцыі, экспанаты.

Супрацоўнікі музея дзівіліся таму, як удумліва і творча мастак падыходзіў да ўсяго ў сваёй рабоце. З цягам часу ўзбагаціўся ведамі па гісторыі Берасцейшчыны, што дало магчымасць да 990-годдзя горада над Бугам стварыць на вуліцы Савецкай некалькі манументальных работ: сграфіта “Бярэсце XVII стагоддзя”, роспісы “Манетны двор”, “Берасцейская друкарня”. Выконваў роспісы Дома культуры ў вёсцы Клепачы Пружанскага раёна, прымаў актыўны ўдзел у мастацкіх выставах. Не адзін год Мікалай Гуршчанкоў ездзіў на міжнародныя мастацкія пленэры у Буда-Кашалёва, Светлагорск, Тураў...

Мікалай Ігнацьевіч часта ўспамінаў, як у 5-гадовым узросце нечакана стаў уладальнікам вялікай колькасці каляровых алоўкаў: іх прывёз старэйшы брат Іван, які служыў на флоце ў Мурманску і прыехаў на пабыўку. З таго часу і пачаў маляваць. Потым хлопчык займаўся ў студыях выяўленчага мастацтва ў Гомелі ў педагогаў Віктара Казачэнкі і Валянціны Пакацішынай.

Пасля заканчэння ў 1976 годзе Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (вучыўся ў адной групе з такімі вядомымі цяпер мастакамі як Мікола Селяшчук, Уладзімір Савіч, Мікола Купава, Раіса Сіплевіч) Мікалай Ігнацьевіч працаваў на Гомельшчыне – у Мазыры. Там жа ў яго з жонкай Антанінай нарадзілася дачка Алеся, там жа ўступіў і ў Саюз мастакоў. Гэты перыяд творчасці ў Мікалая Гуршчанкова асацыіруецца з напружанай, мітуслівай, але мілай сэрцу працай. Ды насталі складаныя часы – разваліўся СССР, трэба было нешта мяняць у жыцці, неяк прыстасоўвацца да новых рэалій.

Жонка Антаніна Фёдараўна цягнула яго з дачкою на сваю Берасцейшчыну: вельмі ўжо хацелася ёй вярнуцца на радзіму. Так і апынуліся ў 1992 годзе ў Брэсце, так і звязаў свой лёс з гэтым горадам. Атрымаўшы дыплом скульптара, сюды ж прыехала і дачка Алеся з мужам Паўлам Герасіменкам – таксама скульптарам. Цяпер у Брэсце жыве моцная, творчая сям’я Гуршчанковых-Герасіменкаў. Дарэчы, жонка Мікалая Ігнацьевіча таксама ў свой час скончыла Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут і зараз працуе ў галіне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы Мікалай Гуршчанкоў стварыў цікавы графічны твор “Сустрэча перад Грунвальдам Вітаўта і Ягайлы”. Ды і для самога мастака гэты год пачаўся добра: быў абраны старшынёй Брэсцкага аддзялення ГА “Беларускі саюз мастакоў”, адзначыў свой 60-гадовы юбілей. У параўнанні з грунвальдскім – юбілей невялікі, але такі значны ў асабістым жыцці. За плячамі – гады вучобы. А наперадзе – новы творчы плён.



*“Свята горада ля ЦМТ у Брэсце”*




*Роспіс “Брэсцкая друкарня”*

# НЕАД'ЕМНАЕ СЯРГЕЯ КАЗАКА



Неяк трапіў у госці да сваёй знаёмай па школе (ужо і даўнавата гэта было: напрыканцы мінулага стагоддзя). Калі зайшла размова пра мастакоў, Людміла Лейчык паказала мне алоўкавы партрэт сваёй сяброўкі, намаляваны Сяргеем Казаком. Пасля заканчэння інстытута Сяргей пэўны час працаваў у школе, натуршчыц-вучаніц было там дастаткова...

З жывапісных твораў мне найбольш падабаецца ягоная карціна "Ля калодзежа", на ёй – спрадвечны калодзеж і дзяўчына, што рухаецца некуды наперад, нібыта ветразь. Мастак Сяргей Казак, як і ягоная гераіня, заўсёды рухаецца толькі наперад – не прыпыняючыся надоўга ля створанага, бо новыя ідэі і задумкі падштурхоўваюць яго далей і далей да новых адкрыццяў і здзяйсненняў у мастакоўскай справе...

І яшчэ адзін твор, які помніцца сонечнай песняй дзяўчыны, што гушкаецца на арэлях у садзе, нібы на хвалях часу. "Сонечныя арэлі" не пакідаюць гледача абыякавым, прымушаюць спыніцца, затрымаць погляд на постаці і твары прыгажуні, бо вельмі многа ў мастацтве можна выказаць праз жаночае і дзявочае хараство (у гэтым сэнсе цікавы партрэт паэткі-зямлячкі Ніны Мацяш)...

Але ў мастакоўскай галерэі партрэтаў ёсць і мужчынскія постаці, і не абы якія, а слынныя, знакамітыя: Францыск Скарына, невядомы стары шляхціч (Сяргей пісаў гэты партрэт са свайго дзеда), наш зямляк Казімір Лышчынскі, Максім Багдановіч, літаратуразнаўца і пісьменнік Уладзімір Калеснік... Партрэтны жывапіс Сяргея Казака заўжды прываблівае і прываблівае. А цяпер яшчэ мастак робіць шмат графічных партрэтаў. Захапленне партрэтам, гістарычнай тэматыкай – не пакідае творцу. І што можа быць цікавей гісторыі роднага краю, што можа быць цікавей самога чалавека – творцы гэтай гісторыі! Трэба толькі пільна ўглядацца ў старонкі сівой мінуўшчыны, углядацца ў твары блізкіх і родных людзей, каб паяднаць былое і сучаснасць.

У творчым жыцці мастака Сяргея Казака быў адзін не вельмі прыемны эпізод: яго вывелі са складу сяброў Саюза мастакоў (у тым спісе апынуліся і вядомыя нашы творцы Іосіф Крупскі і Мікалай Маеўскі). Праўда недзе пасярэдзіне, але ацэнку мастаку і яго працам дасць час, а прыналежнасць да таго ці іншага грамадскага аб'яднання не вызначае якасны бок творчасці. Галоўнае – талент. І каб людзі атрымлівалі эстэтычнае задавальненне ад твораў, каб звярталіся да іх зноў і зноў. Прыгажосць павінна заўжды прысутнічаць побач, як і свежае паветра любай радзімы...



*"Неад'емнае. Ля калодзежа"*

# ПАЛЕСКАЯ ПАЛІТРА СТОЛІНСКАГА МАСТАКА ЮРЫЯ СЕРГІЕНКІ



Юрый Пятровіч Сергіенка – знакаміты пейзажыст з Палесся. Ён пачынаў, як і многія іншыя мастакі, з самадзейнай творчасці, з замілавання ад пахаў алейных фарбаў, ад казачных ліній алоўка, ад белых аркушаў паперы ... Ад закаханасці да родных краявідаў.

Нарадзіўся Юрый Пятровіч у першы дзень вясны ў вёсцы Новы Радзін Гомельскай вобласці. У 1947 годзе бацькі пераехалі на пастаяннае жыхарства ў Столін. Быў цяжкі пасляваенны час, таму і даводзілася шукаць лепшага жыцця для сябе і сваіх дзяцей. Так і аселі на берасцейскай зямлі, якая з часам стала роднай. З маленства мясцовыя краявіды зачаравалі Юрыя Сергіенку непаўторнай палескай прыгажосцю, з якой у сэрцы мастак жыве і працуе і да цяперашнага часу.

Ужо ў адзінаццацігадовым узросце ў яго адбылася першая персанальная выстава ў Мінску. Гэта было сапраўднае свята для хлопчыка! Потым ужо займаўся ў студыі выяўленчага мастацтва ў выдатнага педагога Юстафа Высоцкага, вучыўся ў Народным універсітэце мастацтваў імя Н.К.Крупскай у Маскве, у старэйшых знакамітых майстроў пэндзля, якія прыязджалі ў жывапісныя мясціны Століншчыны на пленэры. Так паступова набіраўся вопыту, майстэрства.

У сваёй творчасці Юрый Пятровіч аддае перавагу пейзажу, бо сярод родных палёў і лясоў яму найлепш дыхаецца і працуецца. Шматлікія эцюды з натуры потым творча пераасэнсоўвае і стварае непаўторныя карціны-пейзажы (“Палескі край”, “Пакінутыя хаты”, “Перад навальніцай”). Даводзіцца часам працаваць і над партрэтамі, нацюрмортамі...

Удзельнічаць у выставах Юрый Пятровіч пачаў як самадзейны мастак з 1975 года. Яго плённая творчая дзейнасць адзначана шматлікімі ўзнагародамі. У асабістым архіве захоўваюцца граматы Саюза мастакоў СССР ажно за 1952 год. Здаралася, за год рыхтаваў па дзве-тры персанальныя выставы. Акрамя творчай працы з фарбамі і пэндзлямі Юрый Сергіенка плённа працаваў кіраўніком мастацкай студыі ў Столінскім доме піянераў і школьнікаў, мастаком у Доме культуры. Доўгі час не меў уласнай творчай майстэрні (даводзілася працаваць у прыстасаваных памяшканнях). Але паступова праблема вырашылася: Юрый Пятровіч пабудаваў сваю асабістую галерэю для жывапісных твораў – у той час, калі людзі будавалі катэджы.

І цяпер, ужо маючы пенсійны ўзрост, мастак штодзённа прыходзіць у сваю майстэрню, якая знаходзіцца побач з домам, працуе шчыра і плённа – так прывык з дзіцячых гадоў. Вельмі любіць родную прыроду. З гадамі Юрый Пятровіч выпрацаваў свой асабісты стыль жывапісу – малы мазок, карпатлівая прапрацоўка натуры. Яго Палессе прываблівае гледача радасцю жыцця, харастом краявідаў, павагай да землякоў-працаўнікоў, тым узнёслым душэўным настроем, з якім ніколі не развітваецца. Лірычныя пейзажы мастака “Галасы на Палессі”, “Лён”, “Гарынь”, “Апошні снег” кранаюць тонкія струны душы кожнага чалавека, які хоць аднойчы апынуўся перад гэтымі палотнамі ў выставачнай зале...

Вось так і жыве ў палескай глыбінцы цудоўны чалавек і мастак Юрый Сергіенка, які сваімі жывапіснымі пейзажамі праслаўляе родны край, нашу Бацькаўшчыну...

А я Юрыя Пятровіча Сергіенку як цудоўнага мастака і чалавека ведаю доўгія гады (пазнаёміліся ў 1981-м). І ніколі не забываю, нават калі доўга не бачу і не чую.

# СЯМЕЙНАЯ ВОСЕНЬ МАСТАКОЎ



Імя Генадзя Вяля добра вядома ў Брэсце і далёка за яго межамі. Ён – майстар малых графічных форм, лаўрэат прэмій прэстыжных еўрапейскіх конкурсаў у Бельгіі, Югаславіі, Галандыі, Германіі, Партугаліі, Польшчы, Францыі, Італіі, Расіі, уладальнік галоўнага прыза Міжнароднага конкурсу сучаснага экслібрыса ў літоўскім Шаўляі ў снежні 2005 года. Нядаўна Генадзь Ігаравіч атрымаў узнагароду "За дасягненні ў галіне кніжнага дызайну" міжнароднай федэрацыі экслібрыса FISAE.

Прафесіяналізм і бездакорнасць выканання адчуваюцца ў яго афортах розных гадоў: "Мая Джаконда" (1986г.), "Рыцар, смерць і д'ябал" (аўтаэкслібрыс, 1981г.), "Купалінка" (1989г.), "Квартэт" (1998г.), "Лукамор'е" (1996г.), "Прагулка" (2008г.). Захапляюць сваім майстэрствам выканання малюнкі "Аксана" (2006г.), "Кацярына" (2005г.), "Іна" (1990г.), "Сіні патэфон" (2007г.), "У каморы" (2007г.). Генадзь Ігаравіч любіць працаваць над партрэтам і адкрываць асаблівасці чалавечай душы. Яму падабаецца сам працэс працы з мадэллю з натуры, дзе ён праяўляе сябе як мастак-псіхолаг. Таксама такая праца дае магчымасць адпачыць ад штодзённага, абстрагавацца ад непатрэбнага...

Святлана Вяль ў свой час вучылася сумесна з будучым мужам на мастацка-графічным факультэце ў Віцебскім дзяржаўным педагагічным інстытуце. Потым была працяглая – больш за дваццаць гадоў – праца выкладчыкам у сярэдняй школе з архітэктурна-мастацкім ухілам №10 горада Брэста. З 2002 года Святлана Вяль – дырэктар Брэсцкай дзіцячай мастацкай школы. На новай пасадзе актыўна займаецца выхаваннем маладых мастакоў, паспяхова ўдзельнічае са сваімі вучнямі ў шматлікіх міжнародных выставах і конкурсах. Не так даўно ў Балгарыі яна была ўзнагароджана медалём за вялікі ўклад у справу міжнароднай папулярызацыі дзіцячай выяўленчай творчасці.

Асаблівую цікавасць выклікаюць яе з густам выкананыя габелены "Фрыз Бетховена" (1998г.), "Дрэва II" (2007г.), "Рыба I" (1994г.), "Рыба II" (1996г.), "Паэт" (1992г.). Гэтыя творы захапляюць, уражваюць сваёй кампазіцыйнай дасканаласцю і колеравай насычанасцю. Іх можна лічыць узорамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Новым падыходам да ўвасаблення тэм вызначаюцца па-майстэрску выкананыя выцінанкі "Вакзал "Брэст-Цэнтральны" (2004г.), "Брэст. Свята-Сімяонаўскі Кафедральны сабор" (2004г.), "Брэст. Касцёл Уваздзвіжання Святога Крыжа" (2004г.), "Гуканне вясны" (2002г.), "Надвячоркам" (2003г.). У выцінанках найбольш яскрава Святлана Віктараўна раскрывае свой мастацкі талент, адносіны да роднага краю і горада, дзе нарадзілася і паспяхова працуе. І такіх твораў як мага больш хочацца бачыць на мастацкіх выставах.

Бацькі-педагогі ганарацца сваёй дачкой Алінай, якая з 2004 года паспяхова займалася ў мастацкай школе пад іх кіраўніцтвам. У свае юныя гады дзяўчынка ўжо з'яўляецца лаўрэатам міжнародных конкурсаў у Балгарыі, Польшчы, Чэхіі. У 2005 годзе яна была стыпендыятам спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. Асобна можна вылучыць гравюры "Новы дзень" і "Паляванне". Па іх бачна, што Аліна працуе ў патрэбным накірунку, з'яўляючыся прадаўжальнікам сямейнай традыцыі ў выяўленчым мастацтве.

# ПРАЗ РАКУ ЖЫЦЦЯ



Менавіта ў жанры пейзажа найбольш яскрава праявіліся асаблівасці творчага почырку Леаніда Салаўёва: шырокая манера пісьма, стрыманы каларыт, абагульнены вобраз краявіду. Жывапіс мастака, акварэлі прываблiваюць сваім колерам, напоўненасцю дабрынёй і пяшчотай. Асабліва калі на іх восень, веснавое абуджэнне прыроды – плямы белага снегу і сінеча чыстага неба з адбіткамі яго ў талай вадзе. Леанід Мікалаевіч імкнецца ўзвышана-паэтычна ўвасабляць на палатне краявіды Берасцейшчыны, якія сталі яму роднымі.

Леаніда Салаўёва, як мастака, ведаю даўно: яшчэ са школьных гадоў прываблiваў ягоны жывапіс, калі заходзіў у выставачную залу па вуліцы Савецкай, што размяшчалася непадалёк ад вуліцы Маякоўскага (так бы мовіць, у мастакоўскім квартале). Пазней маё знаёмства з творцам і чалавекам Леанідам Салаўёвым перарасло ў добрыя сяброўскія адносіны, хоць ён і старэйшы за мяне... Але гэта ніколькі не перашкаджала нам сустракацца, весці размовы пра творчасць, хуткаплыннае жыццё...

Нарадзіўся Леанід Салаўёў у вёсцы Дзюнава Валагодскай вобласці. Але жыццё павярнулася так, што летам 1945 года маці Аляксандра Дзмітрыеўна з дзецьмі пераехала ў Брэст (бацькі тады ўжо не было: загінуў на вайне). Тут, у прыгранічным горадзе, Леанід пайшоў у першы клас сярэдняй школы №8. Тут прайшло амаль усё яго свядомае жыццё.

Скончыўшы ў 1958 годзе мастацкае вучылішча імя М. Самокіша і адслужыўшы ў Савецкай Арміі ў Грузіі, мастак працуе і потым працягвае вучобу ўжо ў Украінскім паліграфічным інстытуце імя І. Фёдарава ў Львове, які паспяхова скончыў у 1984 годзе.

Сціплы, душэўны чалавек, апантаны мастак – Леанід Мікалаевіч займаецца жывапісам, нягледзячы ні на якія жыццёвыя перашкоды, што пасылаюць усім нам пераломныя эпохі... Асабліва цяпер, калі ўжо колькі гадоў з'яўляецца пенсіянерам. А за спінаю засталіся доўгія гады плённай працы ва ўнітарным прадпрыемстве "Мастацтва".

Леанід Мікалаевіч чулы і ўважлівы чалавек. З ім побач заўсёды лёгка сябе адчуваеш: ці то ў сяброўскай размове, ці ў нейкай сумеснай працы. Прыпамінаюцца нашы паездкі ў прыгожы драўляны домік з зялёным дворыкам на вуліцы Брэсцкіх дывізій да яго старэнькай ужо тады маці. Аляксандра Дзмітрыеўна заўсёды ветліва нас сустракала, частавала смачнай ежай і гарбатай. Бывала, што налівала і чарку добрага віна за сустрэчу...

Добры, чулы чалавек, выдатны майстар пейзажнага жывапісу, Леанід Мікалаевіч заўсёды ў выдатнай творчай форме. Надоўга запомніліся такія яго жывапісныя творы, як "Партрэт студэнткі", "Партрэт польскай дзяўчыны", "Нацюрморт з бэзам", "Рака Лясная", "Вясенні блакіт", "Брэсцкая крэпасць", "Усмешка-восень". Асабліва ўражвае вялікіх памераў пейзаж "Стары масток", які быццам абагульняе ўсе яго папярэднія палотны, дадае значны філасофскі сэнс творам мастака. Масток паміж мінулым і сённяшнім, паміж сённяшнім і будучыняй праз раку жыцця.

Побач з мастаком Леанідам Салаўёвым заўсёды яго верны сябар – жонка Вера Сцяпанаўна – і двое сыноў. Якія ж могуць быць перамогі без надзейнага тылу?..

# Я – ЖЫВЫ!



“Я – жывы!” – так назваў сваю апошнюю жывапісную работу мастак Юрый Татарнікаў, які нечакана памёр 5 мая 2005 года, не паспеўшы паўдзельнічаць у выставе, прысвечанай 60-годдзю Перамогі, да якой сур’ёзна рыхтаваўся, бо тэма той вайны праходзіла праз яго творчасць скразной лініяй.... Пра вайну шмат расказваў яго бацька, засталіся незабыўныя ўспаміны пра пасляваенную Брэсцкую крэпасць...

З нагоды 70-годдзя з дня яго нараджэння адбыўся вечар творчасці, адкрыццё персанальнай выставы “Подых памяці” ў Мастацкім музеі ў Брэсцкай крэпасці (10 жніўня 2011 года), куды прыйшло шмат сяброў, калег, вучняў і проста тых, хто добра ведаў Юрыя Іванавіча.

Памятаю нашу першую сустрэчу ў 1981 годзе ў Дзіцячай мастацкай школе, што месцілася па вуліцы Пушкінскай абласнога цэнтра ў старой драўлянай пабудове. Юрый Іванавіч з барадою, добрай усмешкай на твары... Заўжды заварожвала яго сціпласць, спагадлівасць.

А нарадзіўся Юрый Татарнікаў 10 жніўня 1941 года ў горадзе Ліўны Арлоўскай вобласці. У 1945 годзе, пасля таго, як бацька закончыў службу ў арміі і выйшаў у адстаўку, сям’я пераехала ў Брэст. Ужо ў Брэсце ў 1958 годзе Юрый скончыў 13-ю сярэднюю школу. У школьныя гады паспяхова займаўся ў студыі выяўленчага мастацтва пры Доме народнай творчасці пад кіраўніцтвам Пятра Аляксеевіча Данэліі. Там і выявіўся яго талент, упартасць і настойлівасць у дасягненні мэты. Потым была служба ў Савецкай Арміі, пасля чаго скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя С. М. Кірава. Адтуль ужо Юрый Іванавіч вярнуўся ў родны Брэст разам з жонкаю Валянцінай Аляксандраўнай, аднакурсніцай, і маленькай дачкой Святланай. З 1969 па 1975 год працаваў настаўнікам у брэсцкай СШ№19, наступныя чатыры гады – у Брэсцкім тэхнікуме чыгуначнага транспарту. З 1979 года выкладаў малюнак, жывапіс і кампазіцыю ў Брэсцкай дзіцячай мастацкай школе.

У свой час мастаком была створана цікавая серыя жывапісных твораў “Лёс”: “Лета – жыта”, “Восень. Дарогі”, “Зіма – уцёкі”, “”Вясна – спакой”, “Доўгая ноч”, “Я – жывы”; трыпціх акварэляў “Транспарт”. Юрый Татарнікаў шмат працаваў не толькі як жывапісец, але і як акварэліст, ствараючы запамянальныя вобразы гарадскіх краявідаў (“Гандлёвыя рады”, “Новабудоўлі”, “Вуліца Савецкая”, “Старая сцяна”, “Зіма”, “Стары двор”, “Плошча Свабоды”, “Поле”). Брэст быў для мастака-педагога Юрыя Татарнікава, як і для многіх іншых мастакоў, галоўным месцам натхнення ў творчасці.

З 1973 года Юрый Іванавіч актыўна ўдзельнічаў у абласных, рэспубліканскіх выставах. Вынікам шматгадовай творчай працы стаў прыём у члены грамадскага аб’яднання “Беларускі саюз мастакоў” (у 1997 годзе, сумесна з сынам Паўлам і жонкай Валянцінай Аляксандраўнай).

– Юра пісаў своеасабліва. Ён ніколі ні з кім не раіўся, нічога не пытаў, спадзяваўся толькі на сябе самога. І ў выніку ствараў цудоўны жывапісны твор. У яго добра атрымліваліся і акварэлі, і карціны алеем, – казаў пра калегу Аляксандр Аляксандравіч Алонцаў, былы дырэктар Дзіцячай мастацкай школы.



*"Я – жывы" ("Гармоня")*



*"На вуліцы Савецкай Брэста"*

# ЗАЛАТЫЯ ЯБЛЫКІ ПАЎЛА ТАТАРНІКАВА



Павел Татарнікаў нарадзіўся ў сям'і мастакоў Валянціны і Юрыя Татарнікавых. Вучыўся ў СШ №20 горада Брэста. Потым, у 12-гадовым узросце, быў прыняты ў Рэспубліканскі каледж мастацтваў імя І.Ахрэмчыка. У 1995 годзе скончыў аддзяленне графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. З 1997 года Павел Татарнікаў з'яўляецца сябрам Беларускага саюза мастакоў. Адзіны ў Беларусі ўладальнік прэстыжнай узнагароды "Залаты яблык" (двойчы!) Міжнароднага біенале ВІВ-2001 у Браціславе (Славакія).

Упершыню я пазнаёміўся з творамі маладога мастака-графіка ў родным горадзе на сямейнай выставе Татарнікавых "60х30" (бацьку на той час было 60 гадоў, а сыну – 30). Потым гэтае знаёмства мела працяг. Я заўжды атрымліваю вялікае эстэтычнае задавальненне ад кніг, якія ён аформіў.

Нельга не пагадзіцца з тым, што зараз Павел Татарнікаў з'яўляецца адным з лепшых, калі не найлепшым, ілюстратарам беларускіх казак і кніг. Ён стаў выдатным прадаўжальнікам справы яшчэ аднаго нашага земляка – брастаўчаніна Міколы Селешчука – і дасягнуў мастакоўскага прызнання не толькі ў роднай Беларусі, але і далёка за яе межамі. Пра гэта сведчаць яго шматлікія выставы ў краінах Еўропы, у Японіі. Павел Татарнікаў па сваёй сутнасці і светаўспрыманні з'яўляецца беларускім мастаком. Варта толькі пагартаць кніжкі з яго ілюстрацыямі "Белая Русь. Гісторыя ў легендах і паданнях", "Званы Нямігі", "У гасцях у вечнасці", "За наміткай гісторыі" Анатоля Бутэвіча, "Сем цудаў Беларусі" Уладзіміра Ягоўдзіка, каб пераканацца ў гэтым.

Сёння Павел Татарнікаў можа дазволіць сабе выбіраць, дзе і над чым працаваць, на чым засяродзіць сваю творчую ўвагу. Мастак ўмее да афармлення кожнай кнігі падысці па-новаму, бо высокі ўзровень валодання кніжнай графікай і талент дазваляюць яму гэта рабіць. Ілюстрацыі мастака нельга прапусціць у экспазіцыі любой выставы.

У сваёй творчай працы Павел Татарнікаў неаднойчы звяртаўся не толькі да акварэльных увасабленняў вядомых архітэктурных помнікаў: Мірскага замка, Камянецкай вежы, Крэўскага замка, Каложы, Сынкавіцкай царквы, але і да легендарных вобразаў Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Францыска Скарыны, Міколы Гусоўскага, Льва Сапегі, Мікалая Радзівіла Сіроткі, Канстанціна Астрожскага, Настассі – княгіні Слуцкай, Соф'і Гальшанскай і іншых...

У 1995 годзе Павел скончыў Беларускую акадэмію мастацтваў (дыпломнай работай стала праца над кнігай Уладзіміра Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні"), праз два гады стаў сябрам Саюза мастакоў, а яшчэ праз чатыры быў выбраны акадэмікам Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва.

На сённяшні час Павел Татарнікаў з'яўляецца знакавай фігурай не толькі ў беларускай кніжнай графіцы, але і ў еўрапейскай, а калі сказаць правільней – сусветнай.



*"Мірскі замак"*

# МАСТАК З ЧЫРВОНЫМ ШАЛІКАМ



Бачу яго на вуліцы Маскоўскай (цяперашнім праспекце імя Пятра Машэрава): у чорным берэце, з чырвоным шалікам на шыі, сівавалосы, сівабароды чалавек, якога адразу вылучаеш з натоўпу... Гэта – мастак Нікадзім Вашчук. Такім я яго ўбачыў першы раз, калі яшчэ не ведаў, што гэта вядомы ў горадзе мастак, такім я яго і запомніў на ўсё астатняе жыццё... Нікадзім Вашчук, мастак з чырвоным шалікам на шыі.

Нікадзім Вашчук так і не быў прыняты ў Саюз мастакоў, хаця яго жывапісныя творы заўжды вылучаліся на выставах адметнай манерай пісьма, каларытам. Зачароўвала ў іх ліхацтва выканання, дакладнасць.

Запомнілася адна з апошніх карцін – пейзаж з вадападам: велічная сіла прыроды, стрыманы каларыт, пачуццё палёту над гэтым дзіўным храаствам…

Цяпер значную частку яго твораў можна пабачыць хіба што толькі ў Кобрынскім ваенна-гістарычным музеі імя Аляксандра Суворава.

По жыцці Нікадзім Вашчук памятаецца нетаропкім, сціплым чалавекам з добра пастаўленым голасам. Мастак любіў пагаварыць з калегамі, выпіць з імі за размовай і бакал добрага віна.

Мне таксама давялося аднойчы з ім шчыра пагаварыць за сталом у мастакоўскай кампаніі ў час летняй навальніцы. Да гэтага часу гучыць яго голас з хрыпатцой, бачу яго ўсмешку. Ён быў маім земляком. Заўжды прыемна гэта ўсведамляць, калі наведваю ў Кобрыне ваенна-гістарычны музей, узіраюся ў жывапісныя палотны Нікадзіма Вашчука.



*“Апошні агляд”*



*“Партрэт маці”*



*Г. Пясецкі “Партрэт Н. Вашчука”. Гіпс*



*“Аляксандр Сувораў у Кобрыне”*

# ПЕСНЯ З АДЦЕННЕМ ВЯСЁЛКАВЫХ ФАРБАЎ



Заўчасна пайшоўшы з жыцця ў лепшы свет, яна пакінула светлы ўспамін пра сябе жывапіснымі палотнамі, графічнымі работамі, насценнымі роспісамі “Шчаслівае дзяцінства” ў універмагу “Дзіцячы свет” (першая запамінальная праца мастачкі пасля прыезду ў Брэст). Ля тых светлых роспісаў я і пабачыў упершыню Тамару Іванаўну Паўлючук за працай, пасля чаго стаў звяртаць самую пільную ўвагу і на яе жывапісныя творы на гарадскіх і абласных мастацкіх выставах...

Нарадзілася Тамара Іванаўна ў ваенным 1942 годзе ў горадзе Тураве Гомельскай вобласці ў дружнай і працавітай сям'і, але склалася так, што яе дзяцінства і школьныя гады прайшлі ў Васілевічах на Гомельшчыне. Бацька быў інжынерам-землеўпарадчыкам, усёй душою любіў прыроду, маляўнічыя ваколіцы роднага Турава, а маці – добрай і чулай хатняй гаспадыняй, у якой былі здольнасці і любоў да малявання...

Скончыўшы школу, Тамара паступіла ў Мінскае мастацкае вучылішча імя А. Глебава на аддзяленне манументальнага жывапісу, пасля заканчэння якога жыла і працавала ў Віцебску, пакуль усёй сям'ёй не пераехалі ў Брэст.

У жывапісе мастачка пачынала з рэалістычных пейзажаў, у якіх прырода ўвасабляла спрадвечны мацярынскі пачатак. Станкавы жывапіс пашыраў і рабіў больш разнастайнай тэматыку яе творчасці. Тамара Паўлючук з часам стала больш свабодна і на большым эмацыянальным узроўні гаварыць пра набалелае. Яна, чалавек тонкай і ранімай натуры, выказвала актыўны пратэст супраць бездухоўнасці і бяздушнасці. Пачынаючы як пейзажыст-лірык, яна затым паступова перайшла да складаных карцінных алегорый і сімвалаў.

Тамара Іванаўна стварыла шмат цыклаў жывапісных твораў на праблемныя экалагічныя, сацыяльна-гістарычныя (памяці славутага мастака і кампазітара Напалеона Орды, паэта Адама Міцкевіча), “чарнобыльскія”, “афганскія” тэмы. Мастачка ўдзельнічала ў адзіным у Беларусі Міжнародным пленэры памяці нашага земляка-мастака Мікалая Селешчука.

Веруючы ў тое, што Дабро пераможа зло, на сваіх жывапісных палотнах яна найчасцей паказвала жаночы, мацярынскі вобраз, які стаў цэнтральным у яе творчасці. Праз яго мы бачым і адчуваем вялікую прагу пазнання, веру ў духоўнае, добрае, людскае...

Мастачка рабіла шмат персанальных выстаў у Брэсце, Мінску (юбілейная – “Прытчы аб Сусвеце”) і Маскве, у Польшчы і Германіі. Была актыўнай удзельніцай пленэраў у Польшчы. Там захоўваецца шмат яе жывапісных палотнаў. Шэраг жывапісных твораў знаходзіцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі, у прыватных калекцыях у Германіі, Францыі, Ізраілі, ЗША, Японіі...

Тамара Паўлючук заўжды была ў пошуку, бо жывы тэмперамент, душэўная ўражлівасць, незвычайная працавітасць падштурхоўвалі яе да гэтага. У апошнія гады свайго жыцця, калі была цяжка хворая, Тамара Іванаўна зрабіла шмат графічных кампазіцый каляровымі алоўкамі.

Усе творы мастачкі, прасякнуты дынамікай і экспрэсіяй, роздумам пра будучае Зямлі і Чалавека, сагрэтыя добрай душою і гарачым сэрцам, будуць доўга яшчэ хваляваць аматараў жывапісу Тамары Паўлючук. Тыя, хто ведаў яе, памятаюць, як любіла яна спяваць песні, пісала запамінальныя вершы...

# МАСТАК, ЯКІ МАЛЮЕ ДОЖДЖ



Асабістае знаёмства з маладым мастаком, які скончыў славуты мастацка-графічны факультэт Віцебскага педінстытута, адбылося на пачатку новага стагоддзя. Была на тое добрая нагода: у Палацы мастацтваў у Мінску адкрылася рэспубліканская выстава “Мастакі Брэстчыны”. Ведаў я пра Ігара і тое, што ён родам з Івацэвіцкага раёна.

Свой творчы шлях у Брэсце мастак пачынаў, як мне помніцца, з супрацоўніцтва з мастацкай галерэяй “Беларт”, што на рагу вуліц Савецкай і Набярэжнай імя Францыска Скарыны.

Нязменным дырэктарам і гаспадыняй галерэі з’яўляецца Людміла Пятроўна Крапіўная, архітэктар па адукацыі, якая ў свой час занялася ў горадзе добраю справаю – дапамагаць мастакам рознага “палёту” выстаўляць і прадаваць свае творы. Такім чынам і Ігар Раманчук звязаў свой мастакоўскі лёс з галерэяй “Беларт”. Людміла Пятроўна параіла маладому мастаку пісаць гарадскія пейзажы. Так і пачалася творчая вандроўка мастака Ігара Раманчука па вуліцах і дворыках Брэста.

Вельмі часта жыццё ўносіць свае карэктывы ў творчыя планы творцы. Так і ў лёсе маладога мастака часта адбываліся змены-перамены. Пэўны час ён працаваў выкладчыкам малюнка і жывапісу ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце імя А.С. Пушкіна. Але нязменным застаецца накіраванасць творчага працэсу, які нельга прыпыніць, які толькі можа пашыраць свае межы.

Гарадскія пейзажы Брэста і не толькі, старажытная архітэктура палацаў і цэркваў, партрэты, нацюрморты пастаянна прысутнічаюць на мальберце і эцюдніку мастака, які так любіць пісаць дажджлівае надвор’е з лужынамі, з мокрым асфальтам.



*“Начная вуліца”*

# ПОМНІК 1000-годдзю БРЭСТА



У ліпені 2009 года (за 10-год да 1000-гадовага юбілею Брэста) на святкаванні Дня горада на перакрыжаванні вуліц Савецкай і Гогаля быў урачыста адкрыты помнік, прысвечаны 1000-годдзю Брэста. Кампазіцыя ўяўляе сабой трохузроўневую архітэктурную аснову. На верхнім узроўні – фігура анёла з крыжом – ахоўніка старажытнага Бярэсця. На сярэднім ярусе – фігуры трох гістарычных асоб: князя Уладзімір-Валынскага Уладзіміра Васількавіча, Вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага Вітаўта і Мікалая Радзівіла Чорнага. І тры зборныя вобразы – Воіна, Летапісца і Маці. Ля падножжа помніка – 12 пліт з тэкстамі, якія расказваюць пра гістарычныя вехі ў жыцці Брэста. На ніжнім кальцавым ярусе знаходзіцца гарэльеф – скульптурная выява з бронзы, якая больш чым напалову выступае з плоскасці, на якой пазначаны важнейшыя этапы тысячагадовай гісторыі горада: адлюстраванне адной з легендаў пра заснаванне яго купцамі, удзел нашых землякоў у Грунвальдскай бітве і Берасцейская Біблія ў руках анёлаў над старажытным горадам, абарона Брэсцкай крэпасці ў 1941 годзе і палёт двойчы Героя Савецкага Саюза Пятра Клімука ў космас...

Вакол стварэння гэтага помніка вялося шмат дыскусій. Галоўным чынам, спрэчкі вяліся адносна таго, вобразы якіх асоб належала ўвекавечыць. Напачатку іх было восем, потым засталося шэсць. Не стала фігуры пісьменніка-навукоўца Уладзіміра Калесніка, абаронцы Брэсцкай крэпасці Андрэя Кіжаватава, магутнай гістарычнай постаці Ягайлы... затое паўсталі тры ўмоўныя, зборныя, постаці, якія, на маю думку, не павінны знаходзіцца побач з рэальнымі гістарычнымі асобамі. Апошняе слова, пэўна, было за высокімі чыноўнікамі, інакш такога сумяшчэння рэальных і ўмоўных фігур не адбылося б.

Так падрабязна апісаў помнік таму, што ён адразу стаў з’явай у культурным жыцці Брэста, яго сімвалам, месцам, дзе заўжды цікава і прыемна адпачыць, сустрэцца з сябрамі і знаёмымі.

Аўтарам помніка з’яўляецца вядомы брэсцкі скульптар Аляксей Паўлючук, які працягвае творчыя традыі бацькі-скульптара – Аляксея Паўлючука і маці-мастачкі Тамары Іванаўны (бацькі, канечне, аказалі значны ўплыў на станаўленне сына як мастака-скульптара, на яго творчае выхаванне). Сааўтар помніка – не менш вядомы брэсцкі архітэктар Аляксей Андраюк.

Аляксей Паўлючук належыць да той кагорты сучасных беларускіх скульптараў, якія плённа працуюць, рэалізуючы свае творчыя задумы ў матэрыяле. Пэўна, для гэтага павінна быць не толькі высокае прафесійнае майстэрства, заказы, але і нешта іншае, можа нават шчаслівы збег абставін. Да таго ж малады скульптар Аляксей Паўлючук шмат працуе ў розных іншых накірунках, ставарае жывапісныя і графічныя творы.

Адной з лепшых ягоных работ з’яўляецца афармленне рэстарана гасцініцы “Эверэст” у польскім горадзе Венгрун Мазавецкага ваяводства на тэму легендарнай гісторыі жыцця славутага пана Твардоўскага з племені Фаустаў.

Трэба адзначыць таксама такія вядомыя яго працы, як помнік спаленым фашыстамі вёскам у гады Другой сусветнай вайны ў горадзе Пружаны, рэльефныя партрэты героя ў-пагранічнікаў на Алеі Славы ў Брэсце (на скрыжаванні вуліц Леніна і Праспекта імя П. Машэрава), пластычная эмблема “Музы” на галоўным фасадзе Брэсцкага драмтэатра, манументальная кампазіцыя “Муха і Вец” на месце зліяння гэтых рэк у Пружанах, помнік-бюст нашаму земляку, славутаму савецкаму авіяканструктару, аднаму са стваральнікаў рэактыўнай і звышгукавой авіяцыі Паўлу Сухому ў горадзе Лунінцы Брэсцкай вобласці і інш.

Скульптар Аляксей Паўлючук таксама шмат удзельнічае ў рэспубліканскіх выставах і пленэрах, узбагачаючы свой прафесійны ўзровень, пры гэтым заўжды застаецца сціплым і рамантычным творцам. Аляксей увесь у працы...

# ПАВЕЛ ПАЎЛАВІЧ ПАГОДЗІН



Вядомы берасцейскі мастак Павел Паўлавіч Пагодзін часта любіў гаварыць: “Я – графин, а жена моя – графиня!..” (Яго жонка Зоя Паўлаўна Аверына-Пагодзіна была таксама мастачкай). Пал Палыч любіў пашуткаваць пры сустрэчах, калі заходзіў да мяне на працу ў “культуру” па вуліцы Савецкай (тады яшчэ па гэтай вуліцы ездзілі машыны і аўтобусы, працавалі такія кропкі гандлю як “Пельменная”, “Сокі-воды”, “Брэсцкае піва”, “Чабурэчная” і інш.). На 3-м паверсе таго ж будынка знаходзіліся вытворча-мастацкія майстэрні, дзе ў свой час плённа працаваў Пал Палыч. Не пакінуў ён і сваю звычку заходзіць у памяшканне былога Дома народнай творчасці...

Павел Пагодзін быў вядомым у Брэсце мастаком, шмат працаваў. Яго дабразычлівая, адкрытая натура прыцягвала мастакоў малодшага пакалення, і не толькі іх, бо з арыгінальным творцам было проста і цікава размаўляць, праводзіць час на мастакоўскіх мерапрыемствах.

Пал Палыч у свой час жыў на Сахаліне. Там ён грунтоўна пазнаёміўся з гісторыяй краю, з яго прыродай. І як вынік – жывапісныя творы. Адзін з іх асабліва ўражвае – “А.Чэхаў на Сахаліне”. На палатне адлюстраваны адзін з эпізодаў жыцця вялікага рускага пісьменніка.

Павел Пагодзін, як мастак, увогуле любіў ствараць сюжэтныя карціны, нібыта пісаў аповесці і раманы пра жыццё. Гэта мае дачыненне і да пейзажаў. У сваёй творчасці ён шмат разоў звяртаўся да гарадскіх краявідаў, да тых вуліц і будынкаў, якія зараз не пазнаць ці іх проста ўжо няма. А палотны мастака захоўваюць дух пасляваеннага часу, цікавыя панарамы горада тых гадоў. І тое, што стварыў мастак Павел Пагодзін, навечна засталося ў гарадской скарбонцы выяўленчага мастацтва, пакінула свой адметны след у гісторыі беларускага жывапісу.



*Адкрыццё абласной выставы. 1982 год.*

# ЗЯМЛЯК З ЛЯГАТАЎ



З Іванам Аляксеевічам мы сустрэліся ў той час, калі я пачаў працаваць у “культуры”, а ён быў мастаком у Лялечным тэатры. Праўда, тады нашы рэдкія сустрэчы на агульных мерапрыемствах не паспрыялі блізкаму знаёмству, наладжванню нейкіх прафесійных адносін.

Больш цесна сышліся тады, калі Іван Крусь пачаў працаваць у рэкламным камбінаце Аблспажыўсаюза ў майстэрні па вуліцы Маякоўскага, куды крыху пазней трапіў на працу і я па запрашэнні Вячаслава Вараб’ёва, суседа па Граеўцы. А з Іванам Аляксеевічам мы, як аказалася, былі землякамі. І гэта адыграла значную ролю ў нашых адносінах, бо нішто так не збліжае людзей, як сумесная праца на прадпрыемстве, а тут яшчэ і зямляцтва.

Іван Аляксеевіч любіць маляваць каляровымі алоўкамі – пастэллю. Пэўна, гэты матэрыял больш адпавядае ягонаму стану душы. І ў яго атрымліваюцца выдатныя нацюрморты з кветкамі. Да таго ж ён любіць эксперыментаваць з фарбамі, з пастэллю. Яго манера пісьма зацікавіла мяне яшчэ ў часы сумеснай працы ў рэкламным камбінаце.

Лятуць гады. Толькі нязменнай застаецца ў чалавеку апантанасць творчасцю, павага да сваіх калег-мастакоў, любоў да родных і блізкіх. Іван Крусь не пакідае свайго захаплення, а натхненне не пакідае яго, сціплага творцу, у майстэрні на другім паверсе гаража, дзе любіць бавіць час сярод сваіх твораў, пісаць і марыць.



*І. Крусь, С. Гуляева, Л. Валасюк ля галерэі “БелАрт”*

# МАЙСТАР ПЭНДЗЛЯ АНАТОЛЬ ВАРОНІН



Маё знаёмства з Анатолем Вароніным адбылося на пачатку 80-х гадоў, падчас падрыхтоўкі абласной выставы самадзейных мастакоў Берасцейшчыны. З таго часу ў нас склаліся шчырыя сяброўскія адносіны. Нас зблізіла захапленне выяўленчым мастацтвам, да таго ж і жылі непадалёку.

Увогуле, Анатоль – надзейны сябар, сапраўдны мужчына. У маладыя гады ён актыўна займаўся і спортам.

Нарадзіўся Анатоль Варонін у цудоўным Алтайскім краі, які натхніў яго на заняткі жывапісам. Так і вырашыўся яго-ны мастакоўскі лёс, бо пасля заканчэння школы паступіў у Алма-Ацінскае мастацкае вучылішча. Потым служба ў Савецкай Арміі ў Брэсце (мастаком-афарміцелем у вайсковым клубе). Падчас службы закахаўся ў прыгожую брэсцкую дзяўчыну... Ажаніўся і звязаў свой далейшы лёс з беларускім Брэстам, хаця і не забывае сваю радзіму, часта наведваецца ў родны Алтайскі край.

Па жыцці склалася так, што да пенсіі Анатоль Анатольевіч шмат гадоў працаваў мастаком-афарміцелем на электрамеханічным заводзе, на “Цветатроне”, на іншых прадпрыемствах горада. Адначасова пісаў пейзажы, нацюрморты, удзельнічаў у выставах.

Асабіста мне неаднойчы давялося сумесна з Анатолем выконваць вытворчыя работы. Яго прафесіяналізм, бездакорны густ заўжды мяне захаплялі і захапляюць дагэтуль. Анатоль Варонін – выдатны майстар працы з пэндзлем, цудоўны сябар.



*М. Арахоўскі, І. Крупскі “Партрэт А. Вароніна”*



*А. Варонін “Алтайскі краявід”*

# СВЯТА ФАРБАЎ



Маладая брэсцкая мастачка Аксана Гайдуковіч даволі вядомая ў Беларусі і за яе межамі. Аксана – маці дваіх дзяцей, што не перашкаджае ёй плённа займацца жывапісам, працаваць дацэнтам у Брэсцкім тэхнічным універсітэце на кафедры архітэктурнага праектавання і малюнка...

Бацька мастачкі Міхаіл Міхайлавіч Гайдуковіч – былы выкладчык архітэктурнага праектавання, пад кіраўніцтвам якога ў студэнцкі час мне з аднакурснікамі давялося выконваць конкурсны праект рэканструкцыі плошчы Леніна. На той час я ведаў, што яго дачка займаецца ў студыі выяўленчага мастацтва, што яна таленавітая дзяўчынка... Але не мог нават і здагадвацца пра тое, што пройдзе час і мяне разам з Аксанай у 2000-м годзе прымуць у сябры Саюза мастакоў Беларусі. Такія вось бываюць нечаканыя супадзенні.

Аксана Міхайлаўна даўно ўжо заявіла пра сябе як цікавы, прафесійны мастак. Яна глядзіць на свет шырока адкрытымі вачыма, радуецца сонечнаму ранку, цёпламу ветру, прыгажосці кветак і смеху сваіх дзяцей. Не была б яна мастаком, каб не вызначылася ў жыцці, не знайшла сябе ў творчасці. А без жывапісу Аксана Гайдуковіч не ўяўляе сваё існаванне ўвогуле. Таленавітая мастачка працуе ў асноўным ў галіне станкавага жывапісу.

Творы Аксаны Гайдуковіч знаходзяцца ў музеях і прыватных калекцыях Беларусі, Расіі, Польшчы, Германіі і Францыі.



*“Паўліны”*

# ЯЎГЕН МАНЬЯКОЎ



З Яўгенам Маньяковым пазнаёміў мяне мой куратар групы, выкладчык архітэктурнага праектавання Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута Яўген Максімавіч Даўгайла. Неяк пасля заняткаў зайшлі ў новы пяціпавярховы дом непадалёку ад вуліцы МАПРа да мастака, які на той час са сваім цесцем-міліцыянерам даводзіў памяшканне кухні да патрэбнага стану.

Яўген уразіў мяне сваім грэнадзёрскім ростам, цёмнымі вялікімі вусамі, зычным голасам... Праз нейкія паўгадзіны мы ўжо пайшлі па бульвары Шаўчэнкі у невялічкі кафетэрый на перакус з белым партвейнам. Зайшла гаворка пра мастакоў, пра мастацтва ўвогуле. Той дзень мне запомніўся знаёмствам з маім будучым сябрам, калегам па працы...

Яўген Маньякоў нарадзіўся ў Смаленску. Са школьных гадоў выявілася ў яго схільнасць да малявання, захапленне якім захавалася да апошніх дзён жыцця. Але напачатку Яўген атрымаў адпаведную адукацыю і працаваў нейкі час краўцом. Ужо крыху пазней скончыў графічна-мастацкі факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута, прыехаў у Брэст, дзе напачатку жыў у бацькі – выкладчыка інжынерна-будаўнічага інстытута.

Яўген ажаніўся з Валянцінай, дзяўчынай з архітэктурнай адукацыяй. У іх нарадзілася дачка Святлана. А мне з тых гадоў запомніліся два яго нацюрморты, якія бачыў на абласных выставах (“Нацюрморт з чорнай керамікай” і “Асенні нацюрморт з лісцем”).

Напачатку ён працаваў у вытворча-мастацкіх майстэрнях, потым – у “культуры”, дзе дырэктарам быў цудоўны чалавек Леанід Сартакоў. У Беларусі адчувалася хваля адраджэння нацыянальнай культуры, што спрыяла правядзенню шматлікіх выстаў народнай творчасці, выстаў самадзейных мастакоў. У тыя гады Яўген паспяхова займаўся і фотамастацтвам, рыхтаваўся да паступлення ў аспірантуру пры Акадэміі навук БССР, ды толькі ў жыцці заўжды адбываецца шмат нечаканага і непрадбачанага. Заўчасная смерць жонкі ўнесла свае сумныя карэктывы ў далейшы лёс мастака.

Абласная “культура” супрацоўнічала з прафсаюзнай, таму часцяком праводзілі сумесныя выставы, і па экспанаты разам ездзілі па вобласці. У тыя маладыя гады ўсё было цікавым падчас нашых экспедыцый-камандзіровак, бо сустракаліся з такімі вядомымі майстрамі як ганчар з Пружан Антон Такарэўскі, майстрыца саломапляцення з Брэста Вера Гаўрылюк, разьбяр па дрэве з Белавежскай пушчы Андрэй Вінярскі, самадзейныя мастакі з Драгічына Пётр Мыслівец, Міхаіл Майбарадзін, Юрый Сергіенка са Століна...

Незабыўнымі былі паездкі ў Лунінец, Пружаны, Камянец, Маларыту, Кобрын, Іванава, Жабінку... Наша цеснае супрацоўніцтва давала плён у выглядзе абласных выстаў народнай творчасці. У тыя гады мне пашчасціла пазнаёміцца з такімі вядомымі мастацтвазнаўцамі з Мінска як Міхась Раманюк і Генадзь Сакалоў-Кубай, якія нярэдка прыязджалі ў Брэст на нашы мерапрыемствы.

Праз нейкі час Кастусь Калодзіч, Яўген Маньякоў, а потым і я перайшлі на іншыя месцы працы, праўда, гэта не перашкодзіла нам сустракацца. Ужо напрыканцы мінулага стагоддзя, у 1997-м, вялікай суполкаю брастаўчан ездзілі ў Мінск, спрабуючы ўступіць у Саюз мастакоў. Ды толькі наўдалаю, безвыніковаю была тая паездка для Яўгена: не прыняты ў Саюз, ён больш ніколі не спрабаваў здзейсніць сваю мару. Мне здаецца, калі б тое адбылося, дык і лёс далейшы яго склаўся б інакш.

Яўген Васільевіч паступова адышоў ад творчасці, шмат працаваў у “камерцыйным” напрамку: рабіў жывапісныя работы на продаж. Затым пэўны час жыў на радзіме ў Смаленску, дзе і памёр. Але дачка мастака пахавала бацьку на Берасцейшчыне, дзе прайшлі яго лепшыя гады з 60-і пражытых. Было гэта ў 2012 годзе.

У маёй памяці ён застаецца сапраўдным мужчынам, мастаком-творцам, надзейным сябрам-паплечнікам.

# “БОГАМАЗ” АЛЯКСЕЙ БАРУЦІН



Пазнаёміўся з Аляксеем Баруціным неяк непрыкметна для самога сябе: у асяродку калег па фарбах і пэндзлях гэта бывае часта. Але тое знаёмства гэтак жа непрыкметна перацякло ў сяброўства, быццам бы раслі з маленства ў адным двары ці па суседстве. Працуючы ў рэкламным камбінаце Аблспажыўсаюза, мы часцяком сумесна рабілі рэкламнае афармленне аб’ектаў гандлю. Асабліва плённай была праца ў Лунінцы. Акрамя ўсяго ў мяне заставаліся там яшчэ і знаёмыя па ранейшай “чыноўніцкай” працы. Ды і ўвогуле палескі гарадок аднойчы спадабаўся так, каб быць любімым назаўжды.

Мастакоўскі талент у Аляксея Баруціна адкрыўся рана, і нічога дзіўнага ў гэтым няма, бо продкі яго былі вядомымі людзьмі. Гэта, так бы мовіць, талент на генным узроўні.

Адным з продкаў Аляксея Дзмітрыевіча быў брат ягонага прадзеда Іван Цімафеевіч Баруцін (1868-1928) – архітэктар, майстар мадэрнізму. Выхадзец з купецкай сям’і, у 1891 годзе ён закончыў Маскоўскае вучылішча жывапісу, атрымаўшы Малы і Вялікі сярэбраныя медалі і званне класнага мастака архітэктуры. Творчы дыяпазон Івана Баруціна быў надзвычай шырокі. Ён праектаваў даходныя дамы ў стылі мадэрн і цэрквы ў традыцыях драўлянага дойлідства, ствараў праекты іканастасаў і распісваў жылыя дамы, рабіў малюнкі дэталяў інтэр’ераў. Адзін з самых прыгожых маскоўскіх дамоў пабудаваны па праекце Івана Баруціна. Гэта – дом Мішына на Мясніцкай.

Дзед Аляксея Баруціна – Мікалай Мікалаевіч Баруцін (1880-1960) – нарадзіўся ў Маскве. Вялікую дапамогу сям’і аказваў дзядзька Мікалая, пра якога згадвалася вышэй.

Мікалай Баруцін вучыўся ў вядомым універсітэце імя А.Л. Шаняўскага на гісторыка-філалагічным факультэце. У яго быў свой творчы шлях. У літаратурнае аб’яднанне “Макавец” (створана ў 1921 годзе) ён уваходзіў па запрашэнні Аляксея Міхайлавіча Чарнышова як паэт пад прозвішчам Амфіям Рэшатаў (яго маці – Марыя Амфіянаўна Рэшатава).

Мікалай Баруцін уваходзіў у кола паэтаў-шаняўцаў, сярод якіх былі С. Ясенін, М. Клюеў, С. Клычкоў, П. Арэшын, Д. Сямёнаўскі і інш.

Першыя вершы, падпісаныя “Амфіян Рэшэтаў” з’явіліся ў 1910 г. у часопісах “Весы”, “Весна”, “Петербургский глашатай”, “Млечный путь”, “Гюнемъ и gratis”.

Мікалай Баруцін быў сведкам трыумфальных поспехаў і траўлі Б.Пастэрнака.

У 1918 годзе рэдакцыя часопіса “Млечный путь” выдае яго паэтычны зборнік “Керосиновая лампа” з прысвячэннем “Маме и керосиновой лампе».

Паэтычная творчасць Мікалая Баруціна (Амфіяма Рэшатава) было станоўча ацэнена толькі нешматлікімі паэтамі і крытыкамі. Шырокаму колу чытачоў ён амаль невядомы і ніколі не перавыдаваўся.

Аляксей патрапіў у Брэст у свой час з бацькамі. Ягоная маці будавала і ўзначальвала потым Брэсцкі панчошны камбінат. Бацька быў інжынерам-будаўніком: запомніўся будаўніцтвам сельскагаспадарчых комплексаў Брэстчыны.

Аляксей Баруцін закончыў толькі першы курс архітэктурнага факультэта Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута, але ён ніколі не шкадаваў пра тое, бо ў жыцці было шмат цікавай працы як у Расіі, так і ў Брэсце.

Яго асноўны занятак – стварэнне абразоў па заказах для асобных людзей, для інтэр’ераў цэркваў горада і вобласці. У гэтым Аляксей Баруцін знайшоў сваё прызванне.

# ВАЛЕРЫЙ ПЕПЯЛЯЕЎ



Пазнаёміўся з Валерыем Мікалаевічам у 1981 годзе, працуючы ў "культуры". Кастусь Калодзіч, загадчык аддзела, рыхтаваў абласную выставу самадзейных мастакоў. І аднойчы свае жывапісныя работы прынёс малады светлавалосы мужчына з добразычлівым тварам. Гэта былі партрэты двух сыноў Валерыя Пепяляева, ураджэнца Сібіры, брэсцкага мастака, афарміцеля. Тыя партрэты аказалі прыемнае мастацкае ўражанне, а сам аўтар пазней стаў маім сябрам.

Валерый Пепяляеў некаторы час вучыўся ў Ленінградскім мастацкім вучылішчы імя Веры Мухінай, але не закончыў яго: перашкодзіла каханне. Праўда, "дывідэнтамі" за гэта, калі так можна сказаць, сталі два сыны. Ды і мастакоўскі дух заставаўся і прысутнічае ў ім і да гэтага часу, калі ўжо Валерый Мікалаевіч стаў пенсіянерам. Але ў мастацтве няма пенсійнага ўзросту. Творчыя памкненні не пакідаюць мастака да апошняга ўздыху...

Найбольшую вядомасць Валерый Пепяляеў набыў у горадзе як партрэтыст. Ягоныя лірычныя партрэты, выкананыя алеем, вылучаюцца сваім падабенствам да натуры, жывапіснасцю, дакладнасцю... Шмат такіх партрэтаў я бачыў, ды толькі кожны раз з цікавасцю заўважаў усё новыя творчыя знаходкі мастака.

Жыве Валерый Мікалаевіч у прыгожай частцы горада: непадалёку працякае рака Лясная, радуюць вока прыгожыя жывапісныя лесапасадкі. А вынікам закаханасці ў прыгажосць роднага краю з'яўляюцца ягоныя жывапісныя карціны, у якіх мастак прытрымліваецца сціплага каларыту. Менавіта ён дапамагае раскрыць існасць убачанага.

Працуючы ў рэкламным камбінаце Аблспажыўсаюза, а пазней і ў майстэрнях камбіната "Мастацтва", Валерый Пепяляеў выявіў сябе як рознабаковы таленавіты творца, які заняў сваю адметную нішу ў мастакоўскім асяродку Берасцейшчыны.

Акрамя таленту жывапісца, Валерый Пепяляеў мае і паэтычны талент. Яго лірычныя вершы прыемна паслухаць у выкананні аўтара, пачытаць. Творца цікавы сваімі творамі. І я перакананы, што паэтычнае слова, дакладны мазок пэндзля яшчэ не раз будзе радаваць прыхільнікаў Музы Мастака.



*"Палявыя кветкі"*

# ЛЯХАВІЦКІ АПАЛОН ВІКТАР ЧАРНАВОКІ



Пазнаёміўся з Віктарам Францавічам у студэнцкія гады неяк нечакана, калі той працаваў метадыстам па выяўленчым і дэкаратыўна-прыкладным мастацтве ў Абласным навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці і культасветработы. Па іроніі лёсу пасля заканчэння інстытута я і сам трапіў туды якраз на месца Віктара Чарнавокага. Памятаю першыя дні працы, калі яшчэ прыходзіў Віктар Францавіч счышчаць са сцяны шпатлёўку, якую ён нанёс у непатрэбныя месцы ў непатрэбным стане. Настрой яго быў вясёлы, ён заўсёды стараўся ісці па жыцці ў добрым настроі... У тыя часы Віктар пазнаёміў мяне з выдатным паэтам з Драгічыншчыны Міколам Трафімчуком. Увогуле ў тыя маладыя гады і свет здаваўся іншым: светлым, яскравым, запамінальным на цікавыя падзеі...

Віктара Чарнавокага з маленства прываблівала маляванне. Пейзажы, нацюрморты, партрэты... Маці супраць ягонага захаплення нічога не мела, але бацька, Франц Міхайлавіч, просты і працавіты чалавек, марыў аб лепшай долі для дваіх сваіх сыноў (другі, меншы сын – Лёня): бачыў іх старшынямі калгасаў. Мо таму і паліў Віцевы малюнкі ў печы, каб неяк прыглушыць яго захапленне (да таго ж бацька быў яшчэ і непісьменны). Але калі аднойчы прыйшло паведамленне з газеты “Пионерская правда” аб тым, што Віця Чарнавокі, школьнік Тэльмінавіцкай школы Ляхавіцкага раёна, заняў першае месца і за гэта яму – дыплом, фарбы, а яшчэ пуцёўка ў піянерскі лагер “Артэк”, вось тады і змяніў свае адносіны бацька да сынавага захаплення: купіў таму з зарплаты пэндзлі і фарбы. (12-гадовы Віця неяк прачытаў у “Пионерской правде” ўмовы конкурсу на лепшы дзіцячы малюнак, які праводзіўся тады ў Савецкім Саюзе і Японіі, і адправіў пейзаж з бярозкамі).

Лёс Віктара і Лёні склаўся так, што пасля школы абодва паступілі ў Горкаўскую сельскагаспадарчую акадэмію, хаця скончыўшы яе, кожны пайшоў сваім шляхам: Лёня трапіў на працу ў міліцыю, даслужыўся да звання палкоўніка. Віктар скончыў яшчэ адну ВНУ і працаваў архітэктарам у Горках, потым у Ляхавічах. Асабліае месца ў яго жыцці заняў Брэст, дзе давялося зарабляць на хлеб у розных установах. Але калі памёр бацька, то Віктар Францавіч вырашыў вярнуцца ў родныя Ляхавічы: стварыў там сваю майстэрню ў падвальным памяшканні штаба грамадзянскай абароны аднаго з дамоў па вуліцы Леніна.

Нарэшце ён атрымаў магчымасць займацца любімай з самага дзяцінства справай: стаў мастаком, мастаком-педагогам вышэйшай катэгорыі, адным з першых у краіне магістрам педагагічных навук. Стаў і лаўрэатам прэміі “Берасцейская зорка”, ганаровым доктарам Японскай акадэміі мастацтваў, аб чым сведчыць спецыяльны дыплом на японскай і англійскай мовах...

Усё пачалося для яго са стварэння ў верасні 1989 года мастацкай студыі “Апалон” пры Ляхавіцкім гарадскім Доме культуры. Праз няпоўныя пяць гадоў студыі было прысвоена званне народнага самадзейнага калектыву.

Яе навучэнцы бралі ўдзел не толькі ў раённых, абласных, рэспубліканскіх конкурсах і выставах, але і ў міжнародных. Вышэйшыя ўзнагароды яны атрымлівалі ў шматлікіх краінах Еўропы, Амерыкі, Азіі і Афрыкі. У 2004-2005 гадах апалонаўцы ініцыіравалі і правялі ў Ляхавічах на высокім узроўні першы міжнародны конкурс юных мастакоў “Зямля і людзі: учора, сёння, заўтра”, у якім 33 вучні Віктара Чарнавокага сталі пераможцамі.

Праз рукі мастака прайшло больш за паўтысячы хлопчыкаў і дзяўчынак, якія ездзілі да яго нават з Ганцавічаў і Баранавічаў...

Віктар Францавіч позна ажаніўся, сваіх дзяцей у іх з жонкаю не было, таму ўсе свае сілы і веды аддаваў дзецям студыі выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. У студыі з імем грэчаскага бога Апалона займаліся розныя дзеці, але іх яднаў у адну сям’ю кіраўнік з яго грандыёзнымі задумкамі.

Ён ніколі не губляў аптымізму, верыў у здзяйсненне сваіх планаў і памкненняў. Віктару Чарнавокаму верылася ў шчаслівую зорку, якая заўжды адбівала святло ў яго блакітных вачах.

Мая прапіска - Брэстчына

# АБ ЧЫМ МАРЫЦЬ «АПАЛОН»?



У студыі з назвай грэчаскага бога дзеці розныя, як і малюнкі, але яднае іх у адну сям'ю кіраўнік Віктар Чарнавокі з яго грандыёзнымі задумкамі

...З самых першых хвілін, як Віктар Францавіч сябе памятае, яго цягнула маля- | ная, у душы прыроджаны матэматык, вось толькі не давялося вучыцца - нічога | чыцца і стане старшынёй у сваім калгасе, а Лёня, малодшанькі, - у суседнім. | Віця загарэўся, тут жа вы- лаў свой пейзаж з бяроз- вым гаем. Якім жа неўз-

---

[illegible] Валасюку ад даўняга сябра Віктара Чарнавокага 15.12.2005

4 ЛВ

СУБОТНІ ГОСЦЬ



*У Тальмінавічах, у сям'і простых людзей, нарадзіўся хлопчык. У сям'і два сыны — будучыя памочнікі! Бацька адразу вырашыў, што Лёня і Віця будуць не абы-хто, а старшыні калгасаў — адзін свайго, другі — суседняга... Ды толькі стаў прыкмячаць, што Віктар мае схільнасць да малявання: як толькі вольная хвіліна, ён бяжыць у лес з фарбамі ці алоўкамі. І атрымліваецца ў хлопца ладна. "Але ж ці гэта занятак для будучага мужчыны", — абураўся бацька і выкідваў малюнкі ў печку. Праз газету "Пионерская правда" паслаў Віктар Чарнавокі свой твор на суд міжнародных экспертаў. Называўся малюнак "Бярозавы гай і я". І што б вы думалі, атрымаў дыплом, фарбы, пэндзлі і пуцёўку на адпачынак у піянерскі лагер "Артэк". Калі вярнуўся, бацька ўзяў сына за руку і павёз у Баранавічы: аж на 150 рублёў накупіў яму фарбаў, паперы, алоўкаў. Гэта было першае прызнанне таленту юнага мастака, бацькава прызнанне. Але ўсё ж такі мара вывучыць сына на "старшыню калгаса" не прапала: пасля школы абодва хлопцы паступілі ў сельгасакадэмію.*

# "АПАЛОН" — не толькі грэчаскі бог

— **Віктар Францавіч, ведаю, што ўсяго ў вас 2 дыпломы аб заканчэнні ВНУ, асвоены курсы па пэўных спецыяльнасцях. Гэта пошук сябе ці жаданне праявіць схільнасці** | леча, якая толькі магла трымаць у руках пэндзаль, ішла ў нашу студыю. А пасля некалькіх заняткаў ужо было відаць, хто на што здольны. Быў вельмі цікавы выпадак, які характа- | цыях. Зараз у планах выдаць каталог гэтых работ-пераможцаў. Дарэчы, і падчас гэтай міжнароднай выставы ў Ляхавічах, спецыялісты вызначалі работы "апалонаўцаў" імен-

# ДЫХАННЕ ЗЯМЛІ МАЁЙ



Пятра Сцяпанавіча ведаю з пачатку 80-х гадоў, з таго часу, як пачаў працаваць у "культуры" і праводзіць выставы самадзейных мастакоў Берасцейшчыны сумесна з Канстанцінам Калодзічам. З таго часу і звярнуў увагу на цікавага самабытнага мастака і цудоўнага чалавека – Пятра Сцяпанавіча Мысліўца...

Выстава мастака з Драгічына не дарма мела назву "Дыханне зямлі маёй", бо незлічоную колькасць узыходаў сонца давялося яму сустракаць з мальбертам у полі! Ды і ўвогуле ўвесь ягоны лёс звязаны з зямлёю, якую ён па праву называе сваёй.

Дзяцінства Пятра Мысліўца адабрала вайна. Бацька, драгічынскі майстар мірных цяслярскіх спраў, не вярнуўся дахаты з вайны. Малыя ў шматдзетнай сям'і гадавалі адзін другога.

Поле стала калыскай Пятра. Цэлымі днямі быў ён сярод каласкоў і валошак. Бачыў, як маці, не разгінаючы спіну, працавала ў полі. І ўсё гэта ўваходзіла ў яго плоць і кроў, як уваходзяць сокі зямлі ў маладое дрэўца.

У школу Пётр Мыслівец пайшоў у 1945 годзе. Цяжкі гэта быў час. Думалася пра лусту хлеба. Хацелася паесці яго з соллю. Пабачанае і пражытае пакідала глыбокі адбітак у свядомасці, наводзіла на роздум пра хлеб як галоўную ў жыцці каштоўнасць.

У школе Пеця маляваць не асабліва любіў, але з задавальненнем разглядаў рэпрадукцыі карцін вядомых мастакоў. У дзявятым класе маці купіла яму набор акварэльных фарбаў. І цішком, быццам саромеючыся свайго занятку, Пётр пачаў капіраваць карціны Левітана, Саўрасава, Шышкіна і дарыць сваім родным.

Але на гэтым і скончылася захапленне. Затым была Пінская аўташкола. Машыны, рамантыка дарог. Маляванне адышло на другі план.

Хутка Пётр паступіў у вучылішча механізацыі (СПТУ-29) у Драгічыне. Атрымаўшы спецыяльнасці трактарыста, слесара, камбайнёра, па камсамольскай пуцёўцы паехаў асвойваць цалінныя землі Казахстана. Дзяржаве патрэбен быў вялікі хлеб.

Шмат соцень гектараў казахскага стэпу ўзараў за два гады, з 1957 па 1959, трактарыст Пётр Мыслівец. Шмат соцень цэнтнераў зерня першых цалінных ураджаеў намалаціў ён, працуючы на камбайне.

Пасля ночы, праведзенай на трактары, выканаўшы норму, ён любіў прысесці на свежаўзараную зямлю і назіраць непаўторна зменлівыя фарбы ранішняга стэпу. У гэтыя хвіліны адыходзіла стомленасць ад начной працы.

Потым, у вольны час, Пётр спрабаваў адлюстраваць свае ўражанні, малюючы сонца, узаранае поле. Хацелася захаваць у фарбах і лініях адкрытую ім прыгажосць жыцця, зберагчы яе магутную плынь ад распылення і забыцця.

Прыйшоў час служыць у войску. Далёкі Усход. Жывапісныя краявіды Прымор'я. Асеннія сопкі, тайга, рэкі і азёры некранутага краю – усё гэта хвалявала сэрца салдата. У вольны час Мыслівец рабіў замалёўкі.

А потым было вяртанне ў родны Драгічын, праца шафёрам.

Жывапіс усё больш захапляў Пятра Мысліўца, і ён паступіў на факультэт станкавага жывапісу і графікі Маскоўскага завочнага народнага ўніверсітэта мастацтваў імя Надзеі Крупскай. З удзячнасцю ўспамінае Пётр Сцяпанавіч цяпер свайго педагога Азімана, які сумеў даць належны накірунак яго здольнасцям.

Галоўнай тэмай жывапісу Мысліўца стала тэма зямлі. Так з'явіліся работы "У пясчаным кар'еры", "Восеньская ралля", "Працоўныя будні", "Вясна прыспешвае хлебароба", "Вечар на полі".

Мянялася родная зямля, пераўтвараўся звыклы пейзаж. Ля старых хатак палешукоў паўсталі блакітныя вагончыкі меліяратараў, трактары і экскаватары.

Мастак заўважае ўсе гэтыя перамены. Сюжэты абнаўлення роднага краю ўваходзяць у яго жывапісныя палотны: “На меліярацыйным аб’екце Старамлына”, “Зямля Іванаўшчыны”, “Балота адступіла”, “Снежаньскі снег”, “Рэчанька”, “Ранак у Дубавым”, “Пейзаж з буслом”.

Знайшла адлюстраванне ў творчасці Мысліўца і вайна. “Партызаны”, “Вясна ў крэпасці”, “Зямлянка” – гэтыя палотны напамінаюць людзям аб тым, як патрэбен мір для асенніх і веснавых палёў, для буслоў і жаўрукоў, для ўсіх людзей, старых і малых.

Пётр Мыслівец – удзельнік шматлікіх выстаў. Яго палотны выстаўляліся і за межамі роднай Беларусі. У іх – ягоны лёс. І лёс зямлі, дыханне каторай вечнае, як само жыццё.



*“Адлёт буслоў”*



*“Буслы прыляцелі”*

# ДОБРАЕ І ШЧЫРАЕ СЭРЦА МАСТАКА



Зямля Берасцейшчыны багатая на таленты. І чарговым сведчаннем гэтаму для мяне стала адкрыццё творчасці мастака з Драгічына Міхаіла Майбарадзіна. З самадзейным мастаком я пазнаёміўся ў 1983 годзе, калі рыхтаваў і праводзіў адкрыццё яго персанальнай мастацкай выставы ў Брэсце. Жыццё сонечнае і вясёлкавае – такое ўражанне атрымаў ад жывапісных твораў драгічынскага мастака.

У моцным на выгляд мужчыну і мастаку адразу спадабаўся яго аптымізм і кранальныя адносіны да роднага наваколля, у якім мастак Міхаіл Майбарадзін выбіраў любімыя краявіды для жывапісу. Часцяком здаралася так, што за дзень рабіў шмат эцюдаў, эксперыментуючы ў паказе колеру і настрою надвор'я ў розную пару. І ў яго гэта атрымлівалася, а тыя напрацоўкі ў маёй памяці захоўваюцца і дагэтуль.

Жывапісныя творы Міхаіла Майбарадзіна адразу звярнулі на сябе ўвагу цёплым лірызмам, сваім асаблівым бачаннем навакольнага жыцця, узвышанымі адносінамі да роднага краю. Такія палотны як "Бацькаўшчына", "Вечар","Восень", "Адліга", "На рыбалцы" сведчаць пра тое, як імкнецца творчая душа мастака да сціплай прыгажосці родных мясцін.

Міхаіл Аляксеевіч у свой час вучыўся ў Маскоўскім народным універсітэце мастацтваў імя Н. Крупскай. Прымаць удзел у мастацкіх выставах пачаў у далёкім 1976 годзе. Неаднаразова ўдзельнічаў у абласных і раённых выставах, рабіў персанальныя. Ён з'яўляецца лаўрэатам абласных і рэспубліканскіх фестываляў мастацтва. Узнагароджаны медалём і дыпломам 1-й ступені на Усесаюзным фестывалі ў Маскве. Узнагароджаны таксама дыпломам Саюза мастакоў СССР. Пазней Міхаіл Аляксеевіч павышаў сваю кваліфікацыю ў майстэрнях Акадэміі мастацтваў.

Творы Міхаіла Майбарадзіна знаходзяцца ў выставачным фондзе ўніверсітэта мастацтваў у Маскве, у выставачным фондзе ўпраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама, у прыватных калекцыях.

З 2003 года Міхаіл Аляксеевіч працаваў выкладчыкам у Драгічынскай дзіцячай школе мастацтваў, загадваў мастацкім аддзяленнем. Творы навучэнцаў школы выстаўляліся на міжнародных конкурсах дзіцячага малюнка ў Венгрыі, Японіі, Расіі, на рэспубліканскіх конкурсах у Мінску. За метадычную і творчую працу Міхаіл Майбарадзін узнагароджаны шматлікімі дыпломамі. З 2010 года ён з'яўляецца членам грамадскага аб'яднання аматараў мастацтва рэгіёна "Белавежская пушча" і Брэстчыны "ТУР".

Мастак Міхаіл Майбарадзін заўжды знаходзіцца ў пошуку, яго не пакідае творчае натхненне. Ён шукае ўсё новыя сродкі, каб выказаць сваю любоў да роднага краю, да родных і блізкіх, да землякоў. Яго вялікае і добрае сэрца пакідае часцінку цеплыні і шчырасці ў кожным жывапісным творы.



*"Хлеўчык"*

# ТЭРАПІЯ АЛЕЙНЫМІ ФАРБАМІ



З Канстанцінам Нікалайчуком я пазнаёміўся на пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя ў санаторыі “Бярэсце”, дзе ён працаваў тэрапеўтам. На той час там адпачываў вядомы архітэктар з Мінска Віктар Мацвеевіч Волчэк (удзельнічаў у стварэнні мемарыялу “Брэсцкая крэпасць-герой”), з якім сябраваў мой тагачасны начальнік па працы ў “культуры” Уладзімір Іванавіч Кулін.

Уладзімір Іванавіч дазваніўся да свайго мінскага калегі і вырашыў праведаць таго разам са мною. Віктар Мацвеевіч да таго ж папрасіў прывезці скрынку халоднага піва з горада (стаяла спякотнае летняе надвор’е).

З той незапамятнай пары мае сустрэчы з Канстанцінам Нікалайчуком сталі больш частымі і змястоўнымі. Ужо тады ён прафесійна працаваў з акварэллю і каляровымі алоўкамі, рабіў партрэты ветэранаў вайны і працы (“Думы мае, думы...”, “Светлы май”, Зімні вечар”), іншых людзей, што прыязджалі адпачываць у санаторый, папраўляць сваё здароўе (праз год мы ўрачыста адкрылі персанальгую выставу Канстанціна Нікалайчука ў брэсцкім кінатэатры “Беларусь”).

Пасля нашы сустрэчы адбываліся даволі часта не толькі па прычыне творчых сувязяў, але і таму, што бацькі мастака-доктара жылі непадалёку ад мяне – на рагу вуліц Лінейнай і Кіжаватава ў зялёным драўляным дамку, які я неаднойчы маляваў і алейнымі фарбамі, і акварэллю. Да таго ўжо падабалася тая хаціна-даміна, што не мог прамінуць яе, каб не перанесці на паперу цуд мясцовай архітэктуры. Так працавалася да таго часу, пакуль не стала бацькоў мастака, пакуль той дом не перайшоў у іншыя рукі і, перабудаваны, не страціў сваю былую прывабнасць.

Канстанцін Нікалайчук даўно ўжо пенсіянер, але моцна і прагна трымае ў руцэ мастакоўскі пэндзаль, малюе, піша нацюрморты, пейзажы... І хаця сустракаемся мы цяпер не так ужо часта, як раней, але тэлефонная сувязь дапамагае падтрымліваць таварыскія адносіны, цешыцца ўспамінамі.

Кастусь любіў маляваць з дзяцінства. Сябры ў школьныя гады часта прасілі яго зрабіць іхнія партрэты. З таго часу і прыахвоціўся да партрэтнага жывапісу. Шмат маляваў, займаўся ў школьным гуртку выяўленчага мастацтва ў настаўніка Пятра Казіміравіча Астроўскага. Пасля школы працаваў мастаком-афарміцелем у кінатэатрах “Беларусь”, “Змена”. Потым была вучоба ў Адэскім мастацка-педагагічным вучылішчы, адкуль з трэцяга курса быў прызваны ў рады Савецкай Арміі (праслужыў тры гады ў санбаце). На тым мастакоўская адукацыя Канстанціна Нікалайчука і скончылася. Потым быў медінстытут і праца доктарам...

Пэўны час, пасля працы ў санаторыі, Канстанцін Канстанцінавіч настаўнічаў у вёсцы Знаменка Брэсцкага раёна, дзе ўжо даўно пражывае. Навучанне ў Адэскім мастацкім вучылішчы, хаця закончыць яго і не ўдалося, не прайшло дарам. Ужо крыху пазней здарылася так, што мастак падарыў Брэсцкаму абласному інстытуту ўдасканалення вялікую колькасць сваіх жывапісных твораў, што вельмі здзівіла шматлікіх знаёмых. Але Канстанцін Нікалайчук такім чынам паказаў сябе як патрыёт любай яму Берасцейшчыны.

У пейзажах мастака лёгка пазнаць родныя яму краявіды, дзе Канстанцінавіч працуе з эцюднікам і фарбамі. Ад сузірання яго жывапісных твораў ахоплівае пачуццё ціхага суму і па мінулым леце, і па палявых і лясных сцяжынках, беразняках і сасонніках. У храме прыроды мастак з’яўляецца нястомным працаўніком, які адлюстроўвае свой след на зямлі з дапамогай пэндзля і фарбаў. Яго цяперашнія мастакоўскія “лекі” дораць людзям добры настрой, дапамагаюць заўважаць прыгажосць вакол сябе.



*“Сланечнікі”*



*На адкрыцці персанальнай выставы Канстанціна Нікалайчука*
*у кінатэатры “Беларусь” г. Брэста. Злева – мастак К. Нікалайчук*

# МАСТАК-ДЫЗАЙНЕР ЯЎГЕН САПКАЛА



Яўген Сапкала ў школьныя гады марыў стаць вандроўнікам: яму падабаліся паходы за горад у лес, на лугі, палі, да ракі... Ён любіў пераносіць на паперу сляды птушак, звяроў... Так паціху прызвычаіўся і да малявання ўвогуле, а ў 8-м класе стаў сур'ёзна займацца жывапісам і малюнкам. Да таго ж ягоны бацька быў самадзейным мастаком і шмат чаму навучыў сына.

Яўген заўжды вылучаўся сваёй адданай любоўю да выяўленчага мастацтва, не прапускаў ніколі заняткі ў студыі. Гэтак жа сур'ёзна адносіўся ён і да працы мастаком-афарміцелем на панчошным камбінаце ў Брэсце (адпрацаваў 25 гадоў), і да працы ў прыватным выдавецтве "Мазуры" ў Польшчы.

Жыццё склалася так, што апошнія гады Яўген працуе дызайнерам у "БелІнтэрМаркеце", любоў да выяўленчага мастацтва не пакідае яго. У вольныя хвіліны Яўген працягвае займацца жывапісам, што вельмі важна, бо навык творчасці патрабуе пастаяннага ўдасканалення.

У свой час Яўген Сапкала завочна скончыў Народны ўніверсітэт мастацтваў імя Н. К. Крупскай у Маскве. На вялікі жаль, няўдалымі аказаліся дзве яго спробы пасля заканчэння сярэдняй школы паступіць спачатку ў Растоўскае мастацкае вучылішча, а потым – у Яраслаўскае. Яўген Сапкала прымаў актыўны ўдзел у Першай і Другой абласных маладзёжных выставах (у 1978 і 1979 гг., калі старшынёй Брэсцкага маладзёжнага аб'яднання мастакоў быў заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Пётр Аляксеевіч Данелія) і ніколі не адмаўляўся ўдзельнічаць і ў іншых абласных мастакоўскіх выставах.

Апошнія гады ў мяне склалася добрае творчае супрацоўніцтва з Яўгенам Сапкала. А інакш і не можа быць, бо мы знаёмыя яшчэ са школьных гадоў, з тых самых часоў, калі займаліся ў студыі выяўленчага мастацтва ў абласным доме піянераў і школьнікаў у выдатнага педагога Міхаіла Сяргеевіча Талмачова.

Яго чалавечая далікатнасць і адказнасць да працы ніколі не пакідаюць мяне абыякавым. І таму з цікавасцю ўглядаюся ў кожную новую жывапісную работу мастака-дызайнера, у кожны новы дызайнерскі твор.



*"Нацюрморт з лімонамі"*

# НЕЗВЫЧАЙНЫ ЎСПАМІН



Калі бачу Аляксея Жэрало на мастацкіх выставах, дык кожны раз, гледзячы на яго ўсмешлівы твар, прыпамінаю таварыша па службе ў войску Мішу Таусенева з Алтаю... Яны падобныя сваімі сонечнымі тварамі і непаслухмяныміваламі. Успамін пра Мішу вяртае мяне ў гады вайсковай службы ў Венгрыі, а з Аляксеем мы жывем у адным горадзе.

Доўгі час я мала ведаў пра мастака Аляксея Жэрало, пакуль не стала патрэбным больш пільна ўгледзецца ў яго творы, прыслухацца да ягоных аповедаў пра асабістае творчае жыццё...

Каляровыя акрылавыя кампазіцыі Аляксея захапляюць сваёй экспрэсіяй. А яшчэ ён педагог, доўгі час працуе ў Дзіцячай мастацкай школе нашага горада: выкладае жывапіс і кампазіцыю, актыўна ўдзельнічае ў выставах і пленэрах.

Маляваць Аляксей пачаў у школьныя гады. З таго часу і захапіўся любімай справай, якая вядзе яго па жыцці. Вялікія дасягненні абавязкова чакаюць наперадзе. А пакуль творчая думка накіроўвае Аляксея да мальберта, да пэндзляў і фарбаў, якія клічуць да любімай працы...



*"Неспакой"*

# ПАЛЁТ НАД ЖЫТАМ
## Пра жывапісныя партрэты літаратараў Леаніда Валасюка

Выдатны англійскі пісьменнік Джон Фаўлз з горыччу папярэджвае чалавецтва, што знікаюць не толькі рэдкія віды жывёл, але і рэдкасныя разнавіднасці пачуццяў.

І сапраўды, сацыяльныя ўзрушэнні паднялі столькі мулі са дна падсвядомасці, што ў душы нашага грамадства ўсё менш застаецца месца крытэрыям дабрыні. З нашага абыходу пацíху знікаюць такія словы, як дабрата, ахвярнасць, самаадданасць. Наогул, дабрыню чамусьці пачалі амаль што таптаць нагамі, параўноўваючы з кволасцю, а то і з дурнотаю. Прызнайцеся шчыра: калі раптам зойдзе гаворка пра альтруізм у кантэксце сучаснасці, разумны сэнс, падахвочаны кагортай псіхолагаў і звіхнутай рэчаіснасцю, у першую чаргу з уніклівасцю анатама пачне адшукваць хоць які-небудзь занядбалы карыслівы намер у добразычлівым учынку, а калі ж не патрапіць знайсці пацверджання сваёй падазронасці, пагардліва пакруціць віртуальным пальцам каля віртуальнай скроні.

У час, калі на грамадскай ніве культываваныя раней высокія ідэалы ў такім заняпадзе і з кожным годам на прасторах ідэалогіі ўсё больш прывольна пачувае сябе нахабнае пустазелле, у час, калі інстытуты духоўнасці таксама раз’ядае карозія меркантыльнасці, распавядаць пра нейкі там альтруізм нават рызыкоўна.

І ўсё ж такі, дзякуй Богу, не звяліся з нашай зямлі людзі, якія не ўсе свае ўчынкі падпарадкоўваюць уласнай карыслівасці і грашоваму абагачэнню. Леанід Валасюк, берасцейскі мастак і літаратар, нягледзячы на сціпласць ганарараў і недахоп вольнага часу, робіць пацíху добрую справу: увасабляе ў фарбах сваіх калег з берасцейскай творчай сябрыны (“Берасцейскае вогнішча”).

У своеасаблівай літаратурнай галерэі – партрэты Алеся Каско і Аляксея Філатава, Ніны Мацяш і Ярыны Дашынай, Алеся Паплаўскага і Сяргея Амельчука, Міколы Папекі і Міколы Сянкевіча, Івана Мельнічука і Мікалая Цялічкі, Івана Арабейкі, Сяргея Грышкевіча і іншых паэтаў і празаікаў...

Не бяруся рабіць падрабязны аналіх твораў. Гэта, у рэшце рэшт, справа прафесіяналаў. Мяне ж, нароўні з маральным аспектам, найперш цікавіць палітра ўражанняў. На мой погляд, мастак не ставіць перад сабой мэты расшаркваціца перад другаснасцю знешняга вобліку, а спрабуе як мага больш пранікнуць у складанае ўнутранае асяроддзе творцаў тонкай паэтычнай субстанцыі. Інакш для чаго яму ва ўласным партрэце паказваць не росквіт жыццёвых сіл, а чалавечую ролю ў адольванні перыпетый жыцця? Нават Папека, які, як вядома, і ў ясны, сонечны дзень будзе з жарам сцвярджаць, што за вокнамі навальніца, пагодзіцца: матэрыялізаваная мастаком Міколава харызма на ягоным партрэце яскрава б’е праз усе сітавіны сціплай постаці і начыста забівае прышпілены да паэта каларытны пружанскі пейзаж. Мала, мала папекаўскім амбіцыям лагоднасці рапсавага квітнення! На заднім плане яўна не хапае старажытнага Рыма, ахопленага полымем ці, на крайні выпалдак, прэзідэнцкай “круцёлкі”...

І на партрэце Ярыны Дашынай бачыш не прывабную маладую жанчыну ў шчаслівай пары мацярынства, а не па гадах творчую сталасць, якая ўладарна наклала адбітак на вобраз таленавітай паэткі.

Асобна хочацца затрымацца каля супярэчлівага партрэта Ніны Мацяш. Скажу шчыра: першае ўражанне ад карціны было ўражаннем абываценя. У галаве разгублена замітусіліся думкі: ці гэта няўдача, ці такая задумка мастака? Вядома, кожны майстра мае права на свой стыль. Як не згадаць знакамітага Мадыльяні, які, як вядома, нягледзячы на нястачу сродкаў для існавання, не згаджаўся змяняць сваю творчую манеру і сурова абыходзіўся з вонкавым падабенствам, каб яно не было заслонаю эманацыям душы. Але ў дадзеным выпадку я беспаспяхова шукала ў рысах твару, у позірку, у застылай постаці Ніны Язэпаўны той рэдкай сардэчнасці, якая здзіўляла кожнага, хто меў шчасце быць знаёмым з вялікай паэткай, якая зрабіла адчувальны ўклад не толькі ў беларускую, але і ў сусветную літаратуру. І гэтая адсутнасць аўры цяпла “збіла з ног” маё ўражанне ад партрэта.

Зусім па-іншаму ён глянуўся мне ў Белаазёрскай гарадской бібліятэцы, якая з нядаўняга часу носіць імя знакамітай зямлячкі, дзе праходзілі чарговыя паэтычныя чытанні “Бабіна лета з Нінай Мацяш”. Перш-наперш кінулася ў вочы незвычайная (амаль суровая) засяроджанасць,

якая дарэшты адмятае ўсё навокал: і ласкавы пагляд летняга рання за вакном, і святочны палёт ластавак, і кветкавае хараство, якое з такой любоўю Ніна ўвасабляла не толькі ў паэтычных, а і ў сваіх пёркаграфічных шэдэўрах. У напружаным абліччы, паводле трапнай заўвагі Алеся Разанава, адчуваецца нешта егіпецкае, я сказала б, нават нешта сакральнае. Як мне здаецца, толькі ў такім медытатыўным стане і можна ажыццявіць палёт над жытам – палёт над мітуснёй, над прозай жыцця. Нездарма сціплая паэтка прасіла мастака, які браў дазвол на партрэт, не малюваць яе з крыламі. Хто ведае, ці не вадзіла рукой Леаніда тая ж самая Муза, што надыктоўвала нашай берасцейскай зорцы зорныя радкі, каб побач з фотаздымкамі і творчым набыткам мы маглі бачыць праяву акрыляльнай сілы духу вялікай мысляркі, усё жыццё якой з'явілася пацверджаннем яе выпакутаваных думак:

Інач усё, што можаш
перайначыць,
Вітай усё, над чым не ўладны ты.
Што ж да аддачы...
Не чакай аддачы.
Не тут яна. За рысай нематы.

Гэта, канечне, мой погляд на творчасць Леаніда Валасюка. Але і ў кожнага з вас ёсць магчымасць атрымаць уласнае ўражанне ад яго партрэтаў і карцін. Прыязджайце на штовосеньскія мацяшынскія чытанні ў Белаазёрск! А мне хочацца пажадаць самабытнаму мастаку і літаратару і надалей творчага плёну і ад душы падзякаваць за добры пачын.

*Валянціна ОСІПАВА, паэтка*



*"Паэт-пчаляр М. Папека"*



*" Паэтэса Я. Дашына"*



*"Паэтэса Н. Мацяш"*



*"Паэт А. Каско"*

# НЕВЯДОМЫ ПАЭТ-ЗЕМЛЯК



Так здарылася, што нечакана на адкрыцці сваёй персанальнай мастацкай выставы “Жыўлюся роднаю зямлёй...” у Генеральным консульстве Украіны ў Брэсце 1 чэрвеня 2010 года я атрымаў у падарунак ад выкладчыка БрДТУ Віктара Місіюка другі нумар спецвыпуску “БЯРОЗАВЫ ВЕНІК” (сакавік 2010 г.) – грамадска-палітычнага выдання горада Бярозы Брэсцкай вобласці, які цалкам прысвечаны Уладзіміру Ігнацьевічу Кітаеўскаму – самабытнаму паэту, ураджэнцу хутара Стаўпы Жабінкаўскага раёна. Сам хутар стаяў за два-тры кіламетры ад нашай вёскі Песцянькі ўжо Кобрынскага раёна, а Ул. Кітаеўскі быў равеснікам майго дзеда па бацьку Івана Філімонавіча.

Біяграфічны матэрыял напісала кабрынчанка Ніна Рыгораўна Марчук, што жыве і займаецца фермерствам і краязнаўствам у суседняй з маімі Песцянькамі Глінянцы. Шмат дадзена вершаў паэта на ўкраінскай (палескай) і расійскай мовах. А праз нейкія два тыдні ўжо іншы матэрыял пра Уладзіміра Кітаеўскага прачытаў у нашай абласной газеце “Народная трыбуна” – “Нечаканая госця” літаратара Расціслава Бензерука з Жабінкі (пра самога паэта і пра сустрэчу з ягонай унучкай Алінай Мілушэўскай з Брэста).

Гэтыя дзве падзеі-сустрэчы з паэтам-земляком вельмі ўразілі мяне, бо раней пра яго мала што ведаў, ды і не давялося па-сапраўднаму прачытаць што значнае, хаця ў “Літаратурнай карце Берасцейшчыны” ўтрымліваюцца асобныя звесткі.

Уладзімір Кітаеўскі нарадзіўся 3 чэрвеня (па старому стылю) 1896 года ў сям’і унтэр-афіцэра расійскай арміі Ігната Іванавіча Кітаеўскага і шляхцянкі Кескевіч Ганны Васільеўны. Хрысцілі Уладзіміра ў царкве суседняга сяла Вежкі.

Дзед бацькі паэта Іван некалі купіў для сына Ігната тыя 20 дзесяцін зямлі ў памешчыка побач са станцыяй “Стаўпы” чыгункі Варшава-Брэст-Масква. Працавалі на зямлі, трымалі кароў і пчол. Мелі два ветракі. Самі пабудавалі вялікі дом. У сям’і былі два сыны – Ігнат і Пётр.

Маці паэта Ганна Васільеўна Кескевіч была дачкою пісара з Камянца – Васіля Кескевіча. Недзе ў 16 стагоддзі іхні продак атрымаў шляхецтва за ваенныя заслугі ў Лівонскай вайне (Іван Грозны ваяваў з Рэччу Паспалітай за выхад да Балтыйскага мора). У дапаўненне да шляхецкага чыну была даравана ў пажыццёвае наследаванне і зямля ля Камянца.

У сям’і паэта было трое братоў – Пётр, Хведар і Уладзімір.

Першапачатковую адукацыю будучы паэт атрымаў дома. Яго маці Ганна была адукаванай жанчынай. Потым Уладзіміра аддалі на вучобу ў Брэст-Літоўскую мужчынскую гімназію (пэўна, разам з ім вучыўся і Дзмітрый Фалькоўскі (Ляўчык), вядомы паэт Кобрыншчыны і Украіны).

Можна думаць, што Уладзімір Кітаеўскі паспеў скончыць гімназію да пачатку баявых дзеянняў Першай сусветнай вайны на Берасцейшчыне ў 1915 годзе. У той жа год яго мабілізавалі. А сям’я павінна была выехаць у бежанцы ў глыб Расіі. Затрымаліся ў Херсоне.

Уладзімір Кітаеўскі меў чын афіцэра 17-га Фінляндскага палка (у дзеючай арміі знаходзіліся і яго два браты). Быў двойчы паранены.

Рэвалюцыю 1917 года Уладзімір прыняў. Служыў у Чырвонай Арміі. Быў сур’ёзна паранены ў правую руку. Уладзіміра, па яго просьбе, адправілі на службу ў бальніцу ў Херсоне, дзе на той час знаходзілася сям’я Кітаеўскіх (дакладней, толькі маці, бо бацька на той час ужо памёр ад грыпу).

У Херсоне малады паэт сустрэў і сваё першае каханне – прыгажуню Аксінню.

Але вайна скончылася, і, калі прыйшоў дазвол на вяртанне бежанцаў на радзіму, маці пачала збірацца. Прадала апошнюю найвялікшую каштоўнасць – Залаты крыж дзеда Івана, які той атрымаў на вайне з туркамі. На тыя грошы купілі каня з возам, зерне і адправіліся ў родныя Стаўпы.

Вайна вынішчыла ўсю сядзібу. Памянялася і ўлада: родныя мясціны былі пад Польшчаю.

Уладзімір Кітаеўскі пакахаў суседку з вёскі Лышчыкі Юлію Мендзяльчук. Калі ажаніліся, то жылі спачатку ў Стаўпах, а потым купілі зямлю і дом у сяле Тэўлі, што непадалёк ад чыгункі. Уладзімір працягваў працаваць на чыгунцы і пісаць вершы.

Нарадзілася дачка Галіна. Крыху пазней людзі абралі яго войтам у Тэвельскую гміну. Усё напачатку было быццам бы добра, але калі пачаў выказвацца пра вывучэнне дзяцей на ўкраінскай мове, то быў вызвалены з пасады войта. Пайшоў зноў працаваць на чыгунку.

Настаў 1939 год. Зноў памянялася ўлада. Прапанавалі пайсці працаваць у сельсавет. Людзі падтрымалі.

Пры паляках Уладзімір Кітаеўскі друкаваўся ў Львове ў часопісе “Вікна”. Цяпер пачаў адпраўляць вершы ў Мінск. Пісаў і на расейскай мове. Падаў заяву на ўступленне ў Саюз пісьменнікаў БССР.

На пачатку 40-х гадоў выйшаў у адстаўку. Працаваў на настаўніцкіх курсах, выкладаў у школе ў Рынках. Але нядоўга, бо нехта данёс, што пры Польшчы працаваў войтам. Пайшло агульнае расчараванне жыццём, да таго ж прастудзіўся і захварэў.

Уладзімір Кітаеўскі памёр у ноч на 1 студзеня 1941 года. Пахаваны паэт на Тэвельскіх могілках, дзе знаходзіцца і вялікае пахаванне загінулых у Першую сусветную вайну рускіх салдат...

Так сталася, што ўвесь архіў (большую частку ўкраінскамоўных вершаў) Уладзіміра Кітаеўскага дачка паэта Галіна напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя перадала ў Кіеў у Цэнтральны дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва УССР. Вершы паэта жонка Юлія Астапаўна ў час Вялікай Айчыннай вайны склала ў жалезнае вядро і закапала ў Тэўлях і такім чынам захавала для сям’і і нашчадкаў, бо дом спалілі немцы ў 1944 годзе, калі адступалі на захад.

На цяперашні час сын паэта Вячаслаў, унучкі Аліна Мілушэўская і Святлана Тарасевіч робяць усё, каб выдаць асобнаю кніжкаю зборнік вершаў таленавітага паэта-самародка, каб яго імя было вядома на радзіме – на Берасцейшчыне, на Жабінкаўшчыне і на Кобрыншчыне, дзе давялося яму жыць і працаваць, дзе знайшоў і свой апошні прытулак.

... Кохайте ж, любіте ви, добрі селяни,
Цэ миле Палісся та й мову свою.
Працюйте, учітесь... Ума набирайтесь.
Хай промінь освіти засяе в краю!

*“Батьківщина”, 28.10.1928р., в. Стовпи*

## *Уладзімір КІТАЕЎСКІ*

### ЧОРНІ РУКИ

Благословенні чорні рукі.
Дорогоценні мозолі –
Липки від гразі та мазюки,
Брудні від гною та землі!
Руки порепані та грубі,
Напухли кров’ю прути жил.
У бесконечнім дійсним труді
Реальних творців мрійних діл!
Звідки взялися дивовижні
Міста, села та фабрики?
Блискучих рельс стіжки залізні,
Та пароплави й літаки?
Звідкі взялися чуда праці,
Надбані протягом ста літ?
Безліч машин та ружні рэчі,

Що нам радіти на ввесь свит?
Все придумае мозок твірчій,
Але який це був би скрут,
Якби для геніяльних твірців
Не було би мозолістих рук?
Руки мозолистыі та грубі
Творять на світі все добро
Ледащим та грабіжним жменям,
Що діють кривду, сіють зло...
Руки мозолісті та грубі
Ігтям грабіжним вчинять суд!
Підимуть землю та врочисто
Прапор свободи вознесуть!

## БАТЬКІВЩИНА

Згадайте, згадайте минуле, селяне,
Було то давненько – тринадцять, май, літ,
Як рідні оселі свої оставляли,
Свій власний пожиток, та й рушили в світ.
Ішли ми зі смутком в далеку Росію,
Здавалось, навіки свій край залишив…
А наші оселі свічками горіли…
Гарматы ревіли – бій страшний кипів.
Думки в нас роілись: то кара Господня,
Нам тяжкоі долі, мабуть, не знести,
Спіткае нас болість, спіткае голодна,
На ланах далеких прийдеться вмерти…
Та ось незабаром назад повернули
На ті пожарища нам рідних хаток,
Де лишень кропива свій лист розвірнула
І смутно вітала той наш поворот.
Та праца, охота, любов і  старання,
Як той переможець, всміхнулися нам,
Ми знов збудувались і маем убрання,
Худобинку маем уже по дворах.
Хоч скрутно нам жити, ми все переможем,
Бо любим Полісся та й мову свою,
Ми душу і тіло за край свій положим,
Чи в праці… науці… Чи, може, в бою?
Здалека, здалека ми всі повернули,
Хоч там десь далеко ми  всі обжились,
То серце нудьгою чогось огорнуло,
Шептало нам тихо: вертайсь, не борись…
Бач – ждуть тебе з смутком ріднесенькі лани,
Ліса віковичні, зелені гаі…
Бач – тут твоі літа дитячі зостали
І все твое щасця, любов взагалі!..
Кохайте ж, любіте ви, добрі селяне,
Це миле Полісся та й мову свою.
Працуйте, учітесь… Ума набирайтесь,
Хай промінь освіти засяе в краю!..

## ЭМІГРАНТ

І продав він на дорогу
Свій оплаканий загін.
І заставчев жінку, діте
Без дасобів, без харчів.
Сам поіхав ин за море
Щоб крівавий пит пролить
За насущний кусень хліба
Може й голову зложить.
А у дома жінка, діти
Ждуть від його хоч листа.
Як поіхав ще на пути
Да душа його віта.
Кажуть люди і за морем
На вербі грушок нема,
Эмігрант наш без работи
Ой болить йего душа.
Жінка з краю, він за морем
Що при стежці той горох
Чи не краще було дома
Бідкатися удвох.

## ПРАЧКА

Во мраці в задвірку та ще в сутэрині
Огонь крізь віконце блищить,
То журко мигае звідтіля промінне…
Хто ж там? Сиротина не спить,
То мійская прачка, бідна вдовиця
Одежу конча віджимать.
А мило і пара кігтями тісняться
І груди й нема чим дишать.
І шкуру на пальцяхвже всю постирала,
Ще хвиля і виступить кров.
А сон іі морить, морить від рана:
Но боре вдовиця, ох боре свій сон…
Боре та згадуе миле юнацтво…
Свое ще безжурне життя.
Куди вона вбилась–неначе в богатство?
Згадуе та тяжко зітха.
А там на поверхні у тій сутерині
Сплять солодко-солодко всі
На мягкій та білій перині…
Огонь кріз віконце блищить.

# ПРАРОЧАЕ СВЯТЛО



Са школьных гадоў ведаю гэтага статнага мужчыну з ваеннай выпраўкай і элегантнымі кароткімі вусамі. Ён часта выступаў са сваімі вершамі перад намі – вучнямі старэйшых класаў 16-й сярэдняй школы на Граеўцы. “ Я – украінец, жыву ў Беларусі, а вершы пішу на расейскай мове! “ – так заўсёды гаварыў слухачам Мікалай Рыгоравіч (пазней, калі адбыўся развал СССР, ён стаў пісаць і друкаваць свае вершы на роднай украінскай мове ).

Мікалай Рыгоравіч Цялічка доўгі час працаваў у нас лагапедам. Яго кабінет знаходзіўся ў будынку старой драўлянай (былой польскай) школы па вуліцы Карасёва. Туды я прыносіў яму і свае школьныя вершы, якія ён чытаў, рабіў крытычныя заўвагі. Тыя два блакноты з “аўтографамі” настаўніка (на вокладках было друкарскім шрыфтом пазначана “Для вершаў”) захоўваю і сёння як самую вялікую каштоўнасць. Вялікі дзякуй яму за навуку! Цялічка быў першы з сапраўдных паэтаў, хто разбіраў мае пробы пяра...

Акрамя таго, што Мікалай Рыгоравіч часта выступаў у школе перад вучнямі па запрашэнні настаўніц беларускай і рускай мовы і літаратуры Антаніны Васільеўны Башчук і Маі Мікалаеўны Васільевай, ён арганізоўваў для нас літаратурныя сустрэчы з вядомымі берасцейскімі і ўкраінскімі літаратарамі. На ўсё жыццё запомнілася паездка да паэтэсы і перакладчыцы Ніны Мацяш у Белаазёрск вясною 1973 года.

Мікалай Рыгоравіч Цялічка – былы афіцэр-франтавік (у 22 гады ён быў ужо капітанам). І вершы яго – пра вайну, пра цяжкія салдацкія будні, выпрабаванні, пра сяброў-афіцэраў, франтавікоў. У шэрагу твораў раскрываюцца гераічныя старонкі абароны Брэсцкай крэпасці, службы пагранічнікаў. Прысутнічаюць у яго і лірычныя матывы...

Институт учительский кончаю.
Мне шинель солдатская – пальто.
На коленях мальчика качаю,
По-отцовски важен, как никто.

Я и сын (уже весны участник)
Греемся на солнечном тепле…
У меня в руках такое счастье,
Без какого страшно на земле.

А нарадзіўся Мікалай Цялічка ў сям’і ваеннага ўрача, таму яму часта даводзілася пераязджаць з аднаго месца на іншае. Пачатковую школу закончыў у мястэчку Носаўка Чарнігаўскай вобласці. Затым жыў і вучыўся ў Ленінградзе, Сталінградзе, Махачкале. Першыя яго вершы былі апублікаваны ў сталінградскай абласной піянерскай газеце яшчэ ў 1938 годзе.

Вялікую Айчынную вайну Мікалай Рыгоравіч сустрэў у горадзе Брады Львоўскай вобласці. У 1942 годзе паступіў у ваеннае вучылішча, пасля заканчэння якога ўдзельнічаў у баях на многіх франтах, у тым ліку на 2-м і 3-м Беларускіх. Прымаў удзел у вызваленні ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Крыма, Беларусі і Прыбалтыкі. Быў паранены, мае баявыя ўзнагароды.

Пасля вайны, працуючы настаўнікам у Кобрыне, ён закончыў завочна літаратурны факультэт Брэсцкага педагагічнага інстытута, потым завочна вучыўся на лагапедычным факультэце ў Маскве. Увогуле, увесь пасляваенны час жыве на Берасцейшчыне. Толькі ўжо пасля 85-ці гадоў пераехаў жыць на Украіну да сваіх дачок, але часта наведваецца ў Брэст, дзе пахавана яго жонка. Апошнія нячастыя сустрэчы з Мікалаем Рыгоравічам заўжды прымаю як падарунак лёсу...

У 1963 годзе выйшла першая кніжка вершаў Мікалая Цялічкі “Добрый ливень”, потым –

зборнік “Дерево в бору”, кніжкі вершаў “Соль на касках”, “Следы времён”, «Вещий свет» і іншыя.

Сталы чалавек, грамадзянін, паэт Мікалай Рыгоравіч Цялічка і зараз застаецца ў страі. Напярэдадні свайго 85-гадовага юбілею ён стаў членам грамадскага аб’яднання “Саюз беларускіх пісьменнікаў”.

Для мяне са школьных гадоў Мікалай Рыгоравіч Цялічка быў і ёсць прыкладам мужнага і творчага чалавека, які, дажыўшы да 90-гадовага юбілею, не перастае плённа працаваць і займае у жыцці вартую грамадзянскую пазіцыю.

Атрымалася так, што перад яго 90-гадовым юбілеем дочкі прыязджалі самі, без бацькі. Давялося праз іх перадаваць віншавальны адрас ад нашага абласнога аддзялення СБП і жывапісны партрэт Мікалая Рыгоравіча, які я зрабіў да гэтай падзеі ў падарунак паэту-франтавіку. Праўнучак паэта, шасцігадовы Саша, пасля таго, як я ўжо пайшоў ад іх, спытаў у сваёй мамы: – А гэта зараз да нас прыходзіў Тарас Шаўчэнка?!. (Тады было яшчэ холадна, і я прыходзіў у сваім чорным скураным паліто і папасе.)

Вось і зноў у 2013 годзе прыехаў ён у Дзень Перамогі ў Брэст са сваімі дочкамі Святланай і Галінай і запрасіў нас, берасцейскіх літаратараў, да сябе. І шмат гаварыў Мікалай Рыгоравіч, і шмат успамінаў пра ваенныя гады, пра гады пасляваенныя, пра творчыя набыткі...

## *Мікола ЦЯЛІЧКА*

### СЛУШАЯ ИВОЛГУ

Выгнулось небо над садом,
как зонт,
Немец попятился за горизонт.
И на привале –
рота во сне,
как в глубоком провале,
Там не метался я в полубреду, –
иволгу слушал в станичном саду.
Как она пела!..
…Тихо звезда над станицею спела…
Слушая иволгу,
думал о том,
что посажу я на месте пустом
яблоню с грушей.
С девушкой встречусь,
с самою лучшей.
Выстрою дом против юных дерев.
Душу в нём счастьем своим обогрев,
вешней порою
свисту заленому окна открою.
Так в сорок третьем
нещадном году
верил,
что выживу,
с фронта приду, –
гибель отступит,
время солдатские боли притупит.
Слушая иволгу,
думал о том,
что посажу я на месте пустом
яблоню с грушей.
Сыну скажу: «Иволгу слушай…»

# АПОШНІЯ АЎТОГРАФЫ НІНЫ МАЦЯШ



Памятаецца, як у 1973 годзе, мы, вучні і настаўнікі 16 - й брэсцкай школы, што на Граеўцы, былі ў гасцях у Ніны Мацяш.

Незабыўная паездка да паэткі з няпростым лёсам адбылася ў траўні. Нас, аматараў роднай мовы і літаратуры, набралася чалавек пятнаццаць. Ніна Язэпаўна расказала нам пра сябе, пра сваю творчасць. Чытала вершы, новую паэму "Алекса Доўбуш", адказвала на нашы пытанні. Я ўвесь час уважліва слухаў паэтку і з яе дазволу рабіў алоўкам накіды на лістках паперы, стараючыся добра рабіць сваю мастакоўскую справу. Потым два аркушы паперы з найбольш выразнымі накідамі я падараваў Ніне Язэпаўне на ўспамін.

Пасля па сваіх накідах я намаляваў два жывапісныя партрэты паэткі. Вельмі ўжо мне карцела зрабіць гэта да заканчэння школы. У школе застаўся першы, зроблены алейнымі фарбамі партрэт, а другі, на якім Ніна Язэпаўна разам з нашай настаўніцай беларускай мовы і літаратуры Антанінай Башчук, я ўручыў сваёй настаўніцы на выпускным вечары.

І цяпер, праз гады, нярэдка прыгадваю гадзіны сустрэчы з вядомаю берасцейскаю паэтэсай, успамінаю незабыўную паездку ў вёску Нівы ля Белаазёрска. Дагэтуль гучаць ува мне тыя вершы Ніны Мацяш:

Вучуся ў дрэў.
У нізкае ракіты –
Глыбей у глебу
        весці карані,
А у бярозы,
        восенню адкрытай, –
Вяртаць лістотай
        сонца з вышыні.

Вучуся ў дрэў.
І навучыцца б толькі
Пранесці праз усё
        маё жыццё
Бясстрашнае такое ж,
        як у вольхі –
Зялёнае і ў лістапад, –
        лісцё.

А ўжо апошняя наша сустрэча адбылася 6 верасня 2008 года, напярэдадні шасцідзесяціпяцігоддзя Ніны Мацяш, у Брэсцкай абласной бібліятэцы імя М. Горкага. Тады я папрасіў паэтэсу пакінуць свой аўтограф у альбоме з фотаздымкамі берасцейскіх літаратараў. Ніна Язэпаўна распісалася яшчэ ў дыпломах Берасцейскай мядовай літаратурнай прэміі за 2008 год для Кастуся Жмінько і мяне. Гэта былі апошнія аўтографы Ніны Мацяш у Берасці. Гэта была, на вялікі жаль, наша апошняя сустрэча. Асабіста для мяне ўсе сустрэчы і размовы з Нінай Язэпаўнай сталі незабыўнымі. Я заўсёды буду памятаць яе словы пра тое, што трэба падтрымліваць адзін аднаго і рабіць добрыя справы дзеля Беларусі. І як бы ні было цяжка, неабходна захоўваць у душы высокія пачуцці.

На той час я ўжо працаваў над новым вялікім партрэтам паэтэсы паводле аднаго з фотаздымкаў, які мне асабліва спадабаўся. Калі прасіў дазволу, яна адказала: "Добра, Лявоне, малюй. Толькі без крылаў!"

Той партрэт цяпер можна пабачыць у гарадской бібліятэцы ў Белаазёрску, якой далі імя Ніны Мацяш.

# “ ХАЙ ВАМ СВЕТЛА БУДЗЕ ЎСІМ, КАГО ЛЮБЛЮ... “

Сонечным, крыху ветраным днём 6 кастрычніка 2010 года, у сераду, упершыню адбылося запамінальнае мерапрыемства – паэтычныя чытанніі “БАБІНА ЛЕТА Ў БЕЛААЗЁРСКУ РАЗАМ З НІНАЙ МАЦЯШ ”. Тое, што сапраўды ў Белаазёрску ў той дзень было бабіна лета, адчувалася як і ў самім горадзе, так і ў па-святочнаму афармленым, прасторным памяшканні Дома культуры, дзе праходзіла вечарына.

Арганізатарамі-ініцыятарамі чытанняў былі настаўніца беларускай мовы і літаратуры, сяброўка Ніны Мацяш Галіна Скарына, дырэктар бібліятэкі імя Ніны Мацяш у Белаазёрску Тамара Кузняцова і малодшая сястра славутай паэткі – Алена Язэпаўна. Падтрымалі ініцыятыву землякоў Ніны Мацяш губернатар Брэсцкай вобласці Канстанцін Сумар, абласная бібліятэка імя М. Горкага, загадчыца кафедры беларускага мовазнаўства БрДУ імя А. С. Пушкіна Марыя Новік, пісьменнікі Берасцейшчыны.

Шматлікія госці, літаратары з Мінска, Брэста, Бярозы, Іванава напачатку наведалі магілу Ніны Мацяш, усклалі кветкі, а пасля пабывалі ў кватэры паэткі, дзе гартаваўся яе дух, дзе ўсё засталося так, як і было ў апошнія дні жыцця Ніны Язэпаўны. Шматлікіх гасцей сустракаў пляменнік Руслан. Смуткам і жалем поўніліся вочы Алеся Разанава, Анатоля Вярцінскага, Васіля Жуковіча, Сяргея Панізьніка... родных і блізкіх. Вялася размова, каб гэтую кватэру перадварыць у музей, каб устанавіць мемарыяльную дошку на доме, дзе жыла Ніна Язэпаўна, а з часам і помнік мужнай паэтцы. А для гэтага так неабходна дапамога мясцовых уладаў, важкае слова кіраўніка Брэсцкай вобласці. Памяць абавязвае...

Адкрыў Першыя паэтычныя чытанні пляменнік паэткі Руслан, які з надзеяй зазначыў: “Бабінаму лету жыць!” Чула, пранікнёна вялі вечарыну Святлана Воронік з Брэста і Галіна Скарына з Белаазёрска.

Амаль тры гадзіны доўжылася размова з Нінай Мацяш у Доме культуры, мяняліся фотаздымкі паэткі на экране, гучалі яе словы. Было што сказаць кіраўнікам пісьменніцкіх аддзяленняў Брэсцкай вобласці Івану Мельнічуку і Анатолю Крэйдзічу, навукоўцам БрДУ імя А.С.Пушкіна Генадзю Праневічу і Міколу Аляхновічу, паэтам Міхасю Скоблу, Алесю Разанаву, Анатолю Вярцінскаму, Міколу Папеку... паэты чыталі свае творы, выконваліся песні на вершы Ніны Мацяш.

Алесь Пашкевіч, на той час старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў, упэўнена выказаў думку, што Ніна Мацяш з’яўляецца паэтэсай не толькі беларускай зямлі, але і агульнаеўрапейскага асяродку...

Сястра паэткі Алена Язэпаўна ў сваім выступленні адзначыла, што Ніна была светлым агеньчыкам, да якой цягнуліся ўсе. Паважала, любіла сваю пісьменніцкую сябрыну, а таксама сваіх родных і блізкіх. Яна не баялася смерці, бо ведала, што такое вечнасць. Адчувала сябе свабоднай у сваёй уладкаванай кватэры, якую атрымала пры дапамозе мясцовых уладаў.

Генадзь Праневіч успамінаў, што Ніна Язэпаўна ставілася да кожнага, з кім звязваў яе лёс, як да бліжняга, што яе любоў да чалавека не мела межаў. І дадаў, што Белаазёрск – шчаслівы горад, бо мае сваю легенду. Вуснамі Ніны Мацяш загаварыў увесь Белаазёрскі край, усё беларускае Палессе.

“Быць адзіннымі! Адзіннымі духам, адзіннымі ў справах нацыянальнага адраджэння краіны...” Гэта былі словы як наказ, як запавет з апошняга ліста Ніны Мацяш да Анатоля Крэйдзіча, адказ каторага яна ўжо не паспела прачытаць.

*Ніна МАЦЯШ*

## СЯБРЫНЕ

Не знадзейвайся. Перажыві.
Хоць якая, ды ёсць патоля:
Намарозіць радня па крыві –
Адагрэе радня па долі.
Скруха – зашмаргай... Перарві.
Ёсць лагода на боль, на скруху:
Адрачэцца радня па крыві –
Паратуе радня па духу.

Праўду гэту – як ёсць – прымі
Да сцяжыны далейшага руху.
Будзь здарова, радня па крыві.
Будзь бяссмертна радня па духу!

## ЛЮБОЎ

Той час, як прасякнуты табою... –
Адно ў той час бываю я жывою.

Адно тады напэўна знаю я:
Не марна доля доўжыцца мая.

Не марна выпрабоўвае сурова:
Ты зерне ў ёй.
Астатняе – палова.

## КАМЕНЬ

Зласліва кінеш камень у крыніцу –
І зразу скаламуціцца вада,
Знікае зоўны воблік таямніцы,
Узвірваецца ўсякая бяда.

Але па часе мут зноў ападае,
Зноў плынь празрыста-вабная бяжыць,
На камень той ужо і не зважае.
А камень той, як на душы, ляжыць.

## ДАРОГА

*Інаку Мікалаю*

Табе ўсё адно,
ступакі цябе мераюць,
колы ці капыты.

Табе ўсё роўна,
хто ці што ў таварыстве тваім –
пясок, мурог, лес ці скалы,
разумныя ці неразумныя,
і ці ўхвальваюць цябе,
ці гудзяць.

Стаяць пры табе
і вучэльня, і балаган,
тут храм, а там крама,
ды няма табе справы да гэтага,
бо твой клопат – злучаць,
а не залучаць,
звязваць,
а не навязваць.

І дзяліцца з усімі
праўдай сваёй,
як сёння са мной:
як нескладана –
і як прыгожа! –
быць адзінымі ў існаванні,
адзінымі
і памкнёнасцю, і пакліканнем.

Бо не ў табе раздарожжа.
Памажы, Божа!

***

Лёгкі шоргат – і ціша...
Хто знянацку заспець мяне хоча?
Азірнулася:
апалым лістком
восень глянула ў вочы...

# СЛОВА ПРА УЛАДЗІМІРА КАЛЕСНІКА



Упершыню пачуў пра Уладзіміра Андрэевіча Калесніка з вуснаў сваёй настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Антаніны Васільеўны Башчук. Яна была добра знаёмая з ім, супрацоўнічала, таму нам, вучням, неаднойчы расказвала пра знакамітага вучонага і пісьменніка на ўроках літаратуры. Да таго ж абяцала мяне (тады пачынаў тое-сёе рыфмаваць) пазнаёміць з ім. Шкада, асабістага знаёмства так і не адбылося... Хаця, вядома ж, я неаднойчы бачыў і чуў Уладзіміра Андрэевіча на шматлікіх гарадскіх мерапрыемствах.

Прозвішча Уладзіміра Калесніка ўвайшло ў маю памяць, калі прачытаў кнігу “Я з вогненнай вёскі...”, якая была напісана трыма аўтарамі: Алесем Адамовічам, Янкам Брылём і Уладзімірам Калеснікам. Гэта стала падзеяй.

Уладзімір Калеснік з’яўляўся і застаецца асобай у літаратурным жыцці Берасцейшчыны і Беларусі ўвогуле. Ён быў выдатным пісьменнікам, культурным і грамадскім дзеячом, настаўнікам, даследчыкам літаратуры, дарадцам маладых талентаў, светлым чалавекам...

Уладзімір Андрэевіч меў энцыклапедычныя веды ў галіне літаратуры і мастацтва, адкрыў нікім не распрацаваны магутны пласт заходнебеларускай літаратуры. Ён па-бацькоўску ставіўся да моладзі, усімі спосабамі падтрымліваў тых маладых творцаў, хто меў жарынку таленту. Уладзімір Калеснік быў збіральнікам творчай моладзі Берасцейшчыны, ініцыятарам стварэння і першым кіраўніком абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў – “Берасцейскае вогнішча”. Ён нястомна выводзіў на літаратурную арбіту новыя маладыя таленты, сярод якіх былі Ніна Мацяш, Мікола Пракаповіч, Алесь Каско, Зінаіда Дудзюк ды іншыя...

Уладзімір Андрэевіч Калеснік зведаў як шчаслівыя і незабыўныя дні дзяцінства і юнацтва, так і глыбокую ўнутрысямейную драму, што пакінула цяжкі след у ягонай душы на ўсё астатняе жыццё. Ён быў чалавекам складанага і драматычнага лёсу, спазнаў радасць сяброўскай еднасці і боль здрады, шчасце першага кахання і трагічную смерць блізкіх і дарагіх яму людзей...

Прайшло нямала часу з таго дня, як не стала Уладзіміра Андрэевіча, але яго імя і справа працягваюць жыць. Жыве памяць пра Уладзіміра Андрэевіча, якую свята аберагаюць ягоныя калегі, паплечнікі і вучні. Да 85-годдзя з дня нараджэння Настаўніка была выдадзена кніга “Пасланец Праметэя”, у якой сабраны ўспаміны сучаснікаў пра Уладзіміра Калесніка, а таксама творы, прысвечаныя яму.

90-гадовы юбілей Уладзіміра Андрэевіча, які адзначалі 17 верасня 2012 года ў культурна - асветніцкім цэнтры, што носіць яго імя, у Брэсцкім дзяржаўным універсітэце імя А. С. Пушкіна, даў новы штуршок, каб звярнуцца да ягонай спадчыны навукоўца, літаратара і мастака. За два гады да юбілею быў зроблены капітальны рамонт у памяшканні цэнтра, набыта новая мэбля, абноўлена экспазіцыя, прысвечаная Настаўніку – выкладчыку-прафесару, крытыку, літаратуразнаўцу і пісьменніку, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа...

Пасля таго, як навукоўцы, літаратары і работнікі бібліятэк з’ездзілі на магілу Уладзіміра Калесніка, пабывалі ля мемарыяльнай дошкі на доме, дзе ён жыў, праехалі па вуліцы імя Уладзіміра Калесніка, распачалося мерапрыемства ў самім Цэнтры, на якім прысутнічаў і рэктар універсітэта Мечыслаў Эдвардавіч Часноўскі. Завітаў са сталіцы і былы студэнт Калесніка Алесь Разанаў.

Ніна Мацяш у апошнія гады жыцця шмат рупілася аб захаванні памяці пра Настаўніка: пісала лісты да гарадскіх і абласных уладаў, тэлефанавала. Быў момант, калі пры праектаванні і абмеркаванні рабочай мадэлі помніка 1000-годдзю Брэста ішла размова аб увекавечанні постаці Калесніка на ім. Ды толькі потым усё памянялася: улады пайшлі па “саўковым” шляху, зацвердзіўшы абагульненыя постаці – Салдата-пераможцы і Сялянкі-жняі. Лічу гэта вялікай

памылкай, бо помнік атрымаўся эклектычным, а дзве абагульненыя постаці “выпадаюць” з агульнага шэрагу герояў.

## *Уладзімір КАЛЕСНІК*

(з кнігі ўспамінаў “Доўг памяці”)

***

...Мае партызанскія сябры шмат панапісвалі і нават панадрукоўвалі пра гэты рамантычны перыяд свайго жыцця, але рабілі гэта нібыта для таго, каб давесці тым, хто ўмее бачыць і памятаць, што ўспаміны пішуцца спачатку тымі, хто хоча падправіць праўду ў сваю карысць, а потым ужо прыходзіць чарга на тых, хто хоча пераказаць нашчадкам ды і самому сабе, хоча проста лепш усвядоміць праўду, каб яшчэ раз зрабіць з яе нейкі, напэўна ж, некпрыемны вывад. Бо якой бы вялікай і велічнай ні была праўда, яна заўжды, на жаль, вучыць толькі сваімі памылкамі. Жыццё патрабуе ад людзей, якія сапраўды гатовы ўдзельнічаць у справе прагрэсу, не паўтараць памылак. І памыляюцца тыя, хто лічыць, быццам гісторыя патрабуе ад сваіх удзельнікаў паўтараць подзвігі бацькоў. Подзвігі непаўторны... Перад кожным пакаленнем гісторыя ставіць новыя, непаўторныя задачы.

***

На нарах у душнай партызанскай зямлянцы мне прыгадвалася даўняе сямейнае жыццё ў нашай утульнай, пахнучай смолкай хаце.

Зямля, хоць благая, “лес, балота ды пясок”, як пісаў Якуб Колас, была асновай і апорай дабрабыту: сям’я не баялася ні голаду, ні холаду і раздзетай, разутай не збіралася хадзіць. Худа-блага, а хлеба на зіму нараблялі і сена каню ды карове перазімаваць нашыкоўвалі, саломы са стрэх скубці на прадвеснi не даводзілася, каб хоць як дакарміць карову да свежай травы, ды кароў аслабелых падвязаць на вужышчы пад жываты да бэлек бацька не збіраўся, падсмейваўся з гультаяватых “зімагораў”, што пакладаліся на авось ды нябось. А тым, у каго сапраўды была ўважлівая бяскорміца, бацька не адмаўляўся дапамагчы цапкамі сена ці дзяругай мякіны. Маці таксама мела сваіх жанчын, якім сімпатызавала і памагала рэзгінамі мурагу ці кошыкам бульбы, не пытаючыся ў бацькі, каб не дражніць яго гаспадарскага самалюбства.

Вопраткі таксама хапала, маці з сястрой Марусяй упраўляліся напрасці і наткаць за зіму і кужалю ўсім на бялізну, то на ручнікі ды настольнікі, посцілкі, і зрэб’я мужчынам на анучы, нават гуньку кабыле жанкі выткалі, прытым адмысловую, цёплую, з суконнай ніткай на вуток, бо ведалі, што ў бацькавых гарачых руках кабыле даводзілася ўпарыцца да мыла, а потым раптоўна астываць.

А яшчэ ж кожны год назбірвалася штук па дзесяць аўчын, якія бацька вазіў у Мір і здаваў на выраб татарыну: сабе – на чорны колер, а маці або Марусі – на чырвоны. Кожны год шылі з гэтых аўчын кажухі... бацька меў кажух святочны і пару рабочых, адзін падходжвацца ля дому, а другі – доўгі вазацкі, у якім ездзіў у лес, апранаючы на яго ў вялікія маразы яшчэ суконную бурку з башлыком. Пад канец зімы маці ткала сукно з дамашняй воўны, якую бацька вазіў валіць ажно ў Гарадзішча і прывозіў гатовы матэрыял сабе на плытніцкую куртку, на зімовыя порткі і на бурку.

Верш “Слуцкія ткачыхі” нагадвае мне пра святочны настрой у нашай хаце, калі маці з Марусяй, закончыўшы ткаць зрэбнае і кужэльнае палатно, браліся за самае цікавае – за “перабіранкі”...

# ЧАЛАВЕК, ЯКІ РАЗБУДЗІЎ СОНЦА



Першая кніжка беларускага паэта Івана Мельнічука “КТО РАЗБУДИЛ СОЛНЦЕ», якую выдала мінскае “Юнацтва” ў 1982 годзе, была адрасавана дзецям. Ад першага верша “В лесу” да апошняга “Снежинки» ў кнізе рассыпаны каралі вобразаў, якія выхоўваюць у маленькім чалавеку добрыя пачуцці, развіваюць ягоныя кемлівасць, шчырасць, добразычлівасць...

Учит галка галчат:
– Не трещите на весь сад,
За едой не галдят,
А тихонечко сидят.

Кніжка, з густам аформленая, вялікага фармату, выйшла для цяперашняга часу фантастычным тыражом – 100 000 экзэмпляраў і хутка была раскуплена.

“Мне падабаецца ўменне Івана Мельнічука весці гаворку з юным чытачом на роўных, без сюсюкання, і ў той жа час праблемна: амаль кожны верш апрача пазнавальнай нясе маральна-этычную нагрузку. Аўтар умела “высякае” словам шчырую ўсмешку, часам яго творы афарбаваны лёгкай іроніяй, ёсць цікавыя канцоўкі, нечаканыя паэтычныя павароты, як у вершы “Зловредный мяч”. Аўтар умее ў звычайных жыццёвых з’явах убачыць нешта адметнае і незвычайнае. Паэзія існуе вакол нас, трэба толькі ўмець яе разглядзець, зафіксаваць. Іван Мельнічук гэтым умельствам валодае...” – пісаў Анатоль Грачанікаў у водгуку на паэтычную кніжку “Кто разбудил солнце».

У тым жа выдавецтве “Юнацтва” пазней выйшлі яшчэ дзве кніжкі берасцейскага паэта: “САМИ ДИВО СОТВОРИМ» (1992) і «ДОБРЫЙ ЛУЧИК» (1997).

Все люди заняты трудом,
Лишь солнышко встаёт:
Кто хлеб растит,
Кто строит дом,
Кто книгу создаёт.
(“Подаю надежды”)

Пішучы для дзетак, паэт умее быць сапраўдным педагогам, добрым, глыбокім знаўцам дзіцячай псіхалогіі, умее разумець дзяцей, калі перад імі пачынаюць паўставаць праблемы маральна-этычнай матывацыі і ацэнкі ўласных паводзін і ўчынкаў іншых людзей, калі яны выбіраюць дружбакоў-сяброў.

Творы Івана Міхайлавіча Мельнічука можна падзяліць на павучальныя і пазнавальныя (лічылкі, дражнілкі, казкі); у іх спалучаюцца грунтоўная жыццёвая насычанасць зместу, магчымасць задаволіць чытацкую патрэбу думаць, пазнаваць, шукаць, тварыць, а галоўнае – любіць. Любіць маму, тату, бабулю, дзеда... Каб гэтага дасягнуць, патрэбен своеасаблівы талент...

На пачатку новага тысячагоддзя паэт выдаў яшчэ дзве кніжкі для дзяцей: «КАК МУРАВЬИШКА ИШКА СЕБЯ НАКАЗАЛ» (2003) і «СКАЗКИ – ДОБРЫЕ ПОДСКАЗКИ» (2007).

Не за синими морями,
Не за снежными горами,
В Беловежской старой пуще,

Что местами щётки гуще,
На поляне под кустом
Муравьи сложили дом…
(«Как муравьишка Ишка себя наказал»)

По весне, погуляв по бороздам,
Принимаются птицы за гнёзда.
Поливает их дождь, ветер свищет,
Птица каждая строит жилище.
(«О галчонке Каркуше, лентяе и копуше»)

Гэтыя кніжкі прапануюць вясёлыя і цікавыя па сюжэце, сур'ёзныя па думцы вершы, казкі і мініяцюры, якія саграваюць светлымі праменьчыкамі непадробнай любові да дзяцей, значыць, і да жыцця.

А ўсё пачалося тады, калі Іван Мельнічук паступіў у Брэсцкі педагагічны інстытут, дзе побач з ім набіраліся моцы Мікола Купрэеў, Васіль Жуковіч...

Пасля заканчэння інстытута разам з Васілём Жуковічам, літсупрацоўнікам газеты "Заря над Бугом", распачаў сваю журналісцкую працу і Іван Мельнічук. Тады ж ступіў і на літаратурную сцяжыну. Напачатку пісаў па-беларуску вершы, якія прываблівалі лірызмам, чысцінёю погляду на жыццё. Але пасля доўгіх пошукаў Іван Міхайлавіч нарэшце знайшоў сваё, асабістае – пачаў пісаць для дзяцей на рускай мове. Аказалася, што на рускай мове атрымліваецца лепш.

З канца 1950-х гадоў паэт актыўна друкаваўся: яго творы змяшчалі не толькі абласныя выданні, але і рэспубліканскія газеты і часопісы ( "Чырвоная змена", "Маладосць"). Высокую ацэнку творчасці нашага земляка давалі пісьменнікі Уладзімір Карызна, Мікола Федзюковіч.

"Творчасць Івана Мельнічука адрасавана найперш дзецям дашкольнага і малодшашкольнага ўзростаў, але яна ўзрушае і дарослага чытача, робіць яго лепшым, вяртаючы ў шчаслівае дзяцінства. Творы пісьменніка тэматычна і жанрава разнастайныя. Гэта сюжэтныя вершы, пацешкі, пястушкі, гумарыстычныя, жартаўлівыя чатырохрадкоўі, вершы-загадкі, задачкі, невялікія казкі. У іх многа пытанняў, і, каб адказаць на іх, трэба быць уважлівым, кемлівым і знаходлівым. Большасць вершаў Івана Мельнічука ўводзяць маленькага чытача ў вялікі і прыгожы навакольны свет, свет прыроды, акаляючай рэчаіснасці. Гэта сапраўдная дзіцячая паэзія, якая без прынукі вучыць дзяцей быць назіральнымі, уважлівымі, любіць родны беларускі край, яго дзівосную, непаўторную прыгажосць.

Если в травах гудят шмели,
Белым-белый туман у земли,
Если ягод полно в лесах,
Вспышки молний на небесах,
На лугах от цветов светло –
Значит, лето уже пришло.

Запамінальна, вобразна, эмацыянальна паэт расказвае маленькім чытачам, як добры сонечны гуллівы праменьчык здолеў усіх сагрэць і развесяліць, як ледзяшы-капяжы звоняць-сумуюць аб доўгачаканай вясне, як летам лебедзі любуюцца прыгажосцю белай рачной лілеі...

Маленькі герой вершаў Івана Мельнічука імкнецца быць лепшым, дужым, абаронцам слабейшых. Вершы нязмушана вучаць дзяцей быць сумленнымі і працавітымі"... – піша Зоя Мельнікава, вядомы літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук, прафесар.

"У аснове творчасці паэта – добрае, цудоўнае бачанне свету, у якім няма  месца злу. Гэтым і кранаюць вершы Івана Мельнічука. Дзеці любяць, калі вакол іх усё ў добрым парадку, усё ў гармоніі з прыродай..." – гаварыў паэт і празаік Мікола Купрэеў.

Нарадзіўся Іван Мельнічук 15 верасня 1939 года, на пятнаццаты дзень Другой сусветнай

вайны, у сяле Носава (цяпер тэрыторыя Польшчы) у шматдзетнай сям'і Насты і Міхайлы Мельнічукоў. Цяжкі быў час. Пераехалі ў Украіну з надзеяй на лепшае жыццё. Там напаткалі яшчэ большыя цяжкасці і голад. Праз два гады апынуліся  пад Брэстам у вёсцы Сычы. Тут Іван пайшоў у школу ў Воўчын, за тры кіламетры. У пачатковых класах пачаў пісаць вершы, пасылаць іх у газеты. У яго з'явілася патрэба выказаць усё тое, што віравала ў маладой крыві, імкнулася на свет.

У 1965 годзе стаў пераможцам конкурсу газеты "Піянер Беларусі". Поспех натхніў юнага паэта да напісання новых твораў.

Шмат выпрабаванняў прайшоў хлапчук і падлетак, перш чым выйшаў у людзі.

Пасля заканчэння школы вучыўся ў педагагічным інстытуце ў Брэсце, служыў у Савецкай Арміі, працаваў у партыйных і савецкіх органах...

Нягледзячы на ўзрост, белагаловы і рухавы Іван Мельнічук увесь у працы, у творчым пошуку. Яму ўдалося захаваць і пранесці праз гады не толькі свой адметны паэтычны талент, але і Богам і бацькамі дадзены дар дабрыні і любові. І сёння Іван Міхайлавіч не пакідае сваіх маленькіх сяброў-чытачоў. Яго вершы вучаць дзяцей думаць, радавацца, любіць.

"З добрым хваляваннем чытаю кожны новы верш паэта-земляка Івана Мельнічука, з радасцю сустракаю яго кніжкі для дзяцей. Яны з'яўляюцца жывой школай пазнання навакольнага свету, вучаць любіць прыроду, людзей, працу, тварыць дабро, дапамагаць бліжнім..."

*(Васіль Жуковіч)*

***Іван МЕЛЬНІЧУК***

## ЗАГАДКА ДАЛЁКАГА ВАНДРОЎНІКА

Той вялізны скураны чамадан прыляцеў у прыбужскі горад аж з Амерыкі разам з групай настаўнікаў, якія павінны былі вывучаць у нас практыку выкладання замежных моў.

Калі яго гаспадароў – Джо і Элен – размеркавалі на часовы прытулак у сям'ю дзесяцікласніка Кастуся, той незвычайна ўзрадаваўся: ужо колькі гадоў вывучае "інгліш", а ні з кім з чужаземцаў на іх мове пагаварыць не давялося.

Джо – адзіны ў группе мужчына – хадзіў у джынсах і світары, насіў вялізную, кранутую срэбрам бараду і знешне нагадваў вядомага амерыканскага пісьменніка Хемінгуэя.

Яго жонка Элен, невысокая, статная, бы лялечка, жанчынка, была таксама ў джынсах, хадзіла ў светленькай блузачцы, нагадвала дзяўчынку-старшакласніцу, з твару яе не сыходзіла адкрытая, прыемная ўсмешка.

Размаўляць з гасцямі было няпроста: з іх гутаркі Косцік разумеў толькі асобныя словы і выразы, затое сам спакваля "канструяваў" сказы і засыпаў прыезджых пытаннямі.

Хутка ён даведаўся, што жывуць яны ў штаце Арэгон, што ёсць у іх сын Эндзі і прыёмная дачушка Саманта, што маюць яны ўласны асабняк і вілу на моры, некалькі аўтамабіляў…

Адно, чаго Кастусь не адважыўся спытаць, хоць і вельмі карцела, што нябедныя амерыканскія настаўнікі прывезлі ў агромністым, груваcткім, як куфар, чамадане, які праз паўсвету даперлі сюды, у беларускі Брэст?

Косцік, высокі і няхілы хлапчына, спачатку наважыўся несці гэты «скарб Орэгона» дамоў сам, бо жыў побач са школай. Але калі ўздумаў узняць, дык ажно прысеў: штанга, што падымаў у спартзале, была значна лягчэйшай. Паклікаў на дапамогу дружбака Віцю, высокага, шыракаплечага. Удвух яны, раз-пораз спыняючыся, ледзьве давалаклі чамадан у брэсцкую трохпакаёўку.

– Цяжэнны, бы цэглы ў яго напакавалі, – разважаў Віцька.

– Цэглы як цэглы, а кніжак якіх замежных дык, пэўна, напіхалі, – зазначыў Косцік.

– А можа, падарункаў ці орэгонскіх дароў прыроды, – выціраў з ілба пот Віцька.

– Падарункі – ручкі ды алоўкі, мы ў класе атрымалі, кнігі школе перадалі, а садавіну яны сюды з Амерыкі наўрад ці тарабанілі б – пагніе ўмомант…

Не разгадаў загадку скуранога чамадана Кастусь і вечарам, калі пачаліся сяброўскім перамовы. Бацька за вячэрай паставіў на стол бутэльку і запытаў, як называецца гэты напой у Амерыцы. Здзівіўся, што там ён мае аднолькавую назву – «водка». А яшчэ больш здзівіўся гаспадар, калі госці наадрэз адмовіліся паспытаць нашай гарэлкі. Нават «капульку» не пажадалі ўзяць у рот.

Маці праз Косціка-перакладчыка высвятляла, як будзе па-англійску «каша», «яечня», «мяса», як жывецца настаўнікам бадай самай багатай краіны свету…

Чамадан прынародна ў той вечар не адкрывалі. Так і заставалася гэта загадкаю ці глыбокай тайнаю да раніцы.

Толькі на наступны дзень, калі Кастусь вярнуўся дамоў пасля заняткаў, пачуў ад маці пра таямніцу далёкага вандроўніка.

– Гэта ж трэба, – даводзіла яна, – з Амерыкі цягнулі гэтую гарміду, набіўшы бутэлькамі мінеральнай вады! Нашай вадой нават умывацца не асмельваюцца: баяцца, што яна рыдыяцыйная.

З першага дня і да ад’езду госці прывазной вадой толькі і карысталіся. На развітанне кватаранты і гаспадарам некалькі бутэлек ахвяравалі, як маці зазначыла, у якасці сувеніра.

«Думаюць і клапоцяцца людзі пра сваё здароўе», – зрабіў выснову бацька.

Кастусь жа, калі даведаўся, што яго разам з мамай-настаўніцай госці запрасілі да сябе ў Амерыку, пацікавіўся толькі: «А колькі ж вады нам браць з сабой?.. »

## РАССАКРЭЧАНЫ ПРЫВІД

Мама ўпершыню дазволіла Саньку аднаму паехаць у вёску да бабулі.

– Раніцай сядзеш на электрычку і праз якую гадзіну там будзеш. Разам у грыбы паспееце скочыць.

Санька ездзіў раней да бабулі з бацькамі і ведаў, што да вёскі ісці было недалёка, але трэба пераадолець хмызняк, затым масток праз нешырокую рачулку. Дзесьці ў тых мясцінах у вайну, як казалі, пахавалі нямецкіх лётчыкаў, і хадзілі чуткі, быццам там нешта палохае.

Каб адолець страх, Санька ўспамінаў, як дзед-ветэран распавядаў пра вылазкі ў тыл ворага, пра тое, як неаднойчы даводзілася пераадольваць страх.

Дзед змог і я змагу, – цвёрда рашыў хлопец і, сышоўшы з электрычкі, у ранішнім паўзмроку рушыў наперад.

Але ледзь толькі ён наблізіўся да мосціка, перад ім раптоўна, як з-пад зямлі, вырасла высачэзная, нібыта захінутая ў белае радно фігура. У хлопца трывожна закалацілася сэрца, перахапіла дыханне.

«Няўжо і сапраўды прывід?» – пранеслася ў галаве.

«Чаму быць, таму быць», – успомніў прымаўку дзеда Санька і, не спыняючыся, накіраваўся да мосціка.

З кожным новым крокам той прывід павялічваўся, разыходзіўся ўшыркі, а потым канчаткова зліўся са светлым ранішнім небам, у напрамку да якога рухаўся хлапчук.

«Вось дык прывід! – вырвалася здзіўленне. – Гэта ж так выглядае светлае ранішняе неба ў вузкім прасвеце паміж цёмнымі, ахутанымі паўзмрокам дрэвамі».

Калі Санька расказаў бабулі, як разгадаў загадку дзіўнага прывіда, тая адзначыла:

– Малайчына, што дзядулю ўспомніў. Ён быў адважным разведчыкам і табе прыклад падаў: ніколі ў жыцці ніякіх страхаў не баяцца.

# КВЕТКІ Ў СТАГАХ АЛЯКСЕЯ БЕЛАГА



Знаёмыя мы асабіста, можна сказаць, зусім нядаўна: недзе з пачатку новага стагоддзя-тысячагоддзя. Хаця пра паэтычную творчасць Аляксея ведаў значна раней. Апошнія гады часцей сталі сустракацца, размаўляць па тэлефоне. Вось і мінулы з’езд Саюза беларускіх пісьменнікаў у снежні 2011 года даў нам магчымасць пазнаць адзін другога бліжэй.

У вёсцы Міхнавічы Івацэвіцкага раёна, дзе нарадзіўся Аляксей Белы, настаўнічаў бацька Міколы Купрэева, Сямён Іванавіч. Таму ўжо ў дзяцінстве хлопчык шмат што ведаў пра беларускіх літаратараў, пра творчасць Міколы. Першы настаўнік Аляксея вельмі ганарыўся тады сваім сынам, расказваў пра яго вучням “пачаткоўкі”, паказваў Міколавы малюнкі. Гэта потым у іх нешта разладзілася і Мікола ў бацькі дома не бываў… Але ж як бы там ні было, і Мікола, і Сямён Купрэевы пахаваныя на адных могілках, у Міхнавічах, дзе, дарэчы, ляжаць і блізкія Аляксея Белага – бацька, маці, дзед, бабуля…

Больш сур’ёзнае далучэнне да паэзіі адбылося трошкі пазней, калі Аляксей скончыў васьмігодку ў Івацэвічах . Менавіта тады ў адной з суседніх вёсак спынілася Палеская гідрагеалагічная партыя, куды 14-гадовы падлетак наняўся на працу. Даследавалі землі ў Пінскім раёне – у Лагішыне.Там і жылі – хто ў намётах, хто па хатах. Вось ад геолагаў Аляксей і пачуў песні пра горы, вандроўкі, пра жыццё, аб якім раней і не здагадваўся.

“Пробы пяра”, якія пачаліся яшчэ ў школе, прадоўжыліся на Поўначы, куды Аляксей Белы падаўся пасля дзесяцігодкі. У сямідзясятыя – першая практыка на судне, першыя публікацыі ў адной з раённых карэльскіх газет. Салавецкія астравы, куды заходзіў, стоячы за штурвалам парахода, Запаляр’е, песні Уладзіміра Высоцкага на зацёртых катушках…

Пасля войска – пяць год працы памочнікам капітана цеплахода на рэках Беларусі – у асноўным вазілі руду з Чарнобыля да Брэста. Але тады гэта быў зусім іншы Чарнобыль і іншая Прыпяць… Давыбуховыя.

Значны ўплыў на паэтычную творчасць Аляксея Белага зрабіла захапленне такімі паэтамі, як Сяргей Ясенін, Мікалай Рубцоў, Данута Бічэль, Уладзімір Някляеў... Менавіта іх паэтычны свет аказаўся такі блізкі да Аляксеевых паэтычных пачуццяў.

Стала пісаць вершы Аляксей пачаў пасля таго, як пераехаў у 1977 годзе ў Баранавічы. Тут было ў каго павучыцца: Валеры Ігнаценка, Венанцы Бутрым, Юры Мацюшка… З 1983 года Аляксей працуе ў журналістыцы – з год пабыў карэспандэнтам, амаль увесь астатні час – рэдактарам. Гэта яшчэ больш наблізіла яго да тых, хто мае дачыненне да творчасці. Як вынік – пяць паэтычных кніг , шмат публікацый у перыядычных выданнях, калектыўных зборніках. Аляксей Белы – сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, Беларускага ПЭН-цэнтра, Беларускай асацыяцыі журналістаў. Ён – пераможца літаратурнага конкурса аднаго верша ў гонар Паўлюка Багрыма.

Вершы паэта – у асноўным лірыка. І невыпадкова многія з іх пакладзены на музыку. У прыватнасці, шмат песень на вершы Аляксея Белага напісала брэсцкі бард Вольга Сідарук.

А яшчэ Аляксей Белы шмат вандруе па свеце. Не праблема для яго прайсці на катамаране па горнай рэчцы ці ўзысці на Гаверлу, без вялікіх збораў з невялікім заплечнікам ён раптам можа апынуцца дзе-небудзь у Більбао ці Барселоне альбо пастаяць каля дамка вялікага кампазітара ў Зальцбургу. Ды і яго юначая мара – узняцца на Эйфелеву вежу – даўно збылася. Зрэшты, у цікавых вандроўках ён і чэрпае сваё паэтычнае натхненне.

*Аляксей БЕЛЫ*

## КВЕТКІ Ў СТАГАХ

Шлях над Альпамі да Барселоны,
Белы снег на калючых вяршынях.
І гудзіць самалёцік стамлёна,
То апусціць яго, то ўскіне.
Ну а я – бы адзін. Бо чытаю
Пра каханне, самоту і ласку.
Вецер зноў над аблокамі дуе...
З Блатуном я Сымонам бядую:
“Ты ж лугоў гаспадыня і знаеш:
У нас кветкі не дораць – стагуюць,
Застагую і я свае краскі...”
Тры гадзіны – і пальмы прыгнуцца –
Штучны вецер калыша галіны.
І няма болей небу даверу.
Бы ў казку адчынены дзверы,
І сцвярджэннем і добрай апорай:
“Паўзуць чарапахі на бераг...”

## ПАРОМ

Затхнуліся за вёскаю баяны,
І вераб’і паснулі ў страсе.
Ах, прыгажуня, вы такая п’яная,
Куды, скажыце, вас на ноч нясе?!.

Над гэтай пераправаю паромнаю
Ліхтар да розных рознасцяў ахвочы.
Такія вашы вочы бессаромныя,
Ну, хто ў іх сёння зазірнуць захоча?

Таполі ў ваду глядзяцца вежамі,
Давайце вашу тонкую руку.
Вы ж не адсюль, я бачу, вы прыезджая,
У джынсіках і модным світарку.

Як добра тут збягаюцца дарогі,
Як мы далёка ад жыццёвай прозы.
Я б адпусціў і вас, і вашы ногі,
Але ж і я таксама нецвярозы!

Нічым не будзе гэты час азмрочаны,
Кругі не разыдуцца па вадзе.
Паромшчыку за ўсё ўжо заплочана,
Ён далікатна вочы адвядзе.

Як добра, што запал душы не згас,
Што сёння нам і мора па калена!
Але нашто, скажы, дурны калгас
Пакінуў тут пад восень столькі сена?

# ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР МІКАЛАЙ АЛЯКСАНДРАЎ



Першая сустрэча з таленавітым паэтам і журналістам Мікалаем Аляксандравым адбылася восенню 1981 года ў былым памяшканні рэдакцыі абласной газеты “ЗАРЯ” – на другім паверсе дома па вуліцы Камсамольскай у Брэсце. Пасля вайны тут працаваў паэт Мікола Засім, маецца і адпаведная шыльда на фасадзе. Цяпер у гэтым доме рэстаўрацыйныя майстэрні.

Сумесна з сябрам і калегам па працы ў абласной “культуры” Раманам Тарашкевічам пасля адной з камандзіровак у Лунінецкі раён мы прынеслі матэрыял пра творчасць самадзейнага паэта і кампазітара Андрэя Гурбановіча. Раман на той час ужо добра ведаў Мікалая Аляксандрава, прапаноўваў у друк матэрыялы пра падзеі ў культурным жыцці вобласці.

З таго часу наша супрацоўніцтва працягваецца, толькі ўжо даўно Мікалай Аляксандраў не загадчык аддзела культуры ў “Зары”, а галоўны рэдактар незалежнай газеты “Брестский курьер».

У тыя 80-я гады, калі савецкая беларуская культура перажывала ўздым, Мікалай Аляксеевіч часта сустракаўся з творчымі асобамі, шмат пісаў пра мастакоў, літаратараў, народных майстроў. Мне падабалася чытаць тыя нарысы, якія вызначаліся багатай вобразнай мовай. Адчуваўся талент журналіста-паэта, прафесійная кампетэнтнасць. Яго заўжды запрашалі на адкрыццё мастацкіх выстаў, ён з задавальненнем выступаў з прамовамі... Мікалай Аляксандраў стаў неад’емнай фігурай усіх культурных мерапрыемстваў.

Пазней, калі Мікалай Аляксандраў стаў галоўным рэдактарам незалежнай газеты “Брестский курьер”, мне пашчасціла аднойчы аформіць навагодні нумар газеты, іншы раз рабіў застаўкі да матэрыялаў. Мікалай Аляксеевіч нярэдка друкаваў у газеце мае вершы. Такое творчае супрацоўніцтва не перапынялася, нягледзячы на тое, што галоўнаму рэдактару перыядычна даводзілася мяняць памяшканні для газеты.

Ужо напрыканцы 90-х гадоў, калі рэдакцыя знаходзілася па вуліцы Пушкінскай, я атрымаў магчымасць правесці тут сваю персанальную мастацкую выставу...

Час ішоў, і новае тысячагоддзе дало магчымасць Мікалаю Аляксандраву для рэдакцыі газеты атрымаць будынак па вуліцы 17-га Верасня, адрамантаваць яго, зрабіць утульным. Апошнім часам сустракаемся там даволі часта па самых розных справах. Галоўны рэдактар Мікалай Аляксандраў заўжды сустракае ветліва ў сваім кабінеце на другім паверсе.

Толькі ніколі не турбую без прычыны занятага чалавека – журналіста і паэта, цудоўнага суразмоўцу Мікалая Аляксеевіча Аляксандрава.

## *Мікалай АЛЯКСАНДРАЎ*

***

Плещут над Брестом июльские грозы
Жарким крылом.
После дождя городские берёзы
Пахнут селом.

И приближаются, словно спросонок,
Детские дни:
Звук бубенцов, белолобый телёнок,
В поле огни...

***

Всё было так недавно – и давно:
В сирени выходящее окно,
И женский смех на этаже вверху,
И облако на беличьем меху.
Рассеянный, чуть воспалённый свет,
Ещё минута – дня простыл и след.

Всё было так недавно – дождь ночной
Угас в листве – всё было так давно:
Колеблющийся влажный аромат,
И тёмное мерцание оград.
И на свету мелькнувший жёлтый плащ,
И женский смех,
Уже не смех, а плач.

## ВЯСЕЛЛЕ

Гой, ды з дзедава завулка
распляскалася вяселле!
Ты гуляй, мая рачулка,
гамані, хмяльное зелле!

Прыгажуня вішня
Сёння замуж выйшла.

Будзем таньчыць мы да скону
дня, пакуль зара не згасне.
Выйдзі ў круг, дачка Лявона,
ды ў зямлю абцасам лясні!

Прыгажуня вішня
Сёння замуж выйшла.

Зноў хустэчкі, як вавёркі,
таньчаць з чобатамі ў згодзе.
Хай міргаюць з неба зоркі,
як сяброўкі ў карагодзе!

Прыгажуня вішня
Сёння замуж выйшла.

Гэта добрае вяселле
разгулялася ды ў вёсцы!
Можа, заўтра на пахмелле
паднясе нам чарку хтосьці.

Прыгажуня вішня
Сёння замуж выйшла...

# СНЯЦЦА СЭРЦУ ВЯСЕННІЯ СНЫ



Першы зборнік вершаў «НАВСТРЕЧУ РАЗЛУКАМ» Валянціна Осіпава падарыла чытачам у 2000 годзе. Гэтая кніжка з фотапартрэтам аўтаркі на вокладцы прыемна радуе вока чытача, будзіць высокія пачуцці ўсіх тых, хто любіць паэзію...

Это трепет ранимой женской души!
Песни надежды, отчаянья, веры…

Гэтымі радкамі аўтара можна коратка абазначыць змест тэкстаў паэтычнага зборніка.

Пісаць вершы Валянціна Осіпава пачала не так даўно: першыя спробы пяра адносяцца да лета 1995 года. А ўсё началося пасля того, як прачытала Біблію з яе ўзвышаным вершам, настрой на які разбудзіў творчыя здольнасці. На той час падраслі і дзеці. Валянціна Дзмітрыеўна зразумела, што акрамя таленту неабходна карпатлівая праца. Шмат пісала для сябе, была строгім, прыдзірлівым крытыкам уласных радкоў. У 1998 годзе яна стала Лаўрэатам конкурсу «Наш дом – Беларусь». Тады ж пазнаёмілася з паэтам Алесем Каско, які стаў рэдактарам яе першай кніжкі.

Вершы Валянціны Осіпавай друкаваліся ў газеце «Женский калейдоскоп», «Двое-дайджест», у газетах «Беларусачка», «Рэспубліка», у «Народнай газеце», у літаратурным альманаху «Жырандоля»… У 1999 годзе паэтэса з Бярозы стала Лаўрэатам літаратурнага конкурсу, прысвечанага 60-годдзю Брэсцкай вобласці, у 2000-м – пераможцай конкурсу, аб'яўленага газетай «Женский калейдоскоп».

Нарадзілася будучая паэтэса ў маляўнічым месцы беларускага Палесся – на Гомельшчыне, у вёсцы Абакумы Лоеўскага раёна. З дзяцінства марыла пісаць кнігі, стаць пісьменнікам. Шмат чытала (у асноўным французскую класіку). Літаратура для Валянціны Осіпавай была віртуальной рэальнасцю – школьніца жыла літаратурай. У 7 класе Валянціна стала наведваць факультатывы па рускай літаратуры, каторыя вяла жонка дырэктара школы, ленінградка, якая была знаёмая з многімі вядомымі літаратарамі горада на Няве. Будучая паэтэса карпатліва працавала над школьнымі сачыненнямі. Вельмі хацелася ствараць сваё. (У яе цяперашніх творчых планах – рэалізацыя дзіцячай мары – пачать пісаць прозу.)

Пасля заканчэння Пінскага тэхнікума мясной і малочной прамысловасці (так яна апынулася на Брэстчыне) атрымала накіраванне на Бярозаўскі сыраробны камбінат. Там працавала майстрам, інжынерам-мікрабіёлагам, а зараз – інжынер транспартнага аддзела. Без адрыву ад вытворчасці скончыла Магілёўскі тэхналагічны інстытут.

Праз чатыры гады пасля выдання першай кнігі паэткі прыхільнікі яе творчасці змаглі парадаваць сябе новай сустрэчай з паэзіяй Валянціны Осіпавай – яе зборнікам «РАЗНОГОЛОСИЦА ДУШИ». Другая кніга аўтара з Бярозы выйшла вялікай па аб'ёме і фармаце. Яна была дасканала аформлена графічнымі работамі мастака з Мінска Георгія Данеляна.

Вось што напісала ў прадмове да гэтай кнігі наша незабыўная Ніна Мацяш: «Разноголосица души» – второй сборник стихов Валентины Осиповой. Уже и первая её книга «НАВСТРЕЧУ РАЗЛУКАМ» отчётливо засвидетельствовала: автор не просто умная, сильная, горделивая, т.е. с чувством собственного достоинства женщина, она талантливый поэт (не люблю умилительно-умалительного слова «поэтесса»). Поэт с точным и сугубо индивидуальным образным видением окружающего мира, с психологически верным живописанием человеческих взаимоотношений и ситуаций. Тонко чувствующая душа, отвергающая низость мыслей, скудость желаний, пошлость поступков. «Но отвратен мне вкус суррогата, / С детства к чувствам пустым не приучена. / И сражаюсь с разлукой проклятой / Старомодною верностью мучима». Сильные натуры, читая стихи Валентины Осиповой, ощутят живительную родственную связь с её лирической героиней. Слабые приобретут возможность укрепиться духом истинных человеческих ценностей. А для автора это явится самой желанной наградой. Ведь даже скромный

полевой цветок движим не только таинством самореализации, но невольно – и предопределённо! – стремится украсить, возвысить, облагородить нашу далёкую от совершенства действительность».

Другая кніга складзена з двух раздзелаў: «Букет незабудок» і «Зарисовки с натуры».

Не прымусіла сябе доўга чакаць і трэцяя кніга «БЛИКИ», што з'явілася ў 2006 годзе ў выдатным афармленні ўсё того ж мастака Георгія Данеляна. Кніга складзена з трох раздзелаў: «По нетленным дорогам», «О поисках идеала», «Лики серебряного века». Раздел «Лики серебряного века» цікавы сваім напаўненнем вершаў пра незабыўных рускіх паэтаў: Аляксандр Блок «…стал кирпичиком для храма, / воздвигнутого на крови», Ганна Ахматава – «Многострадальная вещая птица: / Счастья и горя людского певица», пра Сяргея Есеніна аўтар піша: «В край березок и кленов влюбленный безмерно, / Под душой, как под ношею, рухнул поэт»… Мы нібыта трапляем у цудоўны свет рускай паэзіі пачатку ХХ стагоддзя…

У гэтым зборніку Валянціна Осіпава закранае і ваенную тэму – тэму, якая трывожыць многіх айчынных творцаў.

Столько войн бессмысленных на свете,
Столько ручейков невинных слёз…

«Почему не запретят войну?!» – апошні ў цыкле верш «По нетленным дорогам» адказвае на гэтае пытанне славамі жанчыны-маці:

Не могу, сыночек, уяснить…

Але аўтара Валянціну Осіпаву хвалююць і шматлікія іншыя праблемы сучаснасці. У раздзеле «О поисках идеала» яна піша:

С каждым днём всё глубже погружается в сон
Не востребованная никем нежность.
(О нежности)

Лірычны герой імкнецца да гармоніі з навакольным жыццём, да кахання, да вернасці высокім ідэалам духоўнасці... Яе вершы натхняюць нас, прымушаюць глыбей і мацней углядацца ў рэчаіснасць, у якой "... правде непросто найти приют». Валянціна Осіпава паэт разнапланавы. І чытаючы яе паэтычныя радкі, ніколі не забываеш, што аўтар – жанчына. Жанчына, якой

Снятся… весенние сны
Непременно в розовом цвете…

Берасцейская паэтка з Бярозы Валянціна Осіпава знайшла ў сабе сілы, каб нарэшце не толькі паспрабаваць пісаць на роднай мове, але і зрабіць пераклады лепшых сваіх вершаў. Заслугоўвае ўсялякай падтрымкі яе імкненне падрыхтаваць беларускамоўны сборнік. А пакуль што на пачатку 2013 года пабачыла свет кніга паэзіі "Бумажный змей", выдадзеная ў серыі СБП "Кнігарня пісьменніка" накладам у 200 асобнікаў. Цікавы і чаканы прыхільнікамі паэзіі зборнік вершаў. Добры ход! Нечаканая, і ў той жа час заканамерная, з'ява для абласной паэзіі.

## *Валянціна ОСІПАВА*

### ВЛАДИМИР МАЯКОВСКИЙ

Ушибы и скорбь навьючив на горб, –
По скалам отвесным Слова!

Не выжмешь, жизнь, трусливый озноб –
Пугай кого-то другого!

Паяц площадной и горлопан –
Загадку фрейдистам прытким:

«Душа – орган или барабан,
Или бездомная скрипка?»

Богам – богово!
                    Циник, ликуй:
Просторней ханжей логово!

Бумаге – боль.
                    Пистолет – виску.
Поэту не надо многого.

## СЕРГЕЙ ЕСЕНИН

Всё принять,
                    всё вместить в сердобольную грудь:
И тоску собачонки, и вздохи коровьи,
И осенних полей неизбывную грусть,
И Руси разорённой рыдания вдовьи…

Если крест сострадания выпадет доле,
Невозможно земной путь пройти налегке:
Боль распятой земли будет собственной болью,
Не оставить её ни в каком кабаке.

Сердце выплавит нежность из жизненной скверны
И стихом, как слезою, проявит на свет.
В край березок и клёнов влюблённый безмерно,
Под душой, как под ношею, рухнет Поэт.

## ИГОРЬ СЕВЕРЯНИН

Вы любили поэзию.
                    Вы любили иронию.
Вы двусмысленной славою увенчали талант.
Пред величием личности Вы склонялись в поклоне,
Друг великих умов и униженных брат.

Поцелуй упоительный почитанья познали Вы,
Несмотря на лубочности нарочитой черты,
Ваши трагикомедии в околдованных залах
Пробуждали порывы,
                    надежды,
                              мечты.
Вы любили жить грёзами.
                    Вы любили встать в позу:
Под лиловою мантией фарса прятали боль.

И Вы ждали, что Родина в гроб положит Вам розы.
Кроткий,
нежный поэт.
Позабытый король.

## ЗИНАИДА ГИППИУС

Невыносимо быть сильною женщиной –
Нежность овалом презренья очерчена.

В облике женском – мужская гордыня!
Как же она подчинится мужчине?

С верностью жрицы, поправ праздномыслие,
Служит холодному мрамору Истины.

Песни мирские скучны ей, лишь смутные
Отзвуки таинств приятны для слуха.

С тщетным упорством сквозь путы незримые
Рвётся в таинственный мир серафимов.

Но заповедано чётко всем расам:
С небом связует душа,
а не разум…

## КОНСТАНТИН БАЛЬМОНТ

Над нуждами,
над бедами,
над праздными беседами
Он одержал бесспорную победу.
Всю пылкость духа, твёрдость и стремленье
К исканью истин,
знанью,
красоте,
Причудливые выверты мгновений,
Фатально тяготеющих к мечте,
И это непомерное служение
Размерам,
ритмам,
прихотям стихий –
Нерасторжимое с волной сердцебиения! –
Вместил в свои высокопарные стихи.

# ПРАЗ ДОЖДЖ... ДА ВАСІЛЯ ДЭБІША



Асабіста пазнаёміўся з Васілём Дэбішам нечакана на брэсцкім мясакамбінаце, калі ён там загадваў клубам, а я працаваў мастаком-дызайнерам побач на “Рыбгандлі”. Мы часта бачыліся ў майстэрні мясакамбінатаўскага мастака Аляксея Шышко.

Тое знаёмства замацавалася частымі сустрэчамі на тэрыторыі мясакамбіната ў мастакоўскай майстэрні, дзе часам за шклянкай кавы вялі размовы пра мастацтва, пра паэзію, ды і ўвогуле пра нашае жыццё. Справа яшчэ і ў тым, што мастак Аляксей Шышко таксама быў “хворы” на паэзію: сам пісаў вершы, любіў чытаць творы вядомых паэтаў, цытаваць іх. А пасля разагрэву “кавай” дык і ўвогуле нельга было прыпыніць яго нескончоную гаворку пра мастакоў і паэтаў, цытаванне вершаў...

Але тыя запамінальныя сустрэчы працягваліся ўсяго крыху больш за год. Потым нашы шляхі разышліся... І ўжо толькі праз некалькі гадоў пачалі зрэдзьчасу сустракацца на літаратурных мерапрыемствах у бібліятэках і ў тагачасным памяшканні абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў (на вуліцы Наганава ля гарадскога парку). Потым надышлі змены ў літаратурным асяродку: у 2006 годзе быў створаны Саюз пісьменнікаў Беларусі пад кіраўніцтвам генерала ад міліцыі Мікалая Чаргінца, а той, баявы, стары застаўся на сваіх былых пазіцыях, і без уласнай “штаб-кватэры”.

У свой час набыў у кніжнай краме на рагу вуліц Пушкінскай і Карла Маркса Васілёў паэтычны зборнік “Лісты да Марыі” (1996), усяго другі па ліку (першы зборнік быў сумесным з братам Анатолем – “Белыя птахі” (1993).

Апошнія гады Васіль плённа працуе з паэтычным радком. Вынікам творчага натхнення стала выданне ў 2012 годзе (да 50-гадовага юбілею) зборніка вершаў “Праз дождж”, у якім бачна атрымалася асэнсаваць мінулае і сённяшняе жыццё, роздум пра чалавечую годнасць, сяброўства, каханне, нашу, часам абсурдную, рэчаіснасць.

Гэты, выдадзены ў цвёрдай кардоннай вокладцы, у маім мастацкім афармленні паэтычны зборнік стаў заўважнай падзеяй у літаратурным жыцці Берасцейшчыны.

У прадмове да зборніка прафесар Зоя Мельнікава напісала: “Як і ў першай кнізе, у новым зборніку, мабыць, яшчэ выразней, дакладней, густоўней гучыць захапленне лірычнага героя красой і харастом свету, за чым хораша бачыцца ўзнёслая і далікатная беларуская душа, здольная на багдановічаўскае маленне гармоніі, цішыні, суладнасці...”

***Васіль ДЭБІШ***

МАРА

Я ў горадзе – ужо другую восень –
Жыву, ніяк прывыкнуць не магу.
Стаяць дамы замест бяроз і сосен.
І песню салаўя машыны гул

Змяніў. Гракоў крыклівых зграя
Спаць па начах мне не дае. Віднець
Чамусьці тут так позна пачынае.
І сэрца зачасціла зноў балець.

Збягае ў горад моладзь. Што той горад?!.
Навокал шум, паспешнасць, таўкатня.
Тут з камяніц зусім не бачна зорак...
Мне б вецер зацугляць, нібы каня, –

І ў поле, дзе бясконцыя прасторы,
Дзе неба васільковага блакіт.
Хаця б на дзень пакінуць душны горад
І ў вёсачку, хаця б на дзень які!..

***

Прынесла ноч мне смутак, неспакой.
Сцякае сонца з хмар. Святлеюць дрэвы.
Прачнуўся я сягоння сам не свой:
Прымроіўся мне сёння бераг левы,

Дзе скончу назаўсёды свой палёт
Я ва ўладаннях змрочнага Харона.
Так, левы бераг – вечны холад, лёд,
А правы бераг – неспакой да скону.

***

Акно адчыніш – і свабодны,
Ляці – насуперак, наўзлом!
Нібыта лёд, паток халодны
Бязлітасна ўварвецца ў дом.

Праніжа вострымі цвікамі,
Саб’е і затрымае лёт...
Глытаць і біць яго рукамі,
Крышыць зубамі гэты лёд!

***

З пакінутага горада начнога
Сышоў ліхтар, ледзь свеціць ля дарогі.
За мной мой цень пляцецца, змрочны, шэры –
Нам доўга, аж да ранку, крокі мерыць.

# НЕ ЗНІКАЙ!!! АНАТОЛЬ ДЭБІШ



З Анатолем асабіста пазнаёміўся крыху пазней, чым з Васілём. На пачатку новага стагоддзя ў памяшканні абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў, дзе на той час быў гаспадаром-старшынёй Алесь Каско. Тыя рэдкія сустрэчы далі магчымасць больш уважліва прыгледзецца да таленавітага паэта, хаця з яго паэтычнымі набыткамі быў знаёмы даўно.

У неспакойна-вірлівым жыцці Анатоля ў апошнія гады знаходзіцца месца і для музы. Яго паэтычнае пяро не затупілася, таму маем часам магчымасць чытаць новыя вершы. Прыемна і тое, што дачка Анатоля Алена таксама мае пісьменніцкі талент, які праявіўся ў дзяўчыны досыць рана.

А пра Анатоля Дэбіша цікава напісаў у сваім дзённіку сталічны паэт Віктар Шніп, на чые радкі я нечакана патрапіў, набыўшы напачатку 2013 года кніжку “Пугачоўскі цырульнік” (дзённікавая проза паэта), што была выдадзена ў мінскім выдавецтвы “Літаратура і мастацтва”. Вось што піша Віктар Шніп:

“23.06.2011. Гадоў дваццаць пяць назад у часопісе “Маладосць” з’явіліся першыя творы Анатоля Дэбіша. І былі яны светлыя, энергічныя і, чытаючы іх, хацелася самому гэтак жа пісаць светла і энергічна. І некаторыя маладыя паэты пісалі пад Анатоля Дэбіша. А сам Анатоль пасля першых яркіх публікацый то з’яўляўся ў друку, то знікаў на гады. І ягонае творчае маўчанне трывожыла мяне, бо мне, думаю і не толькі мне, не хапала часам твораў паэта. І сёння, чытаючы новыя вершы Анатоля, радуюся, што ён не ўцёк ад музы і, ведаючы яго, кажу яму на будучыню:

“Не знікай!!!”

## *Анатоль ДЭБІШ*

***

Пакіньце мяне аднаго
У гэтым пустым пакоі.
Хай будзе са мною Бог,
Надзеі мае і мроі.

Хай будзе са мною ноч
І свечак на небе ззянне,
Яе светлы цень наўзбоч –
Маё незямное каханне.

Хай будзе са мною сон,
Салодка-мярэжны і вечны,
Што возьме мой дух у палон,
І розум, і боль чалавечы.

Хай будзе ў мяне ўсяго
Адно толькі доля ізгоя –
Пакіньце мяне аднаго
У гэтым пустым пакоі.

***

Можна знішчыць любую красу –
Сенажаць, хлеб, надзею, каханне.
Што, скажыце, з сабой панясу
Я ў халоднае золкае ранне?

Боль? Ці бруд, што ляжыць на двары,
Што з'явіўся вясною з-пад снегу?
Ці свой горб анямела-стары?..
Не прыдбаю я хуткага бегу.

Мне б дабрацца адно да мяжы
Хоць паўзком ці знясіленым крокам, –
Той мяжы, што за хатай ляжыць…
Ды ісці да яе – так далёка.

***

На месцы тым, дзе сад квітнеў,
Трава пажухлая і вецце.
Ваўком галодным вые вецер
На месцы тым, дзе сад квітнеў.

На месцы тым, дзе сустракаў
З табою разам я світанні,
Крыжы струхлелыя, бы здані,
Там, дзе світанні сустракаў.

Які б ні быў мой шлях кароткі,
Я там – застаўся маладым,
І пацалунак твой салодкі
Пячэ агнём на месцы тым.

***

Збіраю лёсу камяні,
Да мазалёў сцёр далані.
Так – дзень пры дні.
Так – дзень пры дні.

"Не варта так старацца, –
Сцвярджаюць мне дарадцы, –
Твой камень для якіх патрэб?
Ты лепей бы выпрошваў хлеб".

А я збіраю камяні,
Да мазалёў сцёр далані.
Так дзень – пры дні.
Так дзень – пры дні.

# СТРАЛА ЖЫЦЦЯ АЛЯКСЕЯ ФІЛАТАВА



Неяк напрыканцы дзяваностых гадоў у кніжнай краме “Искра”, што на рагу вуліц Пушкінскай і Карла Маркса, трапіла на вочы кніжка прозы “Дарога” (палескія аповесці) берасцейскага аўтара Аляксея Філатава, якую я тут жа і набыў. Неўзабаве пачуў ад знаёмага літаратара, што адбылася і яе прэзентацыя на вуліцы Савецкай у Доме ветэранаў.

Такім чынам я быў загадзя падрыхтаваны да знаёмства з вядомым берасцейскім празаікам Аляксеем Філатавым, якое хутка адбылося. Тады ж даведаўся, што доўгі час Аляксей Георгіевіч, калі працаваў на чыгунцы, жыў непадалёк ад мяне на Граеўцы ў Брэсце. А з часам ён і кватэру атрымаў на вуліцы Асіпенка, побач з 16-й школай. Такая вось атрымалася гісторыя майго знаёмства з Аляксеям Філатавым – чалавекам няпростага жыццёвага лёсу.

Мне чамусьці хочацца называць яго мастаком, мастаком слова. Ён увогуле, як чалавек эмацыйны, неабыякавы да самых розных праяў жыцця, уражвае кожны раз пры сустрэчы сваім здаровым зарадам той энергетыкі, якая трымае ў добрым працаздольным тонусе чалавека-творцу. Я бачу заўсёды пры сустрэчы шчырага, моцнага духам і целам чалавека – сапраўднага беларуса. Аляксей Філатаў падаецца мне гэтакім рэактарам энергіі, якая выліваецца на паперу ў выглядзе запамінальных празаічных твораў, за якія мы паважаем і любім пісьменніка. Здаецца, што чалавек, які з самага маленства апынуўся ў невыносна цяжкім віры жыцця, страціў бацькоў, прайшоў праз страшнае ваеннае і пасляваеннае ліхалецце, не зможа так моцна любіць тое самае жыццё, глядзець на яго вачыма з вясёлым жыццесцвярджальным агеньчыкам, які не-не ды і калі-нікалі ад успамінаў крыху цяжэе, гасне. Пісьменнік, нягледзячы ні на што, мае тыя моцныя жыццёвыя карані, якія жывяцца заўсёды народным непахісным духам, вераю ў лепшае будучае.

Аповесці, апавяданні, лірычныя замалёўкі і гумарэскі Аляксея Георгіевіча кранаюць чытача сваёю каларытнаю моваю, жывапіснасцю, запамінальным сюжэтам... Проза літаратара захапляе своеасаблівасцю з густам намаляваных жыццёвых сітуацый. Аляксей Філатаў у сваіх творах моцна трымаецца праўды народнага жыцця людзей Палесся як берасцейскага, так і суседняга – валынскага. Ён выступае не толькі як сведка апісаных падзей, але і як іх удзельнік. Гэта адлюстроўваецца заўсёды і ў той народнай мове, якую Аляксей Георгіевіч удала выкарыстоўвае ў сваіх празаічных творах.

Арыгінальная манера пісьма, праўдзівасць апісання роднага краю, яго побыту, гаворкі надае творам пісьменніка непаўторнае атачэнне, каларыт. Працуючы не так даўно над мастацкім афармленнем яго прадапошняй кніжкі “Страла жыцця” (2007 год), якая складаецца з мініяцюр, апавяданняў, гумарэсак, я вельмі ўважліва перачытваў усе тэксты, каб як мага мацней адчуць душу аўтара, яго адносіны да герояў сваіх твораў. І недарма гэтая кніжка была адзначана ў тым жа годзе літаратурнай мядовай прэміяй, якая ўручаецца пчаляром-паэтам з Пружанскага раёна Міколам Папекам. Асаблівую цікавасць у гэтай кніжцы выклікае раздзел “Не забуду вас, хлопцы”, у якім шмат аповедаў пра сяброў-пісьменнікаў. Некаторых ужо няма з намі, але Аляксей Філатаў па-чалавечы не забывае пра іх... Таму так праніклівa і чула піша пра жабінкаўскіх паэтаў Васіля Гадульку, Васіля Сахарчука, якія заўчасна пайшлі з жыцця, пакінуўшы запамінальную паэтычную спадчыну. З любоўю піша пра такіх літаратараў як Васіль Жуковіч, Мікола Сянкевіч, Аляксей Бакуменка, Сцяпан Крываль... Дамінантай творчасці старэйшага пісьменніка Берасцейшчыны з’яўляецца любоў. Любоў да роднага краю, да жанчыны, маці, да дзяцей, увогуле да жыцця.

З цеплынёй і ўдзячнасцю Аляксей Філатаў успамінае літаратурныя “чацвяргі” – пасяджэнні літаратурнага аб’яднання пры абласной газеце “Заря” ў Брэсце, дзе вучыліся адзін у аднаго Мікола Засім, Уладзімір Калеснік, Міхась Рудкоўскі, Мікола Купрэеў (некалі сказаў у прыват-

най размове: ”Ты, Філатаў, не празаік! Ты – мастак, ты – паэт!”), Васіль Жуковіч, Іван Мельнічук, потым Мікола Пракаповіч, Алесь Каско і іншыя.

Ім было ўтульна знаходзіцца побач. Маладыя паважалі старэйшых, а старэйшыя па-бацькоўскі адносіліся да маладых. Было што паслухаць, на каго паглядзець, бо што ні чалавек – то асоба.

А нарадзіўся Аляксей 13 мая 1939 года ў вёсцы Бабінічы Віцебскага раёна. Сям’я Філатавых пераехала на Берасцейшчыну пасля вераснёўскіх падзей 1939 года. Маці, Фядора Восіпаўна, пасля заканчэння Віцебскага педагагічнага інстытута працавала ў Брэсцкім педвучылішчы. Бацька, Георгій Фёдаравіч, атрымліваў вышэйшую адукацыю ў Маскве, адкуль і трапіў на фронт.

Аляксей з маці жылі ў Маларыце ў цёткі Марыі Восіпаўны, якая працавала завучам Маларыцкай сярэдняй школы №1. У першыя ж гадзіны вайны Аляксей асірацеў: маці загінула ад нямецкага снарада, які разарваўся ля школы. Хлопчык, паранены ў галаву, трапіў у мясцовы шпіталь, які ў хуткім часе захапілі немцы. Так для будучага пісьменніка пачалася вайна. Быў у яго жыцці і фашысцкі канцлагер.

Усынавіў малога Аляксей Нічыпаравіч Афанасьеў – дырэктар Ляхавецкай школы. Сям’ю Афанасьевых Аляксей Георгіевіч заўсёды ўспамінае з пяшчотай, бо найлепшыя чалавечыя якасці ў яго былі выхаваны там.

Ужо пасля школы Аляксей Філатаў закончыў Брэсцкі чыгуначны тэхнікум. Вучыўся завочна на філалагічным факультэце Брэсцкага педагагічнага інстытута, які скончыў у 1971 годзе. Тут у яго завязалася шчырае сяброўства з Уладзімірам Калеснікам і Аляксеем Майсейчыкам.

Працаваў пісьменнік майстрам на чыгунцы, галоўным інжынерам на дарожным будаўніцтве, журналістам і настаўнікам – гэта дало багаты жыццёвы вопыт і матэрыялы для шматлікіх празаічных твораў, для будучых кніг. Да таго ж Аляксей Георгіевіч доўгі час працаваў выкладчыкам фізкультуры і трэнерам па лёгкай атлетыцы, сам быў спартсменам. Усё гэта дазваляе яму і зараз знаходзіцца ў добрай фізічнай форме, плённа працаваць, выжываць у няпросты цяперашні час.

Аляксей Філатаў даўно жыве ў пасёлку Мухавец Брэсцкага раёна, дзе працаваў настаўнікам да выхаду на пенсію. Але пра родныя Ляхаўцы ў Маларыцкім раёне гаворыць, што “гэта была не проста вёска, а нейкі цуд: нешта першароднае і непаўторнае”... Менавіта таму галоўным аб’ектам творчасці празаіка сталі родныя мясціны, землякі-маларытчане. А кніжка “Ляхавецкая торба” (1992 г.) “парадніла” ляхаўчан з сусветнавядомымі габраўцамі. У сваіх творах, блізкіх да анекдотаў, пісьменнік натуральна выкарыстоўвае жывую гутарковую мову вяскоўцаў.

Першыя творы Аляксея Філатава былі надрукаваны на старонках маларыцкай раённай газеты “Сельскае жыццё” (у 1958 годзе – апавяданне “Зышліся”).

Кніга аповесцяў “Дарога” (1997 г.) – удзячнае слова сапраўдным настаўнікам, якія сустракаліся пісьменніку на жыццёвым шляху. Набыў яе ў кніжнай краме за 44 тысячы рублёў, калі яшчэ не быў асабіста знаёмы з аўтарам. Менавіта з гэтай кнігі і пачалося маё знаёмства з творчасцю Аляксея Філатава.

Зборнік “Адарваць ад сэрца” (2000 г.) уганараваны прэміяй “Берасцейская зорка – 2000”. Ён прасякнуты шчымлівымі ўспамінамі пра родную і прыёмную маці, якім пісьменнік абавязаны многім. Увогуле ўся біяграфія Аляксея Філатава змешчана на старонках яго кніг.

Празаічны зборнік “Жывая зямля” (2001 г.) складаецца з лірычных мініяцюр і гумарыстычных апавяданняў, у якіх па-майстэрску адлюстроўваецца жыццё роднага краю і яго жыхароў. У больш “маштабных” апавяданнях – усё тая ж “філатаўская” назіральнасць, увага да чалавечага лёсу.

За грунтоўныя кніжкі прозы Аляксей Філатаў уганараваны ў 2007 годзе дыпломам імя Уладзіміра Андрэевіча Калесніка берасцейскай філіі СБП, які атрымаў з рук Ніны Мацяш, у той час старшыні абласнога аддзялення.

На пачатку 2013 года была выдадзена нарэшце доўгачаканая кніжка прозы Аляксея Георгіевіча “Жывому – жыць” (Споведзь качагара) у сталічным выдавецтве “Кнігазбор” (у “Кнігарні пісьменніка”, выпуск 38). Гэтая кніга стала адзінаццатай па ліку ў творчым багажы Аляксея Філатава. Яна, як напісана ў анатацыі, – працяг папярэдніх. Асноўныя тэмы: Радзіма, маці, мова, каханне, складаны асабісты лёс і лёс пабрацімаў-творцаў, жыццё...

У прозе Аляксея Філатава мы зноў сустрэліся з лірычнымі замалёўкамі родных мясцін,

трагікамічнымі аповедамі пра землякоў. Мы зноў сустрэліся з сыноўняй любоўю да роднай зямлі, да людзей, якія жывуць побач, сталі сведкамі іх радасцяў і нягод... А пісьменнік падкрэслівае, што ўсё яшчэ не перастае здзіўляцца нараджэнню новага дня, бо кожны новы дзень прыносіць асалоду назірання за жыццём, новыя творчыя набыткі...

***Аляксей ФІЛАТАЎ***

## ПРАЗ ПОЗІРК МАСТАКА

Зазімкавай поўначчу, каб даць адпачынак натомленым вачам, выключыў святло, падышоў да вакна, адгарнуў штору – і зачаравана здзівіўся чорнаму небу, якое сеяла на сцішаную зямлю “зеленаколерны снег ад Леанід”.

Нейкае містычна-магічнае пачуццё нарадзілася ў душы: сам Леанід, чытаю Леанідавы (Лявонавы) “Леаніды” і яшчэ раз упэўніваюся, што ёсць не толькі беларуская ўвогуле літаратура, а менавіта ўвабралася ў моц і нашае, паляшуцкае, берасцейска-валынскае прыгожае пісьмо.

Дзівую і радуюся своеасаблівасці мастацкага мыслення і прыродзе абагульнення адначасова мастаком і паэтам ад Бога Лявонам Валасюком. Лірыка-філасофскі тып мыслення гэтага каржакаватага, дужага і дужа ўраўнаважанага палешука з-пад Кобрына падкрэслівае нават назва першага раздзела кніжкі – “філасофская прастора”. Не думка, не лінія, не штрых, не сфера, а прастора, з якой своеасаблівы талент мастака праз лінію, штрых, сферу, струмень, адценне колеру, святло і цень люструе, стварае неабсяжнае жыццёвае багацце. Паэтычныя мініяцюры двух апошніх зборнікаў “Леаніды” і “Чырвоная вежа” арыгінальна-суб’ектыўныя, абагулены лірычнаю тэмаю, прасякнуты светла-тужлівым пачуццём і шматфарбнасцю, як дні і ночы, вёсны і зімы, гады і імгненні зямнога жыцця.

Кніжкі гэтыя адмыслова адрэдагаваў чуйны да слова і радка, выключнай адказнасці і патрабавальнасці да сябе і творцы ўвогуле Алесь Каско, які ва ўступным слове да “Леанідаў”, як і Сяргей Грышкевіч ў прадмове да “Чырвонай вежы”, даў сціплую памерамі, але грунтоўную зместам ацэнку мастацкім і грамадскім вартасцям твораў. Адзначаны “адметны ўласны почырк радкоў, што ненавязліва напаўняюць і кранаюць душу... іскрынкамі памяці, знічкамі імгненняў быцця” (Алесь Каско)... “Вясёлкавы калейдаскоп мігатлівых агеньчыкаў. Яркіх успышак і пераліваў. І разам з тым дзіўная лёгкасць і разважлівасць, пульсацыя думкі, вобраза – жывога, імклівага, пераканаўчага...” (Сяргей Грышкевіч).

Пад сузор’ем Стральца
У хаце
На ўскрайку вёскі Пясценькі
У прыцемку
Снежаньскага ганку
Маці
Мне адчыніла сені...

Са шматлікіх паэтычных іскрынак, што ствараюць творчы набытак Лявона Валасюка, я прывёў гэтую мініяцюру, каб падкрэсліць матыў любові да Радзімы, які не пакідае ўстрывожаную душу паэта. Менавіта гэты матыў падкрэслівае спракавечную выснову: літаратура – праяўленне народнага духу. У адрозненне ад так званых “развітых літаратур свету”, беларуская літаратура і асабліва літаратура Палесся нязменна былі люстэркам глыбока ўнутранага жыцця народа. Грамадства час ад часу мяняе сваё аблічча, ідэалы, набіраецца чужых, праблудных памкненняў, гібее і ўваскрасае, пра што сведчыць і наша сучасная гісторыя. А народ вечны ў моцы духу свайго, калі ён не страчвае звычаяў, веры і мовы продкаў сваіх. Лявон Валасюк падкрэслівае сваю адказнасць за гэтую неўміручасць.

Крыж сумлення,
Адчаю і болю,
Крыж небяспекі, нуды
Чорна-шэрыя крылы
Расправіў над полем –
На ўскрайку бяды...

І тым большая заслуга паэта, што свае памкненні, жаданні і мары, не абыходзячы акалічнасцей рэальнага жыцця, ён даносіць да свайго ўдумлівага чытача наватарскімі паэтычнымі сродкамі, адметнаю вершабудовай сваёй “маладой ліры”.

З кожным новым радком, вершам, кнігаю званчэюць матывы і мелодыі паэзіі Лявона Валасюка, усё выразней гучыць у іх водгалас спеву паляшуцкай душы.

## ДУША ДА ДУШЫ

На світанні дапісваю даўно задуманае слова пра Валю Куксу «Кнігаўкі лёс» і ўсё нешта муляе, непакоіць, усё пакутую, не выкіну з галавы думку, што сярод пералічаных мною паэтаў, якіх любіла і часам клала іхнія вершы на ноты Валіна заўчасная памершая дачка Ганначка, адна Ніна Мацяш – жывая. Нават закрэсліць збіраўся, ды чамусьці пакінуў.

Паставіў кропку, забыўся на хвілю на канапцы, накрыўшыся кажухам… Лякае тэлефонны званок. Валя Кукса:

– Бяда, Лявонка, бяда – Ніначка Мацяш сярэдначы раптоўна да Ганначкі маёй адышла!..

Так, бяда, бяда для нашага «вогнішча», найцяжэйшая пасля смерці Уладзіміра Андрэевіча Калесніка. Вось і не вер цяпер, што, як сказала вялікая Дачка «з палескай той раўніны» Ніна, «душа да душы» прамаўляе.

## ЧУЛАЯ ДУША

На лаўцы ля тралейбуснага прыпынку з Купрэевым адпачываем. Ён прапускае рэйс за рэйсам: цяжка дыхаецца, глуха кашляецца, ногі гэць адмаўляюць служыць. Нарэшце праводжу чалавека да вакзала. Крыж святы, надакучыў з тым “святым”, выклятым заняткам, які і мяне трымае ва ўчэпістым, цяжкім палоне. Ды сумуецца нечага, цяжка на сэрцы, асабліва калі скосіш сваё ў ягонае, бы ў ягняці, вялікае блакітнае вока. Нават сарвалася з вуснаў:

Мой друг дзяцінства, любы вяз,
Ужо час развітання з табою.
І ты прабач, што я пайшоў,
Прабач, што ты не змог пайсці са мною…

– Т-а-а-а-к-с-с-с, – прыжмурыў вочы, ацёр бараду, задраў галаву ў неба, два разы хітнуў зверху ўніз. Прыкурыў, па-панску, ад сябе запаліўшы сярнічку, выпусціў дым і, разглядаючы пракураныя дарэшты пальцы, нібы мімаходзь пытае: – Тваё?

– Не, называю аўтара.

– Ну што ж, часам і ён нешта народзіць, і ён мае шчырую душу,... Усё! На наступны сядаем. Да прыгараднага неяк дапнемся. Ну а там, а там як мінулы раз, Лёня, у вагон занясеш…

Не раз я вас, хлопцы, Міхась і Мікола, і вадзіў, і насіў, а сёння сам “класікам” станаўлюся: на абедзьве нагі пачынаю кульгаць…

# Я ТУТ ЗАПОЕМ ЗНОЎ ПІШУ...



Мой зямляк Іван Арабейка родам з Жабінкаўскага раёна, з вёскі Хмелева. Будучы ўжо пенсіянерам, пераехаў з жонкаю з горада ў суседнюю вёску Жыцін у векавую хату жончынай радні, дзе адкрыў для сябе простую ісціну: паэзія можа нараджацца і ў вёсцы, тым больш – на радзіме. У гэтай хаце з’явілася на свет жонка Вольга, адсюль пайшла замуж за Івана Арабейку і падарыла яму двух сыноў. Тут разам яны гаспадараць на зямлі, каб і жыта нарадзіла, і бульба была на зіму... Да гэтага апошнім часам паэтычная Муза не здраджвае Івану Сяргеевічу, ён знаходзіцца ў добрай паэтычнай форме, плённа працуе, піша вершы, прымае актыўны ўдзел у літаратурным жыцці Берасцейшчыны. І нядаўні 70-гадовы юбілей надаў яму новыя сілы і моц для творчай працы: выйшла доўгачаканая кніжка паэзіі. Гэта вельмі радуе сяброў па літаратурным цэху і аматараў паэтычнага таленту самабытнага творцы.

Вершы Івана Арабейкі ўпершыню пабачыў і прачытаў на старонках абласной газеты “Заря”. На той час я быў вучнем 16-й брэсцкай школы, а ў паралельным класе вучыўся мой сябар-сусед Віця Арабейка, які таксама пісаў вершы. Дык мне напачатку падумалася, што гэта сямейнае, але, як аказалася, памыліўся. Толькі прозвішча Арабейка ўжо прысутнічала ў падсвядомасці. Пазней, калі працаваў пэўны час на заводзе “Газаапарат”, дык каляжанка Ірына шмат гаварыла пра Арабейку як спецыяліста і паэта. Праўда, многае з таго было мне знаёма. І толькі ўжо на пачатку новага стагоддзя-тысячагоддзя лёс звёў мяне з маім земляком-паэтам, які пасля доўгага перапынку пачаў зноў вяртацца да роднага слова...

У творчым “багажы” Івана Арабейкі да нядаўняга часу былі два паэтычныя зборнікі – “Услед за сонцам” (1972) і “Асенні ранак” (1978), якімі ён сцвердзіў сябе як паэт. (У свой час выданне гэтых кніг стала значнай падзеяй у літаратурным жыцці Берасцейшчыны). Трэці зборнік – “Сказаць хачу” – быў выдадзены зусім нядаўна (у 2012 годзе), дзякуючы падтрымцы рэдакцыі газеты “Брестский курьер». А ў Саюз беларускіх пісьменнікаў Івана Арабейку прынялі ўжо ў 1979 годзе (у тыя гады стаць сябрам творчага саюза было ох як няпроста!). Першы верш Івана Арабейкі “Клён” быў надрукаваны ў далёкім 1963 годзе ў газеце “Чырвоная змена”, літаратурнае аб’яднанне пры якой будучы паэт актыўна наведваў, будучы на той час сталічным студэнтам. Там жа пазнаёміўся з выдатнымі майстрамі паэтычнага слова...

Іван Арабейка нарадзіўся ў вёсцы Хмелева Жабінкаўскага раёна ў ваенным 1942-м годзе ў сям’і, дзе было дзевяць дзяцей.. Пасляваенныя гады не былі лёгкімі. Недзе ў 8-м класе пачаў пісаць вершы, але па прапанове брата паступіў на хіміка-тэхналагічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута, пасля заканчэння якога па размеркаванні працаваў на шклозаводзе “Нёман” у пасёлку Бярозаўка Лідскага раёна Гродзенскай вобласці, а пасля – на прадпрыемствах Брэста. У 1981-1983 гадах Іван Сяргеевіч вучыўся ў Маскве на Вышэйшых літаратурных курсах. Але неўзабаве зусім адышоў ад літаратурнай творчасці на доўгія 20 гадоў – пасля таго, як у сярэдзіне 80-х у часопісе “Полымя” праз многа часу надрукавалі адзіны яго верш з нізкі дасланых. Паэт тады вырашыў, што могуць абысціся без ягоных твораў, таму і змоўк на доўгія гады. І толькі ўжо на пачатку новага веку прыхільнікі яго паэтычнага таленту і сябры па пяры нарэшце зноў пачулі моцны голас Паэта Івана Арабейкі, які таленавіта, па-майстэрску даносіць да чытача сваю любоў і павагу да роднага краю, да людзей-землякоў...

*Іван АРАБЕЙКА*

ДА НАЗВЫ ВЁСКІ ХМЕЛЕВА

У карчме Марціна Цеслі
Дым густы з сінечаю,
Не знайсці пустога месца:
П’юць, гуляюць звечара.
Хоць няма ў жывых Марціна,
Але справы гожыя:
Удава-карчмарка чынна
Між сталоў паходжвае.
– Што за стан, якія рукі!
Так да ласкі й просяцца...
Абдымі – і здымеш мукі,
Прыгажуня Зосечка!
А другі:
– Чаму ж ты, Зося,
Гэтак заірдзелася?
Зося ў такт:
– Каб лепш пілося
Ды яшчэ хацелася!..
Трэці:
– Эх, вярнуць бы лета,
Як была ты дзеўкаю!
– Не хваліся. Я на гэта
Адкажу прыпеўкаю:
Коля коле,
Паша паліць,
Я ля грубкі грэлася.
Аніколі не кахалі
Гэтак, як хацелася б!..
Заспявала – і кашмары
Адначас зрабіліся:
За прывабную карчмарку
Дзецюкі пабіліся.
Грэх пасля ў душы насілі,
Колькі Богам велена...
Звеку ў вёсцы хмель любілі
І назвалі Хмелева.

***

Не, я не ўмёр, я ўглыб сябе зашыўся
І слухаў свет – дзівосны, дасканалы.
Я ў Пушкіна гармоніі вучыўся,
А болю і любові – у Купалы.

# БЫЎ Я СЦІПЛЫМ ПАЭТАМ...



Пры першай нашай сустрэчы з Іванам Піліпавічам мне падалося, што вельмі даўно знаёмыя, толькі працяглы час не бачыліся. Пэўна, нашыя творчыя душы былі блізкія... З ім заўжды было прыемна тэлефанавацца, размаўляць пры сустрэчах. Іван Піліпавіч у маім разуменні быў сапраўдным беларусам: працавітым і добрым чалавекам, шчырым і мудрым, і да таго ж вельмі праніклівым лірыкам. Каб зразумець беларускую душу Івана Лагвіновіча, яго творчыя памкненні і думы,трэба ўдумліва чытаць лепшыя вершы паэта.

Іван Лагвіновіч нарадзіўся 16 студзеня 1940 года на хутары Запрапасць Ганцавіцкага раёна (за пяць кіламетраў ад сяла Малькавічы). Скончыўшы сем класаў школы, з'ехаў на працу ў Данбас.

Пасля горнапрамысловага вучылішча служыў у Савецкай Арміі, працаваў на шахце і навучаўся ў вячэрняй школе, а таксама займаўся самаадукацыяй. Праца шахцёрам, якой Іван Лагвіновіч аддаў шмат гадоў, не вынішчыла ў яго душы ўспамінаў і мараў пра радзіму, аб якой яму сніліся каляровыя сны. Мо таму і родную мову Іван Піліпавіч не забыў і ў далёкім краі пісаў вершы па-беларуску...

У 1977 годзе Іван Лагвіновіч быў прызнаны інвалідам ІІІ групы з прычыны прафесійнага захворвання. З шахты перайшоў на абагачальную фабрыку.

У 1990 годзе атрымаў пенсію і праз год вярнуўся на Радзіму. З 1992 года жыў у Баранавічах, актыўна ўдзельнічаў у літаратурным жыцці.

Шлях да паэзіі простага палескага хлапчука быў няпросты. Вершы Іван Лагвіновіч пачаў пісаць яшчэ ў школе. У дваццаць гадоў упершыню надрукаваўся ў рэспубліканскай маладзёжнай газеце "Чырвоная змена". Жывучы ў Данбасе (горад Чысцякова, пазней –Тэрэз), выступаў з вершамі ў перыядычных выданнях, друкаваўся ў калектыўных зборніках. Калі перабраўся ў Беларусь, выдаў пры дапамозе грамадскіх арганізацый і за ўласны кошт зборнікі вершаў "Разлукі выраёвыя", "Піліпаўка", "Далёкае і блізкае", "Ляда юдолі", "Палыновыя кветкі", "Элегія палескага матыля" (была выдадзена пасля смерці паэта ў 2011 годзе ў серыі "Кнігарня пісьменніка"). "Свечкі трыпутніка" – пасляжыццёвая кніжка вершаў, рукапіс якой аўтар падрыхтаваў сам, але так і не паспеў выдаць. Гэта быў яго шосты паэтычны зборнік). З 2000 года Іван Піліавіч быў актыўным сябрам творчага згуртавання "Святліца" (Баранавічы). Яго адметная нізка вершаў змешчана ў анталогіі беларускай паэзіі XX стагоддзя "Краса і сіла".

У чэрвені 2003 года Іван Лагвіновіч быў прыняты ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Ён лаўрэат абласной літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка (2008) за зборнік паэзіі "Палыновыя кветкі".

Асноўным матывам творчасці паэта Івана Лагвіновіча з'яўляецца перажыванне за будучыню роднай краіны, за нашу беларускую спадчыну і культуру, за родных і блізкіх па духу людзей... Шкада толькі, што шырокае кола прыхільнікаў беларускай паэзіі мала ведае пра яго творчы плён.

Іван Піліпавіч сышоў у лепшы свет 29 сакавіка 2011 года, калі яму споўніўся толькі 71 год. Паэт шмат што паспеў зрабіць, шмат чаго мог бы і яшчэ, але цяжкая хвароба не дала здзейсніць усё задуманае. І ў нашай памяці ён назаўсёды застанецца руплівым творцам і сціплым чалавекам, адданым роднай зямлі і роднай матчынай мове...

*Іван ЛАГВІНОВІЧ*

***

Засланяю далонямі твар
На мяжы паміж лугам і лесам.
Сіратлівых лістоў ці не два
Засталося на каліве лета.

Нацянькі, па халоднай вадзе,
Бы паранены вой з поля бою,
Куст каліны насустрач мне йдзе
З акрываўленай галавою.

***

Берасцяным святлом
Між бяроз на грудку
Ад хандры гарадской
Ацаляю душу.
А зязюля раз-пораз
Ку-ку ды ку-ку:
Лічыць, колькі я вершаў
Яшчэ напішу.

## ЗАПАВЕТ

Я пад зоркаю цёмнай
Талісман свой згубіў,
Часта з чашы бяздоннай
Горыч роспачы піў.

Землякі! Калі ўлетку
Сном апошнім засну,
Палыновыя кветкі
Лягуць хай на труну.

Не шукайце на помнік
Мармур або граніт –
На капец кіне поўнач
Згаслы метэарыт.

Быў я сціплым паэтам,
Не ўслаўляў міражы –
Помніка і букетаў
Лепшых не заслужыў.

# "БЕЛЫ ГАНАК" АЛЯКСЕЯ ГАНЧУКА



Зборнік "Белы ганак" жабінкаўскага журналіста, фатографа і паэта Аляксея Ганчука (кніга пабачыла свет у 2010 годзе) я даўно чакаў, ведаючы ад паэта Алеся Каско, што мой зямляк (родам з вёскі Навасёлкі Тэвельскага сельсавета Кобрынскага раёна) падрыхтаваў рукапіс. Яшчэ не будучы асабіста з ім знаёмым, я адчуваў сябе так, быццам мы выраслі на адной вуліцы.

Вершы паэта Аляксея Ганчука, сур'ёзна адабраныя для першага самастойнага зборніка, глыбокія па сэнсе і запамінальныя. Назва зборніка сімвалізуе адданасць і вернасць роднаму кутку, шчырасць і чысціню пачуццяў.

Аляксей, як паэт і патрыёт сваёй роднай зямлі, з болем у сэрцы адчувае ўсе беды, праблемы жыхароў цяперашніх вёсак, сваіх землякоў...

"Душа не церпіць ласкі...", – піша ён у адным з вершаў, выказваючы гэтым і свае адносіны да сучаснага жыцця, і пажаданне дае сваім суайчыннікам.

Па "продкавых дарогах" вандруе ён у пошуках матэрыялаў для мясцовых газет, з якімі плённа супрацоўнічае (было прыемна даведацца, што Аляксей Ганчук стаў уласным карэспандэнтам абласной газеты "Народная трыбуна", якая выдаецца на роднай мове).

На скрыжаванні дарог і думак нараджаюцца радкі, якія захапляюць чытага сваёй дасканаласцю і пранікнёнасцю, на абсягах роднай зямлі знаходзіць фатограф Аляксей Ганчук натуру для фотаздымкаў.

Паэт-фатограф, паэтычная натура, ён па-свойму цікава ўзбагачае берасцейскую (беларускую) паэзію ўласным разуменнем і асэнсаваннем жыцця, паэтычным выказваннем думак. Ён тонка апявае навакольную прыроду і людзей, каторыя жывуць і працуюць на роднай зямлі.

Пазнаёміўся асабіста з Аляксеем не так ужо і даўно: у Пружанскім палацыку ў студзені 2010 года на ўручэнні Міколам Папекам літаратурнай Мядовай прэміі паэту з Баранавіч Алесю Корневу. З таго часу часта бачымся ў рэдакцыі газеты "Народная трыбуна" і не толькі... Адным словам: землякі!..

### *Аляксей ГАНЧУК*

#### БЕЛЫ ГАНАК

Веснічкі рыпнуць у белым тумане, –
Спыняцца вечнасць, імгненні і дні...
Воблакам белым – любоў і каханне, –
Ганак, які дзверы ў свет адчыніў.
Ён з благаслаўлення бацькоў
і шыпшыны
Ранкам без слёз адпусціў птушанём.
Крылы гарэлі, ды праглі вышыняў.
Цяжкія ўзмахі. Над імі – анёл...
Веснічкі рыпнуць у белым тумане,
Лета мільгне на бязмежным двары.
Воблакам белым – любоў і каханне.
Снежнасць язміну і ганак стары.

## ЧОРНЫЯ СПІСЫ

Ёсць белыя людзі,
Ёсць чорныя спісы.
Адкуль жа ў тых спісах
Мадонны ўзяліся?
Чым грэшныя сталі
На роднай зямліцы?
Жывуць, як і ўсе,
Прагнуць вольна маліцца.
За самых святых
І за наша святое –
За матчыну праўду,
За шчасце людское.
Прывусніцца йду
Я да Дзевы Марыі
За тых, каго білі,
Каго замарылі...
Шматкроп'е,
Бо дыхае ў твар небяспечнасць.
А кропкі расставіць
Блакітная вечнасць.
І белыя спісы
Маланкай сляпучай
Абпаленых душаў
Крануцца балюча.

***

Прыляціш туды, дзе веснічкі рыпелі,
Дзе малочнх надвячоркаў прыгажосць,
Дзе юнацтва салаўі за ноч адпелі...
Тут даўно не гаспадар ужо, а госць.
Не ўздымаюць дзеці пыл да небакраю,
І не чуюць травы "любая... люблю"..."
Трэба ехаць, кропля жалю набракае.
Набракае...
Пераважвае Зямлю.

***

Хапаюся за родную травінку,
Што вырасла на матчынай мяжы.
Мяжа – усё вастрэйшым напамінкам
Спытаць сябе, ці годна час пражыў.
Было ўсяго, было ажно без меры,
Ды, кажуць, нельга скардзіцца на лёс.
З надзеяй адчыняю ранкам дзверы,
Каб новы дзень жаданне жыць прынёс.

# СПЫНЕНЫ ЛІСТАПАД



3 верасня 2009 года ў актавай зале Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М.Горкага адбылася прэзентацыя доўгачаканай кніжкі прозы “ПАСТКА ДЛЯ РЭХА” берасцейскага паэта і празаіка, ураджэнца Кобрыншчыны Алеся Паплаўскага.

Рэспубліканская выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва” ў чарговы раз парадавала чытача кніжкай-зборнікам з серыі “Лімаўскі фальварак” (заснавана ў 2007 годзе), якая складзена з чатырох лірычна-філасофскіх аповесцей: “Пастка для рэха”, “Закахацца ў малпу”, “Бонза” і вядомай ужо аповесці “Пірамiды”.

Лірычны герой-самотнік пералічаных аповесцяў нібы па чарзе пераходзіць з аднаго твора ў другі: яго супярэчлівасць з самім сабой яскрава выяўляецца ў кожным з іх, ён заўсёды ў вечным канфлікце-супрацьстаянні з недасканалым светам і маральна-выродлівымі спусташэнцамі... Кожная аповесць Алеся Паплаўскага – гэта не што іншае, як гісторыя людской адзіноты.

Кніжка з густам афармлена мастаком А. Званаровым, што вельмі радуе, бо афармленне адразу надае добры настрой кожнаму, хто дакранаецца да вокладкі. Ды і ўвогуле мастацкае афармленне ў беларускіх выдавецтвах у апошні час пастаўлена на добры ўзровень, у многім гэтаму спрыяюць паліграфічныя магчымасці.

Як чытач, хачу адзначыць апошнюю аповесць – “Пірамiды”. Я пазнаёміўся з ёй раней, калі яшчэ рабіў афармленне першай кніжкі прозы Алеся Паплаўскага “Тэрыторыя скразнякоў”. Зараз прачытаў яе мо ў чацвёрты раз і не пашкадаваў патрачаны час.

На прэзентацыі не было вольных месцаў у зале: берасцейскія літаратары Леанід Філітаў, Кастусь Жмінько, Алесь Каско, Мікола Пракаповіч, Уладзімір Глазаў, Васіль Барысюк, Мікалай Аляксандраў; навукоўцы-філолагі з Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна Генадзь Праневіч, Юрый Паталкоў і Мікола Сянкевіч; аматары літаратуры і проста знаёмыя Алеся Паплаўскага. З Мінска прыехаў загадчык аддзела прозы часопіса “Маладосць”, вядомы празаік Андрэй Федарэнка, які ў сваім змястоўным выступленні адзначыў адметнасць прозы Алеся Паплаўскага ў сучасным літаратурным працэсе.

Грунтоўны аналіз мастацкіх вартасцей твораў Алеся Паплаўскага даў паэт Анатоль Гарай.

Са сваімі меркаваннямі, думкамі і пажаданнямі выступілі Юрый Паталкоў, Мікола Сянкевіч, Алесь Каско, Мікалай Аляксандраў, Уладзімір Глазаў і іншыя.

Сам аўтар “Пасткі для рэха” расказаў пра сваю творчасць, адказаў на пытанні, прачытаў новыя вершы і, як бард, выканаў некалькі лірычных песень.

Прэзентацыя атрымалася добразычлівай, змястоўнай.

Алесь Паплаўскі пачынаў пісаць яшчэ школьнікам. Актыўна друкуецца з 80-х гадоў. Паэтычныя падборкі змяшчалі часопісы “Маладосць” і “Першацвет”, альманахі “Дзень паэзіі” і “Берасцейскія карані”, газеты “Заря” і “Чырвоная змена”. Яго першую паэтычную кніжку “Спынены лістапад” (1997) я пабачыў на паліцы кнігарні “Іскра”, што месціцца на рагу вуліц Пушкінскай і К. Маркса абласнога цэнтра. Спадабаліся вершы паэта-земляка (Алесь родам з вёскі Мазуры Кобрынскага раёна).

Згадваю адзін выпадак. Неяк у мастацкім салоне па вуліцы Набярэжнай настаўніца беларускай мовы і літаратуры ў размове заўважыла, што на Кобрыншчыне мала беларускамоўных літаратараў, бо так склалася гістарычна, што там размаўляюць больш на ўкраінска-польскай мове. Я не мог з ёю пагадзіцца і прапанаваў прачытаць вершы Алеся Паплаўскага. Крыху пазней, калі ўжо быў асабіста знаёмы са сваім земляком, Алесь выдаў і другі паэтычны зборнік “Незваротнасць “ (2001), а неўзабаве і кніжку прозы “Тэрыторыя скразнякоў” (2004), – якую я з задавальненнем аформіў як мастак-дызайнер. Да ўсяго, потым зрабіў яшчэ дзве жывапісныя работы “Тэрыторыя скразнякоў”. Неўзабаве ў нас адбылася сумесная паездка ў Кобрынскі

раён у вёску Залессе, дзе мы выступалі перад школьнікамі і настаўнікамі ў мясцовым клубе...

Прайшоў час, адсвяткаваны чарговы юбілей, да якога Алесь Паплаўскі выдаў новую паэтычную кніжку “Скрыжалі душы” (2013). Жадаю яму і надалей толькі зялёнага святла.

## *Алесь ПАПЛАЎСКІ*

***

Захочаш сьлёз, а сьлёз не будзе.
Зноў анямее белы сьвет.
Ліхія ў сад твой прыйдуць людзі
І стопчуць яблыневы квет.

Пад зрэб’ем, бы пад павуціньнем,
Заб’ецца грэшная душа.
Анёл у цемры сьлепкай зьгіне,
Свайго шукаючы крыжа.

Тлум дзён сплыве... І недзе ўпотай
Прарок народзіцца другі.
Зямля пачуе часу дотык
Ад цеплыні яго нагі.

У цішыні сярод гаркоты
Спакойна стане на зямлі...
Але ўсё гэта будзе потым –
Ніхто ня ведае, калі.

***

Пасівелая вечнасць.
Рвуць вятры далячынь.
Задыхаецца вецер
У маўклівым плачы.

За сьцяною сутоньне.
Стужка дрэў і дамоў.
Страх развеецца сёньня,
Каб прыйсці заўтра зноў.

Будзе ўсё як і ўчора:
Сон мой боль украдзе.
Мне прыпомніцца горад,
Горад мар і надзей.

Ды пад зьзяньнем убраньня
Новых зманлівых шыльд –
Пустата спадзяваньня
Да пакутнай душы.

# ЧАРНАВІКІ МІКОЛЫ ПАПЕКІ

Чаравікі ў далёкай дарозе, – чарнавікі...
*Мікола Папека*



Упершыню пабачыў Міколу Папеку і пазнаёміўся з ім на Рэспубліканскім мерапрыемстве па архітэктуры, што праходзіла ў Брэсце ў зале пасяджэнняў гарвыканкама. Звёў мяне з ім мастак-архітэктар, педагог Кастусь Калодзіч.

У белай кашулі, чорных нагавіцах, сам чарнявы, смуглявы хлопец паказаўся напачатку сціплым і ціхім маладым чалавекам. Кастусь рэкамендаваў мне яго як паэта і пчаляра. Першае ўражанне аказалася падманлівым. Не такі ўжо ціхі і сціплы па жыцці Мікола Папека, ураджэнец Івацэвіцкага раёна, які жыве і працуе ў вёсцы Лінава на Пружаншчыне, што ля вядомай чыгуначнай станцыі “Аранчыцы” па чыгунцы ў бок Баранавіч.

Але так было наканавана лёсам, што пасля таго першага знаёмства пачалі сустракацца з Міколам Папекам усё часцей і часцей, бо абодва займаліся літаратурай.

У 2006 годзе адбылася паездка берасцейскіх літаратараў да Ніны Мацяш у Белаазёрск. Сустрэліся напачатку ў бібліятэцы ў мясцовым Доме культуры, дзе правялі сход, выбраўшы старшынёй абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў замест Алеся Каско вядомую паэтку – на прапанову яна пагадзілася пасля некаторага роздуму. Таксама на тым сходзе вылучылі кандыдатаў на прыём у сябры Саюза БП, сярод якіх быў і Мікола Папека, і я.

Пазней, ужо ў наступным годзе, з Міколам ездзілі ў Мінск, у Дом літаратара, на пасяджэнне секцыі паэзіі, дзе нас слухала камісія, у складзе якой былі Васіль Жуковіч, Аксана Данільчык, Эдуард Акулін, Віктар Слінко (загадчык секцыі паэзіі), пазней падышла і Вольга Іпатава.

Другім разам паехалі ўжо для зацвярджэння ў Саюзе на пісьменніцкую Раду. На той час прынялі ў Саюз яшчэ і Вадзіма Жылко з Лунінца, Аляксея Галаскока з Ганцавіч. Нас віншавалі Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Арлоў, Уладзімір Някляеў, Анатоль Вярцінскі, Вольга Іпатава... Атрымалі ў той дзень шмат станоўчых эмоцый, хаця давялося і пахвалявацца напачатку, бо такое бывае толькі раз у жыцці...

Дамоў вярталіся паасобку, але далейшыя сустрэчы працягваліся ўжо на пісьменніцкіх сходах і літаратурных імпрэзах у Брэсце.

Першыя вершы Міколы Папекі былі надрукавны ў сярэдзіне 90-г гадоў у абласной газеце “ЗАРЯ”, у серыі “Берасцейскае вогнішча” быў выдадзены паэтычны зборнік “Чарнавікі” (у 1999 годзе). Як адзначыў сам аўтар, ён “удзячны двукрылым спонсарам”, гэта значыць – пчолам. Мікола Папека – пчаляр, мае асабістую гаспадарку. Таму і заснаваў у свой час абласную Мядовую літаратурную прэмію, якую – пуд мёду – штогод атрымліваюць берасцейскія літаратары за найбольш вартыя – з пункту погляду заснавальніка – кнігі.

У Міколы ёсць верш пра чорнага бусла, які мне нагадвае самога аўтара:

Чорны бусел,
чорны бусел-белагруд,
памажы ты Беларусі,
будзь жа тут,
дзе даўно ўжо
жаўталотаць не расьце,
белы бусел
не клякоча на страсе.

Чорны бусел,

чорны бусел-белагруд,
табе лётаць
над балотам
не дадуць.
тут рачулачкі і рэкі
ў кайданах,
і зямля пяском зьмяіцца
на вятрах.

Чорны бусел,
чорны бусел-белагруд...

Апошнія гады Мікола Папека многа часу праводзіць на месцы старых сядзібаў, паселішчаў з металашукальнікам, знаходзячы рарытэтныя рэчы. Яму пашанцавала адшукаць і старыя манеты, і пячаткі, і рэшткі зброі, і шмат чаго іншага, бо ён чалавек, апатаны гэтай справай. Мінулае роднага краю хвалюе паэта, не пакідае абыякавым. Таму ў яго дамашняй бібліятэцы так шмат кніг па гісторыі.

У 2012 годзе Мікола пераклаў і выдаў асобнай кніжкай паэму Юзафа Крашэўскага “Вёска”. Увогуле, ён апошнія гады не цураецца перакладаў з украінскай і расейскай моў. Адным словам: працуе!

## *Мікола ПАПЕКА*

### ЧАРАТЫ

Чародамі
Шпарка шпакі
Лётаюць
Над чаратамі.

Ластаўкі
Не мінаюць стаўкі,
А ласкі крыльляў
У чаратах ласуюцца.

На воднай роўнядзі
Лебедзі
З хвалямі ладзяць –
Белым крыльлем
Чараты гладзяць.

***

На водар грачанага мёду
зьлятаюцца настырныя восы.
Канула лета
ў Леты няспынныя воды,

а з водаў засмучаных
нарадзілася Восень.

# НІЧОГА БОЛЬШ... І ТОЛЬКІ ЧЫСТЫ ДАЛЯГЛЯД...



Гэтаму чалавеку ўдзячны найперш за тое, што на пачатку новага стагоддзя ён сур'ёзна параіў мне перайсці на родную беларускую мову (на той час я пісаў як па-беларуску, так і па-расейску). Гэта быў вельмі важны паварот у маёй творчасці (і ў жыцці аднначасова). Лепей было б, канечне, каб такі пераход адбыўся гадоў на дзесяць раней, але, як кажуць, лепш пазней, чым ніколі...

Алесь Канстанцінавіч стаў рэдактарам маіх паэтычных зборнікаў і першай празаічнай кніжкі "Сцежкі да сядзібы" (абразкі маленства). Нашы творчыя сустрэчы тады найчасцей адбываліся ў памяшканні абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў па вуліцы Наганава, ля парка. Тады ж я зрабіў і вокладку для зборніка вершаў Алеся Каско "Трохкроп'е" (ужо крыху пазней атрымалася, на мой погляд, цікавая жывапісная работа паводле гэтай вокладкі, толькі больш каляровая і складаная – карціна трапіла ў Маскву ў прыватную калекцыю да добрага чалавека). "Трохкроп'е" было выдадзена Алесем да свайго 50-гадовага юбілею, які ўрачыста адзначаўся ў вялікай зале Абласнога грамадска-культурнага цэнтра. На той ўрачыстай вечарыне я падарыў Алесю Канстанцінавічу і свой новы зборнік вершаў "Под знаком Стрельца" – трэці і апошні расейскамоўны.

Асабістае знаёмства з Алесем Каско адбылося напачатку 80-х гадоў, калі ён са сваім сябрам Міколам Пракаповічам працаваў на брэсцкім тэлебачанні. Часцяком тады бачыліся ў горадзе, у студыі, бо мне самому па абавязку службы даводзілася шчыльна супрацоўнічаць з радыё і брэсцкім тэлебачаннем...

Неяк пасля таго, як у мяне выйшлі зборнікі вершаў "Блики дня" і "Краски души" (адзін з раздзелаў быў беларускамоўным), мне пазванілі з абласной бібліятэкі імя М. Горкага і ад імя Алеся Каско запрасілі на традыцыйную штогадовую творчую сустрэчу берасцейскіх літаратараў.

У тыя гады ў мяне нарадзілася думка напісаць партрэт паэта Алеся Каско. Наколькі ўдалым ён атрымаўся – судзіць не мне. Сам партрэт немалых памераў, так бы мовіць, манументальны. А фонам стала сціплае памяшканне абласнога аддзялення СБП па вуліцы Наганава, дзе ў той час працаваў старшынёй Алесь Каско.

У 2011 годзе, напярэдадні свайго 60-годдзя, Алесь Канстанцінавіч выдаў зборнік вершаў "Нічога больш...", а крыху пазней, ужо ў 2012-м, – "Прыадхілены небасхіл", у якім "горача адстойвае духоўны пачатак у чалавеку, погляд на яго як на неад'емную часцінку Сусвету, веру ў чысціню ягоных помыслаў, накрэсленых Усявышнім". Гэтыя два зборнікі найбольш яскрава паказваюць моц паэтычнага таленту Алеся Каско.

Не абмінуў у сваёй творчасці паэт і казачны свет роднай вёскі Чудзін, што на Ганцаўшчыне, – напісаў для дзетак кнігу вершаў, піша і прозу. Ёсць у яго таксама мэта сабраць як мага больш цікавых гісторый-анекдотаў з жыцця літаратараў, якія б яскрава раскрывалі чалавечую сутнасць і творчую індывідуальнасць кожнага пісьменніка.

У Алеся Каско ўсё пачыналася з роднай вёскі Чудзін Ганцавіцкага раёна, дзе ён скончыў сярэднюю школу. Потым быў Брэсцкі педагагічны інстытут. Працаваў на абласным тэлебачанні, сакратаром аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў... Зараз жыве і працуе ў Жабінцы.

За паэтычную кнігу "Час прысутнасці" (1994) Алесю Канстанцінавічу ў 1995 годзе была прысуджана Літаратурная прэмія імя Аркадзя Куляшова. А за кнігу "Свой камень" у калектыўным зборніку "Трохперсце" ( сумесна з Міхасём Рудкоўскім (пасмяротна) і Міколам Пракаповічам) – абласная Літаратурная прэмія імя Уладзіміра Калесніка (2008).

Пульсуе творчая плынь, і чытач працягвае чакаць новых вершаў, новых адкрыццяў і знаходак вядомага беларускага паэта Алеся Каско.

***

Так, гэта да скону –
Нябёсы ў вачах:
Сляза – што дажджынка,
Смяецца – што промень.
Не раз яшчэ чыстая сінь па начах,
Як знічку, здагадку аброніць,
Дыхне цеплынёю
Не раз па вясне,
Журбою, як дымкай,
Засмужыцца ўвосень.
А ў часе трывог
І сумненняў бліснe
Надзея – высокая просінь.

***

Рака. Пясок. Бязлюдны бераг.
Спакой і глыбіня нябёс
Нібыта ўсё жыццё я змераў
І ўсё ў адной слязе прынёс.

Нібы з усіх шляхоў спакусных
Вярнуўся сэрцам акрыяць
Каля вытокаў, дзе ў хаўрусе
Надзея, вера, Бог і я.

І ўжо няма балючых згадак,
Як век, як шмат вякоў назад.
І толькі босы след, – пачатак, –
І толькі чысты далягляд.

***

Зямля
не любіць пуставаць –
жадае быць жытнёвым полем;
не будзеш сеяць – і куколлем
пачне патроху зарастаць.

Душа
не любіць пуставаць –
жыве надзеямі на шчасце;
будзіць не будзем – і ў мяшчанства
пачне паціхеньку ўрастаць.

# ПАЭТ-БАРД ЭДУАРД АКУЛІН



2012 год, які быў абвешчаны Годам кнігі, стаў для Эдуарда Акуліна Годам Берасцейшчыны, бо пабываў паэт-бард у нас ажно 12 разоў (па адным разе ў месяц!). Такі рэкорд наўрад ці калі нехта са сталічных літаратараў пераўзыдзе.

Гэта гаворыць пра тое, як Эдуард Аляксандравіч адносіцца да сваіх калег-літаратараў, да роднай літаратуры, да роднага слова. Ураджэнца гомельскага Палесся можна смела лічыць берасцейцам за той клопат аб творчасці нашых землякоў, якім ён жыве. Ды і берасцейцы заўжды радыя сустрэчы з вядомым паэтам і бардам. Амаль заўсёды Акулін прывозіць з сабою гітару, выконвае аўтарскія песні, адной з любімых у самых розных аўдыторыях з'яўляецца "Янка Купала", ад якой нават дрыжыкі па целе прабягаюць: такое моцнае уздзеянне аказвае песня на слухачоў...

Не так даўно Эдуард Аляксандравіч адзначыў свой залаты юбілей (7 студзеня 2013года) прыгожай вечарынай у Палацы мастацтваў у Мінску, дзе ў перапоўненай зале пасяджэнняў адбылася прэзентацыя кампакт-дыска з яго новымі песнямі і дзвюх кніжак паэзіі. Народжаны на Раство Хрыстова, паэт-бард у сваёй творчасці прытрымліваецца галоўных хрысціянскіх традыцый...

Ужо ў новым 2013 годзе Эдуард Акулін (разам з паэтам Леанідам Дранько-Майсюком") ізноў наведаў Брэст, сустрэўся з аматарамі прыгожага пісьменства, прэзентаваў свой кампакт-дыск "Не магу жыць без крыл..." і два паэтычныя зборнікі: "Малітва воч" і "Святая ноч".

На першай сустрэчы ў БрДУ імя А.С. Пушкіна (у адукацыйна-асветным цэнтры імя У. Калесніка) берасцейцы зачыталі паэту віншавальны адрас, уручылі кветкі. Асабіста я меў шчаслівую нагоду падарыць госцю яго жывапісны партрэт, які напісаў яшчэ ў мінулым годзе.

Анатоль Вярцінскі ў прадмове да зборніка паэзіі Эдуарда Акуліна "Святая ноч" так вызначыў паэтычную сутнасць юбіляра:

"У паэзіі Эдуарда Акуліна гарманічна сумяшчаюцца, дапаўняючы адно аднае, зямное і нябёснае, асабістае і грамадскае, рацыянальнае і пачуццёвае... Бо Слова для яго – паэта, барда і грамадскага дзеяча – не што іншае як Малітва. Нездарма ж заключны раздзел кнігі з бліскучымі перакладамі ўкраінскіх, літоўскіх, балгарскіх, славенскіх, македонскіх і польскіх творцаў Эдуард Акулін заканчвае вершам польскага паэта Яцэка Любарта Кшысіцы "Слова".
Малітвай – Да Бога, Малітвай – Да Сонца, Малітвай – да Беларусі".

"...Эдуард Акулін – анёл з выгляду, аднак мае характар зубра!
Цвёрды характар – у адстойванні беларускага слова, і, не сумняваюся, характар мяккі – у сямейных адносінах..." – Так характарызуе свайго сябра паэт Леанід Дранько-Майсюк.

## *Эдуард АКУЛІН*

### ЛЁН

*Ахвярую Алесю Бяляцкаму*

Мне прыснілася сёння Доля,
Запаветны, як Слова, сон.
Мы з Сысом у нябесным полі
Разам жалі блакітны лён.

Разам жалі, ды раптам серпам
Я адняў галаву вужу,
І цярновыя слёзы свербам
Разарвалі маю душу.

Я заплакаў з такім адчаем,
На які толькі ў сненні змог;
Як па брату забітым Каін,
Як Пілат ля Хрыстовых ног...

І сказаў мне на гэта Толя:
– Плачаш, – значыць грахом жывеш...
Вуж скрываўлены ў белым полі –
Гэта мой развітальны верш.

І замоўк. І пайшоў няспешна,
Аж пакуль між аблок не знік.
Над вужом, над забітым вершам
Лён гайдаўся, як сіні німб.

### ЗДЗІЧЭЛЫ САД

Здзічэлы сад, як племя іудзеяў,
насуперак асенняй Кабале
у свет, як у пустэчу, па надзею
пайшоў з цярноўнікам-Майсеем на чале.

Сляпым пагладам молячы абсягі,
карэннямі абмацваючы дол,
брыдуць скрозь восень яблыні-бадзягі,
сузор'і яблык сеючы наўкол.

І на мяжы адчайнае знямогі,
спаймаўшы ў кроны віфліемскі дым,
пераждагнуўся тройчы на дарогу
здзічэлы сад і стаўся залатым.

# СТОМЛЕНЫ ПАРЫЖАМ



Ураджэнец Давыд-Гарадка Леанід Дранько-Майсюк даўно карыстаецца заслужанай павагай і любоўю ў берасцейскіх аматараў прыгожага пісьменства. Яго прыездаў заўжды з нецярпеннем і хваляваннем чакаюць прыхільнікі высокай паэзіі. Апошнія гады Леанід Васільевіч часты госць горада над Бугам. У Брэсце і ў Давыд-Гарадку – ён заўсёды дома.

Даўно захапляюся яго вершамі, маючы шмат паэтычных зборнікаў у сваёй дамашняй бібліятэцы...

Пэўна, цікавасць да паэтычнай творчасці Леаніда Васільевіча трымаецца ўсе гады не толькі таму, што ён выдатны беларускі паэт, але і таму, што ён наш зямляк... што Леанід.

Прэзентацыя 15-га па ліку зборніка паэзіі "Кніга для спадарыні Эл" адбылася ў Брэсце напрыканцы 2012 года. Гэтая кніга вельмі "мінская" (шмат вершаў прысвечана сталіцы з яе непаўторнымі праспектамі, вулачкамі і завулкамі).

"Ты гэтай кнігай ператварыў у аутсайдараў цэлую зборную літаратараў", – з доляй гумару сказаў пра зборнік сябра паэт-бард Эдуард Акулін.

Леанід Дранько-Майсюк у свой час скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве, але сваім настаўнікам у літаратуры найперш лічыць паэта Рыгора Барадуліна, з якім працаваў разам у выдавецтве "Мастацкая літаратура". А па вялікім рахунку – усю беларускую літаратуру, якая давала і дае адказы на пастаўленыя жыццём пытанні.

Апошнім часам паэт адчувае асалоду ад працы ў архівах, дзе адкрывае новае, невядомае пра такіх выдатных у гісторыі Беларусі людзей, як Браніслаў Тарашкевіч, Вацлаў Ластоўскі, Дуж-Душэўскі...

## *Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК*

### ПАЭЗІЯ

Паэзія мая – начны анёл,
Спакой маладзіковы,
Сунічны дол у сэрцы і наўкол,
І цені, як замовы.

Няма жанчын пры мне, няма дзяўчат,
І ўжо заснулі словы,
І патанае старасвецкі сад
У спеве цвыркуновым.

І гэта ў ёй, паэзіі маёй,
Мой кот стары, лянівы
Спіць на акне пад фортачкай крывой
І сніць, вядома, дзівы.

## НА КАЛЬВАРЫЙСКАЙ

Люблю адзіноту.
Люблю адзіноту – скразную,
Як рана былой маладосці...
Люблю адзіноту,
Люблю адзіноту, якую
Сам Бог запрашае – у госці.

У той адзіноце
Гучаць клавесіны і флейты,
І цешацца добрыя эльфы;
Паэт закаханы
На дне беларускае мовы
Шукае пяшчотныя словы.

Той дзень блаславёны,
Калі вас ніхто не турбуе
Ні добраю весткай, ні злою;
Той дзень блаславёны
Дае адзіноту, якую
Заўсёды прымаю душою.

***

Ты, як малітва да Бога,
Недашаптаная мной, –
Чыстага снегу знямога
Над беларускай зімой!

Бачыць такое магчыма
Хіба што ў райскім агні,
Дзе не старэюць жанчыны
І не канчаюцца дні...

Ты і ў калядную сцюжу
Шчодрая на цеплыню,
Кідаеш майскую ружу
Мне і марознаму дню.

Ты – ад нямоты збавенне,
Мой пурпуровы ўзвіў.
Знай – і тваё нараджэнне
Снег віфліемскі спавіў.

# ЛІТАРЫ НА ЛІТОЎЦЫ МІКОЛЫ ПРАКАПОВІЧА



Паэт Мікола Пракаповіч, з якім асабіста знаёмы са студэнцкіх гадоў (звёў нас мастак Віктар Чарнавокі), найперш для мяне з'яўляецца хросным бацькам у паэзіі, бо праз яго ў 1982 годзе ў абласной газеце "ЗАРЯ" быў упершыню надрукаваны мой верш "Озеро Гать" на расейскай мове. Мікола рэкамендаваў да друку некалькі маіх вершаў, адзін з якіх і з'явіўся на літаратурнай старонцы абласной газеты...

Апошнія гады Мікола Пракаповіч кажа, што не піша вершы. Але мо толькі так гаворыць, бо душа ягоная не мае спакою... Выданне ў 2008 годзе зборніка вершаў "ТРОХПЕРСЦЕ" толькі пацвердзіла, што порах у паэта застаўся сухім...

Душа непакоіцца за лёс краіны, за лёс беларускай мовы і культуры. Яго творчы набытак упрыгожваюць вершы, прысвечаныя гістарычным падзеям мінулага Беларусі, яе славутым асобам. У іх выразна праглядаюцца адносіны аўтара да роднай гісторыі, да лёсу суайчыннікаў.

Нарадзіўся Мікола ў вёсцы Пугачова, якая на цяперашні час уваходзіць у склад горада Брэста. Там і жыве да гэтага часу.

Да літаратурнай творчасці яго "падвёў" сусед – кампазітар-аматар і паэт Дзмітрый Васільеў, які пазнаёміў хлопца з супрацоўнікамі абласной газеты "Заря", паказаў яго вершы вядомаму на той час паэту Міхасю Рудкоўскаму...

У 1966 годзе Мікола паступіў па філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна. У тым жа годзе ў абласной газеце "Заря" быў надрукаваны яго першы верш "Ранак". У студэнцкія гады Мікола Пракаповіч плённа працаваў на паэтычнай ніве побач з такімі вядомымі пазней творцамі як Алесь Каско, Алесь Разанаў, Рыгор Сываратка, Алесь Зайка.

У 1979 годзе ў паэтычным зборніку "Нашчадкі" была надрукавана падборка вершаў "Белая вежа", пазней выйшлі вершаваныя зборнікі "Неад'емнае" (1982), "На кругі свае" (1985), "Мяжа надзеі" (1993).

У 1972 годзе Мікола, вярнуўшыся дамоў пасля службы ў войску, спачатку стаў працаваць на Брэсцкім абласным радыё, пазней – працуе і да гэтага часу – на абласным тэлебачанні.

Шмат Мікола Пракаповіч знаёміць жыхароў вобласці з навінамі мастацка-літаратурнага і культурнага жыцця, апавядае пра знакамітых прадстаўнікоў творчага асяродку. Нязменную цікавасць выклікаюць перадачы пра самадзейныя народныя калектывы.

У біяграфіі Міколы Пракаповіча ёсць і такая адметная з'ява, як літаратурны гурток пры студыі "Спадчына" Брэсцкага абласнога цэнтра маладзёжнай творчасці. Тут займаліся вядомыя цяпер паэты Максім Шчур, Ярына Дашына, Ірына Поўх, Васіль Барысюк, Марыя Лагодзіч... Бацькоўскае Міколава апекаванне маладымі творцамі дало выдатны плён.

***Мікола ПРАКАПОВІЧ***

## ВОЎК

Прысніцца:
Ваўком абярнуся
І, як Усяслаў Чарадзей,

З воляй да вас вярнуся,
Да родных маіх людзей.
А вам не патрэбна воля –
Збіліся ў дзікі шал –
І смешна, як вые ў полі
Роспачная душа.
Абкладзены, зацкаваны,
Рвануся на чырвань сцяжкоў, –
І чалавекам стану,
І застануся ваўком.
Ды страшна вам, усё роўна,
Ступіць у крываві след,
Зняверанымі бязмоўным,
Бязродным – на цэлы свет.
І боўтацца вам хаўрусам
(абы не было вайны)
З мянушкаю:
“Белорусы
со странной такой страны”.

...Прыкінуся – тая ж пустка.
І на чырвоны снег
Я выпаўзу:
                па-беларуску
Хоць слоўца скажыце мне.

***

Язычнік я.
Другой не маю веры.
І, заварожаны, гляджу,
Як тонкае лязо аеру
Блішчыць у кропельках дажджу.

Празрыстай сонечнай затокай
Гайдае човен чараты,
Дзе радасны бусліны клёкат
Мяне вяртае з нематы.

Тут шчырым быць я не баюся.
І як далёкі прашчур мой,
Я зноў надоўга застаюся
Сам-насам з небам і вадой.

Дрыжыць агеньчыкам цяпельца,
Агорне цемрай у цішы.
І цёпла-цёпла стане сэрцу,
І лёгка-лёгка на душы.

# ПАЭТ-ФІЛОСАФ АЛЕСЬ РАЗАНАЎ



Цікавы аповед пра паэта Алеся Разанава пачуў у школьныя гады ад настаўніцы роднай мовы і літаратуры Антаніны Васільеўны Башчук: таленавіты паэт, наш зямляк з вёскі Сялец Бярозаўскага раёна (на той час студэнт Брэсцкага пединстытута) быў адлічаны з БДУ за патрабаванне выкладаць вучэбныя дысцыпліны на роднай мове...

Ужо крыху пазней, калі трапіў на службу ў войска, побач апынуўся хлопец з вёскі Сялец – Дзіма Бацула, які часам да слова расказваў пра сваю малую радзіму, пра вядомага паэта Алеся Разанава. Так перада мною паступова вымалёўвалася постаць чалавека, які з цягам часу стаў гонарам беларускай літаратуры.

Пасля службы ў войску, будучы студэнтам, шукаў новыя зборнікі Алеся Разанава ў кнігарнях. Я адчуваў душэўную патрэбу чытаць вершы паэта. Было вельмі прыемна адчуваць сябе яго земляком.

Асабістае знаёмства з Алесем Разанавым адбылося ўжо значна пазней, на пачатку новага XXI стагоддзя, на радзіме паэта, на Бярозаўшчыне, на паэтычных чытаннях “Бабіна лета ў Белаазёрску з Нінай Мацяш” у 2009 годзе. Радзіма Ніны Мацяш непрыкметна, але моцна аб’ядноўвала ўсіх літаратараў і аднадумцаў. Прысутнасць самой паэтэсы адчувалася ў сценах біліятэкі яе імя, дзе мы тады знаходзіліся. На пачатку 2011 года, калі абласное аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў адзначала свой 30-гадовы юбілей, Алесь Разанаў прыехаў у Брэст са старшынёй Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесем Пашкевічам. Я меў магчымасць падорыць яму свой паэтычны зборнік “Знакі на валуне”, які перад тым быў выдадзены ў брэсцкай друкарні.

Прыезд Алеся Разанава ў Брэст – заўсёды прыемная падзея, бо паэт, якога добра ведае Еўропа, мае што сказаць аматарам паэзі і літаратуры ўвогуле. Вось і майскі яго візіт са шведскімі літаратарамі (у 2012 годзе), які праходзіў у рамках акцыі “Дарогамі Адама Міцкевіча”, надоўга запомніўся землякам паэта. Мерапрыемства завяршыў паэтычны конкурс для школьнікаў. А ў яго журы, акрамя Алеся Разанава, былі Святлана Алексіевіч, Мікалай Аляксандраў і іншыя вядомыя літаратары.

Пісаць вершы Алесь Разанаў пачаў рана: у школе яго падахвоціў да гэтага настаўнік беларускай літаратуры. А першыя публікацыі з’явіліся ўжо ў 1961 годзе ў піянерскіх газетах. Зборнікі “Адраджэнне” (1970), “Назаўжды” (1974), “Каардынаты быцця” (1976), “Шлях – 360” (1981) засведчылі неардынарнасць мыслення маладога аўтара, духоўнасць вершаванага тэксту. Наступныя паэтычныя зборнікі “У горадзе валадарыць Рагвалод” (1992), “Рэчаіснасць” (1998), “Каб мелі шчасце ўваскрасаць і лётаць” (2006), “Дождж: возера ў акумулятары” (2007) яшчэ больш упэўнілі чытача ў тым, што Алесь Разанаў напоўніў адметным сэнсам вершаваны радок, увёў у нацыянальнай літаратуры новыя паэтычныя формы, як аўтарскія (квантэмы, вершаказы, зномы), так і ўжо вядомыя за мяжой (пункціры і версэты). Ён далучыў нацыянальную культурную прастору да кантэксту сусветнай культуры і літаратуры.

За кнігу “Вастрыё стралы” (1988) паэту была прысуджана Дзяржаўная прэмія Беларусі імя Янкі Купалы.

Алесь Разанаў надзіва ўдумлівы творца, які імкнецца адшукаць духоўнае ў матэрыяльных рэчах, які паэтызуе чалавечнасць, усё прыгожае, светлае ў чалавеку і асуджае бездухоўнасць.

## *Алесь РАЗАНАЎ*

### ДЗІДА

Дзіда паслухмяная, як дзіця, якое, калі яму кажуць: “Ідзі!..”, ідзе датуль і дагэтуль, дакуль яму кажуць, і разам з тым дасведчаная, як сталы дзед.

Нібы жардзіна рухомага плота, дзіда дзяжурыць то на дзядзінцы, то ў дзікім полі, загароджваючы дарогу непажаданым госцям.

У падзеях, дзе вырашаецца лёс дзяржавы, дзіда бярэ самы чынны ўдзел, здзяйсняючы подзвігі, здабываючы дружыне славу, а сабе падзяку і робячы дзіравымі доказы супярэчнікаў.

Але настае гадзіна – і дзіда ўбіваецца ў дзірван, каб зрабіцца пярэдаднем і прадвобразам таго дрэва, пад якім знойдуць паразуменне ўсе людзі.

***

Зіхоткая поўня –
акно,
ля якога
глядзіць у душу нябыт.

***

Парушаны мур:
чырванее жар –
цэгла ў бязмежжы
сцюжы.

***

Зімовыя прыцемкі:
снег настае,
растае наваколле.

***

Вецер – нямеча
Са спеўным чалом.
Няцерпіны меча
Хутчэй быць мячом.
Людзі галубяць дзень смерці,
Быццам любімы цмен-квет.
У струны вялікіх, паверце,
Грае Усход неўпрыкмет.
Мажліва, нам новую гордасць
Чароўца зіхотлівых гор дасць,
І, многіх людзей праваднік,
Я розум надзену, як белы ляднік.

# ЗНАЁМЫ НЕЗНАЁМЕЦ МІХАСЬ РУДКОЎСКІ



Вядомы паэт, які апошнія гады жыў непадалёк ад інжынерна-будаўнічага інстытута на ўсходзе Брэста, вершы якога падабаліся мне са школьных гадоў, так і не сустрэўся на жыццёвым і творчым шляху... Мой зямляк і аднакурснік па інстытуце Валодзя Валасюк з Жабінкі неаднойчы прапаноўваў мне зайсці да Міхася Рудкоўскага, з якім ён быў добра знаёмы, на кватэру. Але лёсам было наканавана так, што сустрэча не адбылася. Затое зацікаўленасць да яго творчасці з гадамі яшчэ больш узмацнілася .

Нарадзіўся будучы паэт 17 красавіка 1936 года ў сялянскай сям'і ў вёсцы Востраў Ганцавіцкага раёна, ля ракі Начы. Скончыў Пінскае педвучылішча, філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута імя А.С. Пушкіна (завочна), працаваў настаўнікам, журналістам у ганцавіцкай раённай газеце, старшым рэдактарам на Брэсцкай студыі тэлебачання. У рэспубліканскім друку паэт пачаў выступаць з вершамі ў 1959 годзе.

Самабытны талент Міхася Рудкоўскага адразу заўважылі крытыкі і рэцэнзенты, вызначаючы ў творчасці паэта галоўную лінію – тэму роднага і блізкага. Уладзімір Калеснік, які быў дарадцам і апекуном маладых талентаў на Берасцейшчыне і прысвяціў разгляду творчасці Міхася Рудкоўскага не адзін літаратурны артыкул, пісаў: “Сувязь лірычнага героя з жыццём была б аслаблена, калі б ён поўнасцю выжываў толькі ў лятунках і марах. Герой Міхася Рудкоўскага не адрываецца ад рэальнасці, ён толькі адыходзіць часам ад яе канкрэтных праяў, каб лепш убачыць галоўныя падзеі, здольныя ўзвысіць душу”, а гэта, як зазначае далей крытык, “няяркі гераізм штодзённай працы сучасніка і гераізм дабраты, сумленнасці, спагадлівасці”.

У 1966 годзе паэт быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Літаратурную працу ён годна спалучаў з работаю на Брэсцкай студыі тэлебачання ў якасці рэдактара літаратурна-драматычных і музычных перадач, дзе падрыхтаваў шэраг дакументальных фільмаў, вялікую колькасць літаратурных і краязнаўчых матэрыялаў, якія былі высока адзначаны сучаснікамі.

Міхась Рудкоўскі выдаў зборнікі паэзіі “Першыя вёрсты”, “Сінія Брады”, “Позвы”, “У краі тым...”, “Векавечная Бацькаўшчына”, “Засцярога”, “Трыгор'е”, “Гарынь”, кнігу выбраных твораў “Залатазвон”.

Вызначальныя рысы творчай асобы паэта Міхася Рудкоўскага – сумленнасць, працаздольнасць, шчырасць, патрабавальнасць. Абыякавасць, фальш, гультайства ў сям'і Міхаіла Іванавіча і Марыі Юльянаўны Рудкоўскіх лічыліся самымі вялікімі заганамі ў чалавеку.

ЗАПАВЕТ

Запомнілася гэта як святыня,
Як бацькі запавет:
кім б ты ні стаў –
Адной рукой гайдай
калыску сына,
Другой – магілу
дзедаву папраў...

Міхась Рудкоўскі сваёй творчасцю дае красамоўны адказ на пытанне, якімі павінны быць паэт і паэзія, наглядна дэманструе і сцвярджае, што інтэлектуальнае багацце асобы абумоўлена здольнасцю ўспрымаць прыгажосць і сілу роднай прыроды. Паэт прысвяціў шмат вершаў роднаму краю, Палессю, Белавежскай пушчы, Берасцейшчыне ўвогуле...

Агульнапрызнана, што Міхась Рудкоўскі быў першым прафесійным паэтам на Берасцейшчыне.

***Міхась РУДКОЎСКІ***

## ДОМА БЕЗ МАЦІ

Прыедзеш дадому, у кут запаветны –
Як брата цябе сустракаюць.
Хапае ўсяго у застоллі прыветным,
І толькі яе не хапае.

І добра табе, і гасцінна у хаце,
Ды толькі (ці гэта здаецца?)
Чамусьці бацькоўская хата без маці –
Што грудзі жывыя без сэрца.

## МОЙ ДЗЕД БЫЎ СЕЛЬСКІМ КАВАЛЁМ

*Ул. Калесніку*

Мой дзед быў сельскім кавалём,
кавальскай справы каралём:
калі каваць – ужо каваў,
не ў хаце – ў кузні начаваў,
а балявацъ – дык балявацъ
і дзень, і два, і тры, і пяць.
Стары, а сіла у руках:
рукі узмах – душы размах.
Спакойна дзед мой паміраў,
не паміраў ён, а згараў,
не дагараў ён, а згараў,
як вугаль ў горне.
Папрасіў:
– Вады, унучак, прынясі,
усё ў грудзях маіх пячэ...
Прынёс. Ён выпіў.
– Мо яшчэ
з табой, унучак, будзем жыць,
каваць плугі... Ну, ты бяжы –
гуляй... я ж трохі прыкарну...
І я памчаўся у вясну,
а ён заснуў... навек заснуў...
Сякеры гахкалі ў лясах,
звінела у лугах каса,
што дзед загартаваў:
падковай высякаў агонь
на кіламетры сотым конь,
што дзед мой падкаваў.
А вечарам з падхмарных стром
прагрукатаў над кузняй гром,
і, зломленыя у крыле,
маланкі ўпалі у траву...
.............................................
Яшчэ і сёння на сяле
нас Кавалёвымі завуць.
Мой дзед быў сельскім кавалём,
кавальскай справы каралём.

# О, ЯК Я МНОГА ХАЦЕЎ ВАМ СКАЗАЦЬ... ПАЭТ МІКОЛА КУПРЭЕЎ



Бачыў вядомага паэта "ўжывую" ўсяго толькі аднойчы: на юбілейнай вечарыне Алеся Каско ў Абласным культурна-грамадскім цэнтры па вуліцы Энгельса . Я спускаўся па прыступках лесвіцы ўніз, а Мікола Сымонавіч Купрэеў выходзіў праз дзверы на лесвічную пляцоўку. Сустрэліся пoглядамі, я павітаўся, ён кіўнуў галавой у адказ. Так мы аднойчы пабачыліся і размінуліся назаўжды...

За творчасцю вядомага паэта і празаіка асабліва ўважліва сачыў у той час, калі ягоныя біяграфічнага характару аповесці друкаваліся ў часопісе "Крыніца". Ведаючы Міколу Купрэева як выдатнага паэта (зборнікі вершаў "Непазбежнасць" (1967), "Правінцыйныя фантазіі" (1995), я быў прыемна здзіўлены, калі пабачыў яго першую аповесць у часопісе. З таго часу з нецярпеннем чакаў і чытаў яго новыя празаічныя творы. Паэт тонкай душы, Мікола Купрэеў быў творча самаадданым, не цярпеў фальшывай думкі і слова, хоць з вялікай неахвотай гаварыў пра літаратуру.

Пра выданне пасмяротнай кніжкі прозы Міколы Купрэева "Палеская элегія" парупіўся вядомы паэт і крытык Леанід Галубовіч, які быў апекунам і "душапрыказчыкам" Міколы Сымонавіча, ініцыятарам выдання і ўкладальнікам яго кніжкі.

Таленавіты беларускі празаік Андрэй Федарэнка пасля выхаду кнігі прозы Міколы Купрэева "Палеская элегія" прызнаўся, што пазнаёміўся з Купрэевым наноў:

– Я ведаў чалавека, падобнага на Міколу, – Анатоля Сыса.Тыя ж звычкі, тая ж псіхалогія. Ёсць такія творцы, якія абсалютна свядома накіраваны на самазнішчэнне. Яны адмаўляюцца ад жонак, ад дзяцей, ні ад чаго не залежаць – ні ад пашпарта, ні ад прапіскі...

Федарэнка прызнаўся, што вельмі насцярожана ставіцца да празаікаў, якія пішуць яшчэ і вершы. Проза – вельмі капрызная жанчына. Яна не любіць, калі яе дзеляць з кімсьці. Таму Купрэеву, на думку Андрэя Федарэнкі, трэба было б засяродзіцца на чымсьці адным.

– Ён быў больш пейзажыст, маляваў словам. Калі ўзяць яго прозу з намерам выпісваць мудрыя думкі, сентэнцыі – вы іх там не знойдзеце. Але ўбачыце малюнак, створаны натхненнем. Як верш. Проза яго была і ёсць дзіўная... (Андрэй Федарэнка).

Нарадзіўся Мікола Купрэеў у вёсцы Ямнае Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці ў сям'і настаўніка пачатковай школы. Вайна апаліла дзяцінства будучага паэта і забрала маці.

Пасля вайны Купрэевы пераязджаюць на Брэстчыну, у вёску Старыя Пяскі Бярозаўскага раёна, дзе Мікола пайшоў у першы клас. Падчас вучобы ў школе ў яго і пачалі выяўляцца літаратурныя здольнасці (у 5-м класе ў газеце "Піянер Беларусі" быў надрукаваны верш Міколы Купрэева пра Першамай). Творчаму росту ў школьныя гады паспрыяла і захапленне паэзіяй Аляксандра Блока і Максіма Багдановіча.

У 1957 годзе, заканчваючы Івацэвіцкую сярэднюю школу, Мікола Купрэеў пачынае актыўна займацца творчасцю.

У 1962 годзе, скончыўшы Брэсцкі педагагічны інстытут, паэт едзе працаваць настаўнікам на Палессе. Ён далучаў дзяцей да чароўнага свету літаратуры ў Пінскім (у вёсцы Сташаны вучыў Міколу Антаноўскага і Анатоля Шушко), Ляхавіцкім і Ганцавіцкім (у Чудзінскай школе вучнем у яго быў быў Алесь Каско) раёнах.

Плёнам літаратурнай працы ў 60-я гады стала выданне зборніка паэзіі Міколы Купрэева "Непазбежнасць". Яго паэзія выгадна вылучалася сярод вершаў іншых аўтараў Берасцейшчыны і рэспублікі таго часу.

Прыкметнай з'явай ў беларускай літаратуры стала выданне і другой паэтычнай кніжкі – "Правінцыйныя фантазіі"(у 1995 годзе). Саюз пісьменнікаў адразу ж вылучыў зборнік на атрыманне Дзяржаўнай прэміі імя Я. Купалы. На жаль, "добразычліўцы" ў вышэйшых колах улады не дазволілі ўганараваць правінцыйнага паэта...

Жыццёвы шлях таленавітага паэта абарваўся 17 верасня 2004 года ў вёсцы Лясная каля Баранавічаў, дзе ён дажываў свой век у доме састарэлых. Пахаваны Мікола Сымонавіч у Міхнавічах – прыгарадзе Івацэвічаў. На надмагільным помніку ружанскі мастак Юрый Малышэўскі выбіў барэльеф паэта і словы ягонага верша:”О, як я многа хацеў вам сказаць...”

## *Мікола КУПРЭЕЎ*

### АПОШНЯЕ ВЯРТАННЕ

Прысела хатка адпачыць
ля старой варшаўскай дарогі.
На саламяна-травяным плячы
сумуе месячык двурогі.

На скошаных дзвярах замок
з эпохі Рэчы Паспалітай.
Разбіты перунамі чыгунок
чарнее ля трухлявага карыта.

З зямлі пад месяцам блішчыць
ад медаля бляшаная калодка.
Пад сцяной –
На сонцы і дажджы
стамлёная
каса літоўка.

Пад сухою вішняй стол,
пад ім – зламаная падкова,
вокладкі – Купала і Талстой,
павуціна ў шклянцы Малянкова.

Я з гэтай шклянкі піў!
Тут чытаў Купалу і Талстога.
Гэтую касой касіў
ля бярозавага лесу маладога!..

Дошкамі забітае акно.
Пастукаў ціха...
Не азвецца гаспадыня.
Дачка яе імклівым птушанём
не вылеце на ганак, не абдыме...

Ля ўпалых веснічак стаю,
не слухаю, не бачу ўжо нічога.
Пакінуў месяц мілую страху.
Іду паціху на дарогу.

# МАЯ СІНЕКУРА



У 1985 годзе я набыў у кніжнай краме невялічкі зборнік вершаў “Маладыя галасы”, выдадзены “Мастацкай літаратурай”. Яго складалі вершы, надрукаваныя ў рэспубліканскіх газетах і часопісах. На той час я моцна цікавіўся паэзіяй, таму набываў усё новае, што прыкмячаў на паліцах кнігарняў.

Неяк нядаўна ізноў узяў у рукі гэты невялічкі зборнік, з цікавасцю пагартаў яго і звярнуў увагу на знаёмыя імёны: Эдуард Акулін, Алесь Бадак, Міхась Скобла.... У адным радзе з імі і Сяргей Амяльчук, земляк славутай паэткі Ніны Мацяш. На той час, калі выдаваўся зборнік, Сяргей, аказваецца, працаваў інжынерам у горадзе Балашова Маскоўскай вобласці. Для мяне гэта стала прыемнай нечаканасцю: я быў добра знаёмы з паэтам з Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці, які працаваў на брэсцкім заводзе “Газаапарат”.

Афармляючы апошнія два ягоныя паэтычныя зборнікі, доўга і ўважліва перачытваў вершы, адзначаючы для сябе шмат новага і цікавага. Паэт імкнецца падпарадкаваць арыгінальныя вершаваныя формы: санет, трыялет, верлібр, хайку...

Як і ў многіх літаратараў, яго паэтычны шлях пачынаўся ў школе. Пэўна, стымулам да творчасці Сяргея Амяльчука быў прыклад ягонай маці, якая пісала шмат вершаў на мясцовай мове (іх Сяргей збіраецца выдаць асобнай кніжкай). Першыя вершы будучы паэт напісаў у 1972 годзе. Яны былі пераважна на расейскай мове. Калі стаў студэнтам Маскоўскага авіяцыйнага тэхналагічнага інстытута імя К. Э. Цыялкоўскага, то пачаў пісаць і па-беларуску.

У снежні 1979 года малады інжынер упершыню адважыўся паказаць свае вершы зямлячцы Ніне Мацяш. Лепшымі былі беларускамоўныя. Пасля той памятнай сустрэчы пачаў пісаць толькі на роднай мове.

У свой час малады паэт з Белаазёрска ездзіў на пасяджэнні літаратурнага аб’яднання “Заранiца” ў Брэст, у рэдакцыю газеты “Заря”, на матацыкле. Каментары, як кажуць, лішнія...

У 1999 годзе выйшаў з друку першы паэтычны зборнік Сяргея Амельчука “Дарога, вір і амфара”, у які ўвайшлі вершы, напісаныя з 1978 па 1999 гады (у 2003 годзе гэты зборнік быў перавыдадзены).

Змены, якія былі выкліканы ў грамадстве эпохай перабудовы і галоснасці, знайшлі сваё адлюставанне ў паэме-эсэ “Зямля крыві”, якая пісалася ў 1989-1991 гадах і была закончана ў чэрвені 2004 года (увайшла ў склад другога паэтычнага зборніка “Мая Сінекура”).

З 1989 года Сяргей Амяльчук пачаў плённа пісаць і празаічныя творы, пераважна апавяданні.

Але ўсе галоўныя кнігі наперадзе. Наколькі мне вядома, спіс запланаваных зборнікаў вершаў, прозы, публіцыстычных і дакументальных артыкулаў у Сяргея Амельчука складае два дзясяткі пунктаў.

***Сяргей АМЯЛЬЧУК***

***

*Ул. А. Калесніку*

На Пушкінскай, ля крамы “Зрабі сам”,
З Калесьнікам сустрэўся неяк я.
Разгаманіліся.
Пра што не гаварылі толькі!..
Напрыканцы нясьпешнай той гамонкі
Настаўнік вершатворцаў запытаўся:
– Ці пішаш што?
А я – ... зманіў.
А я не пахваліўся,
Што нешта вартае
зноў выйшла з-пад пяра,
Каб пахвальбой сваёй
Не спудзіць музу.
А ён,
З сусьветным сумам,
Задумліва зазначыў,
Што зараз многія не пішуць,
І з мудрасьцю бацькоўскаю дадаў:
– Знаць, добра ты жывеш!..

ТРЫЯЛЕТ

Няхай шляхі ўсе ў Рым вядуць.
А з Рыму – дык вядуць дадому.
Сэнс ісьцін нам не абмінуць:
Няхай шляхі ўсе ў Рым вядуць.
Стаптаны ногі і ня йдуць.
Ды не зважаючы на стому,
Няхай шляхі ўсе ў Рым вядуць.
А з Рыму – дык вядуць дадому.

***

Калі з адзеньняў засталася толькі ноч
І рук відушчых апантанасць,
А шалі сэрцаў захісталіся шалёна,

Тады, для аднаўленьня раўнавагі,
Мы перайшлі мяжу, якую толькі раз,
Адзіны раз
нам суджана парушыць.

Сусьвет абняць – раскінутыя рукі.
І сон,
І сон твой залаты...

# НЕЗВАРОТНЫ ШЛЯХ МІКОЛЫ СЯНКЕВІЧА



Першае знаёмства з творчасцю Міколы Сянкевіча адбылося па публікацыях ягоных вершаў і прозы ў перыядычным абласным і рэспубліканскім друку. Пазней пачалі час ад часу сустракацца на літаратурных мерапрыемствах у абласной бібліятэцы...

Нечаканая сустрэча адбылася і на пахаванні берасцейскага мастака і празаіка Івана Сычыка, які заўчасна пакінуў гэты свет у росквіце творчых сіл.

Мікола Сянкевіч шмат год працаваў настаўнікам пачатковых класаў, пакуль не быў запрошаны выкладаць у Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. С. Пушкіна. Сваім педагагічным вопытам і ведамі ён шчодра дзеліцца з будучымі настаўнікамі пачатковых класаў. Не забывае і пра літаратурную працу. Апошнім часам Мікола актыўна супрацоўнічае з абласной газетай “Народная трыбуна”.

Так здарылася, што да 50-годдзя Міколы афармляў яму паэтычны зборнік “МАЕ ПРАКОСЫ”, а вось не так даўно, ужо і да 55-гадовага юбілею, – кнігу прозы “НЕЗВАРОТНЫ ШЛЯХ”... Мікола Сянкевіч рэдактар трох апошніх (3, 4 і 5-га) нумароў літаратурнага альманаха Брэсцкага аддзялення СБП “Жырандоля”. Без яго актыўнай дапамогі цяпер цяжка абысціся берасцейскім літаратарам: Мікола стаў адметным рэдактарам паэтычных і празаічных кніг мясцовых аўтараў, часта піша прадмовы, выступае ў друку як літаратурны крытык.

А ў чацвер, 24 траўня 2012 года, у Дзень славянскага пісьменства, у Брэсцкай дзіцячай бібліятэцы імя А.С. Пушкіна, што па вуліцы Набярэжнай імя Францыска Скарыны, адбылася прэзентацыя новай кнігі прозы Міколы Сянкевіча “НЕЗВАРОТНЫ ШЛЯХ”. Яна складаецца з аповесці “У аперацыйным блоку холадна”, апавяданняў “Жанчыны”, “Нара”, “Была ў мяне шапка”, “Неяк яно будзе” і шматлікіх мініяцюр, якія падзелены на тры раздзелы: “Вачамі настаўніка”, “Жыццё, яго вялікасць”, “Не толькі жартам”.

На пачатку мерапрыемства слова ўзяў сам аўтар, які адзначыў, што гэтая сустрэча ў бібліятэцы імя А.С. Пушкіна – чацвёртая па ліку – і, відаць, яшчэ не апошняя. Дадаў з гумарам, што стаў бы лесніком, калі б не паступіў у свой час у Брэсцкі педагагічны інстытут, дзе зараз працуе старшым выкладчыкам.

Калега па працы ў дзяржаўным універсітэце імя А.С. Пушкіна, загадчык кафедры беларускага літаратуразнаўства прафесар Зоя Мельнікава ў сваім выступленні звярнула ўвагу на тое, што апошнія 15 гадоў з’яўляецца першым чытачом і рэдактарам яго празаічных і паэтычных твораў. Яна добра ведае творчасць Міколы Сянкевіча, які працягвае добрыя традыцыі Івана Мележа і Івана Шамякіна, не парывае сувязі з малой радзімай, дзе яго заўжды чакае маці.

Зоя Пятроўна таксама звярнула ўвагу прысутных у зале на супрацоўніцтва Міколы Сянкевіча з абласной беларускамоўнай газетай “Народная трыбуна”, у якой ён на працягу некалькіх гадоў вядзе рубрыку “Матчына мова”. Не цураецца Мікалай Іванавіч і працы з маладымі аўтарамі, дапамагаючы ім выдаваць першыя кніжкі. Яму, як рэдактару, многім абавязаны калегі-літаратары. “У Міколы Сянкевіча ёсць творчы патэнцыял, ёсць будучыня,” – дадала ў заключэнне Зоя Пятроўна.

Прысутныя калегі па пяры Леанід Філатаў, Ніна Борсук, Алесь Каско, Мікола Пракаповіч, старшыня Брэсцкага аддзялення СБП Іван Мельнічук далі высокую ацэнку мастацкай вартасці кнігі прозы, засяродзіўшы ўвагу на яе жыццёвай праўдзівасці, дакладнасці псіхалагічнага характару герояў, стылёвым майстэрстве аўтара.

У прыватнасці, паэт Алесь Каско адзначыў, што яшчэ сам Янка Брыль у свой час высока ацаніў мініяцюры Міколы Сянкевіча, што аповесць “У аперацыйным блоку холадна” – гэта з’ява ў сённяшняй беларускай літаратуры і сур’ёзным крытыкам трэба абавязкова звярнуць увагу на гэты твор...

На вялікі жаль, па-ранейшаму фінансавы клопат па выданні кніг ляжыць не на дзяржаве, а на саміх аўтарах. Таму сціплы наклад кнігі Міколы Сянкевіча ў 99 асобнікаў – гэта той максімум, на які можа адважыцца старшы выкладчык дзяржаўнага ўніверсітэта.

“Калі сітуацыя ў бліжэйшы час не зменіцца, то мы можам апынуцца на “незваротным шляху” да знікнення беларускай кнігі і беларускай літаратуры ў цэлым...” – адзначыў у сваім выступленні намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў паэт-бард Эдуард Акулін, які спецыяльна прыехаў на гэтую прызентацыю з Мінска.

## *Мікола СЯНКЕВІЧ*

### ЗАСТУПНІЦА

Бабуля шкадуе ўнукаў. Дзед не такі. Разгуляюцца жэўжыкі-непаседы, раскрычацца – цыкне, бровы насупіць, бывае, і папругай прыстрашыць.

І гэтым разам дурэлі, насіліся адзін за адным па хаце. Любімы кубак старога – хрась са стала і на дробныя аскепкі.

Селі малыя на ложку ў кутку, сцішыліся...

– То ж гэта я, дзеду, зусім ніякая стала, – апраўдваецца бабуля. – Выцірала стол, зачапіла пасудзіну – вось табе і маеш.

Стары незадаволена бурчыць, дакарае жонку за слепату і непаваротлівасць. А вінаватыя ўнукі праз якую хвіліну туляцца да бабулі, са слязьмі просяць прабачэння, абяцаюць слухацца заўсёды-заўсёды.

Няпростая гэта справа – народная педагогіка.

### НАСТАЎНІК

Ледзь праціснуўся з букетамі кветак у пакой. Першы званок, лінейка. А свята на душы няма. Баліць галава ад жыццёвай неўладкаванасці, ад дзясяткаў “неабходна” і “тэрмінова”.

Наліў у вазы і слоікі вады, расставіў іх – не разумеючы навошта – на падлозе літарай “П”. На перакладзіне – гладыёлусы і ружы, па баках – астры і гваздзікі. Як быў – у пінжаку, пад гальштукам, – лёг на спіну, выпрастаў ногі, склаў рукі на грудзях.

Сплывалі, адыходзілі думкі, рабілася лёгка і спакойна. А праз хвіліну-другую з жахам адчуў, што кветкі больш не пахнуць. Ад гэтага стала раптам вусцішна. Сцепанула, холад прабег па спіне.

Усхапіўся на ногі, абазваў сябе дурнем і без разбору, без усялякага парадку стаў прыбіраць букеты з падлогі.

### ЯК РОЎНЫЯ

Яна выкладае ў каледжы, ён – рабочы на заводзе. Пад магазінам не стаіць, але вечарам, усялякае бывае, іншым разам вяртаецца з працы “пад мухай”. Зычны жаночы голас, зрываючыся на крык, з непрацяглымі перапынкамі гучыць у мяне за сцяною гадзіну і другую. Час ад часу ў гэты істэрычны маналог уклiньваецца мужчынскі, з ноткамі апраўдання і пакаяння бас...

Так было. Але апошнім часам – і чым далей, тым болей – лаўлю сябе на думцы, што сварацца дзве жанчыны: у яго аднекуль узяліся высокія пісклівыя ноткі ў голасе, тактыку абароны замяніла наступленне.

Смешна і сумна.

# КОЖНЫ З НАС – АПОШНІ НА ЗЯМЛІ...



Грунтоўна пазнаёміўшыся з творчасцю жабінкаўскага паэта Васіля Гадулькі, зрабіў для сябе адкрыццё: тыя вершы, што зрэдзьчасу трапляліся мне на літаратурных старонках газеты "Заря", не пакінулі глыбокі след у душы да таго часу, пакуль я не пазнаёміўся са старонкамі яго самотнага жыцця.

Нарадзіўся Васіль Уладзіміравіч 17 мая 1946 года ў вёсцы Федзькавічы Жабінкаўскага раёна ў сялянскай сям'і. Вучыўся спачатку ў Рагазнянскай сямігодцы, якую скончыў на выдатна, затым – у сярэдняй школе ў Жабінцы. Васіль змалку быў вельмі сур'ёзным і стрыманым, рэдка ўдзельнічаў у хлапечых свавольствах. Ён больш часу аддаваў вучобе, кнігам. Асабліва захапляўся нямецкай мовай.

Пасля заканчэння школы Васіль паступіў у інстытут замежных моў. Вучыўся паспяхова. Захапіўся вывучэннем англійскай, італьянскай, французскай, польскай моў, на якіх мог свабодна гаварыць. Але інстытут так і не закончыў: пайшоў з апошняга курса па ўласным жаданні. Адслужыў у войску і вярнуўся ў родныя Федзькавічы.

Складаны перыяд у жыцці Васіля Гадулькі наступіў пасля трагічнай смерці брата Пятра. Душу ратавалі вершы, якія ён нікому не паказваў да 1986 года (пачаў пісаць на расейскай мове яшчэ ў школе).

У 1986 годзе з вершамі федзькавіцкага паэта пазнаёміўся Васіль Сахарчук, які працаваў на той час у жабінкаўскай раённай газеце "Сельская праўда". Неўзабаве яны пазнаёміліся і пасябравалі. Васіль Гадулька пачаў удзельнічаць у пасяджэннях літаб'яднання "Плынь". У хуткім часе ягоныя вершы былі ўпершыню надрукаваны ў раённай газеце, а напрыканцы таго ж 1986 года Васіль стаў удзельнікам рэспубліканскай літаратурнай нарады, якая праходзіла ў Доме творчасці "Іслач". Паэзія Васіля Гадулькі была заўважана і высока ацэнена Рыгорам Барадуліным і Іванам Навуменкам.

Ужо ў наступным 1987 годзе вершы паэта з'явіліся не толькі ў абласным, але і ў рэспубліканскім друку: часопісе "Нёман", газеце "Літаратура і мастацтва", альманаху "Дзень паэзіі", часопісе "Полымя".

У тыя гады Васіль Гадулька працаваў на будоўлях, палязодам у мясцовым саўгасе. Пасля смерці маці замкнуўся ў сабе, пісаў, займаўся перакладамі.

У 1992 годзе паэт падрыхтаваў рукапіс паэтычнага зборніка, якому даў назву "Кропелька сонца". Прыблізна сто вершаў на беларускай і расейскай мовах, вянок санетаў "Зорка радасці" і чатыры паэмы паэт палічыў вартымі ўвагі чытача. Рукапіс Васіль Сахарчук адаслаў у бібліятэку часопіса "Маладосць". Пры жыцці паэта зборнік не выйшаў. На світанні 15 чэрвеня 1993 года Васіль Гадулька раптоўна памёр.

Выдадзены ў 2004 годзе "Літаратурай і мастацтвам" пры фінансавай падтрымцы Алеся Разанава і фірмы "БЕЛПГ", каардынатарам якой быў знакаміты беларускі пісьменнік Леанід Дайнека, зборнік вершаў Васіля Гадулькі "ГОЛАС" стаў прыкметнай з'явай у літаратурным жыцці не толькі Берасцейшчыны, але і Беларусі.

У сучаснай беларускай літаратуры паэт Васіль Гадулька з яго амаль нязменнай і чыстай нотай роспачы існуе як бы сам па сабе. Ён адзінокі тут, які і быў пры жыцці.

***Васіль ГАДУЛЬКА***

***

Люба мне, калі ў прыціхлым садзе
ў кронаў дрэў не згас яшчэ агонь.
Ліст пажоўклы прыляціць і сядзе
матыльком на золкую далонь.
Ветрык з ім свае спыняе гульні...
Ці не для таго, каб нагадаць:
усяго жывога лёс агульны –
пакрысе мярцвець і ападаць?

І хоць кажуць, што цвітуць увесну
нават карчаваных дрэў камлі, –
я ў сваіх нашчадках не ўваскрэсну:
кожны з нас – апошні на Зямлі.

І хоць вецер гне сухое вецце,
і хоць іней срэбрам лёг на скронь, –
нельга мне, шкада змахнуць, як смецце,
ліст, які сагрэў маю далонь.

## ДА КРЫТЫКАЎ

Дзівосных песень адгалоскі
да нашых дзён дайшлі здалёк.
А кветкі згортваюць пялёсткі,
калі іх атуляе змрок.

Не дагаджайце. Паспрабуйце,
каб песня песняю была.
А лепей самі паспрабуйце
вырошчваць кветкі – без святла.

***

... хай сны юнацтва
двойчы не прысняцца –
я ўдзячны ім: яны дапамаглі
хоць трошкі над самім сабой падняцца,
не адрываючыся ад зямлі.

# ВЕЧНЫ БОР ПАЭТА ВАСІЛЯ САХАРЧУКА



Смуглявы, з цёмнымі вачыма, высокага росту Васіль Сахарчук найперш быў вядомы мне як берасцейскі паэт з Жабінкі, дзе ён працаваў у раённай газеце “Сельская праўда”. Асабіста пазнаёміўся з ім у 2001 годзе ў аддзяленні Саюза пісьменнікаў на Наганава. І апошняя сустрэча з Васілём адбылася там жа: быў ён без асаблівага настрою, мала гаварыў, але запрашаў у Жабінку да сябе... Задуменныя вочы паэта маўчалі пра нешта асабістае, хавалі таямніцы душы. Праз нейкі час Васіля не стала: не захацеў сустрэць Паэт свой 50-гадовы юбілей сярод родных і сяброў. Такі вось лёс Васіля Сахарчука – выдатнага паэта, журналіста, чалавека...

Вельмі прыемна, што адна з вуліц Жабінкі названа яго імем. Гэта даніна глыбокай павагі таленавітаму паэту і перакладчыку. Быў пачуты ўладамі калектыўны пісьмовы зварот у райвыканкам жабінкаўскіх літаратараў, журналістаў, культработнікаў, чытачоў. Да ўвагі былі прыняты і лісты кіраўнікоў абласных пісьменніцкіх аб’яднанняў Ніны Мацяш і Анатоля Крэйдзіча...

Нарадзіўся Васіль Якаўлевіч Сахарчук 10 ліпеня 1953 года ў вёсцы Свадзьбічы Бярозаўскага раёна, адным з самых шчодрых на паэтычныя таленты куткоў нашай Берасцейшчыны (паэты Ніна Мацяш, Алесь Разанаў, Раіса Баравікова, празаік Віктар Супрунчук, драматург Мікола Арахоўскі, публіцыст Анатоль Казловіч). Скончыў БДУ, працаваў настаўнікам у Мінскай вобласці, потым намеснікам дырэктара і настаўнікам гісторыі ў Высокаўскай сярэдняй школе Бярозаўскага раёна. Пасля – адказным сакратаром жабінкаўскай раённай газеты “Сельская праўда”.

У спадчыну засталіся творы паэта Васіля Сахарчука, стваральніка высокай інтэлектуальнай лірыкі. Ён – аўтар “кнігі ў кнізе” “Зорны мост” у калектыўным зборніку “Крыло”(1984), зборнікаў вершаў “Даніна” (1988), “Ранішні госць” (1994), “Мой вечны бор” (2004) ”. Па-майстэрску перакладаў мастацкія творы з балгарскай мовы (“Апалавы пярсцёнак” Пеё Яварава, “Дзеці-героі” і “Пад сурдзінку” Дзімчы Дэбелянава...), з украінскай і расейскай моў.

“Лірычны герой Васіля Сахарчука шукае натуральнай паяднанасці з усім жывым, з цэлым Сусветам. Ён пазбаўлены душэўнага спакою. У яго нават узнікае пакутлівае адчуванне, што ён на радзіме сваёй жыве, бы ў чужой старане. Думаецца, што сённяшняя рэчаіснасць дае падставы для такіх адчуванняў...” – так пісаў пра паэтычную творчасць жабінкаўскага паэта прафесар БрДУ імя А. С. Пушкіна Аляксей Майсейчык.

***Васіль САХАРЧУК***

ПРЫЧАСЦЕ

*Васілю Гадульку*

Бягуць машыны па шашы.
Сабака вые каля плота.
А ён сядзіць.
На дне душы

гарчыць цыкутаю самота.
Адзін.
        Пакінуты няўзнак
сябрамі, роднымі, каханай.
Сядзіць, нібы пустэльны рак,
самім сабой абрабаваны.

Надзейна спалены масты.
Апошні ў памяці дыміцца.
А ён сядзіць, нібы застыў
і прыкіпеў да палавіцы.

У позірку мільгнуў наіў,
дзе з прасветленай душою
устаў і да краёў наліў
у келіх жоўтага напою.

Устаў і нерухома стаў
і з ціхай думкаю пра шчасце
ён пачастунак свой прыняў,
нібы царкоўнае прычасце.

Ён выпіў келіх свой нагбом.
Ужо на золак стала брацца.
І, як дзіця, забыўся сном.
Заснуў,
          каб больш не прачынацца.

## НАЧНАЯ АКВАРЭЛЬ

У цёмна-блакітнай імгле надвячорка
твой позірк мігцеў, бы зялёная зорка.
А ноччу, калі ты прымружыла веі,
убачыўся ў ім мне пыл снежнай завеі.
Да самае раніцы зорка мне ззяла
і белая замець гула, не сціхала.

***

У свет прыйшлі на міг,
адведзены нам вечнасцю,
кароткі, бы ў жніво
світальны заркапад.
І толькі двойчы ён
прымае нас асвечана:
калі ідзём сюды,
калі ідзём назад.

# ВЯЧАСЛАЎ БУРДЫКА



Невысокага росту, але прыкметны сваімі густымі сівымі вусамі і акуратна прыгладжанымі валасамі Вячаслаў Віктаравіч заўсёды вітае добразычлівай ўсмешкай, хаця на працы і па жыцці бывае так, што іншым разам трэба глянуць і пагрозліва...

Найперш ён – журналіст, які добра ведае сваю справу, доўгія гады працуе ў брэсцкіх абласных газетах: спачатку была “Заря”, апошнім часам – “Народная трыбуна”...

Да яго заўжды прыемна заходзіць на працу ва ўтульны кабінет адказнага сакратара, дзе за камп’ютарам яшчэ і руплівы загадчык аддзела газеты Надзея Яцура. Папіць гарбаты ці кавы ў іхнім кабінеце – заўжды прыемна.

Нарадзіўся Вячаслаў Бурдыка 19 лістапада 1955 года ў вёсцы Сваткі Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Побач – вёска Пількаўшчына, малая радзіма Яўгена Іванавіча Скурко (народнага паэта Максіма Танка). Менавіта ён і стаў хросным бацькам Славы. Вядома ж, даведаўся хлопец аб гэтым значна пазней, калі ўжо вучыўся ў школе і пачаў цікавіцца літаратурай. Маці тады і расказала аб яго раннім «знаёмстве» са знакамітым паэтам: маўляў, ён часта трымаў малога на руках, таму, пэўна, і перадаў частку сваёй творчай энергіі.

Праўда, з Максімам Танкам Вячаслаў Бурдыка больш ніколі потым – ні ў юнацтве, ні ў дарослым жыцці – не сустракаўся, хоць маці і неаднойчы раіла зайсці да Яўгена Іванавіча ў Мінску (калі Вячаслаў вучыўся на факультэце журналістыкі Белдзяржуніверсітэта) і перадаць ад яе прывітанне. Не зайшоў. Пасаромеўся. Шчыра прызнаецца, што сёння аб гэтым вельмі шкадуе.

Другая творчая сустрэча, якая ўжо больш рэальна паўплывала на творчы лёс Вячаслава Бурдыкі, адбылася ў горадзе Барысаве, калі ён вучыўся ў 10-ым класе 17-й сярэдняй школы. Класны кіраўнік даручыла яму дапамагчы дабрацца ў школу мясцоваму паэту Леаніду Рашкоўскаму – той быў паралізаваны і мог перасоўвацца толькі ў інваліднай калясцы, а свае вершы пісаў, заціснуўшы аловак у зубах. Слава вёз пісьменніка праз увесь горад і вельмі ганарыўся тым, што знаходзіўся побач з такім легендарным чалавекам. А той жа яшчэ і размаўляў з ім, малечай, бы з дарослым, распытваў пра школу, цікавіўся планамі хлопца на жыццё, расказваў пра сябе і сваю творчасць. Потым Слава напісаў пра тую сустрэчу з Леанідам Рашкоўскім у раённую газету. Нататка была апублікавана, хлопца запрасілі наведваць школу рабселькораў, якая дзейнічала пры рэдакцыі, і… Карацей кажучы, Вячаслаў Бурдыка забыў пра мора, аб якім марыў да таго часу, і цвёрда вырашыў прысвяціць сябе журналістыцы і літаратуры.

Вячаслаў Бурдыка пачынаў шлях у літаратуру з вершаў, якія, аднак, нідзе, акрамя насценных газет, не публікаваў. Першыя празаічныя спробы рабіў яшчэ ў юнацкім узросце. Праўда, таксама, як і ў паэзіі, не зусім удала. Напэўна, таму, што тады аддаваў перавагу рускай мове.

Цяпер піша толькі па-беларуску, і толькі прозу, пераважна апавяданні. Вельмі рэдка замахваецца на аповесць. Адна з іх – «Газета. Made in Belarus» прысвечана журналістыцы, гэта своеасаблівая творчая справаздача аб сваёй працы. Апавяданні публікаваліся ў абласных і рэспубліканскіх газетах, у часопісах «Маладосць», «Неман», «Вожык», альманаху «Жырандоля», асобнымі выданнямі выйшлі дэтэктыўны раман «Яхта смерці» і дакументальная аповесць «Каманда Кобрыншчыны нашай». Цяпер Вячаслаў Бурдыка працуе над аўтабіяграфічнай аповесцю пад умоўнай назвай «Радня», дзе спрабуе расказаць пра свой род. І правільна робіць!

## *Вячаслаў БУРДЫКА*

# ВІЗІТ У ТРАЦЦЯКОЎКУ
*Апавяданне*

Пабываць у Траццякоўскай галерэі брэсцкі мастак Міхаіл Касец марыў з маленства. І мог гаварыць аб ёй доўга і шмат, бо ведаў пра гісторыю яе стварэння і развіцця літаральна ўсё. Сябры мастака ў размове з Касцом старанна абыходзілі тэму Траццякоўкі, таму што на ўласнай скуры – і не аднойчы! – паспелі пераканацца: Мішка ўчэпіцца ў суразмоўцу як клешч і не выпусціць, пакуль не вываліць на галаву таго ўсю наяўную  інфармацыю аб самай вядомай, так ён лічыў, мастацкай галерэі свету. Прычым учапіцца стараўся не ў пераносным, а ў самым прамым значэнні слова – у гузік на пінжаку. І круціў гэты гузік, і цягнуў на сябе, быццам правяраў на трываласць.

Мікалай Монцік, маскоўскі прадпрымальнік, гаспадар буйной будаўнічай фірмы, ведаў аб гэтай слабасці вядомага майстра мальберта і пэндзля: ён вырас з Касцом у адным двары. Сустракаліся цяпер не часта – адзін-два разы за год, калі Монціку ўдавалася выбрацца на дзень-другі ў Брэст. У родным горадзе ён адразу ішоў у майстэрню сябра на набярэжнай Мухаўца. Узнімалі за сустрэчу чарку. А потым – размовы, размовы, размовы... У іх Мікалай Фадзеевіч знаходзіў «момант ісціны», прызнаваўся, што і прыязджаў уласна дзеля гэтых душэўных размоў – «адцягнуцца на поўную катушку».

– Ты ведаеш, Мішка, у Маскве зусім іншы рытм жыцця, – пачынаў споведзь Мікалай звычайна пасля другой чаркі. – Падумаць некалі, спыніцца, азірнуцца, асэнсаваць зробленае... Вар'яцкі дом, а не горад! Грошы – аб'екты – грошы... Кожны дзень – як віхура, як навальніца. Максімум паўгода вытрымліваю... А потым, адчуваю, трэба дадому, у Брэст. Аддыхацца, з табой гарэлкі папіць. І – назад... Слухай! А што гэта ўсё я ды я да цябе прыязджаю? Давай калі-небудзь і ты да мяне... У Траццякоўку тваю сходзім, ты ж з дзяцінства марыш... Давай, Мішка, памрэш хутка, так і не ўбачыўшы калекцыю братоў Траццяковых...

– З табой сходзіш, бадай што, толькі ў кабак ці ў казіно, – уздыхнуў Касец. – Ведаю я цябе, мільёншчыка!

– Клянуся! Ніякіх рэстаранаў і казіно, – стукнуў сябе кулаком у грудзі Монцік. – Толькі ў Траццякоўку... Я, дарэчы, быў там аднойчы. Нічога цікавага... Але дзеля сябра зноў пайду. Давай, Міша, я цябе прашу! А грошай на білет – дам. І туды, і назад. Яшчэ і сутачныя выплачу...

– Здзекваешся, так? Сорамна мне ў цябе грошы браць!

– Ну, дурань, знайшоў чаго саромецца?! – Мікалай грукнуў кулаком па стале. – Заўжды рускіх мастакоў мецэнаты падтрымлівалі. Тыя ж браты Траццяковы хоць бы... Вось і я ў цябе буду тыпу фундатара... Галерэю сваю адкрыць – машна не дазваляе пакуль. А на паездку ў Маскву грошы дам. Трымай аванс! Монцік дастаў з кішэні партманет, выцягнуў адтуль некалькі «зялёных» і палажыў на стол:

– Зваротны білет у Маскве вазьму. Калі Траццякоўка надакучыць...

– Траццяковы!.. Што вы, «новыя рускія», аб іх ведаеце?! – пасля трох чарак «Московской» Мішка «паплыў», і яго па звычцы пацягнула на любімую тэму. А тут яшчэ Монцік сам яе закрануў. – Ты хоць ведаеш, чаму Павел Міхайлавіч Траццякоў сваю мастацкую галерэю вырашыў стварыць? Яму толькі-толькі споўнілася 28 гадоў, калі набыў першыя некалькі карцін рускіх мастакоў на распродажы, які арганізаваў адзін з маскоўскіх мецэнатаў таго часу Кокараў. Гэта былі «Сутычка з фінляндскімі кантрабандыстамі» Худзякова і «Спакуса» Шыльдэра. Чаму менавіта гэтыя творы? Таму што яны адпавядалі яго разуменню «праўды жыцця». Павел Міхайлавіч цаніў у выяўленчым мастацтве перш за ўсё мастацкую праўду і шчырасць. Дарэчы, такая вось цікавая дэталь... Адмаўляючы ў набыцці замоўленага моднаму маскоўскаму мастаку Гараўскаму яшчэ ў 1856 годзе пейзажа, Траццякоў так растлумачыў прычыну свайго рашэння: «Мне не патрэбна ні багатая прырода, ні  выдатная кампазіцыя, ні эфектнае асвятленне, ніякія дзівосы... дайце мне хоць брудную лужыну, але каб у ёй праўда была, паэзія, а паэзія ва ўсім можа быць, гэта залежыць ад мастака...»

– Ціха-ціха! – Монцік, пратэстуючы, выцягнуў перад сабой абедзве далоні. – Я ж сказаў, што нічога ў гэтым мастацтве не разумею. Падабаецца табе Худзякоў – глядзі на Худзякова. Не падабаецца Пікасо – не глядзі на Пікасо... Мне асабіста па барабану. Лепш адкажы, прыедзеш да мяне ў Маскву ці не?

– Не! – Касец шырока ўзмахнуў рукой – парожнія чаркі і талеркі з закускай пасыпаліся са стала на падлогу. – Таму што ты – варвар!.. Не гавары аб тым, чаго не разумееш... Худзякоў, Пікасо... Траццякоў збіраў толькі карціны рускіх мастакоў, прыхільнікаў рэалістычнага і кры-

тычнага накірунку ў мастацтве. Ніякіх іншаземцаў, ніякіх імпрэсіяністаў-мадэрністаў! Сорак гадоў бесперапыннага падзвіжніцтва... Сорак гадоў высакароднай працы дзеля рускай творчасці... Ён аддаў на пакупку карцін і ўтрыманне галерэі больш за паўтара мільёна рублёў! Ты ўяўляеш, колькі гэта многа?! Важкіх царскіх рублёў! А потым перадаў галерэю ў дар гораду Маскве. Бясплатна. Знойдзецца сёння мецэнат такой велічыні ў Расіі? Вы ўсе толькі сабе... Замкі пад Парыжам... Залатыя сарціры ў Маскве... Футбольныя клубы ў Лондане... Здзіўляюся, як не падавіцеся.

– Ты чаго гэта, Мішка? – Мікалай аслупянеў ад такога націску. – Я тут пры чым? У мяне няма залатога сарціра. І клуба футбольнага таксама не маю. Ні ў Лондане, ні ў якім іншым горадзе свету. Не кіпяціся! Будуць яшчэ мецэнаты. І новыя Траццяковы будуць, і новыя Марозавы таксама.

– Не! – спалохана ўскінуўся Касец. – Толькі не Марозавы! Хопіць нам рэвалюцый, даволі эксперыментаў на шматпакутнай рускай зямлі. Лепш бы Марозаў купіў некалькі лішніх карцін у бедных мастакоў, чым даваў мільёны на рэвалюцыю! Бальшавікам! Мецэнат перароблены!!

...І вось Касец прадаў сваю «Брэсцкую мадонну». Прадаў зусім выпадкова нейкаму іншаземцу – ці то італьянцу, ці то мексіканцу. «Брэсцкая мадонна» падабалася і яму самому, у прынцыпе ён не збіраўся яе прадаваць яшчэ і таму, што лічыў незавершанай, трымаў у майстэрні, нават без рамкі, усё хацеў вярнуцца, нешта дарабіць, нейкай апошняй дэталі не хапала, апошняга мазка пэндзлем... А тут іншаземец, прынесла яго нялёгкая... Быў Міхаіл напярэдадні на адкрыцці выставы Даніка, выпілі пасля ўрачыстай часткі, там і пазнаёміўся з замежным аматарам выяўленчага мастацтва... Здаецца, Джаані?.. Ці Мучача? Якая розніца... Пасля таго, як усё выпілі ў Даніка, пасунуліся яшчэ некуды, зноў пілі, потым сярод ночы апынуліся ў майстэрні на Набярэжнай... І гэты Джаані-Мучача чамусьці паплёўся за ім... У майстэрні ўбачыў «Брэсцкую мадонну» і прыліп бы ліст бярозавы ў лазні: прадай ды прадай. Раніцай пахмяліўся і за трыста даляраў прадаў. Касец даўно ўжо не трымаў у руках такіх вялікіх грошай і ніяк не мог вырашыць, на што іх патраціць. І за майстэрню трэба заплаціць, і сыну ўжо год абяцае дапамагчы машыну адрамантаваць, і жонка просіць новыя чаравікі... Трыста даляраў яўна не хапала на ўсё гэта, і Касец плюнуў і на гарвыканкам, і на саюз мастакоў, і на блізкіх родзічаў. «А паеду-тка я ў Маскву, у Траццякоўку! – мільганула шалёная думка. – Тым больш што абяцаў Кольку, ды і аванс ён даў, які я паспеў прамятаць...»

Пакуль не перадумаў, тут жа з’ездзіў на вакзал і купіў білет на бліжэйшы цягнік, нічога не сказаўшы ні жонцы, ні сыну. «Потым патэлефаную, а то не пусцяць». Ужо седзячы ў вагоне ўспомніў: у яго ж няма мабільнага тэлефона! «А-а! Няхай панервуюцца – ім карысна», – але тут Міхаіл уявіў пастарэлы твар жонкі, яе вечную лаянку з-за недахопу грошай і на імгненне пашкадаваў аб прынятым рашэнні. Якая, да д’ябла, Траццякоўка, калі дома есці нечага! Аднак цягнік ужо крануўся, за акном паціху паплыў перон, і Касец зміны́ўся з лёсам. Што-небудзь прыдумаецца... А патэлефанаваць жонцы можна будзе і ад Монціка з Масквы. «Але Колька нават не ведае аб маім прыездзе! А калі ён у камандзіроўцы?..» Ад такой перспектывы ў Касца ў роце перасохла: «Ідыёт бязмозглы! І што я ў гэтай Маскве рабіць буду? Ні знаёмых, ні родзічаў, ні грошай...»

Бадай, самым дзіўным ва ўсёй гэтай выпадковай гісторыі было тое, што Монцік знаходзіўся дома. Нягледзячы на «позную» раніцу: пакуль Мішка дабраўся да Купчына, дзе жыў яго сябра, гадзіннік прапікаў дванаццаць.

– Вачам сваім не веру! – пахмурны «пасля ўчарашняга» твар Мікалая імгненна прасвятлеў.

– Вельмі дарэчы – разумееш, я ўчора аб’ект «закрываў» з заказчыкам, давялося злоўжываць... Толькі думаў палячыцца, а тут ты. Ну-с, што там у мяне ў халадзільніку завалялася?

– А як жа галерэя? – убачыўшы тое, што «завалялася» ў халадзільніку, слаба паспрабаваў супраціўляцца Мішка.

– Паспееш! – супакоіў Монцік. – Куды яна дзенецца ад Масквы-ракі? Як стаяла ў Лаўрушынскім завулку, так і будзе стаяць. Малайчына, Павел Міхайлавіч Траццякоў, добрае месца для галерэі выбраў.

Ад здзіўлення Касец аж гарэлкай папярхнуўся – ніколі раней яго сябра такімі ведамі па гісторыі мастацтва не валодаў.

– Чаго твар скрывіў? – пахрумстваючы салёным гуркам, засмяяўся Мікалай. – Я ж табе, Мішка, год таму ў Брэсце казаў, што да твайго прыезду рыхтаваўся і наведаў Траццякоўку. Для агульнага, так сказаць, развіцця. Каб не сесці ў лужу перад лепшым сябрам. З таго часу адрас у памяці і захаваўся. Я нават запомніў, што заснавана галерэя ў 1856 годзе, а перададзена гораду ў 1892-ім. А вось фасад яе, між іншым, пабудаваны значна пазней – у 1902 годзе па праекце знакамітага рускага мастака Васняцова... Ладна, давай па другой, Мішка, сёння ўсё роўна ў Траццякоўку не пойдзем, я не ў тым стане, каб да мастацтва далучацца. Ды і ты з дарогі пры-

таміўся. Адпачнем пакуль, а заўтра з раніцы паедзем культурныя каштоўнасці спажываць.

...Міхаіл пацiху апрытомнеў. За акном толькі-толькі пачынала світаць. Галава – быццам пад прэс трапіла. Успаміналіся кавалкі нейкіх невыразных малюнкаў: то мастаку здавалася, што Іван Грозны не сына свайго Івана дапытвае, а яго, Касца, то бачыў сябе вярхом на чырвоным кані ў карціне Пятрова-Водкіна. «Што за навала такая?! Во, дапіліся мы з Колькам, – напалохаўся Касец. – Так недалёка і да белых конікаў... А дзе ж сам Колька?»

На стале стаяла недапітая бутэлька «Смірноўскай», а пад сталом валяліся – «раз... два... пяць...дзесяць...» – парожніх бутэлек з-пад «Маскоўскай».

– Нічога сабе! – усхапіўся Мішка. – Няўжо гэта мы ўдвух з Колькам? А ў Траццякоўку я так і не трапіў!

– Як гэта не трапіў?! – абурыўся недзе побач Монцік. – Учора наведалі! Ты яшчэ лекцыю чытаў аб ролі асобы Паўла Міхайлавіча Траццякова ў развіцці рускага выяўленчага мастацтва.

– Брэшаш! – ахнуў Касец. – Быць такога не можа, каб я не помніў наведвання Траццякоўкі...

Пра Монціка хадзілі чуткі як пра аматара розыгрышаў, і каму як не Мішку аб гэтым ведаць.

– А ты не помніш? – здзіўленне сябра выглядала шчырым. – Мы ж з раніцы ўчора пахмяліліся і адразу ў Траццякоўку паехалі. Я казаў, не трэба па п’янцы... А ты: у самы раз, маўляў, пад лёгкім кайфам дойдзе лепш... Няўжо нічога не помніш?

– Пайшоў ты, Колька, ведаеш куды? – пакрыўдзіўся Касец. – Зноў ты са сваімі розыгрышамі! Нікуды мы не ездзілі... Скажы, што жартуеш!

– Дзівак-чалавек... Навошта мне жартаваць? – Монцік працягваў недаверліва глядзець на сябра. – А можа, гэта мне прыснілася? Можа, мы і сапраўды нікуды не ездзілі? Прасядзелі тут, за гэтым сталом, два дні... Але чаму ж я так выразна памятаю, як ішлі ў галерэю, як аддавалі курткі ў гардэроб, як ты расказваў супрацоўніцы гісторыю Траццякоўкі, спрачаўся з ёй адносна карціны Пятрова-Водкіна «Купанне чырвонага каня»...

Адчуўшы няўпэўненасць у голасе Монціка, Касец пачаў пакрыху супакойвацца. Вядома ж, гэта Колька ўсё пераблытаў, ні ў якой галерэі яны не былі, а прап’янствавалі двое сутак у кватэры... Такое з імі і раней здаралася, Монцік так «адрываўся» ў Брэсце ад сваіх бізнесклопатаў.

– А гэта што?! – бадзёры голас Колькі вывеў Касца з задумлівасці.

– Што?

– Вось! На табе, – Монцік падсунуў пад нос Мішку два серабрыстыя металічныя кругляшы, на якіх чорнай фарбай былі напісаны лічбы 13 і 14. – Жэтоны з гардэроба. Мы курткі свае ў Траццякоўцы пакінулі!

– Ні фіга сабе!..

Касец раптоўна замоўк, насупіўся, яго думкі віхурыліся недзе недасягальна далёка. Паехалі ў Траццякоўку. Усё было горш, чым думалі. Гардэробшчык расказаў, як учора яны ў зале скульптуры пілі на брудэршафт з бронзавым Пятром Першым, як патрабавалі, каб прынеслі чаркі выпіць «у грэчаскай зале-у грэчаскай зале»... Ахоўнік хацеў выклікаць міліцыю, але дзяжурны адміністратар Ганна Іванаўна не дазволіла, таму што беларускі мастак здзівіў яе сваімі ведамі па гісторыі Траццякоўкі, называючы такія падрабязнасці, якіх нават яна не ведала.

– Ганна Іванаўна прасіла вас зайсці сёння, – сказаў гардэробшчык. – Як толькі, маўляў, прыйдзеце – адразу каб да яе.

Але Касец ужо выбег на вуліцу. Монцік забраў у гардэробшчыка курткі і дагнаў сябра за два кварталы ад Траццякоўкі. На тым не было твару, аглядваўся па баках, не пазнаваў Монціка, мармытаў пад нос нейкія незразумелыя словы і настойліва шыбаваў у напрамку Беларускага вакзала. Перад самым адпраўленнем цягніка ён, нарэшце, цвяроза зірнуў Мікалаю ў вочы і прамовіў:

– Усё, Коля, больш ні-ні!

Мастак сваё слова стрымаў. Да цяперашняга часу ён ні разу больш так і не дакрануўся да гарэлкі – такое моцнае ўражанне аказаў на яго візіт у Траццякоўскую галерэю...



# ГРАФІЦІ НА СЭРЦЫ



Ведаў Ярыну Дашыну як паэтку па публікацыях у абасным і рэспубліканскім друку, а пазнаёміўся з ёю зноў жа на Наганава.

На той час Ярына пачала працаваць у аддзеле краязнаўства абласной бібліятэкі імя М. Горкага.

Аднойчы ў 2007 годзе я сустрэў Ярыну нечакана ў ЦУМе. Яна запрасіла мяне на прэзентацыю сваёй першай паэтычнай кніжкі “Графіці на сэрцы”, выдадзенай мінскім выдавецтвам “Літаратура і мастацтва”. Мне было прыемна атрымаць запрашэнне ад маладой паэтэсы, і я загарэўся жаданнем зрабіць яе жывапісны партрэт да такой важнай падзеі. У мяне якраз было загрунтаванае палатно на падрамніку і вольны час. Некалькі разоў я прыходзіў да Ярыны ў бібліятэку, фатаграфаў яе і працаваў над партрэтам, які да патрэбнага дня і быў гатовы. Толькі вось, на вялікі жаль, папрысутнічаць на свяце яе першай кнігі ў мяне не атрымалася: падвяло здароўе. А так хацелася ў той вечар прэзентаваць і яе жывапісны партрэт... У хуткім часе яго можна было пабачыць на чарговай мастацкай выставе па вуліцы Савецкай.

Ярына Дашына рана набыла паэтычнае імя ў беларускай літаратуры. Як толькі яе адметныя вершы пачалі з’яўляцца ў абласным і ў рэспубліканскім друку, іх тут жа заўважылі вядомыя літаратуразнаўцы і крытыкі. Плёнам творчай працы стала выданне кніжкі паэзіі. Парупіўся пра гэта вядомы паэт і крытык Леанід Галубовіч, які і прадмову напісаў да зборніка вершаў “Графіці на сэрцы”.

Чытача, прыхільніка паэзіі, вершы гэтай кніжкі ўражваюць найперш сваёй арыгінальнасцю, філасофскім асэнсаванні падзей мінулага і сучаснасці, зваротам да будучыні. Вечным для таленавітай паэткі застаецца каханне, любоў да родных і блізкіх людзей, да Радзімы...

Цяпер, калі Ярына Дашына стала маці, калі набыла новы жыццёвы статус, мы яшчэ з большым нецярпеннем чакаем ад яе новых паэтычных адкрыццяў, новых паэтычных здзяйсненняў.

## *Ярына ДАШЫНА*

***

Дзень, у якім не быў раней,
раптам настае аднойчы.
Ува мне зашмат мяне –
ціхіх вершыкаў прарочых.
Хочацца на дно, на дне
разграбаеш бруд агульны.
Ува мне зашмат мяне...
моташна й няўтульна.

***

Пакіньце мяне ў спакоі,
і я абярнуся ракою,
глыбокай і неўміручай,
за небакрай бягучай...
Я ведаю, за небакраем
па-іншаму паміраюць,
шчасліва й звонкагалоса
ўліваючыся ў нябёсы...
Магчыма, за небакраем
ёсць брама раю?..

***

Я гукала цябе...
Чыйсьці позірк ціхутка
мільгануў і спыніўся.
Чырвонаю хусткай
захінуўся, як восень
у засмужанай высі.
Трапяткою лістотай
Захлынуўся ў журбе...
Мой дарагі,
я гукала цябе, –
адазваўся другі.

## КВЕТКА

Ты ведаеш, мама, у гэтым вянку
я кветка, зламаная ў пазванку, –
схілілася долу
пакорліва.
Повязь усіх і ўсяго –
мы нейтралізуем адно аднаго
і робім бясполымі...
Мама!
Здаецца, тут бачыцца дно,
здаецца, што мы памерлі даўно
ў гэтым спляценні.
Здаецца,
мяне ў купальскім вянку
спусцілі, зламанай у пазванку,
уніз па цячэнні...

# ІВАНАЎСКІ "НАПАЛЕОН" АНАТОЛЬ КРЭЙДЗІЧ



У 2006 годзе Анатоль Крэйдзіч, наш малады літаратар, журналіст, часта званіў мне: запрашаў уступіць у новы, альтэрнатыўны існуючаму, Саюз пісьменнікаў Беларусі. На той час я быў ужо кандыдатам у сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў, бласлаўлёны самой Нінай Мацяш.

Анатоль тады не змог мяне пераканаць, як не змог бы гэтага зрабіць ніхто іншы на яго месцы.

Самому ж Анатолю Крэйдзічу абласныя чыноўнікі прапанавалі пасаду рэдактара брэсцкай раённай газеты "Заря над Бугом", пасаду кіраўніка абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, службовы офіс... А з другога боку: ці быў у яго выбар?..

Тое, што мы апынуліся ў розных літаратурных саюзах, не перашкодзіла мне ў 2008 годзе распрацаваць дызайн "Літаратурнай карты Берасцейшчыны", своеасаблівай энцыклапедыі літаратуры Брэсцкай вобласці. (Да слова, за тое дызайнерскае афармленне я не атрымаў ніводнага экзэмпляра кнігі. Такі вось красамоўны факт!)

Творы Анатоля Крэйдзіча пачалі з'яўляцца ў друку ў сярэдзіне 90-гадоў мінулага стагоддзя. Першай была кніга прозы "Права на ўсмешку", затым – "Параненыя мары", дакументальная кніга "Анатоль Клімец. Жыццё і лёс", "Палескі Напалеон"...

У апошнія гады Анатоля Крэйдзіча можна сустрэць у Брэсце надзвычай рэдка, бо прыязджае ён сюды толькі па рабоце.

У 2012 годзе пісьменнік выдаў кніжку прозы "Роднае, шчымлівае", дзе сабрана мастацкая дакументалістыка. Асноўнае месца займае ў ёй аповесць "Богаў сон" – аб працэсе творчага станаўлення мастака з Моталя Іванаўскага раёна Янкі Рамановіча. У гэты ж год выйшаў і "Зборнік прозы" (сумесна з Анатолем Глушаковым), за які Анатоль Крэйдзіч быў ганараваны літаратурнай прэміяй імя Ул. Калесніка. Дарэчы, гэтая прэмія, як мне здаецца, з цягам часу губляе свой прэстыж. Ці не таму, што яе ў вельмі значнай ступені "прыватызавала" абласное аддзяленне СПБ. А так не павінна быць.

Выхад адразу дзвюх кніжак прозы Анатоля Крэйдзіча ў дзяржаўных выдавецтвах стаў заўважнай падзеяй у літаратурным жыцці Берасцейшчыны. Рады за калегу, за новыя, таленавіта напісаныя кнігі. І ўсё ж...

***Анатоль КРЭЙДЗІЧ***

## МІНІЯЦЮРЫ

***

Куфаль піва на стале. Керамічны. Руды. Чым больш выпіваеш, тым больш ён падобны да вежы. Вось ужо ён сапраўдная старажытная абарончая вежа. Там, усярэдзіне, войска, якое падрыхтавалася адбіць варожую атаку. Перакульваю вежу ў сябе, высыпаю ў сябе войска. Цяпер я магутны, непераможны. Ува мне ў сярэдзіне войска, здольнае адбіць любую атаку любога ворага. Я ўжо сам – непрыступны мур.

***

Прадзіраюся з кошыкам па лясным гушчары. Раптам ажына сваім вострым шыпам зрабіла на руцэ каля задаўненага следу ад дзіцячай прышчэпкі невялічкі надрэзік, а з лісціка на яго ўпала празрыстая кропелька. Прырода зрабіла мне чарговую прышчэпку. Балючую. Няйначай, каб не хварэў на абыякавасць да навакольнага хараства.

***

Адзін пісьменнік напісаў твор, у якім спачатку ярка вымаляваў асалоду ад п'янства і распусты (маўляў, прыцягну, заінтрыгую, падчаплю, як рыбіну на прынаду, чытача), а пасля, у другой частцы, паказаў гэтак жа маляўніча, якая яна падманлівая, такая асалода. І... гібельная.

Чытач першую частку прачытаў як бач, а другую ледзь пачаў – куды толькі тая цікавасць падзелася.

## ПАЭТ

Ідзе скрозь войны, кроў, смерць... Наступіў на лісточак:

– Вой, я лісток растаптаў!

## СЮЖЭТ

А што, калі іншапланецяне вырошчваюць нас, зямлян, як мы вырошчваем, скажам, жывёлу? Адно што мы выкарыстоўваем жывёл для атрымання мяса, а яны нас – для атрымання пачуццяў, якіх у саміх няма. Яны папросту насалоджваюцца імі, нібы якімі бясшкоднымі (а ці нават і шкоднымі) наркотыкамі.

## ПРЫЦЯЖЭННЕ

Селі ў вагоне разам, насупраць адзін аднаго, ворагі (некалі зварагаваліся, ужо і самі не помняць, з якое прычыны). У вагоне поўна народу, дык мусіш быць побач. А неўзабаве амаль усе выйшлі. Можна было б і разысціся па розных кутках. Ды не разыходзяцца. Нешта як не дае адарвацца адзін ад другога.

## КІШЭНІ ДЗІРАВЫЯ

– Вось пастаўлю вялізную цяпліцу, насею ў ёй гуркоў ды памідораў, пасля прадам і стану багацеем, – выхваляецца вясковы лайдак ды выпівоха перад бабулямі, што паселі пад плотам на лаве, каб пагрэцца на сонейку.

Тыя адно пасміхаюцца з гэтых слоў, а самая дасціпная згарнула сваё пытанне ў дудачку-трубачку дый прадудзела:

– Хлопча, ты ж тыя грошы як бач згубіш, бо ў цябе ж усенькія кішэні дзіравыя.

# ЗАПАЛЯНСКІ КРАЯЗНАЎЦА



Нашае знаёмства пачалося ў 2011 годзе з тэлефоннага званка. Дамовіліся сустрэцца ля пешаходнага маста па вуліцы Арджанікідзэ ў абласным цэнтры. Алесь Фаміч збіраўся выдаваць кніжку прозы “Дым з коміна”(апавяданні, лірычныя запісы, мініяцюры) і “Дыялектны слоўнік Косаўшчыны” (4000 слоў на 270 старонках, 35 гадоў працы вясковага інтузіяста), таму звярнуўся да мяне па дапамогу.

Сустрэліся як было дамоўлена, і мне адразу падалося, што мы даўно знаёмыя, што толькі пэўны час не бачыліся. Гаварыць з Зайкам лёгка і цікава.

Ураджэнец вёскі Заполле на Івацэвіччыне, заўзяты краязнаўца, літаратар, ён мае для такой працы адпаведны характар і настрой, што дапамагае яму доўгія гады збіраць па залатой пясчынцы матэрыялы для будучых кніг. Вось і ў 2012 годзе выдаў былы настаўнік яшчэ адну краязнаўчую кнігу “Населеныя пункты Івацэвіччыны”, чым у чарговы раз здзівіў і парадаваў землякоў і аматараў-краязнаўцаў Берасцейшчыны. У планах Алеся Фаміча выданне даведнікаў “Мікратапанімія Івацэвіччыны”, “Паселішчы Івацэвіччыны”, “Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны”, “Прымаўкі і прыказкі Косаўшчыны” ды іншых.

Алесь Фаміч заўжды працуе ў невялікім пакоі з кнігамі за прасторным сталом па загадзе свайго сэрца, карыстаючыся натхненнем радзінных мясцінаў. Давялося аднойчы і мне пабываць на ягонай радзіме ў вёсцы Заполле, увосень 2012 года. Уражанне ад тых мясцінаў, упершыню пабачаных, не пакідае мяне і дагэтуль. Тое паветра, настоенае на водары хвойных лясоў, квітнеючых палёў і лугоў, дае сілу і жаданне працаваць кожнаму, хто сюды трапляе.

Алесь Зайка нарадзіўся ў Заполлі. У 1966 годзе ён скончыў Косаўскую сярэднюю школу і паступіў на філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута. Атрымаў дыплом і вярнуўся ў родную вёску, дзе працаваў настаўнікам спачатку фізкультуры, а потым беларускай мовы і літаратуры. Цяпер у роднай школе кіруе этнаграфічным музеем (найбольшае захапленне ў Алеся Фаміча – збор этнаграфічных і краязнаўчых матэрыялаў).

У працы настаўніку і краязнаўцу заўжды дапамагаў і дапамагае матацыкл, на якім ён аб’ездзіў увесь Івацэвіцкі раён, збіраючы матэрыяы для сваіх будучых кніг (захапленне Алеся Зайкі заўсёды маральна падтрымліваў і падтрымлівае да гэтага часу ягоны сябра, зямляк і аднакурснік паэт Алесь Разанаў). Канечне, з часам стан здароўя ўжо не дазваляе так прытка, як тое было раней, ездзіць па раёне, але напрацаванае за доўгія гады прымушае яго цяпер настойліва рыхтаваць і выдаваць кнігі па гісторыі роднага краю. І верыцца, што ўсе яго творчыя мары і планы абавязкова здзейсняцца. Інакш нельга.

## *Алесь ЗАЙКА*

### НЯВЕСТКА

Доўга хадзіў у кавалерах. Усё дабіраў дзеўку. Але прыйшла пара, калі і выбіраць не было каго. Равесніцы павыходзілі замуж, а маладыя не хацелі за старога. А маці настойвае: жаніся ды жаніся. Старая. Цяжка адной. Пачала нават сватаць яму суседку: нічога, што разведзеная, а маладзіца спраўная. І ў рабоце, і з людзьмі пагаварыць умее. Не схацеў і слухаць: не пайду на чужое дзіця…

Нарэшце ажаніўся. Узяў дзяўчыну з далёкага сяла. Ганарыўся: маладая ды прыгожая. Неяк пасля вяселля маладая гаспадыня пытаецца ў свекрыві:

– Як курэй у вас клічуць?

Тая адказвае:

– Як у вас, так і ў нас.

Прыгожая ды разумная нявестка выходзіць – і на ўсю вуліцу чуцён яе звонкі, чысты голас:

– Як у вас, так і ў нас, як у вас, так і ў нас…

Прыждала…

## ПАД ЛІПКАЙ

Век жывуць – век сварацца.

Лета, ліпень. Нядзеля. Жанкі пасходзіліся да хаты Алены Хадосавай.

У цяньку пад ліпкай чакаюць кароў з пашы. І яны абедзве тут. Нудзяцца прысутнасцю адна адной. Больш маўчаць. Толькі зрэдку ўставяць якое слова.

Першая – худзенькая, дробная жанчына:

– От, ад мух спасу няма.

Другая – мажная, павольная:

– А ў мяне нешта нямашака.

Першая, адчуўшы ў гэтых яе словах нейкі падвох, злуе так, што аж жылы сінія выступаюць на шыі:

– Бо ў цябе няма на што садзіцца ім. А ў мяне дзе прыткнуцца, там і пажывяцца.

Другая адразу настрылася, тут жа знайшла, што адказаць. Але гаворыць спакойна:

– От, пагардзілася, багатырка. Бо нядбайліска. І місы не памыеш – мухі ліжуць.

І пайшло, паехала. Жанкі рагочуць. Прывыклі.

А вазьмі спытай, чаго гэтыя кабеты ўядаюцца ўвесь век, то, дальбог, не прыпомняць самі. І ўсё гэта не так смешна, як сумна…

## МАЛАНКА

Бацьку яго празвалі Маланкай. Хуткі, спрытны быў. На хаду лапці сpляце. Стоячы на каленях у возе, дваццаць вёрст праедзе, не перастаючы махаць пугай. Няўрымслівы, хваткі і ў рабоце. Усё пачынаў першы: і араць, і сеяць, і касіць. Калі паміраў, і то сказаў жонцы: “Не праводзь да крыжа: людзям вячэру гатуй”.

Андрэй усё ўзяў ад бацькі. І мянушка гэта, як бацькаў кажух да плячэй, лёгка прыстала да яго. І праўда, Маланка – увішны, жвавы.

– Жонка, давай хутко цёплае вады!

– Няма, Андрэйка.

Злуецца:

– Давай хутко халоднае!

Косіць цікава. Махне, не праступаючы, разы два, скокне – і зноў махне. Усё каб хутка…

Сёння доўга назіраў за яго сынам. Меншым, Валодзькам. Гуляла дзятва на дзядзінцы ў футбол. Не пастаіць і хвіліны. Увесь у руху. Падумалася весела: “Вось і яшчэ адзін Маланка расце”.

## БРЫГАДЗІР

Калгасны брыгадзір. Адзіны, галоўны начальнік на ўсю пастарэлую вёску. Ідзе па вуліцы, рахманы, ацішэлы. І ступае неяк асцярожна, няцвёрда. Ідзе ды цікуе. Глядзіць – выбірае. Як хто ў акне стаіць і ў верхнюю шыбіну стукае – зазывае, значыць, «маскоўскую» сёння будзе ставіць, як у ніжнюю – самагонкаю пачастуе. “Усё дакучаюць, – ляніва, скрушна думае брыгадзір. – То соткі ім дай, то сена, то каня па дровы. Але ж куды ты ад іх дзенешся, свае людзі…” І, крута павярнуўшыся, рашучай, упэўненай хадою ідзе і адчыняе веснічкі Андрэя Сыраежкі. “Гэты пачастуе на славу!” – цешыць-лашчыць думкай сваю не зусім цвярозую з учарашняга дня галаву брыгадзір.

# НЕСЦІХАНАЕ РЭХА



Калі я вучыўся ў дзявятым класе 16-й брэсцкай школы, да нас на практыку па роднай мове і літаратуры прыйшлі студэнты са сваім кіраўніком, Уладзімірам Ануфрыевічам Лебедзевым, выкладчыкам Брэсцкага педінстытута.

Да гэтага часу памятаю студэнтак-практыкантак – Галіну Феафанаўну Хаванскую і Таццяну Антонаўну Краўчук.

З таго часу я і ведаю гэтага сціплага на выгляд навукоўца і таленавітага педагога, цяпер ужо пенсіянера. Ад тых далёкіх школьных гадоў захоўваецца ў мяне і фотаздымак: Уладзімір Ануфрыевіч са студэнткамі-практыканткамі гутарыць у настаўніцкай нашай школы.

Ужо значна пазней я даведаўся, што ў Брэсцкі педінстытут ён быў запрошаны Уладзімірам Андрэевічам Калеснікам (на той час Уладзімір Калеснік быў загадчыкам кафедры беларускага літаратуразнаўства) з Боркаўскай сярэдняй школы Бярозаўскага раёна, дзе працаваў настаўнікам рускай мовы і літаратуры (дарэчы, за поспехі ў навучанні малады настаўнік быў узнагароджаны медалём “За доблесную працу”).

Уладзімір Лебедзеў як літаратар пачаў адкрывацца аматарам роднай літаратуры Берасцейшчыны пасля таго, як выйшаў на пенсію. І гэта не дзіўна: стала больш вольнага часу і творчыя задумы мінулых гадоў можна было ўвасабляць у вершах і прозе.

Мы нярэдка сустракаліся і сустракаемся з ім на літаратурных вечарынах, прэзентацыях у бібліятэках, на філалагічным факультэце ўніверсітэта... Наша знаёмства стала больш блізкім калі я працаваў над афармленнем першай паэтычнай кніжкі Уладзіміра Ануфрыевіча “Восеньская ралля” (2004).

Цікавую характарыстыку ў свой час даў калегу па працы прафесар Аляксей Майсейчык: “Уладзімір Ануфрыевіч – чалавек эпічна разважлівы. Такі ён і пры чытанні лекцый, і ў сваіх шматлікіх навуковых даследаваннях. Але не ўсе ведаюць, што ў яго душы струменіць і сцішана-рамантычная плынь. Не лічыць патрэбным Уладзімір Ануфрыевіч друкаваць свае вершы. Але як хораша гучаць яны ў яго ж дэкламацыі, калі ён асмельваецца чытаць іх сябрам...”

На сённяшні дзень Уладзімір Лебедзеў плённа працуе з родным словам (апошні вершаваны зборнік “Несціханае рэха” выдадзены ў 2013 годзе да 75-годдзя з дня нараджэння), дорыць нам свае літаратурныя знаходкі ў паэзіі, прозе. Былыя студэнты ўспамінаюць пра любімага выкладчыка як пра чалавека энцыклапедычных ведаў, які заўжды шчодра дзяліўся імі з моладдзю. Працуючы на кафедры, ён быў і куратарам рэдкалегіі факультэцкай газеты “Станаўленне”, і кіраўніком навуковага студэнцкага гуртка беларускай літаратуры.

Не раз успамінаю той дзень, калі ў клас зайшоў высокага росту, з кніжкай у руках выкладчык з маладымі і прыгожымі студэнткамі-практыканткамі. Між сабою яны гаварылі толькі па-беларуску. Пэўна, і гэты нязначны, здавалася б, эпізод з майго жыцця дапамог у будучым прыйсці да роднага слова.

***Уладзімір ЛЕБЕДЗЕЎ***

***

Сіберны мароз
Надоўга наваколле
Холадам працяў.
Здараюцца нягоды,
Ратунак – справа людзей.

***

Дні позняй восені. Мароз
Быў ноччу на агледзінах.
Каб не заўважылі, атрос
Паўночны пыл з адзежыны.
Ды на расе той пыл асеў
І выбеліў ваколіцу.
Іду па ранішняй расе,
Яна дзяцінствам колецца.

***

Густы, моцны пах
Вялай травы на лузе
Чуем адразу.
З дзяцінства ў нас увайшлі
Прыкметы роднай зямлі.

***

Выган вясковы
Зноў пераліваецца
Вясёлкай-расой.
Дотык да роднай зямлі
Гоіць нам раны душы.

***

Вярнуўся туды,
Дзе нарадзіўся, вырас.
Вакол цішыня.
Каго дакараць, калі
І сам вярнуўся госцем.

***

Прагноз надвор’я:
Пераменная хмарнасць,
То сонца, то дождж.
Настрой усіх залежыць
Ад пераменаў жыцця.

# ЛАМПАДНАЕ СВЯТЛО



Асабістае знаёмства з паэтам Вінцэсем Вашэкам адбылося ў памяшканні абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў па вуліцы Наганава. Вінцэсь пад’ехаў туды на добрай машыне. На той час ён працаваў на мытні, адчуваў сябе няблага па жыцці. (Гэта ўжо пазней пачаліся розныя праблемы ў сяі’і і на працы...)

Што мне асабіста цікава было даведацца ў дзень нашага знаёмства, дык гэта тое, што Вінцэсь Вашэка у свой час, калі скончыў філалагічны факультэт Брэсцкага педагагічнага інстытута, працаваў у маёй 16-й школе на Граеўцы. Першая сустрэча пакінула добрае ўражанне, і мы пачалі бачыцца часта, асабліва калі Вінцэсь ужо працаваў журналістам у газеце “Брестский курьер»…

Пісаць Вінцэсь пачаў яшчэ ў школьныя гады, а на час нашага знаёмства быў найперш вядомы як аўтар “афганскіх” вершаў: вайсковая служба ў тым рэгіёне наклала значны адбітак на яго творчасць. Плёнам працы стала выданне кнігі вершаў “Лампаднае святло”, якую арыгінальна аформіла брэсцкая мастачка Настасся Фяцісава. У вершах Вінцэсь кранае вечныя тэмы кахання, сяброўства, любові да родных мясцін. Роздум над сэнсам жыцця прысутнічае ў ягоных паэтычных радках, як роднае паветра. Эмацыйна насычаныя, часам падсвечаныя светлым смуткам, ягоныя сціслыя і ёмістыя вершы не пакідаюць чытача абыякавым.

Імя Вінцэся Вашэкі вядомае таксама і аматарам бардаўскай песні. У свой час ён прымаў удзел у фестывалі “Новы горад” у Магілёве, дзе нават трапіў у фінал. На той час Вашэка быў кіраўніком брэсцкай студыі аўтарскай песні “Вежа”.

Апошняя наша сустрэча адбылася ў снежні 2011 года ў Жабінцы на 60-гадовым юбілеі паэта Алеся Каско і 50-гадовым юбілеі паэта-пчаляра Міколы Папекі. На той час Вінцэсь Вашэка ўжо жыў у родных Івацэвічах, куды пераехаў з Брэста па сямейных абставінах.

***Вінцэсь ВАШЭКА***

### БЕРАСЦЕ

На світанні, залітым скрухаю,
У сутоцы пад кронай бераста,
Затаіўшы дыханне, слухаю
Спевы рэчак тваіх, маё Берасце.
Пагляджу ў твае вочы волкія,
Да цябе прытуліцца спяшаюся.
Ты адзіны, мой горад золкавы,
Я заўсёды сюды вяртаюся.

Хай часы асыпаюцца росамі
На муры твае пасівелыя,
Ды ў жыцці ты не ведаеш восені –
Ты ўзыходзіш над Руссю Белаю.
Хай панікнуць вякі пераможана
І табе прысягнуць у вернасці...
Зззяе зоркаю маё Берасце.

## ВЕЧНАСЦЬ

У парку холадна.
Дрэвы-шпалеры прыклееены
                                        да небасхілу.
Агідна: да ног прыліпае золата,
Атрэсенае з галін – плата
                                        за незалежнасць.
І цішыня намотвае нас на сьцяжынкі,
Хоча спыніць яго бег.
Дарэмна.
Бо вечнасць у тым, што ніколі
Хвіліны не могуць спыніцца.
Бо бездань і вымяраецца толькі
Бясконца зьнікаючым часам.
Таму і ў парку туманным холадна,
Што лета цяпер у бездані.

***

Мы кахаем адно аднаго.
Ды ведаем, што гэта не вечна.
Таму такія шчодрыя
На ўзаемныя падарункі.
І моўчкі молімся,
Каб час
Ня быў такі пасьпешлівы,
Каб так хутка
Не наблізіўся зыход.

***

Адзіная. Спакуса. Прага. Наталенне.
Трымценне мроіва. Спякотнае зіхценне.
Ціхмяная. Твой крок над навальніцай.
Пагляд. Няможна не схіліцца.

І пальцы трапяткія каля вуснаў...
Спакой самотны, сіні морак душны.
Дажджом наўскос закрэсленыя вокны.
Дым цыгарэты. Твой абрыс намоклы.

# САПРАЎДНЫ ПАЛКОЎНІК



На адной з абласных мастацкіх выстаў звярнуў увагу на жывапісны партрэт палкоўніка міліцыі (мастак Леанід Салаўёў). Крыху было незразумелым: з якой нагоды партрэт міліцыянера трапіў на выставу? Ды хутка высветліў, што гэта – Кастусь (Канстанцін Фёдаравіч) Жмінько – берасцейскі паэт, мастак, цудоўны чалавек. Тады ж і пазнаёміўся з ім праз паэта Алеся Каско.

Канстанцін Фёдаравіч нарадзіўся ў ліхую гадзіну пачатку вайны ў вёсцы Пугачова, якая з 1979 года ўвайшла ў межы горада Брэста. З часам скончыў брэсцкую сярэднюю школу № 4. Працаваў электрамантажнікам, служыў электрыкам-падводнікам у ВМФ СССР. Пасля тэрміновай службы працаваў мастаком у кінатэатрах Брэста, мытнікам. Адначасова вучыўся на філалагічным факультэце Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна, які скончыў у 1967 годзе.

У 1969 годзе Кастусь Жмінько быў накіраваны на службу ў праваахоўныя органы, дзе і даслужыўся да палкоўніка міліцыі і з пасады начальніка аддзела абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў выйшаў на пенсію ў 1994 годзе.

Кастусь Жмінько вядомы як паэт з 70-х гадоў мінулага стагоддзя па шматлікіх публікацыях у перыёдыцы. Больш актыўна пачаў выступаць у друку з 90-х гадоў. Яго вершы былі змешчаны ў калектыўным зборніку "Берасцейскія карані" (1993), а ў 1999 годзе выйшаў першы паэтычны зборнік "Між вамі". Пасля гэтага асобныя творы Кастуся Жмінько друкаваліся ў зборніках паэзіі Берасцейшчыны "Дзядзінец" (1999), "Белавежская пушча ў духоўнай і культурнай спадчыне беларусаў" (2003), "Белой Вежи свет: Поэзия Брестчины в переводах Валерия Гришковца" (2005), а таксама ў часопісе "Полымя" (2000, № 9). У 2008 годзе Кастусь Жмінько выдаў паэтычны зборнік "Наканаваны неспакой" і кнігу афарыстычных выслоўяў "Кастусь сказаў...". У 2011 – свет пабачыла паэтычная кіжка "Час палыноў і ранетаў".

І верыцца ў тое, што гэта не апошнія кнігі паэта-берасцейца, што яго лірычныя вершы, творы выразнага грамадзянскага гучання будуць яшчэ доўга радаваць прыхільнікаў паэтычнага слова.

***Кастусь ЖМІНЬКО***

### КРАЙ

Край надзеі, Край разрухі,
І любові, і тугі,
Спраў і слоў, і – балбатухі,
Край благі, і – не благі.

Край Скарыны, Край Купалы
І – прыслужніцкай брыды,
Край гісторыі апальнай
І чарнобыльскай бяды.

Прынямоння Край азёрны,
Край Калесніка, Брыля...
З памяркоўнасцю, з пакорай –
Нескароная зямля.

Краю наш, жыві вякамі –
Волю ўваскрасі наноў!
Мы твой попел, мы твой камень –
Сціплы грунт для каранёў.

***

Карабель
не знае хваляў роўных:
Сцеражэ яго “падводны лёд”,
Што з-пад хвалі вытыркне раптоўна –
Праклянеш свой чын і памяркоўнасць,
Беларускі праведны народ.

## БЯЗДОМНЫ

Яго жыццёвая дарога
Цякла павольна, без падзей.
Ад цеплыні сваёй “бярлогі”
Ён адарваўся ў вір надзей.

Ды не знайшоў другога дому:
Інакшы дом – інакшы лад.
Назоўку Воўк далі чужому
І не паклікалі назад.

Вось і брыдзе, як воўк па пожні,
Шукае воўчы закуток,
А поўня вокам, скрухі поўным,
Высочвае слядоў уток.

Няўдачы цягнуцца; штоночы
На поўню, хоць і чалавек,
З вятрыскам вые ён па-воўчы,
Бы просіць скончыць воўчы век.

***

А вы ўсё тыя, тыя, тыя,
На ланцужках, бы моль, блатныя,
Усё ў “абойме”, у фаворы,
І як, надарыцца, каторы
Сфальшывіць спеў “ваімяйца” –
Пагаснуць зоркі на плячах...
Тут цемрадзь цемры сцеле шлях.

# ЗАЛАТОЕ СОНЦА ВЕРЫНАЙ САЛОМКІ



Гэтую жанчыну нашы суайчыннікі запомнілі па сонечнай усмешцы, па народным адзенні, у якое яна бывала апранутая, па чапцы на галаве, чырвоных пацерках... і побач з ёю вырабы з залацістай беларускай саломкі. Такой яе партрэт напісаў берасцейскі мастак Уладзімір Тулупаў, які пакінуў нашчадкам памяць пра цудоўную жанчыну – майстрыцу саломапляцення Веру Ільінічну Гаўрылюк.

Яна нарадзілася ў 1904 годзе ў вёсцы Стараселле Беластоцкага ваяводства і пражыла жыццё даўжынёй амаль у стагоддзе. Калі малой было 9 гадоў, памёр бацька, пакінуўшы сіротамі дзевяць дзяцей – семяёрых хлопчыкаў і дзвюх дзяўчынак.

Вера рана навучылася прасці, ткаць, вязаць карункі. Для гульняў братоў і сястрычак майстравала лялькі з саломы, не прадчуваючы нават, што менавіта гэты матэрыял і праца з ім зробяць яе знакамітай.

У час вайны Вера Ільінічна стала ўдавою: фашысты расстралялі яе мужа. А дачку, якой не было яшчэ і 16 год, вывезлі на работы ў Германію. Пасля Другой сусветнай вайны жыццёвыя дарогі прывялі Веру Гаўрылюк у Брэст.

Вера Ільінічна магла стаць фермерам, удачлівым прадпрымальнікам, магла зрываць апладысменты на сцэне. Але лёс распарадзіўся так, што яна пачала ствараць узоры сапраўднага мастацтва з саломы і гэтым стала вядомаю, знакамітаю, праславіла сваю Беларусь і свой народ...

Выклікае цікавасць партрэт Веры Гаўрылюк, напісаны мастаком Уладзімірам Тулупавым (на той час Веры Ільінічне было 73 гады). Ён правёў 23 сеансы, працуючы над партрэтам, на якім жанчына ў традыцыйным народным адзенні займаецца сваёй звыклай справай. І хаця твар Веры Ільінічны вельмі часта асвятляла прыемная ўсмешка, мастак паказаў майстрыцу задумлівай, засяроджанай.

Вера Ільінічна Гаўрылюк была вясёлаю і, як часам гавораць, спраўнаю жанчынай. Ад сустрэчы з ёю заўсёды заставалася прыемнае ўражанне.

А яшчэ Вера Ільінічна была надзвычай таленавітым чалавекам: іграла на самадзейнай сцэне, умела спяваць, танцаваць, была цудоўнай апавядальніцай, валодала музычнымі інструментамі, умела шыць, вязаць, ткаць і працавала з саломкай... Праца з саломкай была справай інтымнай, бо ўсё адбывалася ў цішы адзіноцтва, калі нішто не перашкаджала. І толькі карпатлівая праца залатых рук майстрыцы з сонечнай саломкай, у выніку якой нараджаліся дэкаратыўныя пано, куфэркі, фігуркі звяроў, птушак, людзей, “павукі”, кветкі, розныя ўпрыгожванні...

Жанчына працавала нібыта вялікае дзіця, з асаблівай цікавасцю і жаданнем. Такі настрой яна захавала да скону свайго веку.

Веру Гаўрылюк лічаць адраджэнкай мастацтва саломапляцення. У 60-я гады мінулага стагоддзя яна была першай ў Беларусі, хто звярнуўся да працы з саломкаю. У той час жанчына трапіла на працу на Брэсцкую фабрыку мастацкіх вырабаў і вельмі ўдала пачала працаваць з гэтым матэрыялам (а ўсё пачалося з таго, што ў радні пад Брэстам пабачыла кніжку з аплікацыяй з саломкі на вокладцы). У Веры Ільінічны з’явіліся вучаніцы, і саломапляценне пачало буйна развівацца. У 80-я гады мінулага стагоддзя ў Беларусі працавала добрыя два дзясяткі майстрыц самага высокага ўзроўню.

У сталым ужо ўзросце, у 62 гады, жанчына паступіла ў Маскоўскі завочны ўніверсітэт мастацтваў імя Н. Крупскай, скончыла яго на выдатна ў 66 гадоў!

Вера Ільінічна ездзіла з выставамі ў Маскву і Польшчу, вучыла саломапляценню жанчын у Алма-Аце.

Калі параз’язджаліся дочкі, Вера Ільінічна засталася адна ў Брэсце ва ўтульным драўляным дамку ля чыгункі паміж гарадскімі раёнамі Граеўка і Рэчыца. Да глыбокай старасці трымала гарод, вырошчвала там сваю залацістую саломку, з якой працавала. Нікуды пераязджаць не захацела.

Пайшла з жыцця Вера Ільінічна Гаўрылюк у 1986 годзе. Апошні раз бачыў яе двума гадамі раней, калі праводзілі юбілейную персанальную выставу прызнанага народнага майстра да 80-годдзя з дня нараджэння. Была як заўжды вясёлая, жартавала... Такою і запомнілася.



*Народны майстар саломапляцення В. І. Гаўрылюк*



*"Палешукі"*

# РЭХА ЧОРНА-ГЛЯНЦАВЫХ ЗБАНОЎ АНТОНА ТАКАРЭЎСКАГА



З маленства перад вачыма чорныя “бунькі” з малаком, адкуль ласаваўся вяршкамі ў бабулі з дзедам. Збаны з драўлянымі накрыўкамі ад мух і катоў стаялі на падлозе ў цёмным куце ля сцяны. Толькі мне малому дазвалялася шчыраваць ля іх... Так упершыню я дакрануўся да вырабаў з гліны пружанскіх майстроў, апошнім з каторых пэўны час заставаўся Антон Рыгоравіч Такарэўскі...

Вырабы з гліны пружанскага майстра Антона Такарэўскага – гэта сапраўдныя творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, вынік штодзённай карпатлівай працы ў спалучэнні з талентам, атрыманым ад Бога і бацькоў, дзядоў, прадзедаў. Яшчэ ў 20-я гады мінулага стагоддзя ганчарны промысел быў вельмі пашыраны, і цэлыя вуліцы займаліся гэтым рамяством.

Асабістае знаёмства са старым ганчаром (нарадзіўся Антон Рыгоравіч Такарэўскі 3 сакавіка 1904 года) адбылося ў канцы 80-х гадоў мінулага веку, калі майстар быў ужо чалавекам паважанага ўзросту, заможным гаспадаром (рабіў з алюмінію чыгуны, якія прыносілі добры прыбытак, умеў класці печы). Але гэта не адчувалася, бо ён усё яшчэ многа часу праводзіў за любімай працай у Пружанах, дзе жыў і круціў год за годам ганчарнае кола – апошні са старажытнага роду Такарэўскіх. Ён трымаў каня, бо “куды ж без каня?” Гаршчкі вазіў у Ружаны, Кобрын. Вельмі прыгожыя і моцныя былі яго вырабы, таму куплялі людзі з ахвотаю. А яшчэ Антон Рыгоравіч меў добрую гаспадарку, шмат зямлі. Праца была сэнсам яго жыцця. Дзетак любіў (дачка Марыя была ды прыёмныя сыны брата, які трагічна загінуў), жывёл, прыроду – усё жывое.

Антон Рыгоравіч быў не толькі таленавітым, але і вельмі працавітым чалавекам. Ім створана незлічоная колькасць керамічных вырабаў, дасканалых па форме, прыгожых і трывалых. Гліна, што аднойчы пабывала ў руках майстра, ужо ніколі не заставалася звычайным матэрыялам: яна набывала новае жыццё ў бліскучым чорна-глянцавым посудзе.

У далёкім 15-м стагоддзі бярэ пачатак радавод славутага ганчара Антона Такарэўскага. Усе яго продкі былі знанымі майстрамі сваёй справы. Антон Рыгоравіч доўгі час заставаўся адзіным у рэспубліцы майстрам-ганчаром, які займаўся вырабам бытавой чарнаглянцавай ці задымленай керамікі.

Для сваёй працы ён заўжды шукаў добрую гліну, за зіму даваў ёй прамерзнуць як след на двары. Ужо ўвесну ачышчаў ад карэньчыкаў, смецінак, прасейваў. Пасля размочваў, размінаў да патрэбнага стану і рабіў на ганчарным крузе посуд. Калі ён падсыхаў, вымалёўваў адпаліраваным крэмнем арнамент, пакідаў на матавай паверхні бліскучыя лініі, затым посуд зноў сушыўся. І толькі потым гліняныя вырабы праходзілі хрышчэнне агнём. Для гэтага майстар ставіў гліняны посуд у разагрэтую да белага калення печ, кідаў некалькі пучкоў смалкай сасновай лучыны. Пасля ўсяго шчыльна замазваў гарлавіны. У печы без доступу кіслароду пасля ўзаемадзеяння ўгарнага газу са злучэннем жалеза паверхня вырабаў набывала чорна-матавы, з серабрыстай павуцінкай колер, а геаметрычныя арнаменты станавіліся металічна бліскучымі. Пасля абпалу гліняныя вырабы заставаліся ў печы яшчэ двое сутак.

Ганчарства – мастацтва, якое з даўніны мае характар промыслу. Тут надзвычай важнае значэнне набывае традыцыя, напрацаваная пакаленнямі майстроў. Геаметрычны дэкор у выглядзе палосак, сеткі, ёлачкі ўпрыгожвае гліняныя вырабы з незапамятных часоў.

Праца пружанскага ганчара была адзначана залатым медалём на I Усесаюзным фестывалі самадзейнай мастацкай творчасці працоўных СССР. Майстар казаў, што калі ўпершыню паспрабаваў гліну, то адразу прыйшло нястрымнае жаданне ляпіць гаршчкі.

Памёр Антон Рыгоравіч Такарэўскі 4 кастрычніка 1984 года. Перад смерцю папрасіў, каб прывялі да яго каня. Каня прывялі пад акенца хаты, бо Антон Рыгоравіч ужо не мог самастойна выйсці на вуліцу. Так і да ганчарнага кола паднеслі яго, пасадзілі развітацца з такім родным і звыклым месцам яго шматгадовай працы. Праз некалькі дзён майстра не стала...

# КАМЯНЕЦКІ МАЙСТАР РАЗЬБЫ ПА ДРЭВЕ



Народнага майстра разьбы па дрэве мастака Анатоля Туркова ведаю больш за 30 гадоў. Пазнаёміліся ў Камянцы, у мастакоўскай майстэрні пры раённым Доме культуры, якую Анатоль Савельевіч узначальваў з 1975 па 1985 гады. Той савецкі час быў спрыяльны для працы: афармленне дзяржаўных святаў, дамоў культуры, інтэр'ераў памяшканняў аб'ектаў культуры, экстэр'ераў... Можна сказаць, праца кіпела...

Нарадзіўся Анатоль у сям'і, дзе было шмат дзетак. Яго і брата бацькі аддалі вучыцца ў Высокаўскую школу-інтэрнат (будынак графіні Патоцкай), дзе хлопец пачаў самастойна маляваць, іграў у духавым аркестры, займаўся спортам. Апошнія два класы вучыўся ў СШ №1 у Камянцы і адначасова займаўся малюнкам, жывапісам і лінагравюрай у студыі выяўленчага мастацтва пад кіраўніцтвам Заслужанага настаўніка Беларусі Дзмітрыя Раманавіча Дошчыка.

Калі запрасілі на працу ў раённую мастацкую майстэрню, дык не адмовіўся. Менавіта ён у 1976 годзе (райцэнтр рыхтаваўся да 700-годдзя) прыклаў свае працавітыя рукі да ўзвядзення манументальнага знака на ўездзе ў Камянецкі раён з боку Брэста, выканаўшы мастацкую частку. Напярэдадні 40-годдзя Перамогі стаў пераможцам усесаюзнага конкурсу на лепшае афармленне гарадоў у намінацыі "Малыя гарады" сумесна з калегам Юрам Шылам. За творчыя дасягненні Анатоль Савельевіч мае шматлікія ўзнагароды. Узнагародай для Анатоля Туркова, як ён лічыць сам, з'яўляецца і тое, што да гэтага часу стаяць з трох бакоў Камянца ўязныя знакі, што стаяць помнікі загінулым вайскоўцам, іншыя манументальныя знакі з жалезабетону, над якімі ён працаваў са сваімі калегамі. Усе гэтыя работы знаходзяцца ў Камянецкім раёне і добра захаваліся да гэтага часу.

У горадзе яшчэ і цяпер стаіць дом вядомага беларускага жывапісца Ф. І. Дарашэвіча, ля якога да 100-га юбілею Фёдара Іванавіча Анатоль паставіў памятны знак з дрэва. На яго адкрыццё прыязджалі з Мінска дачка і ўнук мастака.

З 2008 года ў Камянцы грамадскае аб'яднанне аматараў мастацтва рэгіёна "Белавежская пушча" і Берасцейшчыны "ТУР" пад кіраўніцтвам Анатоля Туркова праводзіць беларуска-польскія пленэры мастакоў, прысвечаныя памяці Ф. І. Дарашэвіча, і нават сфарміравала выставачны фонд гэтых работ. Па выніках кожнага пленэра праходзяць выставы ў Камянцы і Брэсце...

У апошнія гады Анатоль Савельевіч плённа працуе з дрэвам на пленэрах і розных іншых мерапрыемствах, на якія атрымлівае запрашэнні з 2000 года. У 2004 годзе Анатоль Туркоў быў прыняты ў Беларускі саюз майстроў народнай творчасці.



*"Пушчанскі госць"*



*"Дзядок"*



*А. Туркоў на свяце горада Брэста*



*А. Туркоў са сваім творам. г. Камянец*



*"Еўфрасіння Полацкая". г. Камянец*

# УЛАДЗІМІР ЧЫКВІН



Ураджэнец Камянеччыны – апошнія гады жыве ў Кобрыне, – ён вядомы на Берасцейшчыне і далёка за яе межамі як разьбяр па дрэве, аматар драўляных лыжак, якіх сабраў ужо вялікую калекцыю. Дух Белавежскай пушчы наталяе магутнай жыццёвай сілай, надае фізічнай моцы настолькі, што камянецкія майстры не ўяўляюць свайго жыцця без родных мясцін. Уладзімір Чыквін увогуле збіраецца ў хуткім часе вярнуцца ў Дзмітровічы, у бацькоўскі дом, на пастаяннае месца жыхарства.

Скончыўшы мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута, Уладзімір афармляў турбазы “Байсоорум” на возеры Ісык-Куль, “Казахзолата” у Алма-Аце, займаўся рэстаўрацыяй архітэктурных помнікаў у Кракаве, у якасці разьбяра працаваў у фарным касцёле ў Беластоку.

Аднойчы і назаўсёды Уладзімір Чыквін знайшоў прытулак у Кобрыне, дзе абсталяваў мастацка-вытворчую майстэрню, стаў адным з заснавальнікаў гарадской мастацкай галерэі “Bona Sforca”. Да гэтага часу жыве і працуе там, выязджаючы адно толькі на пленэры і іншыя мерапрыемствы. Аднак ніколі не забывае пра свой пушчанскі край, які заўжды вабіць яго сваёй спрадвечнай прыгажосцю.

Добразычлівы чалавек, майстар сваёй справы, ён заўжды вітае пры сустрэчы цёплай усмешкай, добрым словам. Не дарма што працуе з сонечным матэрыялам – дрэвам.



*“Паркавая скульптура”. г. Кобрын*



*Скульптура “Перапісчык Бярозка”*



*У. Чыквін на свяце горада Брэста*

# СЯЛЯНСКІ ФІЛОСАФ І МАСТАК



19 снежня 2012 года, акурат “на Міколу”, народны майстар з хутара ля вёскі Стойлы Пружанскага раёна атрымаў з рук мастака-эмальера Міколы Кузьміча, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, незвычайны падарунак-узнагароду – ордэн “За вернасць Бацькаўшчыне”. Ён мае выгляд васьміканцовай бронзавай зоркі, падобнай на калядную, а ў цэнтры – выява анёла, які ляціць над вёскай і трымае ў руках хату Мікалая Тарасюка і створаны ім на ўласнай сядзібе музей “Успаміны Бацькаўшчыны”. Па кайме надпіс: “За вернасць Бацькаўшчыне”. Ганараванне слыннага майстра адбылося ў Пружанскім палацыку на адкрыцці ягонай персанальнай выставы, прымеркаванай да 80-годдзя з дня нараджэння.

У юбілейным годзе прайшла таксама выстава арыгінальных твораў Мікалая Тарасюка ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, якая выклікала вялікую цікавасць у спецыялістаў, журналістаў і шматлікіх гледачоў. У работах майстра сялянскае жыццё сканцэнтравана так моцна, нібы стагоддзі гісторыі спрэсаваныя ў адным томе энцыклапедыі. Аўтар беражліва захоўвае ў сваіх творах народныя звычаі, традыцыі, святы. Як правіла, адной падзеі з жыцця вясковага чалавека – напрыклад, вяселлю – прысвечана цэлая серыя работ. Яго “драўляны народ” жыве там сваім спрадвечным клопатам: працуе, спраўляе вяселлі, ладзіць святы...

З асаблівай цікавасцю стаўлюся да такіх твораў народнага майстра, як “Мая Маруся” (“Драўляная нявеста”), “Жывы ў зямлю не палезеш”, “Сялянскае жыццё”, “Укрыжаванне” (“Распяцце”), “Пахаванне”, “Царква. Вянчанне” ды іншых работ, якія не пакідаюць абыякавым нікога, каму дарагая гэтая зямля і яе гісторыя.

Мікалай Васільевіч, нягледзячы на свой сталы ўзрост, чалавек рухомы, імпульсіўны. Яго моцная ўнутраная энергетыка дапамагае адчуваць сябе гаспадаром на бацькоўскай зямлі, дзе ён жыве з сялянскай працы. Так жыў яго бацька Васіль, так жыў дзед Міхась, так жылі аднавяскоўцы, якія па запавеце продкаў згодна з непарушнай іерархіяй жыццёвых каштоўнасцей браліся шлюбам, будаваліся, працавалі на зямлі, сеючы хлеб, збіраючы ўраджай, нараджалі дзяцей, а калі надыходзіў час, то і адыходзілі ў лепшы свет.

Мікалай Васільевіч у сваёй творчай працы адначасова сам сабе і рэжысёр, і акцёр, і галоўная дзеючая асоба створанага ім сцэнарыя... Усё жыццё гэтага чалавека звязана з адным месцам – хутарам каля вёскі Стойлы, што на ўскрайку Белавежскай пушчы. Ён перажыў усіх сваіх аднавяскоўцаў, а гісторыю апусцелай вёскі ўвасобіў у мініяцюрных рознакаляровых фігурках з дрэва. Для іх Мікалай Васільевіч пабудаваў на ўласнай сядзібе музей, якому даў назву “Успаміны Бацькаўшчыны”. Музей майстра ўяўляе сабой простую драўляную хату з ганкам, на якім пад праваслаўным крыжам замацавана шыльда з назвао. А ўжо ў самой хаце збудавана цэлая вёска з вуліцаю і з хатамі, у якіх кожны з насельнікаў займаецца сваёй працаю, сваімі справамі. Усё гэта ўпарта і паслядоўна ствараў Мікалай Тарасюк сваімі рукамі з дрэва, лазы і саломы, усё гэта з’яўляецца часцінкай страчанай нашай Бацькаўшчыны, нашай агульнай гісторыі, вернутай народным майстрам у выглядзе экспанатаў ягонага музея.

Але баліць душа ў Мікалая Васільевіча за будучыню. Не суцяшаецца душэўны боль за родную зямельку, за вёску, за тое, што ён пакіне пасля сябе: “Пражыў я многія гады, немалыя гады, о, пражыў. Трэба ўсё ўспомніць, о. Стараюся і буду старацца, хоць я ўжо і пажылы. Не знаю, як гэта ў мяне атрымаецца. Як от кажуць, як бы дурак думкаю багацее. Можа, я і багацею, можа, я толькі хвалюся, але ўсё ж, калі я задумаў, то ноч недасплю, але гэта выканаю з Божаю сілаю. Як Бог дасць мне здароўе, Бог дасць мне розум, я буду выконваць, што я задумаў, я буду працягваць. Я хачу тыя работы паставіць, каторых яшчэ няма. Паспею зрабіць ці не паспею... А ўспамінання на нашым вяку вельмі многа”. Разам з усім гэтым Мікалай Васільевіч верыць у тое, што яго “драўляная Беларусь” застанецца пасля яго, што яна будзе захавана. Адно толькі тое, што ў 2008 годзе была выдадзена “Сялянская энцыклапедыя ў творах

Мікалая Тарасюка" (аўтарам тэксту да якой і ўкладальнікам была мастацтвазнаўца з Мінска Вольга Лабачэўская, здымкі зрабіў фотамастак і паэт Георгій Ліхтаровіч), дае на гэта надзею. Кніга-альбом утрымлівае ўспаміны пра самабытнага майстра, ягоныя работы, дае шырокае ўяўленне пра жыццёвую пазіцыю і творчасць Мікалая Васільевіча Тарасюка..



*"Сяджу і думаю"*



*"Укрыжаванне"*

# ПАЛЕСКІЯ БЫЛІ ІВАНА СУПРУНЧЫКА



У пятніцу, 26 кастрычніка 2012 года, па вуліцы Савецкай, 54, у выставачнай зале ДУК “Абласны грамадска-культурны цэнтр” Упраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама адбылося адкрыццё персанальнай выставы “Палеская Атлантыда” (трэцяй па ліку ў абласным горадзе) народнага майстра Беларусі, разьбяра па дрэве, мастака, былога бібліятэкара з вёскі Цераблічы Столінскага раёна Івана Піліпавіча Супрунчыка, прысвечанай 70-гадоваму юбілею майстра, з прэзентацыяй шыкоўнага альбома-манаграфіі “Палескія былі Івана Супрунчыка” (аўтар Вольга Лабачэўская, фота Георгія Ліхтаровіча).

Выстава драўляных скульптур, зробленых толькі з дапамогай сякеры, графічныя працы майстра нікога не пакінулі абыякавым. Усё стварала атмасферу святочнасці.

Намеснік начальніка ўпраўлення культуры Тамара Паўлюковіч уручыла юбіляру пасведчанне і Ганаровы нагрудны знак міністэрства. І гэтая высокая ўзнагарода далёка не першая. У 2001 годзе майстар разьбы па дрэве быў ганараваны спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, у 1990-м – прэміяй прафсаюзаў БССР у галіне мастацтва і культуры, прэміяй “Славянскага базару”. Іван Супрунчык з’яўляецца Ганаровым грамадзянінам Столінскага раёна (з 2009 года), удзельнікам шматлікіх рэспубліканскіх і міжнародных выстаў і пленэраў.

Са шчырымі словамі падзякі за супрацоўніцтва выступілі дырэктар абласной бібліятэкі імя М. Горкага Тамара Данілюк, дырэктар абласнога грамадска-культурнага цэнтра Святлана Коржук, заслужаны работнік культуры Беларусі Святлана Гуляева і іншыя.

Прыемнай нечаканасцю для Івана Піліпавіча было віншаванне – на добрай беларускай мове – абласнога пракурора Івана Наскевіча – аднасяльчаніна юбіляра, які ўспомніў, як у школьныя гады быў апантаным чытачом цераблічскай бібліятэкі, дзе працаваў Іван Піліпавіч...

А мне ў той час узгадалася, як упершыню пабачыў скульптурныя творы з дрэва самабытнага інсітнага разьбяра Івана Супрунчыка, зробленыя ім да 100-годдзя Якуба Коласа і Янкі Купалы. Некаторы час яны знаходзіліся ў Абласным навукова-метадычным цэнтры ўпраўлення культуры, цяпер захоўваюцца ў Мастацкім музеі, што ў Брэсцкай крэпасці. Тады і давялося пазнаёміцца з дзіўным майстрам, які ў сваёй працы выкарыстоўвае толькі вострую сякеру. Стаць мастаком Іван Піліпавіч вырашыў з маленства, аднойчы пабачыўшы кінастужку пра знакамітага расейскага жывапісца Васіля Сурыкава. А першай заўважыла ягоны талент маці Аксіння Сцяпанаўна, калі Іван з 8 гадоў пачаў маляваць і выразаць з дрэва розныя фігуркі, хаця яго ніхто гэтаму не вучыў, бо спецыяльных урокаў выяўленчага мастацтва на той час у школе не было.

Хоць усе свае работы, нават мініяцюрныя, Іван Супрунчык высякае сякерай, гэта не значыць, што яны пазбаўлены вытанчанасці, бо кожная мае свае адметныя рысы, свой характар. Перш чым выканаць твор у дрэве, Іван Піліпавіч вымалёўвае вобраз на паперы, робіць эскіз, хаця, як прызнаецца майстар, усе эскізы ў яго галаве. Пэўна, таму і працуе з дрэвам Іван Піліпавіч хутка. Гэта ўжо такая яго натура, такі ён чалавек...

Яго драўляныя скульптуры пазнавальныя: ці гэта Францыск Скарына, ці Еўфрасіння Полацкая, знакамітыя персанажы твораў Якуба Коласа або Янкі Купалы... У іх адчуваецца пакута, здзіўленне, радасць, любоў... Усе чалавечыя эмоцыі ўласцівы драўляным людзям майстра з вёскі Цераблічы. Там у яго і свой знакаміты музей, дзе кожная фігура займае адведзенае ёй месца і выконвае пэўную ролю. Памяшканне ўпрыгожваюць доўгія паласатыя тканыя ручнікі, якія толькі на Палессі і можна сустрэць...

Мне падабаюцца такія кампазіцыі разьбяра, як “Музыкі”, “Жанчына з таўкачом”, “Мужчына з сабакам”, “Жанчына сядзіць”, “Мужык з лапцем”. Гэтыя скульптуры перадаюць дух народа, яго сілу і моц, яго бессмяротнасць.

У арыгінальных драўляных скульптурах Івана Піліпавіча адлюстроўваецца былое Палесся – звычкі, абрады, гісторыя сваёй сям’і і роднай вёскі. Дрэва ў руках майстра атрымлівае новае жыццё – ажывае ў адпаведных вобразах, адлюстроўваючы жыццёвую філасофію Івана Супрунчыка – чалавека-селяніна, чалавека-працаўніка, чалавека-змагара за высокія ідэалы духоўнасці, які імкнецца ў дрэве захаваць памяць.

# ПОКЛІЧ СТАРАЖЫТНАГА БЯРЭСЦЯ



Кастрычніцкім ранкам 1976 года мяне, студэнта першага курса архітэктурнага факультэта Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута, запрасіў да сябе ў кабінет дэкан факультэта дацэнт Васіль Іванавіч Лысенка. Ён пазнаёміў мяне з археолагам Пятром Фёдаравічам Лысенкам і даручыў падабраць на курсе брыгаду хлопцаў для працы на раскопках старажытнага Бярэсця на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці – праз раку насупраць Холмскіх і Цярэспальскіх варот. Больш за месяц пасля заняткаў у інстытуце і па нядзелях мне і маім сябрам-першакурснікам пашчасціла працаваць са знакамітым археолагам. Так нечакана апынуліся мы на зямлі нашых продкаў у XII – XIII стагоддзях...

Старажытны горад доўгі час захоўваў свае таямніцы. Вядомыя расейскія археолагі Ю. А. Ягораў, Ю. В. Кухарэнка, В. В. Сядоў, якія займаліся ў розныя гады пошукамі Бярэсця, меркавалі, што пры будаўніцтве Брэсцкай крэпасці рэшткі старажытнага горада былі знішчаны. Але малады археолаг Пётр Лысенка думаў інакш. Першая спроба адшукаць старажытнае гарадзішча ў 1961 годзе не мела поспеху. Некалькі гадоў пайшло ў Пятра Лысенкі на дэталёвае вывучэнне карт, пісьмовых крыніц, нататкаў падарожнікаў, даследванняў краязнаўцы М. І. Алексеюка. Усё гэта дазволіла ў 1964 годзе спрагназаваць, што дзядзінец старажытнага Бярэсця знаходзіўся менавіта ў тым месцы, дзе зараз створаны музей. Вялікую дапамогу аказаў аматар гісторыі, тагачасны дырэктар Музея абароны Брэсцкай крэпасці П. М. Каралёў, які адшукаў на Валынскім умацаванні вялікую колькасць рэшткаў керамічнага посуду... Знаходкі ў наступным годзе дазволілі ўпэўнена заявіць, што летапісны горад знойдзены.

На працягу 14 гадоў невялікая група археолагаў вяла раскопкі.

Вынікам шматгадовай працы археалагічных экспедыцый стала стварэнне музея. Але Пятру Фёдаравічу для гэтага давялося звяртацца аж да самога старшыні Савета Міністраў СССР Аляксея Мікалаевіча Касыгіна...

Выдатна памятаю рэчы, што былі знойдзены пры маім удзеле – гэта дзве металічныя пломбачкі (2-я і 3-я па Беларусі), шахматная касцяная фігурка, свінцовыя і касцяныя пячаткі і абразкі, стрэмя ваяводы, інкруставанае залатой ніццю, і шмат чаго іншага. Сам факт удзелу ў тых раскопках пашырыў мой кругагляд, прымусіў з яшчэ большай павагай і зацікаўленасцю паглядзець на гісторыю роднага горада і Беларусі ўвогуле...

А Пётр Фёдаравіч у той месяц спакойна накіроўваў нашу працу ў патрэбным напрамку. Яму хацелася да восеньскіх дажджоў завяршыць задуманае.

Мне падабалася працаваць пад яго кіраўніцтвам, таму заўжды з удзячнасцю ўспамінаю тую пару.

30 чэрвеня 2012 года, археалагічны музей “Бярэсце” (філіял абласнога краязнаўчага музея) адзначыў сваё 30-годдзе. Ганаровым госцем на гэтым свяце быў прафесар, доктар навук Пётр Фёдаравіч Лысенка. Хвалюючыся, ён звярнуўся да гасцей свята:

– Калі я гляджу на гэтае гарадзішча, разумею, што не дарма мы елі хлеб, тапталі і капалі зямлю. Я маю на ўвазе не толькі сябе, але і ўсіх, тады маладых, археолагаў, брэсцкіх школьнікаў і студэнтаў, якія бескарысліва працавалі на раскопках, і людзей пры ўладзе, якія зумелі знайсці сродкі для стварэння музея, і цяперашніх работнікаў музея. Галоўнае – нам удалося адшукаць старажытны горад Бярэсце. А музей сёння з’яўляецца сведкам зацікаўленасці людзей да сваіх гістарычных каранёў. Навуковая манаграфія выходзіць накладам у 2-3 тысячы асобнікаў. Навукова-папулярная кніга – 10 тысяч асобнікаў. Няхай кожную кнігу прачытае не адзін, а пяць, няхай дзесяць чалавек. У выніку набярэцца сто тысяч чалавек. А цяпер параўнайце: нядаўна ў “Бярэсце” прыйшоў 3-мільённы наведвальнік. Чалавек пераканаўся, што гэта не муляж, а ўнікальнае сведчанне жыцця горада, якому хутка будзе 1000 гадоў. Эфект атрымліваецца – ні з адной кнігай не параўнаеш!



*У музеі “Старажытнае Бярэсце”*



*Раскопкі старажытнага Бярэсця. 1976 год.*
*Студэнты В. Кравец і В. Мамацюк за працай.*

# АНАТОЛЬ КУДЗІНЕНКА.
# АРХІТЭКТАР, ПЕДАГОГ, ЧАЛАВЕК



Я прывык заўжды бачыць яго па дарозе ў цэнтр горада, калі пешшу накіроўваўся на працу. Ён ішоў мне насустрач – ці па машыну ў гараж, ці на аўтобусны прыпынак "Газаапарат", калі трэба было ехаць на зняткі на кафедру архітэктурнага праектавання і малюнка ў тэхнічны ўніверсітэт. Звычайна мы прыпыняліся, размаўлялі, абмяркоўвалі мастацка-архітэктурныя навіны.

Цяпер нязвыкла ад думкі, што так ужо не сустрэнемся, не пагутарым ніколі... І той боль, што сціскае сёння маё сэрца каля яго дома, ніколі ўжо не пакіне, не адпусціць, бо страта невыказная.

Здаецца, вось толькі ўчора, у верасні 2010 года, ён прыходзіў у абласную бібліятэку імя М. Горкага на прэзентацыю майго паэтычнага зборніка "Знакі на валуне", сказаў добрае слова. Я чакаў яго на адкрыцці персанальнай выставы па вуліцы Савецкай, але... 14 снежня 2010 года не стала майго былога выкладчыка – загадчыка кафедры архітэктурнага праектавання і малюнка Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта, майго Настаўніка, суседа і чалавека, з якім не адзін год супрацоўнічаў...

Анатоль Кудзіненка нарадзіўся ў сям'і ваеннаслужачага 23 студзеня 1940 года. Бацька хацеў, каб сын стаў вайскоўцам. Але Анатоль з маленства цягнуўся да прыгожага. Любіў жывапіс, малюнак. Марыў стаць мастаком: асабліва ў яго атрымліваліся акварэльныя і гуашавыя работы, малюнкі пяром і алоўкам. І, як кампраміс, – паступленне ў 1957 годзе ў Беларускі палітэхнічны інстытут на архітэктурнае аддзяленне.

Пасля заканчэння інстытута ў 1963 годзе малады спецыяліст быў накіраваны на работу ў Гомель, у праектны інстытут архітэктарам. У 1966 годзе паступіў у аспірантуру Беларускага палітэхнічнага інстытута на кафедру архітэктуры, якой загадваў слынны навуковец – прафесар А. П. Воінаў. Пасля заканчэння аспірантуры працаваў у праектным інстытуце "Брэстграмадзянпраект". У 1972 годзе Анатоль Кудзіненка атрымаў вучоную ступень кандыдата архітэктуры і ўзначаліў кафедру ў Брэсцкім інжынерна-будаўнічым інстытуце.

Анатоль Дзмітрыевіч энэргічна "ўварваўся" ў архітэктуру, таленавіта сумяшчаючы праектаванне і ўдасканаленне вучэбнага працэсу на кафедры, якой бесперапынна кіраваў да развальных часоў Саюза (пасля невялікага перапынку ўзначальваў яе зноў).

У найбольшай ступені талент Анатоля Кудзіненкі раскрыўся ў педагагічнай працы. Ім былі падрыхтаваны і прачытаны курсы лекцый па савецкай, беларускай і замежнай архітэктуры, асновах тэорыі архітэктурнага праектавання, тыпалогіі будынкаў, ахове помнікаў гісторыі і культуры. Толькі за 1986-1996 гады яго студэнты ўдзельнічалі ў шматлікіх Усесаюзных аглядах-конкурсах дыпломных работ, атрымліваючы прэстыжныя прэміі (К. Калодзіч, М.Турлюк, Б. Школьнікаў, Б.Тумашчык, М. Пушкоў і інш.). Працы шматлікіх яго вучняў былі высока ацэнены як у нашай рэспубліцы, так і за яе межамі. Выхаванцы Анатоля Дзмітрыевіча сталі вядомымі архітэктарамі – Віктар Арсеньеў (вядучы архітэктар Санкт-Пецярбурга), Аляксандр Асадаў (вядомы маскоўскі архітэктар), Барыс Лядэнка (галоўны архітэктар Смаленска). У Кудзіненкі вучыліся вядомыя брастаўчане: Валерый Кескевіч, Алег Ляшук, Валянцін Гапіенка, Аляксей Андраюк.

Анатоль Дзмітрыевіч Кудзіненка сам быў удзельнікам шматлікіх архітэктурных конкурсаў, навуковых канферэнцый і семінараў. Ён пабываў у Фінляндыі, Бельгіі, Германіі, Польшчы, Чэхаславакіі, Францыі, Ліване, Сірыі. З кожнай творчай камандзіроўкі прывозіў вялікую колькасць архітэктурных замалёвак, акварэлей, фотаздымкаў. Гэта дапамагала Анатолю Дзмітрыевічу ў праектнай і выкладчыцкай працы.

Прафесар, акадэмік Акадэміі архітэктуры Рэспублікі Беларусь, ён пастаянна знаходзіўся ў пошуку новых ідэй і канцэпцый. Працуючы педагогам, Анатоль Дзмітрыевіч не пакідаў і праектныя работы. У свой час ён стварыў студэнцкае праектнае бюро. Ім самім былі рас-

працаваны жылы мікрараён па вуліцы Набярэжнай у Брэсце, Паўночны жылы раён у Пінску, пасёлак Мухавец у Брэсцкім раёне, храм у вёсцы Дастоева Пінскага раёна, стадыён і банк у Шклове, генеральныя планы гарадоў Калінкавічы, Драгічын, праект дэтальнай планіроўкі цэнтра Кобрына, праект рэканструкцыі бульвара Шаўчэнкі ў Брэсце, жылыя дамы ў Брэсце, індывідуальныя праекты фермерскіх гаспадарак і многае іншае.

Вялікая працаздольнасць, аптымізм, тонкае разуменне прыгожага, дэмакратычнасць у адносінах характарызавалі Анатоля Кудзінеку як архітэктара, педагога і чалавека, які да апошняга дня служыў сваёй Музе. Я памятаю, як хацелася студэнтам-дыпломнікам (у тым ліку і мне) мець кіраўніком дыпломнага праекта Анатоля Дзмітрыевіча Кудзіненку.

За гады педагагічнай працы Анатолем Дзмітрыевічам былі падрыхтаваны і выдадзены шматлікія вучэбныя дапаможнікі для студэнтаў-архітэктараў: "Планіроўка і забудова сельскіх населеных пунктаў", "Раённая планіроўка, рэгіянальнае рассяленне" (у сааўтарстве з І. Д. Белагорцавым), "Фермерская гаспадарка", "Ваша сядзіба", "Тыпалогія сельскагаспадарчага прадпрыемства" і іншыя.

4 лістапада 1999 года Анатоль Дзмітрыевіч Кудзіненка быў абраны членам-карэспандэнтам Беларускай акадэміі архітэктуры. У яго наперадзе было яшчэ шмат цікавых архітэктурных праектаў, творчых задумак. Па натуры жыццялюб і весялун, ён не паспеў цалкам рэалізаваць свой творчы патэнцыял у архітэктуры, у выкладчыцкай рабоце, жывапісе, якому заставаўся да апошняга адданым.

Вядомы брэсцкі архітэктар Аляксей Андраюк, адзін з самых паспяховых студэнтаў-вучняў Анатоля Дзмітрыевіча, адзначыў у свой час:

"У архітэктурным асяродку Беларусі ўстаялася паняцце "Брэсцкая архітэктурная школа". Выхадцы з Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута (цяпер дзяржаўны тэхнічны ўніверсітэт) "захапілі" архітэктурны рынак і займаюць у ім ключавыя пазіцыі.

Анатоль Дзмітрыевіч Кудзіненка быў галоўнай асобай у архітэктурным адукацыйным працэсе ў Брэсце. Маючы найлепшыя чалавечыя якасці, ён 25 гадоў узначальваў кафедру архітэкітурнага праектавання і малюнка. І ў яго атрымалася стварыць унікальную архітэктурную школу".

Пра школу Анатоля Кудзіненкі афіцыйна не гаварылі, але такое разуменне існавала, бо яго выхаванцаў пазнавалі на міжвузаўскіх канферэнцыях, у архітэктурных майстэрнях на тэрыторыі былога Саюза па асаблівых адносінах да самой архітэктуры... Анатоль Дзмітрыевіч усімі магчымымі сродкамі падтрымліваў на архітэктурным факультэце свабоду мыслення. Ён быў перакананы, што незалежнасць поглядаў архітэктара – аснова яго поспеху.

Аўтарытэт Анатоля Кудзіненкі быў безумоўным. Чалавечы і прафесійны. Студэнты цёпла называлі яго паміж сабою "Кудя". Так ён распісваўся на курсавых праектах і ў залікових кніжках.

Пры ўсёй лёгкасці характару Анатоль Кудзіненка мог быць і незвычайна прынцыповым і настойлівым. У савецкія часы публікаваў шмат крытычных матэрыялаў на праблемныя тэмы. Ён заўжды меў свой асабісты прафесійны погляд на жыццё, тым больш, калі гэта мела дачыненне да будаўніцтва і архітэктуры... Ён бачыў архітэктуру толькі так, як гэта мог бачыць толькі ён.

Мы будзем заўсёды памятаць Анатоля Дзмітрыевіча Кудзіненку, Настаўніка і Архітэктара, Чалавека, які заўжды з аптымізмам глядзеў у будучыню.



*Стадыён у Шклове (Магілёўская вобласць). Архітэктар А. Кудзіненка*




*На кафедры архітэктурнага праектавання і малюнка.*
*Л. Валасюк, С. Фамянкова, А. Кудзіненка.*



*На юбілейнай выставе архітэктара А. Андраюка*



*Царква ў в. Дастоева Іванаўскага раёна.*
*Архітэктары А. Кудзіненка, У. Кулін*



*Л. Шыраева, А. Кудзіненка*

# МАСТАК АД АРХІТЭКТУРЫ – НАШ КУРАТАР ЯЎГЕН ДАЎГАЙЛА



У верасні 1976 года Яўген Максімавіч упершыню сустрэўся з нашай групай А-32-1 у аўдыторыі па архітэктурным праектаванні на трэцім паверсе галоўнага корпуса інстытута. Адбылося знаёмства, цёплая размова... Да мяне, старасты групы і курса, Яўген Максімавіч, памятаю, звярнуўся са словамі: "Стараста павінен быць двужыльным, бо акрамя вучобы ёсць яшчэ і грамадская нагрузка..." На той час здароўя ў мяне было дастаткова, таму я не сумняваўся ў тым, што змагу несці гэты крыж.

Застаючыся, як кажуць, "у актыве" ўсе пяць гадоў вучобы, я ніколі не забываў словы Яўгена Максімавіча, робячы заўжды даручаную працу сам, не перакладаючы яе на чужыя плечы. Бывала, што даводзілася дапамагаць таварышам па групе і некага выручаць, за некага заступацца. Каб толькі на карысць агульнай справе.

Асабліва запомнілася праца ў будаўнічым атрадзе ў вёсцы Стрыгава Кобрынскага раёна (непадалёк ад маіх родных Песцянькаў). Яўген Максімавіч быў камандзірам, а я – камісарам. Будавалі Дом культуры і кацельную, а таксама рабілі невялікую прыбудову да мясцовай школы. Непаўторны быў час: па выхадных хадзілі у лазню з песнямі, слухалі анекдоты (заўсёды прыстойныя, хоць кампанія была мужчынская) нашага куратара, якіх ён ведаў вялікую колькасць, знаёміліся з мясцовымі дзяўчатамі... Яўген Максімавіч як мог паляпшаў наш быт, дапамагаў парадамі і асабістым прыкладам.

Наш куратар заўжды быў душою кампаніі. Ён пазнаёміў мяне ў час вучобы са сваімі сябрамі, якія працавалі ў розных галінах культуры на прадпрыемствах і ўстановах горада. Асабліва карыснымі былі знаёмствы з мастакамі і архітэктарамі "па профілю". Я адкрываў для сябе жыццё ў розных яго праявах праз сустрэчы з творчымі людзьмі, сяброўскія гутаркі, спрэчкі і дыскусіі. І побач вельмі часта быў наш куратар – Яўген Максімавіч Даўгайла...

Плённым было наша супрацоўніцтва і ў Жабінцы, на цукровым заводзе і на іншых аб'ектах. Як старэйшы таварыш, былы куратар шмат чаму мяне навучыў. Да ўсяго атрымалася так, што мы доўгі час жылі паблізу на Граеўцы. Яўген Максімавіч не раз бываў у нас дома, добра быў знаёмы з маімі бацькамі, якія высока цанілі яго агульную культуру, дасведчанасць і душэўнасць. Маёй маці такія людзі былі асабліва даспадобы, бо адчувала, што яны дурному не навучаць...

Але прыйшлі перабудовачныя часы, у нашым інстытуце скасавалі архітэктурны факультэт, дзе Яўген Максімавіч працаваў старшым выкладчыкам, і мой старэйшы сябар разам з сям'ёю вярнуўся ў свой родны Мінск, пайшоў працаваць выкладчыкам у школу выяўленчага мастацтва. Некалькі разоў я яшчэ сустракаў яго, калі былы куратар прыязджаў у Брэст па розных справах, пакуль не даведаўся, што ён пайшоў з жыцця, маладым, у 45 гадоў...

"Мастак ад архітэктуры," – так сказаў пра нашага настаўніка і старэйшага сябра вядомы ў рэспубліцы і за яе межамі архітэктар Аляксей Андраюк, мой аднагрупнік. І з ім нельга не пагадзіцца...



*Я. Даўгайла і А. Кудзіненка на занятках. 1980 год.*



*Я. Даўгайла на персанальнай выставе студэнта групы А-32  Л. Валасюка. 1977 год*



*Я. Даўгайла са студэнтамі групы А-32 на сельскагаспадарчых работах. 1979 год*

# ДАЦЭНТ КУЛІН



Пазнаёміўся з гэтым паважаным чалавекам нечакана: ідучы з мастаком Канстанцінам Калодзічам да тэлестудыі, ля кафэ “Маладзёжнае”, што месцілася на рагу вуліц Савецкай і Будзёнага, мы сустрэлі калегу Юрася Петручука. З ім быў побач сярэдняга росту, сівагаловы мужчына, які назваўся крыху для мяне нечакана – “дацэнт Кулін”... Пазней Кастусь Калодзіч крыху расказаў мне пра архітэктара-педагога Уладзіміра Іванавіча Куліна, які на той час працаваў у рэкламным камбінаце мастаком-дызайнерам.

Ужо крыху пазней я сустрэў Уладзіміра Іванавіча ў памяшканні АНМЦК Упраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама па вуліцы Савецкай. Ён мне паведаміў, што будзе тут працаваць. Так нечакана Уладзімір Іванавіч стаў маім непасрэдным начальнікам пасля некаторай штатнай рэарганізацыі, што адбылася перад гэтым... Сумесна займаліся з ім самадзейнымі мастакамі, народнымі ўмельцамі, нагляднай агітацыяй...

Творчы шлях Уладзіміра Куліна пачынаўся ў далёкія 50-я гады ў Мінску, дзе ён, будучы студэнтам 5-га курса Беларускага політэхнічнага ўніверсітэта, распрацаваў пад кіраўніцтвам прафесара А. П. Воінава праект абліцоўкі фасаду тыпавой школы плітамі і дэталямі з дэкаратыўнага бетону ў працэсе цаглянай кладкі. Праект быў рэалізаваны (школа на 880 вучняў пабудавана ў Мінску побач з Вялікім тэатрам). На той час у Беларусі гэта быў першы вопыт аздаблення фасадаў каменных будынкаў. За гэту работу У. І. Кулін быў узнагароджаны Ганаровай граматай Міністэрства вышэйшай адукацыі СССР (1951г.).

Да свайго дыпломнага праекту У. І. Кулін выбраў рэальны аб’ект – “Тэатр юнага гледача”, які ўзводзіўся на месцы разбуранага даваеннага Палаца піянераў.

Уладзімір Іванавіч атрымаў дыплом з адзнакай і быў пакінуты ў аспірантуры пры кафедры архітэктуры. На той час ён быў тут першым аспірантам і, можна сказаць, знаходзіўся сярод тых, хто стаяў ля вытокаў архітэктурнай адукацыі ў Беларусі.

З 1957 года У. І. Кулін, атрымаўшы званне дацэнта, чытаў лекцыі па архітэктуры грамадскіх і прамысловых пабудоў, па архітэктурных канструкцыях, кіраваў курсавым і дыпломнам праектаваннем.

А ў хуткім часе быў назначаны намеснікам дэкана будаўнічага факультэта. У той час у будаўніцтве і архітэктуры распрацоўвалася праблема індустрыяльнага зборнага домабудавання. Асабліва востра стаяла пытанне жылога будаўніцтва з шырокім выкарыстаннем аб’ёмных завадскіх элементаў.

Уладзімір Кулін шмат працаваў у гэтым напрамку: чытаў лекцыі студэнтам, інжынерам і будаўнікам пра развіццё буйнапанэльнага домабудавання ў СССР і за мяжой, сумесна з А. П. Воінавым удзельнічаў у распрацоўцы праектаў жылых дамоў з буйных па аб’ёме элементаў.

У 1966 годзе Уладзімір Іванавіч Кулін па запрашэнні першага рэктара прафесара Ігара Дзмітрыевіча Белагорцава паехаў працаваць у Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут, стаў загадчыкам кафедры архітэктурнага праектавання. Затым была праца ў праектным інстытуце “Белкамунпраект”, Брэсцкім педагагічным інстытуце – загадчыкам кафедры эстэтыкі, дзе ён выкладаў сусветную гісторыю выяўленчага мастацтва, малюнак, жывапіс, тэорыю перспектывы. Акрамя таго, Уладзімір Іванавіч актыўна займаўся творчасцю – пісаў партрэты, пейзажы, нацюрморты.

Уладзімір Іванавіч валодае незвычайным дарам малюнка. Выявы фрагментаў будынкаў, аксанаметрычныя або перспектыўныя выявы Цудаў свету, якімі ён суправаджаў чытанне лекцый, здзіўлялі студэнтаў і слухачоў. Яго вучні казалі:

”Гэтыя “звонкія” лініі Уладзіміра Іванавіча”.

Напачатку 1990-х гадоў У. І. Кулін сумесна з архітэктарам А. Д. Кудзіненка распрацаваў праект Свята-Троіцкага храма ў сяле Дастоева і вёў аўтарскі нагляд за яго будаўніцтвам.

Уладзімір Іванавіч, думкамі вяртаючыся ў мінулае, з вялікай цеплынёй успамінае сваіх настаўнікаў і калег. Сярод іх народныя архітэктары СССР Г. У. Заборскі, В. А. Кароль; заслужаны архітэктар БССР В. М. Волчак, І. К. Елісеяў, М. М. Макляцова, У. А. Аладаў, В. І. Гусеў; маскоўскі прафесар М. П. Паруснікаў; выдатныя дойліды Л. Н. Рымінскі, Н. І. Шпігельман, І. І. Боўт, Л.Д . Усава, Ю. В. Шпіт і іншыя.

Больш за 50 гадоў працуе ён выкладчыкам, у яго больш за 80 апублікаваных навуковых прац, архітэктурна-канструктарскіх і жывапісных работ.

Уладзімір Іванавіч да цяперашняга часу лічыцца прафесарам кафедры архітэктурнага праектавання і малюнка Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта, з'яўляецца членам Саюза архітэктараў і дарадцам Беларускай акадэміі архітэктуры.



*У. Кулін у сваім пакоі інтэрната БрДТУ. 2012 год.*



*У. Кулін і Л. Валасюк са студэнтамі-дыпломнікамі. 1983 год.*

# АРХІТЭКТАР-ФІЛОСАФ



Аляксей Андраюк – вядомы беларускі архітэктар. Здаецца, яшчэ не так даўно мы вучыліся з ім у адной групе  на архітэктурным факультэце Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута. Пяць гадоў сумеснай вучобы, паездкі на практыку ў Рыгу, Маскву, Оршу, Смаленск, сумесная праца над курсавым архітэктурным праектам – усё гэта ўжо стала далёкай гісторыяй. Час несупынна рухаецца наперад, пакідаючы за нашымі спінамі запамінальныя росчыркі.

Вось і надышоў для майго таварыша па вучобе час першага значнага юбілею, калі ён вырашыў паказаць плён сваёй шматгадовай архітэктурнай працы...

У чацвер 30 ліпеня 2009 года ў выставачнай зале ДУК “Абласны грамадска-культурны цэнтр” адбылася значная падзея ў жыцці берасцейскіх архітэктараў: адкрыццём творчай выставы адзначыў свой  50-гадовы юбілей вядомы берасцейскі архітэктар Аляксей Анатольевіч Андраюк, які, дарэчы, з’яўляецца архітэктарам кампазіцыі (скульптар Аляксей Паўлючук), прысвечанай 1000-годдзю Бярэсця.

Такое мерапрыемства – першае ў архітэктурным жыцці абласнога цэнтра. На юбілейнай выставе былі паказаны шматлікія праекты жылых, грамадскіх пабудоў; праекты будынкаў сакральнага прызначэння; творчыя конкурсныя праекты – вынік таго, што зроблена Аляксеем Анатольевічам  амаль за 30 гадоў  працы...

Выставу адкрыў мастак Міхаіл Канькоў, які адзначыў значымасць асобы архітэктара Аляксея Андраюка, яго прац. З віншавальнымі словамі выступіў мэр  Брэста Аляксандр Палышанкоў, які ўручыў юбіляру Ганаровую грамату гарвыканкама і выказаў яму вялікую падзяку за ўклад у праектаванне будынкаў, якія ўпрыгожваюць Брэст, ствараюць спрыяльны асяродак для пражывання ў ім, працы і адпачынку.  Ён адзначыў, што Аляксей Анатольевіч – таленавіты планіроўшчык, які фарміруе твар абласнога цэнтра...

Былы загадчык кафедры архітэктурнага праектавання БрДТУ Анатоль Кудзіненка таксама далучыўся да віншаванняў, прыгадаўшы дыпломны праект Аляксея Андраюка па рэканструкцыі цэнтральнай часткі  горада Смаленска. Дадаў, што той праект на цяперашні час можна было б ажыццяўляць, што горад чакае акурат такога праекта... Падкрэсліў, што ўжо са студэнцкіх гадоў Аляксей вызначыўся як архітэктар-філосаф, гэта і зараз вельмі бачна ў яго шматлікіх праектах і пабудовах. Аляксей  Анатольевіч сёння мае сваіх вучняў, з’яўляецца выдатным педагогам, які перадае назапашаныя веды і вопыт будучым архітэктарам.

Графік Леў Алімаў адзначыў вялікую працаздольнасць архітэктара, заўважыў,  што бачыць, як дапазна свецяцца вокны ў майстэрні Аляксея Андраюка, бо сам часам працуе да поўначы.

Юбіляр шчыра падзякаваў шматлікім брастаўчанам, калегам за віншаванні, за тое, што далучыліся да яго свята, і заклікаў прысутных дойлідаў прадоўжыць распачатую традыцыю рыхтаваць творчыя справаздачы для гараджан і гасцей Брэста... Архітэктар адзначыў таксама, што  юбілей – гэта яшчэ не канчатковы вынік яго творчай працы, а толькі прыступка для далейшай, да ўдасканалення напрацаванага.






*Вытворчая база* “КОМПО“. *Брэст. Арх. А. Андраюк*



*Малітоўны дом у г. Калодзішчы Мінскай вобл. Арх. А. Андраюк*



*Герб г. Пружаны. Арх. А. Андраюк*

# УНІВЕРСАЛЬНЫ СВЕТ ВАШЫХ ЖАДАННЯЎ



Чалавек марыў стаць журналістам. У думках бачыў сябе майстрам пяра, выдатна вучыўся, скончыў школу з залатым медалём, але па жыцці склалася так, што атрымаў дыплом тэхнічнага інстытута. Толькі юначая любоў да літаратуры і мастацтва нікуды не знікла. Урэшце здарылася так, што стаў Віктар Іванавіч дырэктарам брэсцкага ЦУМа, у апошні час – дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь 5-га склікання. А чаго дасягнуў, што зрабіў для людзей да таго, як ехаць у сталіцу на адказную працу?!. Выведзены на рэспубліканскі ўзровень цэнтральны ўнівермаг, пабудаваны рынак на прылеглай тэрыторыі, адкрыты два філіялы ў горадзе, урэшце прыбудаваны да галоўнага будынка трохпавярховы прадуктовы магазін “Цэнтрум”, пасаджаны вялікі сад у багатым на гістарычныя падзеі месцы – Парэччы Пінскага раёна. За ўсім гэтым гады нястомнай працы генеральнага дырэктара брэсцкага цэнтральнага ўнівермага Віктара Іванавіча Валюшыцкага і ўсяго рабочага калектыву гандлёвага прадпрыемства...

У тыя 90-я гады побач з Віктарам Іванавічам плённа папрацавалі яго першы намеснік Сяргей Дзмітрыевіч Сідзько (пасля быў старшынёй праўлення Белспажыўсаюза), намеснік дырэктара Георгій Уладзіміравіч Курыловіч (паспяхова працуе апошнія гады на рынку будматэрыялаў “Будаўнічы рай”), галоўны інжынер Аляксандр Сяргеевіч Хіліманюк (кіруе рынкам “Будаўнічы рай”).

Калі працаваў у ЦУМе мастаком-дызайнерам, для мяне было галоўным адчуць запатрабаванасць. Работы было шмат, і я ніколі яе не цураўся. Адразу ўключыўся ў працу: з калегам Вітарам Сямёнавічам Яцкевічам (мы выканалі праект рэкламнага афармлення 2-га паверха ЦУМа (гандлёвай залы) напярэдадні калегіі Міністэрства гандлю рэспублікі).

Прыемна было працаваць, адчуваючы актыўную падтрымку маладога кіраўніцтва ЦУМа. Атрымаў я і фінансавую дапамогу для выдання сваёй першай кніжкі вершаў “Блікі дня”. У 1999 годзе яна выйшла накладам у 1100 асобнікаў (для цяперашняга часу нямала).

Думка пра мастацкае афармленне двух бакавых уваходаў на 2-гі паверх універмага, якую я выношваў даўно, пачала матэрыялізавацца. Дырэктар Віктар Іванавіч Валюшыцкі пагадзіўся: трэба нешта рабіць, каб шэрыя сцены не ціснулі сваёй будзённасцю. Так паступова і вымалявалася ідэя стварыць вялікія палотны па гісторыі роднага Брэста і Беларусі паводле вядомых архітэктурных помнікаў. Улічваючы тое, што менш чым за два дзясяткі гадоў старажытны Брэст будзе афіцыйна адзначаць сваё 1000-годдзе, у тым жа 2000-м годзе мною былі створаны чатыры палатны (“Дзяцінец старажытнага (XIII ст.) Бярэсця”, “Размяшчэнне храмаў і асноўных пабудоў у Бярэсці на перыяд 1835 года“, “Горад Бярэсце ў XVII стагоддзі “, “Беларусь старажытная“ ).

“Я думаю, што гісторыя – гэта не застылыя прыкметы былых эпох і не чарада нямых каляндарных дат. Гэта – жывая памяць, што адгукаецца ў нас цяперашнімі справамі, учынкамі, здзяйсненнямі. Мы стаім на магутным духоўным падмурку, створаным былымі пакаленнямі, і не павінны жыць без аглядкі, без удумлівага выкарыстання ўсяго таго багацця, што было назапашана нашымі продкамі на працягу стагоддзяў. Таму і ў сябе, у цэнтральным універмазе горада Брэста, мы вырашылі аб’яднаць функцыянальны камерцыйны асяродак з гістарычным фонам, змясціўшы ў нашых інтэр’ерах манументальныя палотны таленавітага мастака Леаніда Валасюка, якія адлюстроўваюць ключавыя этапы ў лёсе нашага горада, краю, краіны. Па водгуках брастаўчан, гэта не толькі прыкметныя творчыя дасягненні, але і сур’ёзная выхаваўчая акцыя, якая нясе ў сабе зарад гісторыі для будучых пакаленняў. Тым больш што мы набліжаемся да значнай даты – 1000-годдзя Брэста. І да яе нам ужо зараз трэба рыхтавацца сур’ёзна, аднаўляючы страчанае, напамінаючы пра мінулае...” – так выказаўся дырэктар ЦУМа Віктар Іванавіч Валюшыцкі пра мастацкія палотны, што з’явіліся тут на пачатку 2000-х гадоў.

Але жыццё працягвалася. І да 990-годдзя горада была завершана экспазіцыя на лесвічных маршах цэнтральнага ўнівермага, якая цяпер налічвае ажно 12  палотнаў па гісторыі Берасцейшчыны і Беларусі ўвогуле. Лічу, што мая праца не была марнай, бо толькі за адзін дзень тут праходзяць тысячы людзей, перад вачыма якіх ажываюць імгненні гісторыі нашага краю.

Не аднойчы з'яўляецца адна і тая ж думка: а калі б дырэктарам быў іншы чалавек, то ці была б магчымасць стварыць такую экспазіцыю для брастаўчан і гасцей горада? Не ўпэўнены, бо вельмі многае залежыць ад асобы кіраўніка. Такой асобай, здольнай клапаціцца не толькі пра аб'ём продажу, але і пра духоўнае, эстэтычнае выхаванне наведвальнікаў, пашырэнне іх гістарычнага досведу, і  з'яўляецца кіраўнік цэнтральнага ўнівермага.

Цяпер Віктар Іванавіч Валюшыцкі працуе ў новым статусе – дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. І я перакананы, што такія ягоныя якасці, як прынцыповасць і паслядоўнасць у поўнай меры праявяцца пры абмеркаванні важных для краіны і народа пытанняў.




*Будынак Брэсцкага ЦУМа*




*Л. Валасюк  "Брэст-Літоўск. 1842 -- Гасціны двор – 1970"*




*Прадуктовы магазін «Цэнтрум». Галоўны ўваход*



*Хол у адміністрацыйным корпусе ЦУМа*




*Л. Валасюк “Горад Бярэсце ў XVII ст.”*




*Л. Валасюк “Дзяцінец старажытнага Бярэсця. XIII ст.”*




*Л. Валасюк “Размяшчэнне храмаў і пабудоў у Берасці на перыяд 1835 года”*

# ВЕЧНЫ ПОКЛІЧ МІХАІЛА РАЗОЎСКАГА



У сярэдзіне 90-х гадоў мінулага стагоддзя завіталі да мяне добрыя сябры Сяргей Сідзько і Георгій Курыловіч набыць жывапісную работу для свайго сябра. Прыпыніліся на фарматнай карціне "Вяртанне да Храма". У мяне было два варыянты карціны, выкананыя алейнымі фарбамі ў розных манерах.

Усё было б як звычайна, калі б мой калега і сябар Аляксей Баруцін не паведаміў, што мая карціна з цэрквамі знаходзіцца ў офісе прыватнага прадпрыемства "Зов". Крыху пазней, калі я працаваў ужо мастаком-дызайнерам у Брэсцкім ЦУМе, мне спатрэбілася сфатаграфаваць карціну, і я звярнуўся да Георгія Курыловіча, які на той час таксама працаваў у ЦУМе, падказаць адрас прадпрымальніка, у якога знаходзілася мая работа. Гэтым чалавекам аказаўся Міхаіл Разоўскі. А ісці мне давялося на вуліцу Інтэрнацыянальную, у будынак, дзе знаходзіўся абласны (ці гарадскі?) Саюз прадпрымальнікаў. Тады і ўбачыў упершыню Міхаіла Рыгоравіча, хаця і не пазнаёміўся з ім як трэба.

Мінаў час, і вось ужо напачатку новага стагоддзя давялося апынуцца на вуліцы Кар'ернай (гэта ў мікрараёне "Кавалёва"), дзе будавалася першая чарга вядомага цяпер рынка "Будаўнічы рай". Тут і працаваў Міхаіл Разоўскі, ствараючы рынак паслуг... І ўжо ў новым памяшканні вісела на сцяне "Вяртанне да Храма". Шчыра прызнаюся, што мне было прыемна не толькі бачыць свой твор, але і супрацоўнічаць з Міхаілам Рыгоравічам, бо чалавек ён адказны, сумленны і словы свае на вецер не кідае...

І вось ужо зараз, калі ягоны ўтульны офіс знаходзіцца на 2-м паверсе асобнага будынка, даволі часта заходжу туды па розных справах, бо да такога чалавека заўжды прыемна завітаць – усяго на некалькі хвілін, каб не адрываць ад працы.



*Л. Валасюк "Вяртанне ў Храм"*



*М. Разоўскі за рабочым сталом у офісе*




*Прадпрыемства “ЗОВ”*
*Гандлёвыя рады па вуліцы Кар’ернай г. Брэста.*

# ДАВЕДКІ

**АБДУСАМАТАЎ Дот Саматавіч.** Нарадзіўся 12.06.1941 года ў пасёлку Шахрынаў (Таджыкістан). Скончыў Душанбінскае мастацкае вучылішча ў 1963 годзе і Ленінградскае вышэйшае мастацка-прамысловае вучылішча імя Веры Мухінай у 1971 годзе. Удзельнік мастацкіх выстаў з 1972 года. Працуе ў галіне мэблева-дэкаратыўных тканін, у станкавым жывапісе і габелене. Асноўныя творы: палотны “Карарскія горы”, “Кісці рук”, “Флора”, “Самсон і Даліла”, “Юзіфь”, “Восеньскі пейзаж”. Творы знаходзяцца ў музеях і галерэях Таджыкістана, Чэхіі і Аўстрыі, прыватных калекцыях іншых замежных краін. Член БСМ з 1979 года. Жыве ў Брэсце.

**АМЯЛЬЧУК Сяргей Іванавіч.** Нарадзіўся 6 сакавіка 1957 года ў вёсцы Рэчыца Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. У 1980 годзе скончыў Маскоўскі авіяцыйны тэхналагічны інстытут і атрымаў адукацыю інжынера-металурга. Працаваў у г.Балашыха Маскоўскай вобласці, у горадзе Барысаве і Белаазёрску. З 1991 года – у Берасці. Працуе на СП ААТ “Брэстгазаапарат” інжынерам. Выдаў зборнікі паэзіі “Дарога, вір і амфара” (1999), “Мая Сінекура” (2012). Адзін з аўтараў калектыўнага зборніка “Маладыя галасы” (1985).

**АНДРАЮК Аляксей Анатольевіч.** Архітэктар. Нарадзіўся 30 ліпеня 1959 года ў Брэсце. Скончыў архітэктурны факультэт Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута ў 1981 годзе. Вучыўся ў Брэсцкай музыкальнай школе (1974). Скончыў спецфакультэт па перападрыхтоўцы кадраў пры Маскоўскім архітэктурным інстытуце (1985).

Працуе галоўным архітэктарам праектаў інстытута ААТ “Брэстпраект”, дырэктарам прыватнага ўнітарнага вытворчага прадпрыемства “СТУДЫА А-3”. З’яўляецца старшынёй Брэсцкай абласной арганізацыі ГА “Беларускі саюз архітэктараў”, акадэмікам Беларускай акадэміі архітэктуры (2001).

Архітэктар Аляксей Андрыюк з’яўляецца лаўрэатам Усесаюзнага конкурсу “Помнік на Паклоннай гары ў Маскве” (1988), уладальнікам гран-пры конкурсу Рэспублікі Беларусь на лепшы праект і пабудову ў 1993 годзе, лаўрэатам прэміі ім. Караля за дэталёвую планіроўку СЭЗ “Брэст” у 1997годзе, лаўрэатам 1-й прэміі, уладальнікам медаля і дыплома ў намінацыі “Шматпавярховыя будынкі для жылля” за забудову жылога квартала па вуліцы Зубачова ў Брэсце і шматлікіх ішных.

Сярод яго прац можна назваць Ваенна-гістарычны музей (1986 – 1989гг.), Дзіцячаую вёску (1990г.) і Малітоўны дом у горадзе Кобрыне (1993 – 2000гг.), помнік 1000-годдзю Бярэсця (2009г.) і шматлікія іншыя. Сярод конкурсных праектаў вылучаюцца Храм 1000-годдзя хрышчэння Русі (1990), Нацыянальны музей Карэі ў Сеуле (1995), Плошча Паўночнай станцыі ў Асака (Японія) – (2003), парк высокіх тэхналогій у Мінску (2008), Помнік Барысу Пастэрнаку ў Маскве(2009) і многія іншыя.

**АЛОНЦАЎ Аляксандр Аляксандравіч.** Нарадзіўся 24 студзеня 1941 года ў Брэсце. Скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута (1973) і Украінскі паліграфічны інстытут імя І. Фёдарава ў Львове (1997). Вучыўся ў Івана Сталярова і Фелікса Гумена. Удзельнік мастацкіх выстаў з 1976 года. Працаваў пераважна ў жанры акварэлі. Асноўныя творы: “У бубны дахаў вецер б’е...”, “Палёўкі”, “Зялёны шум”, “Першыя кроплі”. Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі. Быў заснавальнікам і першым дырэктарам Брэсцкай дзіцячай мастацкай школы. Член Беларускага саюза мастакоў з 1991 года. Удзельнік рэспубліканскіх і міжнародных пленэраў і выстаў. Узнагароджаны медалём Беларускга саюза мастакоў “За заслугі ў выяўленчым мастацтве”. Памёр 19.06. 2013 года. Жыў у Брэсце.

**АЛЯКСАНДРАЎ Мікалай Аляксеевіч.** Журналіст, паэт. Нарадзіўся 4 студзеня 1954 года ў сяле Мегра на Валагодчыне ў Расіі. Вучыўся на журфаку ва Уладзівастоку, затым у маскоўскім Літаратурным інстытуце, які скончыў у 1978 годзе. Працаваў у часопісе “Наш современник”, а з 1980 года – загадчыкам аддзела культуры Брэсцкай абласной газеты “Заря”. У 1990-м годзе стварыў недзяржаўнае выданне “Брестский курьер”, якім кіруе і цяпер. Выдаў кнігі паэ-

зіі “Кварта” (2002г.) і “Далёкий путь в Китеж” (2009г.). Друкаваў творы ў многіх часопісах і альманахах. З 2010 года сябар ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў”.

**АКУЛІН Эдуард Аляксандравіч.** Нарадзіўся 7 студзеня 1963 года ў вёсцы Вялікія Нямкі на Веткаўшчыне Гомельскай вобласці. Скончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт і аспірантуру НАН Беларусі. Працаваў настаўнікам, загадчыкам філіі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча “Беларуская хатка”, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса “Першацвет”, загадчыкам аддзела паэзіі часопіса “Полымя”. Цяпер – галоўны рэдактар часопіса “Верасень”. Аўтар кніг паэзіі “Лес дзённага асвятлення”(1988), “Пяшчота ліўня”(1990), “Крыло анёла”(1995), “Радно”(2000), “Непрычалены човен”(2003), “Вітражы”(2009), “Малітва воч”(2012), “Святая ноч”(2013). Лаўрэат Першага нацыянальнага фестывалю бардаўскай песні ў 1993 годзе. Аўтар трох кампакт-дыскаў – “Напачатку была песня”(2003), “Песні Залатой Крывіі”(2008) і “Не магу жыць без крыл... “ (2012). Жыве ў Мінску.

**АЛІМАЎ Леў Барысавіч**. Нарадзіўся 26 лістапада 1945 года ў Брэсце.У 1970 годзе скончыў Маскоўскае мастацкае вучылішча Памяці 1905 года (цяпер Дзяржаўнае Акадэмічнае). Удзельнік больш за 100 міжнародных конкурсных выстаў графічнага мастацтва ў Беларусі, Бельгіі, Балгарыі, Велікабрытаніі, Германіі, Іспаніі, Нідэрландах, Польшчы, Расіі, ЗША, Украіне, Францыі, Швецыі, Швейцарыі, Японіі, Эстоніі, Літве, Нарвегіі, Бразіліі. Мастак-графік. Асноўныя творы: лісты “Старая яблыня”, “Экслібрыс Міхаіла Мінкевіча”,

**АРАБЕЙКА Іван Сяргеевіч.** Нарадзіўся 26 сакавіка 1942 года ў вёсцы Хмелева Жабінкаўскага раёна. У 1964 годзе закончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працаваў на шклозаводзе “Нёман”, на заводах зборнага жалезабетону, газавай апаратуры ў Брэсце, быў выкладчыкам Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута, інжынерам камбіната па добраўпарадкаванні горада. Выдаў зборнікі паэзіі “Услед за сонцам” (1972г.), “Асенні ранак” (1978 г., “Сказаць хачу” (2012г.). Сябар СБП з 1979 года.

**БАРУЦІН Аляксей Дзмітрыевіч.** Нарадзіўся 10 чэрвеня 1950 года ў горадзе Іванава Маскоўскай вобласці ў сям’і інжынераў. У 1963 годзе бацькі пераехалі на працу ў горад Баранавічы Брэскай вобласці. Пазней, у 1965 годзе, у Брэст. Маці, Раіса Уладзіміраўна, з 1965 па 1968 год была дырэктарам Брэсцкага панчошнага камбіната. Бацька, Дзімітрый Мікалаевіч, працаваў інжынерам-будаўніком на “Брэстсельбудзе” і “Калгаспраекце”, быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. У 1971 годзе будучы мастак паступіў на архітэктурны факультэт Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута, правучыўся два гады. Працаваў мастаком-афарміцелем на розных прадпрыемствах горада. Займаецца жывапісам, графікай, піша абразы.

**БЕЛЫ Аляксей Ільіч.** Нарадзіўся 2 студзеня 1953 года ў вёсцы Міхнавічы Івацэвіцкага раёна. Закончыў Гомельскі палітэхнікум, філфак Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта і аддзяленне журналістыкі Кіеўскага інстытута паліталогіі. Працуе галоўным рэдактарам у ПУП “Інтэкс-Прэс-Рэгіён”. Аўтар паэтычных кніг “Трыццаць другое жніўня” (1995г.), “Нявольнічыя песні” (1997г.), “Каляровыя сны” (1999г.), “Боскі вецер правінцыі” (2002г.), “Кветкі ў стагах” (2010г.). Сябар СБП з 2008 года, сябар Беларускага ПЭН-цэнтру. Жыве ў Баранавічах.

**БУРДЫКА Вячаслаў Віктаравіч.** Нарадзіўся 19 лістапада 1955 года на Мядзельшчыне. У 1972 годзе скончыў сярэднюю школу №17 г.Барысава. Працаваў рабочым паляводчай брыгады ў саўгасе «Стара-Барысаў» Барысаўскага раёна. У 1979 годзе скончыў факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, у 1992-м – Кіеўскі інстытут паліталогіі і сацыяльнага кіравання. Працаваў на розных пасадах у раённых газетах Мінскай і Брэсцкай абласцей, у рэдакцыі брэсцкай абласной газеты «Заря». З 2006 года – адказны сакратар брэсцкай абласной беларускамоўнай газеты «Народная трыбуна». Член Беларускага саюза журналістаў і Саюза пісьменнікаў Беларусі. Аўтар дэтэктыўнага рамана «Яхта смерці», аповесцей і апавяданняў, якія публікаваліся ў абласным і рэспубліканскім перыядычным друку. Жыве ў Брэсце.

**ВАЛЮШЫЦКІ Віктар Іванавіч**. Нарадзіўся 4 лютага 1962 года ў Давыд-Гарадку Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. З 1969 па 1979 гады вучыўся ў Рэчыцкай сярэдняй школе. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працаваў інжынерам у Брэсце на аўтамабільным транспартна-экспедыцыйным камбінаце №1. З 1985 па 1990 год працаваў у камсамоле. Быў першым сакратаром Брэсцкага гаркама камсамола. З 1990 па 1995 год працаваў начальнікам аддзела ў Брэсцкім гарвыканкаме. З красавіка 1995 года з'яўляўся дырэктарам Брэсцкага ЦУМа. Напрыканцы 2012 года быў абраны дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі.

**ВАРОНІН Анатоль Анатольевіч.** Нарадзіўся 25. 03. 1946 года ў горадзе Бійску Алтайскага краю (Расія). Вучыўся ў Алма-Ацінскім мастацкім вучылішчы. Служыў у Савецкай Арміі ў Брэсце (1966-1968гг.). Працаваў на прадпрыемствах горада мастаком-афарміцелем. Удзельнік абласных мастацкіх выстаў.

**ВАШЧУК Нікадзім.** Нарадзіўся 24 ліпеня 1931 года. У 1953 годзе скончыў Мінскае мастацкае вучылішча. Працаваў у галіне станкавага жывапісу, у асноўным у сюжэтна-тэматычнай карціне. З 1953 года ўдзельнічаў у абласных і рэспубліканскіх выставах. Творы знаходзяцца ў абласным краязнаўчым музеі, у Музеі абароны Брэсцкай крэпасці, у Нацыянальным мастацкім музеі, у Пінскім і Кобрынскім краязнаўчых музеях. Жыў у Брэсце. Памёр у 1993 годзе.

**ВАШЭКА Вінцэсь (Вячаслаў Васільевіч).** Нарадзіўся 28 сакавіка 1966 года ў вёсцы Сенькавічы, што на Косаўшчыне Івацэвіцкага раёна. Скончыў у 1983 годзе сярэднюю школу № 3 горада Івацэвічы, вучыўся ў Беларускім політэхнічным інстытуце. Служыў у войску ў Афганістане, працаваў токарам на заводзе. Настаўнічаў і адначасова вучыўся на філалагічным факультэце Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна. Працаваў інспектарам на мытні "Заходні Буг", журналістам газеты "Брестский курьер". Вершы і апавяданні друкаваў у часопісах "Крыніца", "Маладосць", у газетах "Чырвоная змена", "Заря". Быў удзельнікам семінара маладых літаратараў у " Іслачы". Выдаў кнігу вершаў "Лампаднае святло". Апошнія часы жыве ў Івацэвічах.

**ВЯЛЬ Святлана Віктараўна.** Нарадзілася 17 лютага 1958 года. Член саюза народных майстроў з 2004 года. Працуе дырэктарам Дзіцячай мастацкай школы ў Брэсце. Займаецца ручным ткацтвам і выцінанкай.

**ВЯЛЬ Генадзь Ігаравіч**. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Беразаўцы Мінскай вобласці. Скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута ў 1980 годзе. Працуе ў галіне станкавай графікі, экслібрысу. З 1980 года з'яўляецца ўдзельнікам мастацкіх выстаў рознага ўзроўню.Неаднаразова быў лаўрэатам міжнародных выставак-конкурсаў у Польшчы, Бельгіі, Італіі, Югаславіі, Украіне і інш. Творы знаходзяцца ў прыватных калекцыях Беларусі і шэрагу замежных краін. Жыве і працуе ў Брэсце.

**ГАДУЛЬКА Васіль Уладзіміравіч.** Нарадзіўся 17 мая 1946 года ў вёсцы Федзькавічы Жабінкаўскага раёна ў сялянскай сям'і. Вучыўся спачатку ў Рагазнянскай сямігодцы, затым – у сярэдняй школе ў Жабінцы. Вучыўся ў Дзяржаўным педагагічным інстытуце замежных моў, які так і не скончыў. Адслужыў у войску, вярнуўся ў родныя Федзькавічы. Некаторы час працаваў настаўнікам. У 1986 годзе вершы Васіля Гадулькі трапілі да Васіля Сахарчука, які працаваў у раённай газеце. З таго часу творы таленавітага самабытнага паэта пачалі з'яўляцца ў раённым, абласным і рэспубліканскім друку. У 1992 годзе Васіль Гадулька падрыхтаваў рукапіс зборніка вершаў, якому даў назву "Кропелька сонца". У 2004 годзе пабачыў свет яго пасмяротны паэтычны зборнік вершаў "Голас". На світанні 15 чэрвеня 1993 года Васіль Гадулька раптоўна памёр.

**ГАНЧУК Аляксей Іванавіч.** Нарадзіўся ў вёсачцы Навасёлкі, што на Кобрыншчыне. Вучыўся ў Стрыгаўскай сярэдняй школе. Служыў у войску.З часу дэмабілізацыі жыве ў Жабінцы, куды пераехалі бацькі. Працаваў рабочым, фатографам, карэспандэнтам і фотакарэспандэнтам

рэгіянальных газет. Закончыў кінафотафакультэт Маскоўскага завочнага народнага ўніверсітэта мастацтваў. Цяпер працуе ў абласной газеце “Народная трыбуна”. Паэзіяй захапіўся ў школе. Першыя вершы з’явіліся ў дывізійнай газеце пад час вайсковай службы. Друкаваўся ў раённых і абласных газетах, штотыднёвіку “Літаратура і мастацтва”, зборніку “Берасцейскія карані”, альманахах “Дзень паэзіі”, “Жырандоля”. Выдаў зборнік вершаў “Белы ганак” (2010).

**ГАЙДУКОВІЧ Аксана Міхайлаўна.** Нарадзілася 13 ліпеня 1971 года ў Брэсце. Скончыла Мінскае мастацкае вучылішча імя А. Глебава (1990) і беларускую Акадэмію мастацтваў (1997). Працуе ў розных жанрах станкавага жывапісу. З 1991 года ўдзельнічае ў мастацкіх выставах і пленэрах. Член БСМ з 2000 года.

**ГАЎРЫЛЮК Вера Ільінічна.** Нардзілася ў 1904 годзе ў вёсцы Стараселле Беластоцкага ваяводства (цяпер тэрыторыя Польшчы). Пасля Другой сусветнай вайны апынулася ў Брэсце. У 60-я гады мінулага стагоддзя працавала на брэсцкай фабрыцы сувеніраў. У 66 год скончыла Маскоўскі завочны ўніверсітэт мастацтваў імя Н.Крупскай. Пайшла з жыцця ў 1986 годзе.

**ГУРШЧАНКОЎ Мікалай Ігнацьевіч.** Нарадзіўся 6 лютага 1950 года ў вёсцы Гаўлі Гомельской вобласці. Падчас вучобы ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце яго выкладчыкамі былі вядомыя мастакі-графікі Васіль Шаранговіч і Пётр Любамудраў. З 1976 года з’яўляецца ўдзельнікам абласных, рэспубліканскіх і замежных выстаў. Працуе ў розных жанрах станкавай графікі, а таксама ў галіне манументальнага жывапісу, музейных экспазіцый. Асноўныя творы: серыі графічных лістоў ”Па Прыпяці”, “Зіма ў мікрараёне”, “Зона асаблівай увагі”, “Зямля Мазыршчыны”; экспазіцыі Музея прыроды Брэсцкага краязнаўчага музея, Музея гісторыі Брэста, Музея патрыятычнага выхавання ў гімназіі №1 горада Брэста; сграфіта “Бярэсце 17 стагоддзя”; роспісы”Берасцейскі манетны двор”, “Берасцейская друкарня 16 стагоддзя”. Графічныя творы Гуршчанкова знаходзяцца ў фондах Беларускага саюза мастакоў, Гомельскім краязнаўчым музеі, Брэсцкім мастацкім музеі, Заслаўскім гістарычна-культурным запаведніку, Кобрынскім ваенна-гістарычным музеі, карцінных галерэях Буда-Кашалёва на Гомельшчыне, Іванава на Брэстчыне, а таксама ў прыватных калекцыях у Фінляндыі, Германіі, Польшчы, Ізраілі. Член грамадскага аб’яднання “Беларускі саюз мастакоў” з 1988 года. З 1992 года жыве ў Брэсце.

**ГРЫГОР’ЕЎ Аляксандр Аляксандравіч.** Нарадзіўся 19.05.1955 года ў в.Мазуркі Брэсцкай вобласці.Мастацкай адукацыі не мае.Працуе ў галіне станкавай графікі і жывапісу. Удзельнік мастацкіх выстаў з 1993 года. Правёў персанальныя выставы ў Брэсце і Польшчы. Творы знаходзяцца ў прыватных калекцыях. Член БСМ з 1999 года. Жыве ў Брэсце

**ДАЎГАЙЛА Яўген Максімавіч.** Нарадзіўся 1945 года ў Мінску. Скончыў архітэктурны факультэт Мінскага політэхнічнага інстытута. Працаваў у Брэсцкім інжынерна-будаўнічым інстытуце старшым выкладчыкам архітэктурнага праектавання. Пазней пераехаў у Мінск, працаваў у студыі выяўленчага мастацтва. Памёр у 1990 годзе.

**ДАНЭЛІЯ Пётр Аляксеевіч.** Нарадзіўся 23 студзеня 1920 года ў г.Махачкала ў Дагестане, дзе ў 1937 годзе скончыў школу-дзесяцігодку. Вучыўся ў Маскоўскім мастацкім вучылішчы Памяці 1905 года (1938-1939г.г.). З 1939 па 1945 гады служыў у Чырвонай Арміі, удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне. З 1945 года жыў у горадзе Брэсце. У 1947 годзе стаў членам Беларускага саюза мастакоў. З’яўляўся адным з заснавальнікаў Брэсцкай абласной арганізацыі БСМ. Плённа кіраваў мастацкай студыяй пры абласным Доме народнай творчасці ў 1947-1967 гадах. Сярод студыйцаў былі і тыя, што сёння сталі вядомымі беларускімі мастакамі – Мікола Селяшчук, Леў Алімаў, Пётр Свентахоўскі, Уладзімір Новак, Леанід Данэлія. У 1967 годзе Пётр Аляксеевіч быў узнагароджаны медалём “За працоўную доблесць”. З 1961 па 1971 год – галоўны мастак горада Брэста. Быў старшынёй праўлення Брэсцкай абласной арганізацыі Беларускага саюза мастакоў ў 1957-1963, 1971-1977, 1992-1994гадах. З 1946 года з’яўляўся ўдзельнікам шматлікіх рэспубліканскіх і замежных выстаў.Памёр 6 кастрычніка 2012 года.Пахаваны па Паўночных могілках.

**ДАШЫНА Ярына Іванаўна.** Нарадзілася 4 кастрычніка 1978 года ў вёсцы Ставы Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. Атрымала адукацыю філолага і практычнага псіхолага. Вершы друкаваліся ў абласной і рэспубліканскай перыёдыцы, калектыўных зборніках паэзіі. Выдала зборнік паэзіі “Графіці на сэрцы” (2007г.). Працуе ў аддзеле краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага.

**ДОЎБУШ Леанід Андрэевіч.** Нарадзіўся 1 верасня 1935 года ў сяле Папаўцы Капайгарадскога раёна Вінніцкай вобласці на Украіне ў рабочай сям’і Андрэя Рыгоравіча і Елізаветы Захараўны Доўбушаў. Дзяцінства прыпала на суровыя гады Другой сусветнай вайны. Вучыўся ва Усесаюзным завочным народным універсітэце імя Н. К. Крупскай у Маскве (1959 – 1962). З 1957 па 1963 год кіраваў студыяй выяўленчага мастацтва ў Кобрынскім Доме піянераў і школьнікаў. З 1963 года працаваў мастаком-дэкаратарам Брэсцкага абласнога драматычнага тэатра. З 1968 года пачаў удзельнічаць у абласных, рэспубліканскіх і усесаюзных мастацкіх выставах. З 1966 года з’яўляўся членам Беларускага саюза тэатральных дзеячоў, з 1991 – членам Беларускага саюза мастакоў. Жыў у Берасці.

**ДЭБІШ Васіль Іосіфавіч.** Нарадзіўся 22 ліпеня 1962 года ў вёсцы Шамятоўка Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці. У 1979 годзе скончыў сярэднюю школу. Служыў у войску. Закончыў Мінскі інстытут культуры. Жыве і працуе ў Брэсце.
Друкаваўся ў часопісах “Маладосць”, “Беларусь”, “Дзеяслоў”, калектыўных зборніках “Дзень паэзіі”, “Дзядзінец”, “Берасцейскія карані”, тыднёвіку “Літаратура і мастацтва”, іншых выданнях. Член ГА “Саюз Беларускіх пісьменнікаў”. Аўтар зборнікаў вершаў “Белыя птахі”(1993), “Лісты да Марыі” (1996), “Праз дождж” (2012).

**ДЭБІШ Анатоль Іосіфавіч.** Нарадзіўся 22 ліпеня 1962 года ў вёсцы Шамятоўка Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці. У 1979 годзе скончыў сярэднюю школу. Служыў у войску. Закончыў Мінскі інстытут культуры. Жыве і працуе ў Брэсце. Друкаваўся ў часопісах “Маладосць”, “Беларусь”, калектыўных зборніках “Дзень паэзіі”, “Дзядзінец”, “Берасцейскія карані, тыднёвіку “Літаратура і мастацтва”. Член ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў”. Аўтар зборніка вершаў “Белыя птахі” (1993).

**ДРАНЬКО-МАЙСЮК Леанід Васільевіч.** Нарадзіўся 10 кастрычніка 1957 года ў Давыд-Гарадку, што на Гарыні, у сям’і цесляра Васіля і агародніцы Любы. Скончыў давыд-гарадзецкую сярэднюю школу №2 у 1974 годзе. Рабіў на “Хабішчах” – на мясцовым заводзіку слясарна-мантажнага інструменту (1974-1976). Дзякуючы расійскай пісьменніцы Лідзіі Абухавай, паступіў на завочнае аддзяленне маскоўскага Літаратурнага інстытута імя М.Горкага ў паэтычны семінар – спачатку С.Смірнова і У.Мількова, а пазней – Я.Ісаева і У.Мількова (1978). Па вучобе з Масквы прыехаў у Мінск і з ласкі Мікалая Дубянецкага пачаў працаваць у выдавецтве “Мастацкая літаратура”(1982). Са жніўня 2002 года – на вольнай працы. Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў. Аўтар чатырнаццаці выдадзеных кніг. З’яўляецца лаўрэатам прэміі “Залаты апостраф” за нізку апавяданняў, надрукаваных у 2005 годзе ў часопісе “Дзеяслоў”.

**ЖАЛУДКА Анатоль Ігнацьевіч.** Нарадзіўся 4 красавіка 1960 года ў вёсцы Сабалі Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута ў 1982 годзе. Удзельнік мастацкіх выстаў з 1982 года. Працуе ў станкавым жывапісе, акварэлі. Асноўныя творы: “Плач на Палессі”, “Палескія краявіды”, “Старое Бярэсце”. Творы знаходзяцца ў музеях Брэста і замежных прыватных калекцыях. Выкладае ў Брэсцкім дзяржаўным тэхнічным універсітэце. Член БСМ з 1997 года. Жыве ў Брэсце.

**ЖМІНЬКО Кастусь (Канстанцін Фёдаравіч).** Нарадзіўся 17.02.1941, в. Пугачова – з 1979г. у межах Брэста. Скончыў СШ №4 абласнога цэнтра. Працаваў электрамантажнікам, служыў на ваенна-марскім флоце электрыкам-падводнікам. Пасля дэмабілізацыі – мастак гарадскіх кінатэатраў, мытнік, адначасова студэнт філфака Брэсцкага педінстытута. У 1967 годзе накіраваны на працу ў праваахоўныя органы. У званні палкоўніка з пасады начальніка аддзела абласнога Упраўлення ўнутраных спраў у лістападзе 1994 года выйшаў на пенсію. Мае дзяржаўныя

ўзнагароды, яго імя занесена ў “Кнігу Гонару” МУС БССР. Аўтар паэтычных зборнікаў “Між вамі” (1999), “Наканаваны неспакой” (2008), “Час палыноў і ранетаў” (2011), кнігі афарыстычных выслоўяў “Кастусь казаў...” (2008). Сябра СБП. Жыве ў Брэсце.

**ЖЭРАЛО Аляксей Ільіч**. Нарадзіўся 22 верасня 1959 года ў Гомельскай вобласці. У 1985 годзе скончыў Віцебскі тэхналагічны інстытут лёгкай прамысловасці па спецыяльнасці “Мастацкае афармленне і мадэліраванне вырабаў тэкстыльнай і лёгкай прамысловасці”. З 1991 года выкладае жывапіс і кампазіцыю ў Дзіцячай мастацкай школе Брэста. Удзельнік міжнародных, рэспубліканскіх і абласных выстаў з 2000 года.

**ЗАРЭЦКІ Пётр Васільевіч.** Нарадзіўся ў вёсцы Навіцкавічы Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці 6 мая 1935 года. Скончыў Кішынёўскае мастацкае вучылішча ў Малдове ў 1961 годзе, вучыўся ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце (1961-1963г.г. у У. П. Сухаверкава). Удзельнік мастацкіх выстаў з 1966 года. Працаваў у галіне станкавага і манументальна-дэкаратыўнага жывапісу, у дэкаратыўна-ўжывовым мастацтве, плакаце і графіцы. Асноўныя творы: “Дываноўшчыцы”, “Лета-вадапой”, “Агарод. Капуста”, “Ішоў атрад па беразе...”, “Партрэт беларуса”, “Партрэт капітана І. М. Зубачова”; пано (маркетры): “Купалле”, “Белавежская пушча”, “Палессе”, “Францыск Скарына” і іншыя. Творы знаходзяцца ў музеях Мінска, Брэста, Пінска і ў замежных прыватных калекцыях. Узнагароджаны медалём БСМ “За заслугі ў выяўленчым мастацтве”. Член ГА “Беларускі саюз мастакоў” з 1994 года. Памёр 18.04.2013г. Жыў у Брэсце.

**ЗАЙКА Алесь Фаміч.** Нарадзіўся 12 жніўня 1948 года ў вёсцы Заполле Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. У 1966 годзе скончыў Косаўскую сярэднюю школу, у 1971 годзе – філалагічны факультэт Брэсцкага педагагічнага інстытута. Пасля службы ў Савецкай Арміі вярнуўся ў родную вёску, працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры. Зараз загадвае школьным этнаграфічным музеем. Аўтар кніх “Дым з коміна” (проза, 2011г.), “Дыялектны слоўнік Косаўшчыны (2011г.), “Населеныя пункты Івацэвіччыны” (2012г.).

**ЛЫСЕНКА Пётр Фёдаравіч.** Нарадзіўся 16 верасня 1931 года. Галоўны навуковы супрацоўнік аддзела археалогіі сярэднявечнага перыяду Інстытута гісторыі НАН Беларусі, доктар гістарычных навук, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Жыве ў Мінску.

**КАЛЕСНІК Уладзімір Андрэевіч.** Нарадзіўся 17 верасня 1922 года на Гродзеншчыне. У час Вялікай Айчыннай вайны быў падпольшчыкам і партызанам, узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны першай ступені. Пасля вайны скончыў Мінскі педагагічны інстытут і аспірантуру. З 1956 года працаваў у Брэсцкім педагагічным інстытуце імя А. С. Пушкіна. Прафесар, кандыдат філалагічных навук. Надрукаваў шэраг навуковых прац і падручнікаў, адзін з аўтараў “Гісторыі беларускай савецкай літаратуры” і двухтомнага даследавання “История белорусской дооктябрьской литературы». За гэтую працу ўзнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй Беларускай ССР імя Якуба Коласа. У. А. Калеснік – аўтар літаратурных твораў: “Аповесць пра Таўлая”, “Пасланец Праметэя”, “Я з вогненнай вёскі” (у сааўтарстве з А. Адамовічам, Я. Брылём). Памёр У. А. Калеснік 15 снежня 1994 года. На доме, дзе жыў навуковец, адкрыта мемарыяльная дошка. У мікрараёне “Паўднёвы Захад” у Брэсце яго імем названа вуліца. Берасцейскае аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў заснавала прэмію імя Калесніка. У Брэсцкім дзяржаўным універсітэце ёсць стыпендыя імя У. А. Калесніка.

**КОЖУХ Уладзімір Уладзіміравіч.** Нарадзіўся 7 сакавіка 1953 года ў горадзе Драгічыне Брэсцкай вобласці. Скончыў мінскае мастацкае вучылішча ў 1973 годзе, Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут у 1978 годзе, творчыя майстэрні АМ СССР у Мінску ў 1983 годзе. Вучыўся ў А. Малішэўскага, Ю. Выхадцава, В. Аракчэева, П. Крохалева, М. Савіцкага. Удзельнік мастацкіх выстаў з 1980 года. Працуе ў станкавым жывапісе. Асноўныя творы: “Вытокі”, “Снеданне на траве”, “Цудоўны ўлоў”, “Абуджэнне”, “Сустрэча вясны”, “Настальгія”, “Светлыя дні восені”, “Мастак і флора”, “Сон”, “Раманс”. Творы знаходзяцца ў Нацыя-

нальным мастацкім музеі Беларусі, фондах БСМ, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску. Лаўрэат прэміі прафсаюзаў Беларусі (1992г.). Член БСМ з 1985 года. Жыве ў Мінску.

**КАВАЛЬЧУК Валерый Яўгенавіч.** Нарадзіўся 18 студзеня 1961 года ў Брэсце. Скончыў Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве (1979), Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут (1984). Вучыўся ў Гаўрыла Вашчанкі і Уладзіміра Стэльмашонка. З 1982 года – удзельнік абласных, рэспубліканскіх і замежных выстаў. Працуе ў манументальна-дэкаратыўным мастацтве (сграфіта, энкаўстыка, фрэска, мазаіка), у станкавым жывапісе ў жанрах карціны, партрэта, пейзажа. Творы знаходзяцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі, у Музеі гісторыі горада, у прыватных калекцыях Чэхіі, Германіі, Польшчы. Дацэнт кафедры архітэктурнага праектавання і малюнка Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта (1995). Член БСМ з 1991 года. Жыве ў Брэсце.

**КАЛОДЗІЧ Канстанцін Канстанцінавіч.** Нарадзіўся 12.04.1953 года ў Пінску. Скончыў архітэктурны факультэт Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута ў 1975 годзе. Вучыўся ў М. Чурабы, М. Бялова, М. Пракаповіча. Удзельнік мастацкіх выставак з 1977 года. Працуе пераважна ў тэхніцы пастэлі. Асноўныя творы: кампазіцыі “Ноч. Вясна”, “Калядныя маразы”, “Успаміны пра Гагена”, “Сланечнік”, “Рэквіем”, “Бягоніі”, “Моцарт. 38 сімфонія”, “Бах. Арганная меса”, “Рабіна”, “Рыба”; трыпціх “Чорнае сонца Восіпа Мандэльштама”. Выкладаў у Брэсцкім політэхнічным інстытуце. Член БСМ з 1995 года. Жыве ў Брэсце.

**КАЗАК Сяргей Іванавіч.** Нарадзіўся 10 студзеня 1953 года ў вёсцы Равяцічы Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. У 1975 годзе скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута. Працуе ў станкавым жывапісе і графіцы ў жанрах карціны, пейзажа, нацюрморта, партрэта. З 1973 года з’яўляецца ўдзельнікам абласных, рэспубліканскіх і міжнародных выстаў і пленэраў. З 1987 года быў членам ГА “Беларускі саюз мастакоў”. Жыве ў Брэсце.

**КЕБЕЦ Міхась.** ( 22.01.1949г. – 21.10.2005г. ) Нарадзіўся ў г.Петрыкаве Гомельскай вобласці. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча (1977г.). Удзельнік мастацкіх выстаў з 1986 года. Працаваў пераважна ў акварэлі. Асноўныя творы: лісты “Лясная дарога”, “Май”, “Разліў на Мухаўцы”, “Дарогі”, “Летні дзень”, “Апошні снег”, “Рака Лясная”, “Возера Меднае”, “Камянец”; серыі “Па Палессі”, “Берасцейшчына”; партрэты А. Кожына, А.Уса, “Аўтапартрэт”, а таксама пано (маркетры) “Музыка архітэктуры” ў Брэсцкай абласной бібліятэцы імя М. Горкага. Творы знаходзяцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі, у прыватных калекцыях шэрагу краін свету. Жыў у Брэсце.

**КРУПСКІ Іосіф Рыгоравіч**. Нарадзіўся 11.10.1934 года ў вёсцы Куплін Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча ў 1960 годзе і Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут у 1968 годзе. Працуе ў станкавым жывапісе (нейзаж, партрэт) і ў манументальна-дэкаратыўным мастацтве (мазаіка, сграфіта, фрэска). З 1968 года ўдзельнік мастацкіх выстаў і пленэраў. Творы знаходзяцца ў музеях і галерэях Мінска, Брэста, Баранавіч, Пружан, у прыватных калекцыях Беларусі і Польшчы. Член БСМ з 1978 года. Жыве ў Брэсце.

**КРУСЬ Іван Аляксеевіч.** Нарадзіўся 17 лютага 1948 года ў вёсцы Легаты Кобрынскага раёна. Скончыў Стрыгаўскую сярэднюю школу, Мінскае мастацкае вучылішча. Працаваў мастаком-дэкаратарам у лялечным тэатры Брэста, у рэкламных прадпрыемствах горада. Як мастак працуе ў тэхніцы пастэлі. Жыве ў Брэсце.

**КРЭЙДЗІЧ Анатоль Іванавіч**. Нарадзіўся 27 чэрвеня 1965 года ў вёсцы Заверша Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці. У 1979 годзе разам з маці пераехаў у вёску Рудск Іванаўскага раёна. Скончыў у 1992 годзе факультэт журналістыкі БДУ. Працу ў іванаўскай раённай газеце “Чырвоная звязда” сумяшчаў у першай палове 1990-х з працаю ў часопісе маладых літаратараў Беларусі “Першацвет”. З 1996 года працаваў уласным карэспандэнтам рэспубліканскай ма-

ладзёжнай газеты “Чырвоная змена” па Брэсцкай вобласці і аглядальнікам брэсцкай абласной газеты “Заря”. З верасня 2008 года – галоўны рэдактар іванаўскай раённай газеты “Чырвоная звязда”. З’яўляецца старшынёй Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Аўтар зборнікаў “Палескі Напалеон”, “Параненыя мары”, “Права на ўсмешку”, “Роднае, шчымлівае”, “Кніга прозы” (сумесна з А.Глушаковым), дакументальнай аповесці “Анатоль Клімец. Жыццё і лёс”. Жыве ў г. Іванава Брэсцкай вобласці.

**КУФКО Эдуард Станіслававіч.** Нарадзіўся 4 сакавіка 1921 года у сяле Славоціна Цвярской вобласці ў Расіі ў сям’і чыгуначніка. Скончыў Абазерскі лесатэхнічны тэхнікум (1939г.), вучыўся ў Яраслаўскім мастацкім вучылішчы (1938-39гг.), педагог С. Пісахаў. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Удзельнік мастацкіх выстаў з 1956 года. Працаваў у станкавым жывапісе ў жанры карціны, партрэта, пейзажа, нацюрморта. Асноўныя творы: палотны “Непакораныя”, “Вызваленне”, трыпціх “Антыфашысты”, “”Праклён фашызму”, “Уцёкі”, “Асвенцым”, “Памяці вязняў Ламсдорфа”, “Іван Дзянісавіч”, “У памяці маёй”; партрэты Ф. Дастаеўскага, У. Калесніка, В. Ласковіча, М. Хлебнікава, “Маці партызана”; лірычныя пейзажы Брэстчыны. Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, фондах БСМ, Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі. Член БСМ з 1964 года. Памёр 18.10.1998 года ў Брэсце.

**КУФКО Уладзіслаў Эдуардавіч.** Нарадзіўся 8 лістапада 1955 года ў Брэсце. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча ў 1974 годзе. Удзельнік мастацкіх выстаў з 1981 года. Працуе ў жывапісе і графіцы. Асноўныя творы: палотны “Сцяна”, “Усмешка”, “49 сноў, “Аракул”, “Рапарт з палігона”, “Госць”, “Вароты ў рай”, трыпціх “Брэсцкая крэпасць”, “Ахвярам фашызму”, “Дзве спіралі”. Творы знаходзяцца ў выставачным аб’яднанні “Цэнтральны дом мастака” ў Маскве, у Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі, Мастацкім музеі Брэста, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, мэрыі г. Равенсбурга, Германія; а таксама ў прыватных калекцыях краін СНД, Еўропы, Амерыкі, Японіі. Узнагароджаны сярэбраным медалём ВДНГ СССР (1987), прэміяй на IV Біенале Малых Жывапісных Формаў (г.Торунь, 2001), медалём “За заслугі ў выяўленчым мастацтве” БСМ ( 2005). Член БСМ з 1987 года. Жыве ў Брэсце.

**КІРДЗЕЙ Рыгор Іванавіч**. Нарадзіўся 10 сакавіка 1938 года ў г.п. Чырвоная Слабада Мінскай вобласці. Скончыў Алма-Ацінскае мстацкае вучылішча імя М.Гогаля ў 1965 годзе. Удзельнік мастацкіх выставак з 1966 года. Працаваў у манументальна-дэкаратыўным і станкавым жывапісе. Асноўныя творы: сграфіта “Гісторыя і сучаснасць” у краязнаўчым музеі г. Бярозы і “Айчынная вайна” ў кінатэатры “Партызан” г. Івацэвічы, “Алегорыя” ў Доме тэхнічнай і народнай творчасці ў г.Пінску, “Чалавек у працы” на Брэсцкім электрамеханічным заводзе; мазаіка “Музыка” ў Доме культуры в. Ракітніца Брэсцкай вобласці; палотны “Восень за ваколіцай”, “Сосны”, “Восеньскі букет”, “Захад сонца на моры”, “Ленінград. Мойка”. Творы знаходзяцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі. Член БСМ з 1994 года. Памёр вясною 2011 года. Жыў у Брэсце.

**КАНЬКОЎ Міхаіл Карнілавіч.** Нарадзіўся 28.02.1948 года ў вёсцы Пачашава ў Удмурдыі (Расія). Скончыў каменярэзна-мастацкае вучылішча ў горадзе Кунгур Пермскай вобласці ў 1966 годзе. Удзельнік мастацкіх выстаў з 1970 года. Працуе ў галіне комплекснага афармлення інтэр’ераў і музейных экспазіцый, а таксама ў станкавым жывапісе. Асноўныя творы: палотны “Пейзаж з адзінокай лодкай”, “Затанулы карабель”, “Час разбураных гнёздаў”(трыпціх), “Гісторыя хваробы” (трыпціх), “З-за цёмнай вады...”, “Правінцыйны горад”, “Там, дзе канчаецца дождж”, “Зайдзі ў зачыненыя дзверы”, “У пошуках страчанага часу”, “Настальгія”. Творы знаходзяцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі і прыватных калекцыях Беларусі і шэрагу замежных краін. Працаваў галоўным мастаком Брэсцкага камбіната “Мастацтва” (1991-1999), старшынёй Брэсцкага абласнога аддзялення ГА “Беларускі саюз мастакоў” (1995-2004). Узнагароджаны медалём БСМ “За заслугі ў выяўленчым мастацтве” ў 1998 годзе. Член БСМ з 1994 года. Жыве ў Брэсце.

**КУЗЬМІЧ Мікалай Пятровіч.** Нарадзіўся 28 лістапада 1950 года ў вёсцы Патрыкі Кобрынскага раёна. У 1982 годзе скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя А. К. Глебава. З 1983 года

ўдзельнік мастацкіх выстаў.
Працуе ў галіне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва як майстар-эмальер. Асноўныя творы: адноўлены Крыж святой Еўфрасінні Полацкай; стаўратэка да Крыжа; рака для мошчаў Еўфрасінні Полацкай; дэкаратыўныя кампазіцыі "Блакітныя мары", "Купалле", "Слуцкія паясы", "Памяць", "Прастора і час" і іншыя.
Лаўрэат прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне" (1997), лаўрэат прэміі "Чалавек года – 1997", "Берасцейская зорка" (1997); узнагароджаны ордэнам святога князя Уладзіміра III ступені (1997), медалём князя Канстанціна Астрожскага (Польшча, 2000), медалём Беларускга саюза мастакоў "За заслугі ў выяўленчым мастацтве" (2007). Член ГА "Беларускі саюз мастакоў" з 1987 года. Жыве ў Брэсце.

**КУПРЭЕЎ Мікола Сямёнавіч**. (25.05.1937 – 19.09.2004). Нарадзіўся ў Івацэвічах. Скончыў Івацэвіцкую сярэднюю школу, а потым факультэт беларускай і рускай мовы і літаратуры Брэсцкага педагагічнага інстытута (1962). Працаваў у школах Івацэвіцкага, Ганцавіцкага і Лунінецкага раёнаў, у рэдакцыі ляхавіцкай раённай газеты "Будаўнік камунізму". Першая кніга паэзіі "Непазбежнасць" выйшла ў 1967 годзе. Другі зборнік вершаў аўтар выдаў амаль праз 30 гадоў ("Правінцыйныя фантазіі", 1996). Пісаў таксама і прозу. Падчас жыцця ў Пружанах напісаў аповесці "Дзіцячыя гульні пасля вайны", "Імгненне светлае", "На вуліцы Карла Маркса з Паэтам", "Палеская элегія", "Рэчкаю плывём, плывём...", "Пастух у космасе", "Лісты з млына".

**КІТАЕЎСКІ Уладзімір Ігнацьевіч**. Нарадзіўся 3 чэрвеня 1886 года на хутары ля вёскі Стаўпы Кобрынскага павета (цяпер Жабінкаўскі раён) Брэсцкай вобласці ў сям'і унтэр-афіцэра расейскай арміі Ігната Іванавіча Кітаеўскага і шляхцянкі Кескевіч Ганны Васільеўны. Вучыўся ў Брэст-Літоўскай гімназіі. У 1915 годзе быў прызваны ў войска. Атрымаў чын афіцэра 17-га Фінляндскага палка. Прыняў рэвалюцыю 1917 года.. Служыў у Чырвонай Арміі. Быў сур'ёзна паранены. Вярнуўся на радзіму, дзе ўжо была панская Польшча. Працаваў на чыгунцы. Ажаніўшыся, перабраўся ў Тэўлі на пастаяннае месцажыхарства. Пазней абралі войтам Тэвельскай гміны. Пры паляках Уладзімір Кітаеўскі друкаваўся ў часопісе "Вікна" ў Львове, пазней, пры Саветах, дасылаў свае расейскамоўныя вершы ў Мінск. Некаторы час настаўнічаў. Памёр у ноч на 1 студзеня 1941 года. Пахаваны на Тэвельскіх могілках.

**КАСКО Алесь Канстанцінавіч.** Нарадзіўся ў вёсцы Чудзін Ганцавіцкага раёна 10 снежня 1951 года. Скончыў філфак Брэсцкага педінстытута. Служыў у войску, настаўнічаў. У 1984 годзе пайшоў працаваць на абласное тэлебачанне, з 1991 года – выбраны сакратар Брэсцкага абласнога аддзялення саюза пісьменнікаў. Працаваў у Жабінцы ў сродках масавай інфармацыі. Выдаў зборнікі вершаў "Вестка" (у калектыўным зборніку "Нашчадкі"), "Скразная лінія" (1982г.), "Набліжэнне" (1989г.), "Час прысутнасці" (1994г.), "45" (1996г.), "Трохкроп'е" ( 2001г. ), "Трохперсце" ( з М. Рудкоўскім і М. Пракаповічам ) (2009г.), "Нічога больш" (2011г.); кнігі для дзяцей "Два сонцы" (2004г.), "Чыстага ўсё нячыстае баіцца" (2007г.). Лаўрэат літаратурнай прэміі імя А. Куляшова, абласной – імя У. Калесніка, Мядовай прэміі, міжнароднай – імя Г. Краснапёркі. У Саюзе беларускіх пісьменнікаў з 1984 года. Жыве ў Жабінцы.

**КУДЗІНЕНКА Анатоль Дзмітрыевіч.** Нарадзіўся 23 студзеня 1940 года. Скончыў Мінскі політэхнічны інстытут, аспірантуру. Абараніў кандыдацкую дысертацыю, прыйшоў працаваць загадчыкам кафедры архітэктурнага праектавання і малюнка ў Брэсцкім інжынерна-будаўнічым інстытуце. На працягу 25 гадоў узначальваў кафедру. Стварыў унікальную архітэктурную школу. Анатоль Дзмітрыевіч быў галоўнай фігурай у архітэктурным адукацыйным працэсе інстытута (цяпер дзяржаўны тэхнічны ўніверсітэт). Памёр у снежні 2010 года ў Брэсце.

**КУЛІН Уладзімір Іванавіч.** Нарадзіўся 8 кастрычніка 1926 года. Скончыў Політэхнічны інстытут у Мінску. Працуе на кафедры архітэктурнага праектавання і малюнка БрДТУ. Жыве ў Брэсце.

**КЛІМАЎ Марат Рыгоравіч.** Нарадзіўся 28.02.1940 года ў вёсцы Выганішчы Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча (1963), Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут (1968). Вучыўся ў А.Шаўчэнкі, А.Кішчанкі, Г.Вашчанкі, М.Данцыга. Удзельнік мастацкіх выстаў з 1968 года. Працуе ў манументальна-дэкаратыўным і станкавым жывапісе. Узнагароджаны ордэнам "Знак пашаны" (1986), медалём БСМ (2000), дыпломам Нацыянальнага алімпійскага камітэта за ўдзел у конкурсе творчых прац "Алімпійскі спорт у мастацтве" (2007). Творы станкавага жывапісу знаходзяцца ў Мастацкім музеі імя Масленікава ў Магілёве, Брэсцкім краязнаўчым музеі. Член ГА "Беларускі саюз мастакоў" з 1977 года. Жыве ў Брэсце.

**МЕЛЬНІЧУК Іван Міхайлавіч.** Нарадзіўся 15 верасня 1939 года ў сяле Носава, што на Любліншчыне (Польшча). Пасля дзесяцігодкі працаваў падлікоўцам Брэсцкай МТС. У 1957 годзе паступіў у Брэсцкі педінстытут, з чацвёртага курса якога быў запрошаны ў Брэсцкую раённую газету "Заря над Бугам". Служыў у войску. Працаваў уласным карэспандэнтам "Чырвонай змены" па Брэсцкай вобласці, потым – лектарам, памочнікам першага сакратара абкама партыі, у савецкіх органах вобласці. Выдаў кнігі для дзяцей «Кто разбудил солнце» (1982г.), «Сами диво сотворим» (1990г.), «Добрый лучик» (1997г.), «Как муравьишка Ишка себя наказал» (2003г.), «Сказки – добрые подсказки» (2008 г.), а ў 2008 годзе кніжку вершаў "Хлеб насущный". Лаўрэат абласной літаратурнай Мядовай прэміі за 2008 год. Сябар СБП з 2006 года. Жыве ў Брэсце.

**МАЕЎСКІ Мікалай Іванавіч.** Нарадзіўся 1 сакавіка 1950 года ў вёсцы Дварцы Камянецкага раёна. Скончыў Ленінградскае мастацкае вучылішча імя В. А. Сярова ў 1979 годзе. Працуе ў галіне жывапісу і акварэлі ў жанрах лірычнага пейзажа і нацюрморта, у манументальна-дэкаратыўным мастацтве. З 1979 года ўдзельнічае ў выставах і пленэрах. Правёў дзве персанальныя выставы ў Германіі ў 2000-2001 гадах. Творы знаходзяцца ў музеях і мастацкіх галерэях Мінска і Брэста, а таксама ў прыватных калекцыях шэрагу краін Еўропы. Працаваў старшынёй Брэсцкай абласной арганізацыі Беларускага саюза мастакоў у 1989-1991 гадах. Член БСМ з 1987 года.

**МЫСЛІВЕЦ Пётр Сцяпанавіч.** Нарадзіўся 1 ліпеня 1938 года ў г. Драгічыне Брэсцкай вобласці ў сям'і рабочага-цесляра. У 1956 годзе скончыў драгічынскую СШ№1. У снежні 1957 года скончыў Драгічынскае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі №29 і паехаў на Цаліну. У 1959-62гг. служыў у войску ў Прыморскім краі. Вярнуўшыся дамоў, працаваў шафёрам. У 1971 годзе як пачынаючы мастак выканаў сваю першую жывапісную работу – "Ля старога шлюза". На той час ужо вырашыў сур'ёзна займацца жывапісам, таму паступіў на завочнае аддзяленне факультэта жывапісу і графікі Маскоўскага народнага ўніверсітэта імя Н. Крупскай, які скончыў у 1977 годзе. У абласных і рэспубліканскіх выставах удзельнічае з 1972 года. У 1976 годзе удзельнічаў ва Усесаюзнай выставе "Слава працы" ў Маскве. У 1995 годзе ў Брэсце была праведзена персанальная выстава, прысвечаная 25-годдзю яго творчасці. Узнагароджаны дыпломам Саюза мастакоў СССР у 1987 годзе.

**МАНЬЯКОЎ Яўген Васільевіч.** Нарадзіўся ў 1950 годзе ў пасёлку Аляксандр-Неўскі Нававяскоўскага раёна Разанскай вобласці. Скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педінстытута ў 1979 годзе. У Брэсце жыў з 1973 года. Працаваў ва ўпраўленні культуры прафсаюзаў, у вытворча-мастацкім камбінаце "Мастацтва". Удзельнічаў у абласных і рэспубліканскіх мастацкіх выставах з 1982 года. Працы знаходзяцца ў прыватных калекцыях Польшчы, Германіі, Бельгіі, Беларусі, Расіі. Займаўся фотамастацтвам. Заўчасна памёр у 2012 годзе ў Смаленску. Пахаваны ў Брэсце.

**МАЙБАРАДЗІН Міхаіл Аляксеевіч.** Нарадзіўся ў 1949 годзе ў вёсцы Вінеўка Паласаўскага раёна Валгаградскай вобласці (Расія). У 1967 годзе скончыў Камсамольскую сярэднюю школу і пераехаў у горад Драгічын Брэсцкай вобласці. Вучыўся ў Народным універсітэце мастацтваў імя Н. Крупскай у Маскве. Удзельнік мастацкіх выстаў з 1976 года. Узнагароджаны медалём і дыпломам 1-й ступені на Усесаюзным фестывалі ў Маскве, дыпломам Саюза мастакоў СССР.

У 1983 годзе правёў персанальную выставу ў Брэсце, пазней – неаднаразова – у Драгічыне. Удзельнік абласных і рэспубліканскіх пленэраў. З 2003 года працаваў выкладчыкам у Драгічынскай дзіцячай школе мастацтваў. З 2010 года з'яўляецца членам грамадскага аб'яднання аматараў мастацтва Берасцейскага рэгіёна "Тур".

**МАЦЯШ Ніна Язэпаўна.** Нарадзілася ў вёсцы Нівы Бярозаўскага раёна 20 верасня 1943 года. Скончыла факультэт французскай мовы Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў. У 1973-1977 гадах працавала выкладчыцай нямецкай мовы ў Белаазёрскім прафесійна-тэхнічным вучылішчы. Дэбютавала вершам у бярозаўскай раённай газеце "Маяк камунізму" ў 1962 годзе. Член СП СССР з 1971 года. Аўтарка шматлікіх зборнікаў паэзіі, перакладаў і кніжак для дзяцей. Ніна Мацяш з вялікім майстэрствам перакладала з рускай, украінскай, англійскай, французскай, нямецкай, польскай, балгарскай ды іншых моў. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова ( 1984 ) за "Паэму жніва" , прэміі "Берасцейская зорка-1998" у намінацыі "Літаратура", Міжнароднай прэміі імя Грыгорыя Скаварады. Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь. Памерла 19 снежня 2008 года.

**НІКАЛАЙЧУК Канстанцін Канстанцінавіч.** Нарадзіўся 13 красавіка 1942 года ў вёсцы Шастакова Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. Жыў у Брэсце з 1959 года на Граеўцы. Вучыўся ў Адэскім мастацкім вучылішчы імя Грэкава, скончыў Сімферопальскі мединстытут. На радзіму вярнуўся ў 1980 годзе. Працаваў намеснікам галоўнага ўрача ў санаторыі "Бярэсце". Удзельнік шматлікіх мастацкіх выстаў. Жыве ў пасёлку Знаменка Брэсцкага раёна.

**ОСІПАВА Валянціна Міхайлаўна.** Нарадзілася 22 кастрычніка 1959 года ў вёсцы Абакумы Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці. Паэтка, піша па-руску. Аўтар зборнікаў паэзіі "Навстречу разлукам", «Разноголосица», «Блики», "Бумажный змей". Сябар СБП. Жыве і працуе ў Бярозе.

**ПАГОДЗІН Павел Паўлавіч.** Нарадзіўся 28.12. 1936 года ў вёсцы Дамашняя Наўгародскай вобласці ў Расіі. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.Скончыў Іванаўскае мастацкае вучылішча ў 1940 годзе. Удзельнік мастацкіх выстаў з 1940 года. Працаваў у станкавым жывапісе, графіцы і плакаце. Асноўныя творы: "А. П. Чэхаў на Сахаліне", "Прыезд В.Чкалава ў Горкі", "Экскурсія ў Эрмітаж", "Паўднёва-Сахалінск", "Выратаванне сцяга", "Вяртанне да мірнай працы", "Хлеб-соль"; пейзажы "Зжатае поле", "Мінск увечары", "Зімовы пейзаж"; трыпціхі "Брэсцкая крэпасць", "Дываншчыцы"; партрэт П. Клімука; графічная серыя "Крэпасць над Бугам", плакат "Слава героям космасу". Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, музеі "Брэсцкая крэпасць-герой", Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі. Член БСМ з 1966 года. Жыў у Брэсце. Памёр 13.02. 1983 года.

**ПАПЕКА Міколай Мікалаевіч.** Нарадзіўся 28 снежня 1961 года ў вёсцы Турная Івацэвіцкага раёна. Закончыў сярэднюю школу ў Маладзечанскім раёне, Смілавічскі саўгас-тэхнікум, Кіеўскую сельскагаспадарчую акадэмію па спецыяльнасці заатэхнік-пчаляр. Вярнуўшыся з Кіева на Берасцейшчыну, пасяліўся ў вёсцы Лінава бліз Пружан. Працаваў пчаляром у лясніцтве, цяпер – на ўласнай гаспадарцы. Выступае з публікацыямі ў абласным і рэспубліканскім друку як краязнавец, паэт і перакладчык. Выдаў кнігу паэзіі "Чарнавікі" ў 1999 годзе. Лаўрэат прэміі "Гліняны Вялес" (2000г.). Ініцыятар і фундатар "Мядовай прэміі". Сябар СБП з 2007 года.

**ПАПЛАЎСКІ Алесь Фядосавіч.** Нарадзіўся 4 чэрвеня 1958 года ў вёсцы Мазуры Кобрынскага раёна. Вучыўся ў Полацкім лясным тэхнікуме. Скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут. Працаваў у лясгасах Гарадзеншчыны і Берасцейшчыны. Аўтар паэтычных кніг "Спынены лістапад" (1997г.), "Незваротнасць" (2001г.), "Скрыжалі душы" (2013г.). Выдаў кніжкі прозы "Тэрыторыя скразнякоў" (2004г.) і "Пастка для рэха" (2009г.). Лаўрэат літаратурнай прэміі імя У. А. Калесніка Брэсцкага аблвыканкама (2009г.), прэміі часопіса "Дзеяслоў" "Залаты апостраф" (2013г.). Сябар СБП з 2004 года. Жыве і працуе ў Брэсце.

**ПАЎЛЮЧУК Тамара Іванаўна.** (9.4.1942 – 20.2.2006). Скончыла Мінскае мастацкае вучылішча імя А.Глебава ў 1966 годзе. Вучылася ў І. Ейдэльмана. Удзельніца мастацкіх выставак з 1972 года. Працавала ў станкавым і манументальна-дэкаратыўным жывапісе. Асноўныя творы: палотны "Духоўнае адраджэнне", "Мадонна Чарнобыля", "Еўфрасіння Полацкая", "Пакаяныя", "Пакінутыя гнёзды", "Рэквіем ахвярам Курапат", "Экалагічны хаос", "Зона забруджання", "Таямніца быцця"; манументальныя роспісы "Прырода і мы" ва ўніверсітэце імя А. С. Пушкіна, "Шчаслівае дзяцінства" ва ўнівермагу "Дзіцячы свет", "Гармонія" ў тубдыспансеры, "Космас" у школе № 10 (усе ў г. Брэсце). Творы знаходзяцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі, мастацкай галерэі "Дэса" ў г.Любліне (Польшча), галерэі г.Гамбурга (Германія). Член БСМ з 1991 года.

**ПАЎЛЮЧУК Аляксей Аляксеевіч.** Нарадзіўся 5 жніўня 1968 года ў Віцебску. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча (1989).Удзельнік мастацкіх выставак з 1989 года. Працуе ў галіне манументальнай і станкавай скульптуры, а таксама ў станкавым жывапісе і графіцы. Асноўныя творы: эмблема "Музы" (Брэсцкі тэатр драмы і музыкі), помнік спаленым вёскам Пружаншчыны, г.Пружаны; скульптурная кампазіцыя "Муха і Вец", г.Пружаны; помнік 1000-годдзю Брэста; бюст канструктару А. П. Сухому, г.Лунінец; станкавая скульптура: "Адыходзячая восень", мармур; "Холад", мармур; "Нараджэнне дзевы", дрэва; "Водар бэзу", дрэва; "Скрыпка", бронза; "Гітара", бронза; "Дуэт", бронза;"Музычная фантазія" з серыі "Сола для скрыпкі", бронза; серыя рэльефаў, прысвечаная Яну Твардоўскаму, гатэль "Эверэст", г.Венгрув, Рэспубліка Польшча. Удастоены звання "Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Бурація (Расійская Федэрацыя, 2003г.). Творы знаходзяцца ў прыватных калекцыях Беларусі, Польшчы, Германіі, Францыі і ЗША. Член БСМ з 2005 г. Жыве ў Брэсце.

**ПРАКАПОВІЧ Мікола Мікалаевіч.** Нарадзіўся 1. 10. 1948 года ў вёсцы Пугачова пад Брэстам. Скончыў філфак Брэсцкага педінстытута. Настаўнічаў у школах вобласці і служыў у войску. З 1972 года жыве ў Брэсце. Працаваў на абласным радыё, затым перайшоў на Брэсцкую студыю тэлебачання ў рэдакцыю літаратурна-мастацкіх і музычных перадач. З 1984 па 1990 год узначальваў абласное аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў. Кіраваў літгуртком "Спадчына" абласнога цэнтра маладзёжнай творчасці. Выдаў паэтычныя зборнікі "Белая вежа" (1979г.), "Неад'емнае" (1982 г.), "На кругі свае" (1986г.), "Мяжа надзеі" (1993 г.), "Літары на літоўцы" ў зборніку "Трохперсце" (з М. Рудкоўскім і А. Каско) (2009 г.). У пісьменніцкім Саюзе з 1981 года. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя М. Багдановіча і абласной прэміі імя У. Калесніка (2009г.). Жыве ў Брэсце.

**ПЕПЯЛЯЕЎ Валерый Мікалаевіч.** Нарадзіўся 7. 04. 1947 года ў сяле Чорнае Краснакамскага раёна Пермскай вобласці. Скончыў сярэднюю школу, служыў у Ваенна-Марскім флоце. З 1970 года вучыўся тры курсы ў Ленінградскім мастацкім вучылішчы імя В. Мухінай. Ажаніўшыся, пераехаў на пастаяннае месцажыхарства ў Брэст. Працаваў мастаком-афарміцелем у рэкламным камбінаце Аблспажыўсаюза, у камбінаце "Мастацтва".

**РАМАНЧУК Ігар Аляксеевіч.** Нарадзіўся 24.09.1974 года ў вёсцы Стайкі Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута ў 1997 годзе. Удзельнік мастацкіх выстаў з 1998 года. Працуе ў станкавым жывапісе, пераважна ў жанры пейзажа. Асноўныя творы: "Мелодыя дажджу", "Стары Брэст", "Восень на вуліцы Пушкінскай Брэста", "Кветкі восені", "Вясеннія лужыны". Творы знаходзяцца ў Брэсцкім краязнаўчым музеі. Выкладаў у Брэсцкім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя А.С. Пушкіна на кафедры мастацка-графічных дысцыплін у 2000-2005-х гадах. Член БСМ з 2005 года. Жыве ў Брэсце.

**РАМАНЮК Міхась Хведаравіч.** Нарадзіўся 3 студзеня 1944 годаў вёсцы Кавалі Брагінскага раёна Гомельскай вобласці. Вучыўся ў мінскім тэхналагічным тэхнікуме на мадэльера-канструктара (1959-1963гг.). У 1964-1971 гадах працягваў вучобу ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце (цяпер Беларуская Акадэмія Мастацтваў). З 1971 да 1974 года вучыўся ў аспірантуры і адначасова чытаў лекцыі ў БДТМІ. У 1975 годзе абараніў канды-

дацкую дысертацыю “Народны касцюм беларускага Палесся (канец XIX – пачатак XX ст.) і ў 1976 годзе атрымаў вучоную ступень кандыдата мастацтвазнаўства. У 1978 годзе ўступіў у Саюз мастакоў СССР. У 1982-1984 гадах Міхась Раманюк выступіў заснавальнікам і галоўным рэдактарам часопіса “Мастацтва Беларусі”. У 1993 годзе прафесар Міхась Раманюк выдаў кнігу “Народны касцюм Чачэрска і наваколіц”, у наступным – “Песні і строі Піншчыны”. У 1996 годзе адбылася персанальная выстава Міхася Раманюка “Беларускі нацыянальны касцюм” у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Памёр заўчасна 4 верасня 1997 года.

**РАЦЬКО *Леанід Міхайлавіч.*** Нарадзіўся 8.05 1951года ў вёсцы Кель Мінскай вобласці. Скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут у 1976 годзе. Удзельнік мастацкіх выстаў з 1976 года. Працуе ў дэкаратыўна-прыкладным мастацтве (мастацкая апрацоўка металу), дызайне, а таксама ў жывапісе. Асноўныя творы: жывапісныя работы “Айцец наш...Вясна. Раніца”, “Айцец наш... Лета. Поўдзень”, “Айцец наш... Восень. Вечар”, “Айцец наш... Зіма. Ноч”. Творы знаходзяцца ў музеях Маскы і Брэста, у галерэі Равенсбурга (Германія). Лаўрэат усесаюзнага конкурсу “Галоўны манумент Перамогі на Паклоннай гары” ў Маскве. Член БСМ з 1988 года. Жыве ў Брэсце.

**РАЗАНАЎ Алесь Сцяпанавіч.** Нарадзіўся ў вёсцы Сялец Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці 5.12.1947 года ў сям’і служачых. У 1966 годзе скончыў Сялецкую сярэдюю школу Бярозаўскага раёна і паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. У 1969 годзе перавёўся ў Брэсцкі педінстытут імя А.С. Пушкіна (скончыў у 1970-м). Працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў вёсцы Кругель Камянецкага раёна, служыў у Савецкай Арміі. З 1972 года ў Мінску – літсупрацоўнік газеты “Літаратура і мастацтва”, бюлетэня “Родная прырода”. У 1974-1986 гадах – рэдактар выдавецтва “Мастацкая літаратура”. З 1989 года – віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра. Член СП СССР з 1972 года. З вершамі ў друку выступіў у 1961 годзе. Аўтар зборнікаў паэзіі “Адраджэнне” (1970), “Назаўжды” (1974), “Каардынаты быцця” (1976), “Шлях – 360” (1981), “Вастрыё стралы” (1988) і інш. Перакладае з літоўскай, латышскай, грузінскай, балгарскай, сербскахарвацкай, чэшскай, англійскай моў. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1990) за кнігу вершаў “Вастрыё стралы”.

**РУДКОЎСКІ Міхась Міхайлавіч**. Нарадзіўся ў вёсцы Востраў Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці 17.4 1936 года ў сялянскай сям’і. Скончыў Пінскае педагагічнае вучылішча ў 1955 годзе, настаўнічаў у Кукаўскай сямігодцы Ганцавіцкага раёна. У 1960-1962 гадах – літсупрацоўнік ганцавіцкай раённай газеты “Сялянская праўда”. Скончыў завочна філалагічны факультэт Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А.С. Пушкіна ў 1961 годзе. У 1962-1981 гадах працаваў старшым рэдактарам літаратурна-драматычных і музычных праграм Брэсцкай студыі тэлебачання. Член СП СССР з 1966 года. Памёр 7.7.1991 года. У рэспубліканскім друку выступаў з вершамі з 1959 года. Выходзілі зборнікі вершаў “Першыя вёрсты” (1963), “Сінія Брады” (1967), “Позвы” (1971), “У краі тым...” (1975), “Векавечная Бацькаўшчына” (1978), “Трыгор’е” (1981), “Засцярога” (1984), “Залатазвон” (1986). Вядомы быў і як перакладчык з украінскай, рускай і польскай моў.

**РУДЧЫК Іван Дзям’янавіч.** Нарадзіўся ў вёсцы Дабратычы (Люблінскае ваяводства ў Польшчы) 20 студзеня 1908 года. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Вучыўся ў Кракаўскай школе прыгожых мастацтваў (1931-33). Удзельнік мастацкіх выстаў з 1945 года. Працаваў у станкавым жывапісе ў жанрах карціны і пейзажа. Асноўныя творы: палотны “Крывавы золак 22 чэрвеня 1941 года”, “Гаворыць Масква”, “Пераход партызан”, “Партызанскія вогнішчы”, “Ля сцен Брэсцкай крэпасці”, “Ой, туманы мае”, “Песні партызан”, “Хлябы Прыбужжа”, “Вяртанне. Вясна 1944 года”, “Раніца”, “Вясенні разліў”, “Беларуская восень”, “Лясная крэпасць”. Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, фондах БСМ, Брэсцкім, Кобрынскім, Баранавіцкім краязнаўчых музеях, музеі Беларускага Палесся ў Пінску. Член БСМ з 1949 года. Памёр 22.03.2000 года. Жыў у Брэсце.

**САБАЛЕЎСКІ Васіль Мікалаевіч**. Нарадзіўся 3.10. 1932 года ў вёсцы Ліпна Камянецкага

раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Ленінградскае мастацка-графічнае педагагічнае вучылішча ў 1954 годзе. Вучыўся ў Г. Арлоўскага, А. Мардвінава. Быў удзельнікам мастацкіх выставак з 1957 года. Працаваў у станкавым жывапісе ў жанрах пейзажа і нацюрморта. Асноўныя творы: палотны”Зямля”, “Аэрадром у гарах”, “Кастрычнік. Гадавіна”, “Ля абрыву”, “Апошняе лісце”, “Восень. Возера Меднае”, “Апошні снег”. Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі,Брэсцкім краязнаўчым музеі. Член БСМ з 1964 года. Памёр 11.01.2000 года. Пахаваны на радзіме.

**САВІЧ Уладзімір Пятровіч.** Нарадзіўся 16. 4.1952 года ў вёсцы Хатавічы Мінскай вобласці. Скончыў Рэспубліканскую школу-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве (1970), Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут (1976). Вучыўся ў В. Шаранговіча. Удзельнік мастацкіх выстаў з 1972 года. Працуе ў станкавай і кніжнай графіцы. Асноўныя творы: лісты “А зязюля кукавала...”, “Старая дарога. Зіма”, “Асенні матыў”, “Драўляная скульптура”, “Памяць сівых курганоў”, “Песня жаваранка”, “Час медазбору”, “У белай прасторы”, “Вяртанне да былой сустрэчы”, “Шэсце”, “Паклон”, ілюстрацыі да кніг “Пінская шляхта” В. Дуніна-Марцінкевіча, “Выбранае” Цёткі (А. Пашкевіч). Выкладаў у Беларускай Акадэміі мастацтваў (з 1976г.), працаваў старшынёй ГА “Беларускі саюз мастакоў” ( з 2007 па 2013гг.), заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1990). Узнагароджаны шматлікімі дыпломамі і прэміямі за арыгінальнае афармленне кніг. Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, фондах БСМ і Міністэрстве культуры Расіі, Трацякоўскай галерэі ў Маскве, галерэі Хагельстам (Фінляндыя), галерэі графікі г. Банска-Быстрыца (Славакія). Член БСМ з 1978 года. Жыве ў Мінску.

**САКАЛОЎ-КУБАЙ Генадзь Генадзьевіч.** Нарадзіўся 23.01.1942 года ў Мінску. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча ў 1961 годзе, Беларускі-тэатральна-мастацкі інстытут у 1969 годзе. Працаваў у галіне мастацкай крытыкі, гісторыі мастацтва. Выступаў у рэспубліканскім друку. Асноўныя працы: артыкулы “Партрэтны жывапіс Беларусі 14-16 стагоддзяў”, “З краю ластавак”, “Да і пасля аўкцыёна”, “Партрэт Кштыштафа Весялоўскага”, “Партрэт Еўфразіны Тышкевіч”; творчыя партрэты М. Селешчука, М.Купавы. Працаваў у Рэспубліканскім навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці Міністэрства культуры Беларусі ў 1980-86 гадах, выкладаў у Беларускай акадэміі мастацтваў з 1989 года. Член БСМ з 1988 года. Памёр 18.10.1998г. Жыў у Мінску.

**САЛАЎЁЎ Леанід Мікалаевіч**. Нарадзіўся 9.12.1936 года ў вёсцы Дзюкава Валагодскай вобласці ў Расіі. Скончыў Крымскае мастацкае вучылішча імя Н. Самокіша (1958), Украінскі паліграфічны інстытут імя І. Фёдарава (1984). Удзельнік мастацкіх выстаў з 1962 года. Працуе ў галіне жывапісу і графікі (масла, акварэль, пастэль) у жанрах партрэта, пейзажа, нацюрморта. Асноўныя творы: лісты “Каля сцен крэпасці”, “Брэсцкая крэпасць”, “Холмская брама”, “Алея ў крэпасці”, “Абуджэнне”, “Старая капліца”, “Ветрана”, “Зямля”, “Фізаліі”, “Летні дзень”, “Партрэт маці”. Узнагароджаны медалём “За ўклад у выяўленчае мастацтва Беларусі” Беларускага саюза мастакоў у 2007 годзе. Творы знаходзяцца ў музеях Мінска і Брэста, у прыватных калекцыях Беларусі і шэрагу замежных краін. Член БСМ з 1989 года. Жыве ў Брэсце.

**САПКАЛА Яўген Аляксеевіч.** Нарадзіўся 21 чэрвеня 1955 года ў горадзе Пружаны ў сям’і вайскоўца. Скончыў Народны ўніверсітэт мастацтва імя Н. К. Крупскай у Маскве. Працаваў 25 гадоў мастаком-афарміцелем на Брэсцкім панчошным камбінаце. З 1998 па 2004 год працаваў мастаком-дызайнерам у Польшчы ў прыватным выдавецтве “Мазуры”. На цяперашні час – дызайнер “БелІнтэрМаркета”. Удзельнік Першай рэспубліканскай маладзёжнай выставы ў Брэсце, абласных выстаў. Працуе ў галіне жывапісу (партрэт, пейзаж, нацюрморт). Жыве ў Брэсце.

**САХАРЧУК Васіль Якаўлевіч.** Нарадзіўся 10 ліпеня 1953 года ў вёсцы Свадзьбічы Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці ў сялянскай сям’і. У 1970 годзе скончыў Равяцідкую сярэднюю школу і паступіў на беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна. Пасля заканчэння ўніверсітэта ў 1975 годзе настаўнічаў у Касцюкоўскай васьмігадовай і

Юбчынскай сярэдняй школах любанскага раёна, затым у Высокаўскай сярэдняй школе Бярозаўскага раёна. З 1979 года жыў у горадзе Жабінка Брэсцкай вобласці, дзе працаваў карэспандэнтам і адказным сакратаром мясцовай раённай газеты “Сельская праўда”. Член СП СССР з 1988 года. З вершамі выступіў у 1971 годзе ў калектымўным зборніку “Універсітэт паэтычны”. Аўтар кніжак паэзіі “Зорны мост” (у калектыўным зборніку “Крыло”, 1984), “Даніна” (1988), пасмяротнага зборніка “Мой вечны бор” (2004). Заўчасна пайшоў з жыцця ў 2000 годзе.

**СЕЛЯШЧУК Міколай Міхайлавіч.** Нарадзіўся 4.8.1947 года ў вёсцы Велікарыта Брэсцкай вобласці. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча ў 1970 годзе, Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут у 1976 годзе. Вучыўся ў П. Любамудрава, В. Шаранговіча.Удзельнік мастацкіх выстаў з 1966 года. Працаваў у станкавай і кніжнай графіцы, у розных жанрах станкавага жывапісу. Асноўныя творы: серыі графічных лістоў “Характары і абставіны”, “Успаміны пра дзяцінства”,”Свята”, “Травы дзяцінства”, ілюстрацыі да кніг “Пара любові і жалю” Я.Янішчыц, “Усміхніся мне” Я. Сіпакова, “Скарб” З. Бядулі, “Сымон-музыка” Я. Коласа, казак “Бацькаў дар”, “Прагны багацей”; палотны “Наведванне сядзібы Агінскага ў Залессі”, “Хроніка аднаго вечара”, “Матылькі тут не жывуць”, “Кампазіцыя з дзвюма фігурамі”, “Восень”, “У краіне казак”, “Кампазіцыя з конікам”, “Хвіліна маўчання”, “Вяртанне на радзіму”. Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, фондах БСМ, Траццякоўскай галерэі ў Маскве, Музеі сучаснага мастацтва Экватарыяльнай Гвінеі, музеях “Мальборк” (Польшча), “Шлесбург” (Германія), галерэях “Кастані” (Грэцыя), “Хатестам” (Фінляндыя), бібліятэцы Кірыла і Міфодзія (Балгарыя). Узнагароджаны дыпломамі і прэміямі рэспубліканскіх і ўсесаюзных конкурсаў кнігі, залатым медалём і дыпломам біенале кніжнай ілюстрацыі ў Браціславе (1989). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1992). Член БСМ з 1977 года. Трагічна загінуў 25.9.1996 года. Жыў у Мінску.

**СЕРГІЕНКА Юрый Пятровіч.** Нарадзіўся 01.03.1938 года ў вёсцы Новы Радзін Гомельскай вобласці. Вучыўся ў Народным універсітэце мастацтва імя Н. Крупскай у Маскве ў 1966-67 гадах. Удзельнік мастацкіх выстаў з 1975 года. Працуе ў станкавым жывапісе ў жанры пейзажа. Асноўныя творы: палотны “Столінская царква”, “Палескі край”, “Тройца”, “Свята на Івана Купалу”, “Старая кузня”, “Успаміны”, “Пакінутая хата”, “Перад навальніцай”, “Вясновыя воды”, “Возера Тыльчына”. Творы знаходзяцца ў Брэсцкім краязнаўчым музеі. Кіраваў мастацкай студыяй у Доме піянераў і школьнікаў горада Століна ў 1961-68 гадах, працаваў мастаком у столінскім Доме культуры ў 1968-91 гадах. Член БСМ з 1994 года. Жыве ў горадзе Століне Брэсцкай вобласці.

**СУРМА Генадзь Фёдаравіч.** Нарадзіўся ў г.Глуску Магілёўскай вобласці 19 сакавіка 1946 года. Скончыў Глускую СШ№1 у 1970 г., Мінскае мастацкае вучылішча імя А. Глебава. З 1971 г. удзельнічаў у абласных, рэспубліканскіх і замежных выставах і пленэрах. У 1994 г. стаў членам Беларускага саюза мастакоў. Правёў 12 персанальных выстаў у Беларусі, Польшчы і Германіі. Творы мастака знаходзяцца ў музеях і галерэях Брэста, Мінска, Пінска, Магілёва, а таксама ў прыватных зборах шэрагу замежных краін, у тым ліку Польшчы, Германіі, Францыі, ЗША, Даніі, Бельгіі, Японіі і Ізраіля. Жыў у Брэсце. Памёр 20 снежня 2002 года.

**СУПРУНЧЫК Іван Піліпавіч.** Нарадзіўся 23 кастрычніка 1942 года ў вёсцы Цераблічы Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Працаваў бібліятэкарам. Народны майстар Беларусі. Лаўрэат УДНГ СССР (1987, 1989 гг.), Прэміі прафсаюзаў БССР у галіне мастацтва і культуры (1990), Міжнароднага фестывалю мастацтваў “Славянскі базар” (2000), Ганаровы грамадзянін Столінскага раёна (2009).Персанальныя выставы: “Жыцця імгненні Івана Супрунчыка” (Брэст, 2002г.), “Мастацкія скарбы Івана Супрунчыка” (Брэст, 2007), выстава графічных работ, прысвечаная Чарнобылю (Галандыя, 1998), “Скарбы Івана Супрунчыка” (Віцебск, 2008, г.Бельск-Падляшскі, в.Шчыты, Польшча, 2010-2011), “Палеская Атлантыда” (Брэст, 2012). Выдадзены альбом-манаграфія, прысвечаны творчасці інсітнага мастака, які знакаміты тым, што высякае з дрэва, карыстаючыся толькі сякерай, самабытную драўляную скульптуру.

**СЫЧЫК Іван Іванавіч.** Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Здзітава Бярозаўскага раёна Брэ-

сцкай вобласці. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя А. Глебава. Служыў у Савецкай Арміі. Удзельнік семінара маладых літаратараў (Іслач-90). Творы друкаваліся ў штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва", газеце "Чырвоная змена", часопісе "Маладосць". У 1994 годзе была выдадзена кніга прозы "За брамай маўчання" ў Бібліятэцы часопіса "Маладосць". Працаваў мастаком на брэсцкім камбінаце "Мастацтва". Удзельнічаў у абласных і рэспубліканскіх выставах. Жыў у Брэсце. Памёр 10.8.2001года. У 2012 годзе з дапамогай сяброў выдадзена кніга прозы Івана Сычыка "Крыж пакут і надзей".

**СЯНКЕВІЧ Мікола Іванавіч.** Нарадзіўся 20 лютага 1957 года ў вёсцы Асіпавічы Драгічынскага раёна. Скончыў факультэт педагогікі і методыкі пачатковага навучання Брэсцкага педінстытута. Працаваў настаўнікам у школах абласнога цэнтра. З 1995 года – асістэнт, старшы выкладчык кафедры беларускай і рускай моў з методыкай выкладання ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце імя А. С. Пушкіна. Аўтар навуковай манаграфіі, вучэбнага дапаможніка і шэрагу артыкулаў па праблемах навучання малодшых школьнікаў. Аўтар празаічных кніг "Усё як было" (1997г.), "Хутар Паянтрый" (2002г.), "Незваротны шлях" (2012г.), зборніка вершаў "Мае пракосы" (2007г.). Лаўрэат прэміі "Берасцейская зорка – 1997" у намінацыі "Літаратура". Сябар СБП з 2006 года. Жыве ў Брэсце.

**ТАЛМАЧОЎ Міхаіл Сяргеевіч.** Нарадзіўся ў 1922 годзе ў Алтайскім краі ў сям'і святара. У 1940 годзе паступіў у Ленінградскі інстытут інжынераў воднага транспарту. У 1941-м пайшоў на фронт (у 1944-м быў цяжка паранены). Пасля вайны працягваў службу ў Савецкай Арміі, адкуль звольніўся ў 1955 годзе. З 1955 па 1976 год працаваў у Брэсцкім гарадскім Доме піянераў і школьнікаў кіраўніком студыі выяўленчага мастацтва. Заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь. З 1976 па 1982 год месцам ягонай работы стаў Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут. З 1982 года Міхаіл Сяргеевіч кіраваў дзіцячай студыяй выяўленчага мастацтва пры Палацы культуры прафсаюзаў. Быў узнагароджаны шматлікімі баявымі ордэнамі і медалямі.

**ТУЛУПАЎ Уладзімір Дзмітрыевіч.** Нарадзіўся 17 лютага 1951 года ў Брэсце. Скончыў мастацкае вучылішча ў Растове-на-Доне і Віцебскі педагагічны інстытут у 1984 годзе. Удзельнік мастацкіх выстаў з 1976 года. Правеў дзве персанальныя выставы. Працуе ў розных жанрах жывапісу. Асноўныя творы: "Сарока", "Ноч у крэпасці", "Лясная школа", "Францыск Скарына", "Партрэт народнага майстра Веры Гаўрылюк", "Партрэт Міхаіла Талмачова". Работы знаходзяцца ў Абласным краязнаўчым музеі, музеі "Выратаваныя мастацкія каштоўнасці", у шэрагу прыватных калекцый Беларусі, Польшчы, Японіі, ЗША, Германіі, Францыі. Працуе ў Дзіцячай мастацкай школе Брэста. Член БСМ з 1997 года. Жыве ў Брэсце.

**ТУРКОЎ Анатоль Савельевіч.** Нарадзіўся 1кастрычніка 1949 года ў горадзе Камянцы Брэсцкай вобласці. Скончыў СШ № 1 Камянца. Там займаўся ў студыі выяўленчага мастацтва пад кіраўніцтвам Дзмітрыя Іванавіча Дошчыка, заслужанага настаўніка Беларусі. З 1975 па 1986 год працаваў кіраўніком раённай мастацкай майстэрні пры аддзеле культуры Камянецкага райвыканкама. Аўтар уязных знакаў у горад Камянец, шэрагу помнікаў загінулым у часы Другой сусветнай вайны. З 2004 года з'яўляецца сябрам Беларускага саюза майстроў народнай творчасці.Удзельнік і пераможца шматлікіх рэспубліканскіх і міжнародных фестываляў, выстаў і пленэраў па разьбярстве. З 2008 года з'яўляецца старшынёй грамадскага аб'яднання аматараў мастацтва рэгіёна "Белавежская пушча" і Берасцейшчыны "ТУР". Работы майстра знаходзяцца ў прыватных калекцыях Расіі, Польшчы, Германіі, Італіі, Ізраіля, ЗША, Францыі і Канады.

**ТАРАСЮК Мікалай Іванавіч.** Нарадзіўся ў 1932 годзе ў вёсцы Стойла Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці. Лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва "За духоўнае адраджэнне" ў намінацыі "Народная творчасць" за асабісты ўклад у адраджэнне і развіццё народных традыцый драўлянай скульптуры. З канца 1980-х гадоў удзельнічае ў выставах рознага ўзроўню. Творы Мікалая Тарасюка захоўваюцца і экспануюцца ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Рэспублікі Беларусь, Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі, музеі "Пружанскі Палацык", Брэсцкім абласным грамадска-культурным цэнтры.

**ТАТАРНІКАЎ Юрый Іванавіч.** Нарадзіўся 10.08.1941 года ў горадзе Ліўны Арлоўскай вобласці ў Расіі. Скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута ў 1969 годзе. Удзельнік мастацкіх выстаў з 1973 года. Працаваў пераважна ў станкавым жывапісе і акварэлі. Асноўныя творы: серыі "Лёс": "Восень. Дарогі", "Доўгая ноч", "Разведка", "Вясна. Спакой", "ГУЛАГ"; серыя "Пакаленне": "Дзед – таямніца", "Бацька – слава", "Жывы" (апошняя работа мастака); пейзажы "Брэст і яго навакольныя мясціны": "Брод на Лясной", "Стары горад", "Рыбныя мясціны", "Вуліца Савецкая. Прайшла навальніца", "Камяністы бераг". Выкладаў у Брэсцкай дзіцячай мастацкай школе. Член БСМ з 1997 года. Памёр 5.05.2005 года. Жыў у Брэсце.

**ТАТАРНІКАЎ Павел Юр'евіч.** Нарадзіўся ў 1971 годзе ў сям'і мастакоў Валянціны і Юрыя Татарнікавых. Вучыўся ў СШ № 20 горада Брэста. Потым у 12-гадовым узросце быў прыняты ў Рэспубліканскі каледж мастацтва імя І. Ахрэмчыка. У 1995 годзе скончыў аддзяленне графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтва. З 1997 года – сябар Беларускага саюза мастакоў. Удзельнік шматлікіх міжнародных выстаў у Беларусі, Расіі, Украіне, Германіі, Іспаніі, Італіі, Славакіі, Даніі, Швейцарыі, Англіі, Японіі, Аўстраліі. Адзіны ў Беларусі ўладальнік прэстыжнай узнагароды "Залаты яблык" Міжнароднага біенале BIB-2001 у Браціславе (Славакія). Жыве ў Мінску.

**ФАЛЕЙ Алесь Аляксандравіч.** Нарадзіўся 21. 01. 1959г. у вёсцы Задвея Брэсцкай вобласці. Скончыў Віцебскі тэхналагічны ўніверсітэт, аддзяленне дызайну ( 1992 ). Удзельнік больш чым 80 міжнародных, рэспубліканскіх, абласных выстаў, 16 з якіх – персанальныя. З 1986 года працуе ў жывапісе, габелене, графіцы, скульптуры, мастацкім кавальстве. Лаўрэат конкурсу "Art – Mark", першай выставы візуальных мастацтваў за цыкл работ "Маленькі свет" ( Віцебск, 1992г. ). Атрымаў першую прэмію і медаль у намінацыі "Станкавая графіка" Міжнароднага біенале графікі ( Манеж, С.-Пецярбург, 2004г.). Творы знаходзяцца ў нацыянальных музеях Беларусі: Мінск ( музей сучаснага мастацтва), Брэст ( музей Брэсцкай крэпасці), Орша, Баранавічы, Іванава (краязнаўчы музей), Віцебск (музей Марка Шагала); у музеях Расіі: Санкт – Пецярбург (музей сучаснага мастацтва), Омск (музей імя Врубеля); ва ўніверсітэце візуальных мастацтваў (г. Корн, Ірландыя), прыватных калекцыях ЗША, Францыі, Германіі, Шатландыі, Фінляндыі, Літвы і інш. Член творчага аб'яднання "Аршыца" з 1991г., член Міжнароднай акадэміі графікі "МАГ" з 2004г., сябра БСМ з 1999г. Жыве ў Баранавічах.

**ХОМІЧ Іван Васільевіч.** Нарадзіўся 31.10.1936 года ў вёсцы Брады Брэсцкай вобласці. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча ў 1966 годзе. Удзельнік мастацкіх выстаў з 1966 года. Працаваў у станкавай скульптуры (дрэва). Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі. Член БСМ з 1991 года. Жыў у Брэсце. Памёр 13.01.1992года.

**ФІЛАТАЎ Леанід Георгіевіч.** Нарадзіўся ў 1939 годзе ў вёсцы Бабічы на Віцебшчыне. Скончыў Брэсцкі чыгуначны тэхнікум. Працаваў майстрам, галоўным інжынерам у дарожным будаўніцтве. Завочна займаўся ў Брэсцкім педінстытуце, які закончыў у 1971 годзе. Быў журналістам, настаўнікам. Зараз жыве ў пасёлку Мухавец пад Брэстам. Выдаў кнігі прозы "Ляхавецкая торба" (1992г.), "Дарога" (1997г.), "Жывая зямля" (2001г.), "Адарваць ад сэрца" (2004г.), "Страла жыцця" (2007г.), "Жывому жыць" (2013г.). Адзін з аўтараў успамінаў былых вязняў фашызму ў зборніку "Асколкі болю" (1999г.). Узнагароджаны прэміямі "Берасцейская зорка" (2000г.), "Паўпуду мёду" (2007г.), прэміяй імя У. А. Калесніка (2008г.). Сябар СБП з 2002 года.

**ФЯЦІСАЎ Іван Якаўлевіч.** Нарадзіўся 21 кастрычніка 1920 года ў г.п. Тума Разанскай вобласці ў Расіі. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Скончыў Іванаўскае мастацкае вучылішча (1947). Удзельнік мастацкіх выстаў з 1947 года. Працаваў у розных жанрах станкавага жывапісу, афармленчым мастацтве. Асноўныя творы: карціны "Прыходзьце заўтра", "Прыезд агранома", "Пераемнасць", "Вера ў жывых", "Разведчыкі", "На зямлі Афганістана"; партрэты "Беларус", "Альшанка", "Даярка А. Сыса", "Будаўніца", "Роздум (качагар)", "Антон Ус"; серыя

партрэтаў ветэранаў вайны і будаўнікоў Бярозаўскай ДРЭС; пейзажы “Стары дворык”, “Вясна на Мухаўцы”, “Ля прычалу”; афармленне экспазіцый у Баранавіцкім, Брэсцкім, Пінскім, Столінскім краязнаўчых музеях, Музеі касманаўтыкі ў в. Камароўка і гіст.-рэв. Музеі г.Бярозы (абодва ў Брэсцкай вобласці). Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, фондах БСМ, музеі “Брэсцкая крэпасць-герой”, Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі, Музеі Беларускага Палесся ў Пінску. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1989). Член БСМ з 1949 года. Памёр 5 кастрычніка 1994 года.

**ЦЯЛІЧКА Мікалай Рыгоравіч.** Нарадзіўся 20 лютага 1923 года. Прайшоў вайну, якую закончыў 22-гадовым юнаком у званні капітана. Завочна скончыў Брэсцкі і Маскоўскі пединстытуты. Шмат гадоў настаўнічаў. Аўтар паэтычных кніжак “Добрый ливень” (1963г.), “Дерево в бору” (1971г.), “Вещий свет” (1980г.), “Соль на касках” (1994г.), “Следы времён” (1994г.), “Рубежи сорок первого” (2002г.), “Стихи из полевой сумки” (2003г.), “Что написано пером” (2011г.), а таксама зборнікаў на ўкраінскай мове – “Вогник свічі” (2004г.), “Стежина додому. Солдатське серце” (2005г.), “Вогонь вічності”, “Поклик часу» «2009г.), “ДивоКрай” (2011г.). Сябар СБП з 2008 года. Падпалкоўнік, інвалід II групы М.Р.Цялічка цяпер на пенсіі. Жыве ў Брэсце і ў Украіне.

**ЧОРНАГАЛОВА Наталля Аксенцьеўна.** Нарадзілася 15.05.1954 года ў г.Жыткавічы Гомельскай вобласці. Скончыла Мінскае мастацкае вучылішча ў 1976 годзе. Вучылася ў А. Малішэўскага, А. Луцэвіча. Удзельніца мастацкіх выстаў з 1978 года. Працуе ў розных жанрах станкавага жывапісу і графіцы. Асноўныя творы: палотны “Раніца”, “Экспрэсія”, “Чаканне”, “Імправізацыя”, “Пяшчота”, “Гарачы поўдзень”. Беларускім саюзам мастакоў узнагароджана Дыпломам II ступені за лепшы твор рэспубліканскай выставы “Панарама мастацтва” ў 1998 годзе. Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі. Працавала выкладчыцай Брэсцкай дзіцячай мастацкай школы (1976-1982). Член БСМ з 1989 года. Жыве ў Брэсце.

**ЧАРНАВОКІ Віктар Францавіч.** Нарадзіўся ў Тальмінавічах Ляхавіцкага раёна ў 1951 годзе. Апошнія гады жыў у Ляхавічах, кіруючы вядомай студыяй выяўленчага мастацтва “АПАЛОН”.

**ЧУРАБА Мікалай Дзмітрыевіч.** Нарадзіўся 6 студзеня 1914 года ў Мінску. Скончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум у 1933 годзе, Маскоўскі дзяржаўны інстытут імя Васіля Сурыкава ў 1940-м годзе. Вучыўся ў М. Эндэ, А. Фогта, Х. Даркевіча, У. Фаворскага, П. Паўлінава, К. Істоміна. Удзельнік мастацкіх выстаў з 1939 года. Працаваў у кніжнай і станкавай графіцы, жывапісе. Асноўныя творы: графічны трыпціх “Абарона Брэсцкай крэпасці”; цыклы “Мой родны Брэст”, “Якуб Колас у дзяцінстве”; партрэты герояў-абаронцаў Брэсцкай крэпасці; афармленне кніг “Вершы для дзяцей” М.Лужаніна, “Залаты карп” А.Стаховіча, “Новая зямля” Якуба Коласа; жывапіснае палатно “Цаною жыцця”; трыпціх “На парозе бессмяротнасці”, “Байніцы Брэста”, “Ветэраны”; шэраг партрэтаў, пейзажаў, нацюрмортаў. Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, Беларускім музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, фондах БСМ, Літаратурным музеі Якуба Коласа, Брэсцкім і Пінскім краязнаўчых музеях, музеі “Брэсцкая крэпасць-герой”, Кобрынскім музеі імя Аляксандра Суворава, Музеі выяўленчага мастацтва імя А.Пушкіна ў Маскве. Выкладаў у Брэсцкім інжынерна-будаўнічым інстытуце ў 1966-1982 гадах. Член БСМ з 1947 года. Жыў у Брэсце. Памёр 29 студзеня 1998 года.

**ЧЫКВІН Уладзімір.** Нарадзіўся ў 1959 годзе ў горадзе Высокае Камянецкага раёна. Скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута. За плячыма майстра ўдзел у шматлікіх мастацкіх выставах, пленэрах і святах: удзельнічаў у міжнародным пленэры разьбяроў “Вежбіца-2005” у Польшчы, у рэспубліканскім пленэры разьбяроў паркавай скульптуры (Мінск, 1986г.), абласных пленэрах разьбяроў да 120-годдзю Я. Купалы і Я. Коласа ў 2002 годзе ўвёсцы Люсіна Ганцавіцкага раёна, “Ля сцен Камянецкай вежы” ў 2005 годзе ў Камянцы, “Беларуская казка ў драўлянай скульптуры” ў горадзе Ляхавічы ў 2006 годзе, да 200-годдзя

Напалеона Орды ў вёсцы Варацэвічы Іванаўскага раёна ў 2007 годзе і інш. Дыпламант конкурсаў разьбяроў на Міжнародным фестывалі "Славянскі базар" (2000, 2005 гг.). Аўтар абласной персанальнай выставы "Велікодны вернісаж" (Брэсцкі АГКЦ, 2003г.), аўтар майстар-класаў "Берасцейская лыжка" (Камянец, 2004г., Брэст, 2005г.). Жыве і працуе ў горадзе Кобрыне. З 2004 года з'яўляецца членам Беларускага саюза майстроў народнай творчасці. У 2005 годзе абраны старшынёй Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза майстроў Беларусі.

**ШЫКІН Васіль Кірылавіч.** Нарадзіўся 28.12.1914 года ў вёсцы Царкоўнікі Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы ў 1939-1941гадах. Удзельнік мастацкіх выстаў з 1949 года. Працаваў у станкавым жывапісе ў жанрах карціны і пейзажа. Асноўныя творы: палотны "Арганізацыя калгаса", "Падпольшчыкі", "1939 год. Заходняя Беларусь", "Ля калгаснага клуба", "Вайна", "Збор яблыкаў", "Вясна 1945 года. Сустрэча ў полі", "Лета", "Адвячорак", "На возеры", "Збожжавыя палі", "Ля калодзежа", "Каля цагельні"; серыя пейзажаў "Бярозаўская ДРЭС". Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, фондах БСМ, Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі, Музеі Беларускага Палесся ў Пінску. Член БСМ з 1960 года. Памёр 23.02.1998 года. Жыў у Брэсце.



*М. Чураба "Аўтапартрэт"*

## ЗМЕСТ

## ЛІТАРАТАРЫ

## НАРОДНЫЯ МАЙСТРЫ



## ПАЗНАВАЛЬНЫЯ АСОБЫ





Літаратурна-мастацкае выданне

**ВАЛАСЮК Лявон (Леанід Хведаравіч)**

# Непрыдуманыя ПАРТРЭТЫ

Мастакі і літаратары,
народныя майстры і дойліды Берасцейшчыны

Рэдактар Мікола Сянкевіч
Карэктар Мікола Сянкевіч
Дызайн Лявона Валасюка